XXI стагодзьдзе

бібліятэка Свабоды

Алег Грузьдзіловіч

# Хто ўзарваў менскае мэтро?



радыё свабода

Ад тэракту 11 красавіка 2011 году

ў менскім мэтро загінулі:

Натальля Валянцінаўна Абражэй, 1966 г.н.

Віталь Сяргеевіч Бакан, 1977 г.н.

Сяргей Анатолевіч Герасімчык, 1994 г.н.

Віталь Віктаравіч Дайнека, 1970 г.н.

Тацяна Ігараўна Захаркова, 1968 г.н.

Андрэй Уладзімеравіч Ільін, 1974 г.н.

Раман Васілевіч Капцюх, 1990 г.н.

Юры Аляксандравіч Клімец, 1987 г.н.

Анатоль Іванавіч Макейчык, 1954 г.н.

Анатоль Уладзімеравіч Наркевіч, 1959 г.н.

Аляксандар Яўгенавіч Парфунцаў, 1954 г.н.

Галіна Іванаўна Пікулік, 1959 г.н.

Вольга Эдуардаўна Салаўёва, 1983 г.н.

Сяргей Уладзімеравіч Сярбаеў, 1988 г.н.

Ганна Віктараўна Шагойка 1954 г. н.

**Алег Грузьдзіловіч. Хто ўзарваў менскае мэтро?** (Бібліятэка Свабоды. ХХІ стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2012. 354 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Кацярына Мацiеўская*
Мастак *Генадзь Мацур*

«Хто ўзарваў менскае мэтро?» – аналіз судовага працэсу над абвінавачанымі ў тэракце ў менскім мэтро, дзе 11 красавіка 2011 году загінулі 15 чалавек. Рэпартаж з судовай залі ўключае галасы падсудных і пацярпелых, аргумэнты абвінавачаньня і абароны, высновы экспэртаў, рэакцыю грамадзтва. Аўтар таксама дае асабістую ацэнку пабачанаму і пачутаму.

У кнізе выкарыстаныя матэрыялы агенцтва БелаПАН, тэлеканалу «БелСАТ», агенцтва БелТА, праваабарончай арганізацыі «Вясна», інтэрнэт-выданьня «Ежедневник», сайту Руху «За свабоду», агенцтва «Інтэрфакс-Захад», газэты «Московский комсомолец», газэты «Наша ніва», інтэрнэт-выданьня «Салідарнасьць», сайту «Эўрарадыё».


FOL

ISBN 978-0-929849-60-7

# ЗЬМЕСТ

## Быццам

У тэракце ў менскім мэтро загінулі пятнаццаць чалавек.

Незваротная страта, непапраўнае гора, нязбыўны боль. Двух абвінавачаных расстралялі. Лягчэй нікому ня стала — грамадзтва раскалолася, як рака ў крыгаход.

Гэта быў самы адкрыты і самы падрабязны суд такога маштабу за ўсю гісторыю Беларусі, зь беспрэцэдэнтным удзелам пацярпелых, замежных і айчынных экспэртаў, апэратыўнымі рэпартажамі і такой колькасьцю камэнтароў у інтэрнэце, якая засьведчыла, што свабода грамадзкай думкі існуе, нягледзячы на ўсе забароны.

Суду не паверылі, і гэта расплата за гады няспынных арыштаў грамадзянаў быццам за лаянку, быццам за супраціў, быццам за малую патрэбу, быццам за мітынг, быццам за падаткі, быццам за што заўгодна.

Калі няма даверу, нічога нельга выключыць. Калі нічога нельга выключыць, усё можна паставіць пад сумнеў. Калі ўсё можна паставіць пад сумнеў, няма мяжы паміж чорным і белым. Калі няма мяжы паміж чорным і белым, дабра не адрозьніць ад зла. Калі дабра не адрозьніць ад зла, зьнікае розьніца паміж законам і загадам. Калі зьнікае розьніца паміж законам і загадам, справядлівасьці не шукаюць у судзе. Калі справядлівасьці не шукаюць у судзе, узрываюць мэтро.

Неабавязкова ўзрываюць, неабавязкова мэтро — але вінаватых шукаюць заўсёды пад знакам «быццам».

Гэтая кніга — пра розьніцу паміж «быццам» і «насамрэч».

Бо розьніца ёсьць.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# I. Ад аўтара

Многія жыхары Менску могуць прыгадаць, што рабілі а 6-й вечара 11 красавіка 2011 году, бо пасьля тэракту ў менскім мэтро гэты дзень і гэтая гадзіна засталіся ў памяці шмат каго на ўсё жыцьцё. У той дзень я быў вечаровым дзяжурным па сайце svaboda.org. Абавязак — сачыць за навінамі. Іншымі словамі, я адказваў за тое, каб самыя цікавыя падзеі з жыцьця Беларусі адлюстроўваліся на нашым сайце.

17.30. Скончылася рэдакцыйная лятучка. 17.50. Праглядаю зводкі інфармагенцтваў... Раптам інтэрнэт і тэлефоны адначасова як ашалелі. Адусюль пайшлі весткі пра незвычайнае здарэньне на станцыі мэтро «Кастрычніцкая». Паводле першых паведамленьняў, там адбыўся нейкі выбух, але аварыя гэта, пажар, выпадковае здарэньне ці тэракт, зразумець было на той момант немагчыма, тым больш што дагэтуль у Беларусі такога не здаралася.

Мэтро ў Менску даўно перастала быць выспаю спакою і бясьпекі, але мы, яго карыстальнікі, адмаўляліся гэта заўважаць. І рэч ня толькі ў тым, што мэтро зрабілася занадта шматлюдным, і ў гадзіны пік ад цісканіны можна проста ўпасьці з плятформы, ня ў тым, што раз на 2-3 месяцы нехта ў менскім мэтро кідаецца на рэйкі пад цягнік: пэнсіянэр — былы выкладчык інстытуту, студэнт ліцэю, старая жанчына... Яшчэ да выбуху нешта раптам зьмянілася ў краіне настолькі, што адчуваньне і асабістай, і агульнай абароненасьці зьнікла зусім.

Але тое, пра што пачалі паведамляць мэдыі па-

чынаючы з 18-й гадзіны вечара, выглядала як нейкі жудасны сон. «З выхадаў са станцыі валіць дым», сьведкі кажуць нават не пра адзін выбух, а пра два, у раён «Кастрычніцкай» едуць і едуць пажарныя машыны і карэты хуткай дапамогі, з мэтро «выносяць целы абпаленых і моцна параненых», ёсьць загінулыя...

Можна толькі ўявіць, што ў той момант дзеялася ў тэлефоннай прасторы, што перажылі дзясяткі тысяч тых, хто ехаў у мэтро ў момант выбуху, хто затрымаўся на хвіліну-дзьве па нейкіх справах і цудам не пасьпеў спусьціцца пад зямлю, хто вось толькі што выйшаў на паверхню, а мог быць яшчэ там. А як перажывалі за родных іх сваякі, ад чыіх званкоў у сотавай сувязі пачаліся перабоі — «лінія перагружаная»…

Згадваю відэа агляду цягніковых вагонаў, якое паказалі на працэсе: падчас здымкаў унутры вагона камэра выхоплівае разьбітае шкло, сарваныя выбухам панэлі, сядзеньні, асабістыя рэчы пасажыраў, а гукавым фонам праз усе кадры гучаць званкі мабільных тэлефонаў: сваякі і сябры настойліва спрабуюць дазваніцца ўладальнікам гэтых тэлефонаў, магчыма, параненым ці нават ужо нежывым. І гэта гадзіны праз дзьве-тры пасьля выбуху!

Адзін з такіх званкоў будзе фігураваць і ў гэтай справе, пра якую я зьбіраюся расказаць як назіральнік за судовым працэсам у Вярхоўным судзе і як журналіст, які хоча разабрацца ў тым, што апынулася за межамі суду і сьледзтва. Маё жаданьне супадае з жаданьнем шмат каго зь беларусаў, якія таксама працягваюць шукаць адказ на пытаньне, хто ўзарваў менскае мэтро 11 красавіка 2011 году.

Судовы працэс па справе аб тэракце ў мэтро ды

іншых тэрактах і выбухах пачаўся 15 верасьня, а скончыўся 30 лістапада. З гэтых двух з паловай месяцаў два месяцы суд засядаў фактычна кожны працоўны дзень. Апошнія два тыдні лістапада пайшлі на перапынак, падчас якога бакі рыхтаваліся да судовых спрэчак. Мне як карэспандэнту Радыё Свабода з больш як 40 дзён працэсу давялося быць у судзе амаль усе паседжаньні, за выняткам 4-5 дзён у другой частцы працэсу. Магчыма, даўжэй за мяне там быў толькі карэспандэнт дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА, якому суд адвёў асобнае месца на бакавым бальконе.

На гэтым спынюся, бо тут ёсьць некалькі істотных і нават сымбалічных момантаў. У месца, якое займаў наш калега зь БелТА, аказаўся цэлы шэраг пераваг. Па-першае, яно было схаванае ад прысутных у залі: толькі судзьдзі, падсудныя ды іх абаронцы маглі бачыць, хто там знаходзіўся, а астатнім заставалася па асьцярожных позірках судзьдзі «ў неба» гадаць: ёсьць там нехта ці падалося?

Па-другое, праход на патаемныя бальконы (іх было некалькі) быў з асобнага калідора, што дазваляла абмінаць «рамкі» кантролю, перад якімі надоўга ўзьнікалі чэргі. Але самае галоўнае ў тым, што на балькон быў працягнуты дрот, праз які дзейнічала трывалая інтэрнэт-сувязь, у той час як карэспандэнты ў залі (а там былі ў асноўным прадстаўнікі недзяржаўных мэдыяў, бо зь дзяржаўных мала хто цікавіўся працэсам) не маглі весьці жывых рэпартажаў он-лайн і нават ня мелі магчымасьці дасылаць SMS.

Раблю гэтую рэмарку ня так ад прафэсійнай крыўды, як ад сумнага ўсьведамленьня, што і там, на судзе па справе выбуху ў мэтро, а ня толькі

на палітычных працэсах, журналістаў чамусьці дзялілі на «чэсных» і тых, каго трэба пільнаваць. Найперш такі падзел даваў права падазраваць, што перад журналістамі, якія працавалі ў судовай залі, ды «ільготнікамі» з бальконаў усё ж стаялі розныя задачы. Сваю задачу я разумеў так: максымальна поўна і ўсебакова адлюстроўваць падзеі на працэсе і меркаваньні бакоў, у тым ліку тыя, якіх сам не падзяляў.

Журналісты назіралі за працэсам… а ці назіралі за намі? Найперш высьветлім пытаньне пра фота- і відэаздымку. Да ведама: вольна здымаць у судовай залі закон дазваляе толькі да пачатку працэсу, далей — выключна са згоды ўсіх яго ўдзельнікаў, а гэта суд, абвінаваўцы, абвінавачаныя, абарона і пацярпелыя. Перад пачаткам працэсу супраць «тэрарыстаў» карэспандэнты з камэрамі актыўна працавалі больш за паўгадзіны, пакуль заля напаўнялася, але недзе бяз чвэрці адзінаццаць ахоўнікі настойліва папрасілі ўсіх, хто здымаў, на выхад.

Карэспандэнты — народ дасьведчаны: яны добра ведаюць, што спрачацца з ахоўнікамі бессэнсоўна, а шанцаў атрымаць дазвол суду на здымкі самога працэсу няма ніякіх, бо калі сам судзьдзя і пагодзіцца, то сярод іншых удзельнікаў працэсу заўсёды знойдзецца такі, што не захоча трапіць у кадар. Фатакоры ўжо пакінулі залю, калі туды апошнім увайшоў суд. Неўзабаве старшыня, першы намесьнік старшыні Вярхоўнага суду РБ Аляксандар Федарцоў, паставіў пытаньне пра фота- і відэаздымку падчас працэсу.

Цікава, што Дзьмітрый Канавалаў і Ўладзіслаў Кавалёў былі ня супраць, але адзін са 121 пацярпелага вельмі рашуча запярэчыў, і пытаньне было

закрытае. Праўда, падазраю, што закрытае фармальна. Бо ўжо ў вечаровым тэлерэпартажы на першым дзяржаўным тэлеканале паказалі, як Канавалаў і Кавалёў адказваюць суду, ці прызнаюць яны сябе вінаватымі. Мяркую, зьняць гэтыя кадры можна было толькі з балькона, пра які я ўжо казаў. І зьнята гэта было яўна насуперак забароне, абвешчанай судом. Але, відаць, зь яго маўклівай згоды. Мяркуючы з кадраў апошняга тэлерэпартажу з працэсу, такія ж «бальконныя» здымкі БТ паўтарыла і падчас агалошваньня прысуду, хоць дазволу на здымку судзьдзя не даваў...

Але, каюся, я таксама зьняў для «гісторыі» некалькі хвілін відэа пра прысуд, вось толькі мяне вылічылі ахоўнікі, забралі тэлефон, і ў пакоі, нашпігаваным апаратурай, нейкія спэцы зьнішчылі адмысловай праграмай усё зьнятае. Як усё ж бывае карысна служыць на дзяржаўным тэлебачаньні!

Зрэшты, да таго, што забарона здымаць на працэсах распаўсюджваецца на ўсіх, акрамя апэратараў БТ, астатнія журналісты ўжо прызвычаіліся. Увесну таго ж 2011 году на працэсе ў Фрунзенскім судзе Менску над экс-кандыдатамі на прэзыдэнта Уладзімерам Някляевым і Віталём Рымашэўскім такое ўжо было: усіх, хто здымаў, з залі выганялі, а БТ працягвала безь перашкодаў рабіць «карцінку».

А зараз некалькі словаў пра тое, як назіралі за журналістамі. Працэс над меркаванымі «тэрарыстамі» праходзіў не ў будынку Вярхоўнага суду на вуліцы Энгельса, а ў Палацы правасудзьдзя на вуліцы Сямашкі, прычым не ў адмысловай судовай залі, а ў актавай, асноўнае прызначэньне якой — сходы, а пры патрэбе, відаць, і нейкія ўрачыстыя мерапрыемствы працаўнікоў правасудзьдзя. Трэба

прызнаць, што абраць для працэсу менавіта гэтую залю было адзіным слушным рашэньнем.

Пры наяўнасьці больш як 400 пацярпелых, плюс назіральнікі, плюс журналісты, ахоўнікі, ня кажучы пра асноўных удзельнікаў працэсу, дзе магчыма было б усіх разьмясьціць, як ня ў актавай залі Палаца правасудзьдзя? Але і мінусаў у такім выбары хапала. Магу толькі прыблізна меркаваць пра праблемы аховы, перамяшчэньня абвінавачаных ды іншыя арганізацыйныя цяжкасьці. Часам на працэсе праз расчыненыя дзьверы перад сцэнай можна было ўбачыць ахоўнікаў у масках са зброяй альбо пачуць брэх сабакаў — і гэта было страшнавата. Мяркую, працоўнай абстаноўцы ў судзе гэта не асабліва спрыяла.

Яшчэ адна праблема — амапаўцы з каменнымі тварамі перад сцэнай. Магчыма, калі б жалезную клетку з абвінавачанымі не ахоўваў цэлы аддзел міліцыянтаў, прысутнасьць амапаўцаў не выглядала б такой недарэчнай. Каго яны ахоўвалі, калі, седзячы сьпінамі да сцэны, цягам усяго працэсу ня зводзілі вачэй з залі? Судзьдзяў ад пацярпелых і журналістаў ці наадварот? А можа, сачылі, ці не дастае хто мабільны тэлефон, каб зрабіць фота ці відэа з працэсу? І гэта ня кажучы пра тое, што ў журналісцкім «сэктары» праз два-тры шэрагі на першых месцах сядзелі міліцыянты ў цывільным і ня толькі сачылі за намі, але і ўпотай прыслухоўваліся, пра што мы паміж сабой гаворым.

І пра што ж мы гаварылі? Спачатку — што нешта ў пракурораў не сыходзіцца, і тыя два хлопцы ў жалезнай клетцы з выгляду ня надта падыходзяць на ролі, якія ім вызначылі. Потым часьцей і часьцей паміж намі гучала, што ўсё ж гэта яны, Канавалаў

і Кавалёў. Потым зноў наадварот — не яны. І гэтак некалькі разоў, туды-сюды, у залежнасьці ад грунтоўнасьці прадстаўленых доказаў. І ад даверу да розных удзельнікаў драмы, якая разгортвалася ў менскім Палацы правасудзьдзя восеньню 2011 году.

## II. Вэрсіі добрая і дрэнная

Адказ, які мы ўжо маем пра падзеі 11 красавіка ў мэтро, сьцьвярджае, што гэта быў выбух бомбы, тэракт, учынены тэрарыстам-адзіночкам Дзьмітрыем Канавалавым і ягоным сябрам і памагатым Уладзіславам Кавалёвым, а мэтай іхнай было дэстабілізаваць сытуацыю ў Беларусі. Кропка. Так вырашыў Вярхоўны суд, вэрдыкт якога перагляду і адмене не падлягае.

А цяпер скажыце, ці можа такі адказ задаволіць грамадзянаў краіны, якія жывуць у сваім ізаляваным сьвеце, амаль як за каменнай сьцяной? Стабільна, спакойна, хай і небагата, але ў сярэднім сыта, і тэрарыстаў яны ў вочы ня бачылі? Апазыцыянэраў рознага гатунку бачылі, начальнікаў рознага гатунку бачылі, маньякаў-забойцаў — зрэдку, па тэлевізіі, але таксама бачылі, а вось тэрарыстаў — толькі ў выпусках замежных навінаў. Справы ў эканоміцы за гэтай сьцяной больш-менш ідуць, клімат спакойны, нацыянальны мэнталітэт — яшчэ спакайнейшы, і гэта яўна адбіваецца на тэмпэратуры сацыяльных і палітычных канфліктаў. То адкуль жа ў такіх умовах узяцца тэрарыстам?

Афіцыйны адказ на гэтае пытаньне малюе маршрут ад пункту А да пункту Б, якім прайшлі пэўныя грамадзяне, каб урэшце апынуцца ў камэры сьмяротнікаў. Але хіба ён тлумачыць, чаму яны сталі на гэтую дарогу і навошта ім гэта спатрэбілася?

Навошта было забіваць невінаватых людзей, пры гэтым не выстаўляючы ніякіх патрабавань-

няў, нікому ня помсьцячы, не патрабуючы грошай ці выкупу?

Бабуля-прыбіральніца ў Палацы правасудзьдзя, дзе праходзіў працэс, казала мне паўшэптам, круцячы галавой: «Калі ж ты супроць улады, дык ідзі вунь вядома куды і там узрывай, чаго ты простых людзей узрываеш?»

Безумоўна, зусім не гуманна думае бабуля з Палаца правасудзьдзя, не патлумачылі ёй там дагэтуль, што нельга нікога ўзрываць, незалежна ад палітычных поглядаў ці службовага становішча, але яе лёгіку можна зразумець. І зразумець, што менавіта гэтая лёгіка не дазваляе ёй пагадзіцца з афіцыйнай вэрсіяй, паводле якой два звычайныя хлопцы проста ўзялі і ўзарвалі бомбу ў мэтро, як пэтарду на Новы год. Каб пашумець, каб «дэстабілізаваць» спакой і сон суайчыньнікаў.

Але рэч, відаць, ня толькі ў тым, што розумам паверыць у тэракт беларусы пакуль не гатовыя. Можа, яны маюць падставы сумнявацца ў тым, што заяўляе ўлада?

Можна аспрэчваць наяўнасьць сувязі паміж палітыкай і тэрактам, але цяжка спрачацца з тым, што тэракт здарыўся ў вельмі складаны для дзейнай беларускай улады момант. Яе маральны аўтарытэт у вачах значнай часткі грамадзтва, найперш скіраванай на Эўропу, пасьля падзей 19 сьнежня 2010 году імкліва каціўся да нуля, эканамічнае становішча было найбліжэйшае да каляпсу за апошнія 10, калі не 15 гадоў. Нават адносіны зь вечнай саюзьніцай Расеяй былі як ніколі напружаныя. А тут яшчэ праз дзень-два мела адбыцца паседжаньне міністраў замежных справаў Эўразьвязу, на якім

маглі падняць пытаньне пра новыя, больш жорсткія санкцыі супраць Беларусі.

Прычына сапраўды была сур’ёзная: у турмах заставаліся кандыдаты на прэзыдэнта і іх прыхільнікі, прысуды актывістам 19 сьнежня мяккасьцю не вылучаліся, заклікі ЗША і Эўропы спыніць рэпрэсіі на Аляксандра Лукашэнку відавочна ня дзейнічалі. Таму ў той час як цалкам рэальны сцэнар абмяркоўвалася тое, што Эўропа нарэшце пяройдзе ад словаў да больш дзейсных захадаў. Прыкладам, адмовіцца ад закупаў беларускага бэнзіну і дызэльнага паліва ды арыштуе замежныя рахункі некаторых дзяржаўных прадпрыемстваў і праўладных фірмаў.

Але 11 красавіка ў менскім мэтро здарыўся выбух, загінулі і пацярпелі людзі, і, вядома, на пэўны час нават размовы пра санкцыі спыніліся. Асабіста мне цяжка ўявіць, каб у гэтай сытуацыі аб’ядналая Эўропа магла дзейнічаць адносна краіны — ахвяры тэракту інакш, каб яна дэманстратыўна пагарджала прынцыпамі гуманізму, якія пасьлядоўна дэкляруе. Але шмат каму ў Беларусі, хто даўно ня верыў афіцыйным уладам, такое супадзеньне часу тэракту і пагрозы санкцыяў не магло не падацца падазроным. І гэта не магло не прывесьці да новых канспіралягічных вэрсіяў тэракту.

Гэтыя вэрсіі застаюцца актуальнымі і пасьля працэсу ў Вярхоўным судзе, які пастанавіў, што тэракт у менскім мэтро ўчыніў Дзьмітрый Канавалаў, а ягоным памагатым быў сябар дзяцінства Уладзіслаў Кавалёў.

Напачатку прааналізуем доказы, якім паверыў суд.

## III. Прызнаньне — каралева доказаў

Мяркуючы з прысуду, асноўным доказам віны Дзьмітрыя Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва судзьдзі палічылі прызнаньне імі віны. Таму і пасьпяшаліся гэта адзначыць ужо ў самым пачатку разьдзелу пра тэракт. Вось вытрымка з прысуду.

**Прысуд, с. 60.** *«У судовым паседжаньні абвінавачаны Канавалаў Дз. Г. прызнаў сваю віну ва ўчыненьні тэракту на станцыі мэтро „Кастрычніцкая“ 11 красавіка 2011 году.*

*З вывучаных у судовым паседжаньні паказаньняў Канавалава Дз. Г., якія былі дадзеныя на папярэднім сьледзтве, вочных ставак Кавалёва Ў. Ю. і Канавалава Дз. Г., Канавалава Дз. Г. і Пачыцкай Я. В., пратаколаў праверкі паказаньняў на месцы і пратакола правядзеньня сьледчага экспэрымэнту з удзелам Канавалава Дз. Г. бачна, што Канавалаў цягам папярэдняга сьледзтва падрабязна расказваў, паказваў і пацьвярджаў абставіны падрыхтоўкі і ўчыненьня ім выбуху на станцыі мэтро».*

Далей у прысудзе на некалькіх старонках пераказваюцца паказаньні Канавалава пра тое, што папярэднічала выбуху, і пра падзеі пасьля яго цягам аднаго дня.

Спачатку спынімся на эпізодзе пра тое, як Канавалаў з Кавалёвым, схаваўшыся за шырмай (гэта было ў арандаванай кватэры на вуліцы Караля), схіліліся над торбай з амаль гатовай бомбай, і ў гэты момант да іх за шырму ўвайшла Яна Пачыцкая — знаёмая Канавалава. Дзяўчыну ён за дзень да тэ-

ракту сустрэў у Менску і запрасіў на кватэру, дзе яна заставалася зь сябрамі ажно да вечара 12 красавіка, калі ў кватэру ўварваліся байцы «Алмазу».

Момант можна лічыць ключавым, бо ўпершыню зьяўляецца рэальны сьведка, які бачыў торбу з бомбай побач з абодвума тэрарыстамі непасрэдна перад тэрактам. На папярэднім сьледзтве пра гэты эпізод казалі Канавалаў і Кавалёў, але паказаньні Яны Пачыцкай нават больш важныя, бо могуць ці пацьвердзіць словы Канавалава і Кавалёва, ці нарадзіць сумненьні наконт іх.

Вось што мы знаходзім у прысудзе (с. 65). Заўважу, дарэчы, што падзеі ў прысудзе пераказаныя неяк незразумела: ад імя ці то Кавалёва, ці то Пачыцкай.

*«...У момант, калі яна зашмаргнула штору, Канавалаў закрываў торбу. Што было ў торбе, яна ня бачыла. Далей Канавалаў сказаў ёй выйсьці, і яна выйшла. Калі выходзіла, Канавалаў зноў зашмаргнуў за ёй штору. Потым яна пайшла на кухню, а калі вярнулася ў залю, Канавалава ўжо не было. Ён сышоў. Торбы яна ўжо ня бачыла. Калі пасьля 18 вярнуўся Канавалаў, то працягвалі ўжываць сьпіртныя напоі. Пра выбух даведалася з тэлевізійных навінаў, пры гэтым калі паказвалі гэтыя навіны, то хлопцы сьмяяліся. На наступны дзень працягвалі ўжываць сьпіртное, хадзілі ў краму, бліжэй да ночы былі затрыманыя ў кватэры».*

Далей больш пэўная спасылка на сьведку Пачыцкую:

*«Пачыцкая Я. В. на вочных стаўках з Кавалёвым і Канавалавым давала аналягічныя паказаньні, пры*

*гэтым указвала, што Кавалёў ведаў пра будучы сыход Канавалава 11 красавіка 2011 году. Калі вярнуўся Канавалаў, Кавалёў спытаў яго: «Нармальна ўсё прайшло?» На што Канавалаў адказаў: «Усё нармальна, зараз будзем піць».*

Такім чынам, Пачыцкая пацьвердзіла факт знаходжаньня Канавалава і Кавалёва за шырмай. А пра тое, што там адбывалася, расказаў Кавалёў. Чытаем у прысудзе:

**Прысуд, с. 65.** *«Кавалёў У. Ю. на вочнай стаўцы з Пачыцкай Я. В. пацьвердзіў у поўным аб'ёме яе паказаньні і ўдакладніў, што перад сыходам Канавалава яны зайшлі зь ім за шырму і зашмаргнулі яе. Канавалаў Дз. Г. адкрыў торбу і пачаў злучаць правады. Кавалёў знаходзіўся побач з Канавалавым Дз. Г., сядзеў на кукішках альбо стаяў. Канавалаў Дз. Г. дэманстраваў яму складнікі ланцуга і расказваў, што да чаго далучаць. Гаварыў шэптам, каб Пачыцкая не пачула. Знаходзіліся за шторай 10–15 хвілінаў. Потым Пачыцкая адшмаргнула штору і зазірнула да іх. Каб Пачыцкая ня ўбачыла, што знаходзіцца ў торбе, Канавалаў Дз. Г. яе закрыў...»*

А што казалі абвінавачаныя з гэтай нагоды? 22 верасьня на працэсе ў Вярхоўным судзе апытвалі сьведку Яну Пачыцкую. Спынюся на яе допыце асобна, асабліва на дэталях.

У судовую залю з бакавога ўваходу побач са сцэнай увайшла стройная дзяўчына ў вялікіх акулярах, якія закрывалі палову твару. Не пасьпелі людзі ў залі ўгледзецца ў яе твар, як дзяўчына заняла месца за катэдрай і пачала расказваць пра абставіны знаёмства зь Дзьмітрыем Канавалавым,

апісваць падзеі 10–12 красавіка, адказваць на пытаньні пракурора і судзьдзі.

Пачыцкая прамаўляла нягучна, але разборліва і добрай літаратурнай мовай. У параўнаньні з паказанымі раней у судзе вочнымі стаўкамі з абвінавачанымі сьведка яўна адышла ад шоку. Дзяўчына расказала, як яны з Канавалавым пазнаёміліся праз інтэрнэт, як 10 красавіка Канавалаў пазваніў ёй і папярэдзіў, што ўвечары прыедзе ў Менск на некалькі дзён «па справах», і прапанаваў сустрэцца. Як убачыліся ўпершыню каля мэтро «Фрунзенская», прычым на гэтую сустрэчу яна прыйшла зь сяброўкай, а Канавалаў — зь сябрам, Кавалёвым.

Потым пайшлі ў краму «па віно, гарэлку і садавіну», адтуль да Канавалава на кватэру, дзе яна засталася да вечара 12 красавіка, а сяброўка — не, тая сышла праз некалькі гадзін. «Выпівалі сьпіртовыя напоі, гутарылі», — казала Пачыцкая пра заняткі тых двух дзён, якія перакулілі яе жыцьцё настолькі, што ў судзе давялося хавацца за акулярамі.

Што пацьвердзіла ці паведаміла ўпершыню Яна Пачыцкая пра паводзіны абвінавачаных? Найперш яна расказала пра выпадак з торбай, над якой убачыла Канавалава і Кавалёва, і пра тое, як яе адправілі адтуль на кухню. Згадала, як Кавалёў спытаў Канавалава, перад тым як той сышоў: «Можа, ты ўсё ж ня пойдзеш?» — «Не, пайду», — адказаў, паводле Пачыцкай, Канавалаў і дадаў: «А потым будзем гуляць». Паўтарыла, што пасьля выбуху — «пасьля 18 гадзін» — Канавалаў прыйшоў у прыўзьнятым настроі і заявіў, што зараз яны будуць піць. Апавяла, як пілі і сьмяяліся падчас выступу Аляксандра Лукашэнкі.

Да ўварваньня міліцыі ў кватэру таксама адбы-

лося некалькі падзеяў, вартых увагі суду. Яна Пачыцкая згадала дзіўную размову з Канавалавым на кухні, падчас якой кавалер распытваў яе, «што б яна зрабіла, калі б ведала, што жыць засталося вельмі мала». Але дзяўчына не надала гэтаму асаблівага значэньня, бо Канавалаў быў яўна нападпітку. «Сядзеў на кухні і нешта сьпяваў неразборлівае, быў у сабе, на пытаньні не адказваў, а потым пайшоў у краму», — таксама згадала Яна Пачыцкая пра свайго сябра.

Папярэдняе больш сьведчыць пра псыхалягічны стан і настрой Канавалава, а вось сьведчаньне, якое можа непасрэдна датычыць плянаў на тэракт: калі яна была ў кватэры, Канавалаў забараніў ёй устаўляць у ягоны тэлефон сім-картку і акумулятар, а сам, калі 11 красавіка каля 17-й гадзіны сыходзіў з дому, узяў для карыстаньня яе тэлефон. Калі вярнуўся (пасьля тэракту), зьдзівіў Пачыцкую паведамленьнем, што ёй тэлефанавала маці. Аказваецца, у дзяўчыны былі своеасаблівыя адносіны з маці, і ў той дзень званка ад яе Яна ніяк не чакала. Ва ўсякім разе, бяз важкай прычыны. А калі Канавалаў вяртаўся ў кватэру, такая прычына зьявілася, бо тысячы маці званілі дочкам, каб пераканацца, што зь імі ўсё добра. Толькі рэч у тым, што Яна Пачыцкая пра гэта ня ведала, а Канавалаў ведаў, таму і супакоіў маці Яны, а потым расказаў дзяўчыне пра гэты званок.

Як кампанія даведалася пра тэракт? У судзе Яна Пачыцкая пацьвердзіла, што глядзелі ўтрох навіны і пабачылі рэпартаж. «У момант, калі Лукашэнка сказаў “Мы ўсе ў гэтым вінаватыя”, Канавалаў засьмяяўся і прапанаваў за гэта выпіць», — сказала сьведка.

Пра тое, як у кватэру ўварвалася міліцыя, дзяўчына расказала даволі стрымана. Згадала пра працяглы званок у дзьверы, які прымусіў Канавалава падысьці і паглядзець у вочка. «Спачатку нічога не сказаў, але забегаў па кватэры», — згадала Пачыцкая. Таму як дзьвярэй хлопцы не адчынілі, міліцыянты іх выбілі і ўварваліся ў кватэру. Яна Пачыцкая была ў шоку: яе выводзілі нахіліўшы галавой да зямлі, з заламанымі назад рукамі.

Зазначу яшчэ, што на адным з допытаў падчас сьледзтва Пачыцкая згадвала, што Канавалаў, калі мітусіўся па кватэры, сказаў: «Я папаў», а потым зачыніўся ў прыбіральні. Але ў судзе сьведка пра гэта не казала.

Кавалёў захоп кватэры «алмазаўцамі» апісаў проста: казаў, што спаў і прачнуўся ад крыкаў, убачыў людзей у масках і вопратцы. «Убачыў Канавалава, які сядзеў у сенцах на «пятай кропцы», і яго гэтаксама пасадзілі. «Далей у той жа позе, як цяпер водзяць у суд, вывелі з кватэры і прывезьлі ў міліцыю».

## IV. Нараджаюцца новыя вэрсіі

17 студзеня 2012 году на сайце gonzo.by зьявіліся кадры зь відэасюжэту дзяржаўнага агенцтва БелТА, зьнятыя адразу пасьля выбуху ў мэтро ля найбліжэйшага да Дома афіцэраў выхаду. На гэтых кадрах відаць, як з падземнага пераходу выходзяць чатыры чалавекі, двое зь якіх нясуць цяжкую брызэнтавую сумку, адзін трымае ў правай руцэ вялікую шпулю з чорным мэталічным дротам, а ў левай — прадмет, падобны да кандэнсатнай падрыўной машынкі.

На форумах адразу зьявіліся меркаваньні, што людзі ў цывільным, якія выходзяць зь пераходу прыкладна праз паўгадзіны пасьля выбуху, — не сапёры. Тым больш што былі і здымкі асобаў у чорнай вопратцы, пазначаных як група па разьмінiраваньні.

Блогер Максім Чарняўскі паведаміў аўтару, што ўзяў здымкі з форумаў сайту tut.by, дзе можна знайсьці і іншыя сьведчаньні, якія, на яго думку, выклікаюць падазрэньні. «Шмат хто разумеў, што Канавалаў і Кавалёў калі і стаяць за тэрактам, то ня самі па сабе. Але цяпер відавочна, што выканаўцы ўвогуле зусім іншыя», — сказаў Максім Чарняўскі па тэлефоне з Варшавы.

Вось яшчэ адзін водгук на гэтае відэа. Любоў Кавалёва, маці асуджанага на сьмерць: «Мне зрабілася кепска, у літаральным сэнсе схапіла сэрца! Хлопцы сядзяць невядома за каго, і людзі пацярпелі».

А вось як пракамэнтаваў здымкі і камэнтары да іх незалежны журналіст Сяргей Сацук, вядомы сваімі журналісцкімі расьсьледаваньнямі. Камэн-

тар зьявіўся на сайце svaboda.org неўзабаве пасьля інтэрвію з Максімам Чарняўскім.

«Хай блогер патлумачыць, навошта ўзрыўнікам, якія нібыта на фота і на відэа БелТА, прылада для пошуку выбуховых прыстасаваньняў у цяжкадасягальных месцах? Гэта такі спэцыяльны тэлескапічны дручок зь люстэркам на канцы, якое круціцца ва ўсе бакі. На відэа вельмі добра бачна, што яго нясе чалавек у паласатай футболцы. І што, хіба бомбу ў мэтро ўзарвалі з дапамогай падрыўной машынкі, да якой цягнулі правады ад лаўкі? Суцэльнае глупства. А наконт відэа, дзе гэтыя двое быццам побач з Канавалавым, — пракруціце гэтае відэа па кадрах, і ўсё стане зразумела».

Праз некалькі гадзін у інтэрнэце зьявіўся і камэнтар прэсавага сакратара МУС Канстанціна Шалькевіча, які заявіў, што на фота і відэа — «супрацоўнікі Выбухова-тэхнічнага цэнтру ўнутраных войскаў, якія ўзялі з сабой усё неабходнае абсталяваньне і выехалі, абсалютна ня ведаючы пра тое, што адбылося ў мэтро».

На наступны дзень, 18 студзеня, міліцыянты запрасілі ў Цэнтар журналістаў, пазнаёмілі з трыма з чатырох супрацоўнікаў, якія трапілі на фота, і назвалі іхныя прозьвішчы.

Між тым гэтыя заявы не змаглі пераканаць некаторых скептычных назіральнікаў, якія сачылі за справай аб тэракце.

***З інтэрвію Уладзімера Барадача «Рэжым рыхтуецца да вайны супраць уласнага народу», якое зьявілася праз некалькі дзён у сеціве***

Палкоўнік спэцслужбаў Уладзімер Барадач зноў

сьцьвярджае, што вінаватыя ў «крывавай бойні» ў менскім мэтро 11 красавіка 2011 году — не асуджаныя за тэракт Канавалаў і Кавалёў, а беларускія спэцслужбы. Асаблівую ўвагу ён зьвяртае на сапёраў.

**Уладзімер Барадач**: «Мае высновы наступныя. Група (паводле дадзеных МУС) па трывозе выехала да месца тэракту і праз 20 хвілін была на месцы здарэньня. У мэтро яна была ўжо праз 30 хвілін і празь 10 хвілін вярнулася назад. У сувязі з гэтым у мяне напрошваецца шэраг пытаньняў не на карысьць высноваў сьледчай групы. Па-першае, сьцьвярджаецца, што за гэты час (3-4 хвіліны) група агледзела, зь іхных словаў, шырокую тэрыторыю на прадмет наяўнасьці мінаў і вярнулася назад. Гэта чарговая хлусьня. Я на 90% выключаю магчымасьць датычнасьці дадзеных асобаў у поўным складзе да самога выбуху зараду, загадзя пакінутага ў ножцы лаўкі. Хоць, улічваючы наяўнасьць у іх кантрольна-вымяральных прыбораў і сродкаў, прывядзеньне выбуховых прыладаў у дзеяньне было б цалкам магчымым.

Па-другое, дадзеных спэцыялістаў не дапусьцілі да месца выбуху, хоць, па ідэі, трэба было задзейнічаць усе сілы для пошуку выбуховай прылады перад прыбыцьцём туды Лукашэнкі. Чаму гэтыя хлопцы, якія прыбылі аднымі зь першых, не былі дапушчаныя да працы, як і пазьней замежныя спэцыялісты, практычны досьвед якіх быў нашмат большы за наш? Значыць, была загадзя падабраная група, якая мусіла выканаць указаньні зьверху і выключыць уцечку інфармацыі зь месца здарэньня, у тым ліку і для сваіх сьпяцоў. Бо спэцыялісты, якія прыбылі да месца тэракту, могуць на месцы

выбуху вызначыць вагу выбуховага рэчыва, месца яго закладкі, спосаб узрываньня, тып выбуховай прылады і г.д.

Не было прызнаньняў Канавалава, было сыстэматычнае выбіваньне паказаньняў да страты пульсу і ўмяшаньня лекараў.

Значыць, было што хаваць. Бо адразу высьвятляецца, што ніякая торба не выбухала (ні Канавалава, ні Сылюэта, які граў яго ролю). Бо адну ножку лаўкі панесла б паралельна цягніку да эскалятара, другую — да калёны, а таго, хто сядзіць на лаўцы, разьнесла б на шматкі: ён бы прыліп да столі.

Гэта ламала ўсю карціну сьледзтва, і торба Канавалава, вакол якой сфабрыкавалі абвінавачаньне і якая была асноўным рэчавым доказам на працэсе, выпадала з доказнай базы. Больш супраць Канавалава і Кавалёва нічога няма. Гэта пацьвердзіў на прэс-канфэрэнцыі Швед, адказваючы на пытаньне, як выйшлі на Канавалава: «Мы ведалі, што зь цяжкай торбай ён ня мог далёка сысьці, і яго шукалі ў вызначаным квадраце».

Чыстай падробкай было і зьмесьціва склепу Канавалава. Яго нават не павезьлі на сьледчы экспэрымэнт у Віцебск для апазнаньня прадметаў. Ён бы сам зьдзівіўся свайму багацьцю. Уявіце, «спэцыяліст» рыхтуецца да пасяўной і купляе каля 20 мяхоў салетры (і ня толькі). Ён ня ведае нават, колькі яму неабходна для вырабу бомбы.

Выбуховае рэчыва «кіса», знойдзенае ў яго, даказвае не ягоную віну, а падлог. Ня верыце мне — паверце навукоўцу, спэцыялісту міжнароднага ўзроўню, доктару навук Захматаву».

У пэўных дэталях, аднак, і Ўладзімер Барадач

памыляецца. Прычым істотна. Прыкладам, гаворка не пра мяхі з салетрай, якія выкарыстоўваюцца ў буйных сельскіх гаспадарках, а пра двухкіляграмовыя пакункі з салетрай. Гэты тавар без праблемаў можна набыць і ў гарадзкой гаспадарчай краме, а значыць, Канавалаў бяз рызыкі выклікаць вялікія падазрэньні мог паступова набыць хімікат у патрэбнай яму колькасьці, прынесьці яго ў падвал і рабіць што трэба. З такіх памылак зразумела, што палкоўнік часам карыстаецца інфармацыяй зь не зусім дасьведчаных крыніц, а магчымасьці праверыць гэтую інфармацыю ў яго абмежаваныя, бо ён знаходзіцца ў Нямеччыне.

## V. Відэа: чалавек з торбай

Часткова гэтае відэа гледачы беларускага ТБ змаглі пабачыць ужо на наступны дзень пасьля арышту Дзьмітрыя Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва. У прыватнасьці, БТ паказала кавалак, на якім падазраваны праносіць торбу ў мэтро, потым кадры, на якіх ён ходзіць з торбай па станцыі. Асабліва ўразіў кавалак, дзе той жа падазраваны чакае на пляцоўцы ля лесьвіцы з «Кастрычніцкай» на «Купалаўскую», а ў момант, калі ён накіроўваецца ў тунэль, адбываецца выбух.

У судзе да гэтых стужак былі дададзеныя іншыя, зробленыя за дзень да тэракту і пасьля. У прыватнасьці, на відэа, запісаным на Віцебскім чыгуначным вакзале, бачны падазраваны зь цяжкай торбай. Як лічыла сьледзтва, гэта Канавалаў пачаў свой шлях зь Віцебску ў Менск, які скончыўся выбухам у мэтро. Потым ён і Кавалёў разам праносяць тую ж торбу ў мэтро, каб даехаць з станцыі «Плошча Леніна» да «Фрунзенскай». Таксама ёсьць кадры, запісаныя 10 красавіка на «Купалаўскай», дзе падазраваны, як сказала сьледзтва, вызначае, дзе будзе закладаць бомбу. І, нарэшце, відэа ад 11 красавіка, на якім падазраваны з той жа торбай прыяжджае на «Купалаўскую», а адтуль праз тунэль ідзе на «Кастрычніцкую». У якасьці доказу было прадстаўленае і ўжо знаёмае па БТ відэа з выбухам, а таксама выхад Канавалава з мэтро. Апроч гэтага, былі прадэманстраваныя кавалкі відэа з камэраў, усталяваных побач зь месцамі, дзе ішоў Канавалаў пасьля выбуху з мэтро да вуліцы Караля на аранда-

ваную кватэру, у якой яго чакалі, нагадаю, Кавалёў і Пачыцкая.

Ці можна сумнявацца ў праўдзівасьці гэтых відэадоказаў? Суду прадставілі дадзеныя шматлікіх экспэртызаў і экспэрымэнтаў. У адным зь іх Канавалава вывозілі ў мэтро і фатаграфавалі ў пэўных месцах і ў пэўных пазыцыях, што адпавядалі зьнятым на відэа. Экспэрты параўноўвалі відэа падазраванага з пратаколамі агляду Канавалава, складзенымі 28 красавіка і 5 траўня. У большасьці выпадкаў экспэртыза прыйшла да высновы, што гэта адзін і той жа чалавек — Дзьмітрый Канавалаў.

Экспэрты адзначылі таксама, што адзеньне падазраванага на відэа супадае з адзеньнем Канавалава, якое было пры ім у момант арышту. Паводле экспэртаў расейскага ФСБ, партрэтнае падабенства Канавалава з чалавекам на відэа было сярэдняе. Расейскія экспэрты знайшлі ў відэа прыкметы міжкадравага мантажу, але не прыкметы ўнутрыкадравага.

Вось што сказана ў прысудзе наконт праўдзівасьці відэа самых галоўных момантаў.

**Прысуд, с. 83.** *«Пры спалучэньні відаў з камэраў відэаназіраньня, якія ўсталяваныя ў Менскім мэтрапалітэне на станцыях “Фрунзенская”, “Купалаўская” і “Кастрычніцкая”, ад 11.04.2011 і экспэрымэнтальных відаў высьветлена, што рост абвінавачанага Канавалава Дз. Г. адпавядае росту падазраванага, які быў зьняты 11.04.2011 камэрамі відэаназіраньня.*

*Прыкметаў мантажу ў відэазапісах ад 11.04.2011 з камэраў відэаназіраньня на станцыях “Фрунзенская”, “Купалаўская” і “Кастрычніцкая”, якія былі*

*пададзеныя для дасьледаваньняў, а таксама ў відэазапісе праверкі паказаньняў на месцы падазраванага Канавалава Дз. Г. 15 красавіка 2011 году з камэраў відэаназіраньня, якія ўсталяваныя ў Менскім мэтрапалітэне на станцыях "Фрунзенская", "Купалаўская" і "Кастрычніцкая", ня знойдзена».*

У судзе відэа з мэтро пачалі праглядаць 23 верасьня 2011 году. Спачатку прагледзелі стужку, на якой падазраваны зь вялікай торбай пакідае вакзал у Віцебску 10 красавіка, потым — як той жа чалавек зьяўляецца ў Менску на вакзале і як разам з Кавалёвым нясе торбу праз турнікет мэтро. Тыя відэа былі ад раніцы 10 красавіка. Потым прагледзелі відэа з гэтым жа чалавекам у другой палове дня 10 красавіка бяз торбы — падчас «выведкі», як казала сьледзтва. На наступных некалькіх відэакавалках запар падазраваны ўжо зноў з торбай — гэтыя відэа былі зьнятыя ў дзень тэракту, 11 красавіка. Як падазраваны выйшаў з торбай зь цягніка на плятформу «Купалаўскай», як «засьвяціўся» ў тунэлі да «Кастрычніцкай», выйшаў з тунэля на лесьвіцу, прайшоўся ў натоўпе па «Кастрычніцкай», падняўся ўжо бяз торбы на пляцоўку зноў да тунэля, затрымаўся там на кароткі час, а калі адвярнуўся ад камэры і пачаў сыходзіць — адбыўся выбух.

Прагляд падрабязна камэнтаваў прадстаўнік пракуратуры. Зь ягонага камэнтару вынікала, што падазроны чалавек на відэа — гэта Дзьмітрый Канавалаў. Сярод іншага, прадстаўнік абвінавачаньня спасылаўся на вынікі параўнаньня відэа зь сьледчым экспэрымэнтам, калі Канавалава здымалі ў мэтро. Прадстаўнік пракуратуры абвясьціў, што на параўнаных здымках экспэрты знайшлі поўнае

супадзеньне парамэтраў фігуры і адзначылі супадзеньне асаблівасьцяў хады. Сьлядоў унутрыкадравага мантажу на гэтых відэа экспэрты не знайшлі.

Адзначу свае ўражаньні: асабіста мне на тых відэа пазнаць Канавалава было цяжка, бо твару чалавека было амаль ня бачна, і даводзілася арыентавацца толькі на постаць і прыкметы адзеньня. Але, як на мяне, гэта адназначна быў адзін і той жа чалавек, бо на ўсіх стужках ён выглядаў і паводзіў сябе падобна, у тым ліку аднолькава нёс торбу, якая таксама выгляду і, мяркуючы па ўсім, вагі не мяняла.

Таксама былі паказаныя відэа, зьнятыя з вулічных камэраў, усталяваных каля Дома афіцэраў, цырку, Палаца прафсаюзаў, на Кастрычніцкай плошчы і плошчы Свабоды. На гэтых відэа быў падазраваны, калі ён ішоў, выбраўшыся з мэтро пасьля выбуху. Маршрут быў такі: выйшаў з «Купалаўскай» на вуліцу Карла Маркса, па ёй спусьціўся да вуліцы Янкі Купалы, перайшоў праз праспэкт Незалежнасьці і падняўся да Палаца прафсаюзаў, далей па дыяганалі перасек Кастрычніцкую плошчу і выйшаў на плошчу Свабоды. На адных відэа з гэтага маршруту падазраванага можна было пазнаць лепш, на іншых ён выглядаў маленькім чорным чалавечкам, які пры значным набліжэньні размываўся. Але на апошнім кавалку, зьнятым на плошчы Свабоды, гэта быў, найверагодней, той самы чалавек: росту крыху вышэйшага за сярэдні, прыкметна сутулаваты, у падобным адзеньні.

Яшчэ адна важная цытата з прысуду, якая датычыць законнасьці выманьня пэўных відэа з камэраў мэтро. Адвакаты заўважылі, што гэта не арыгі-

нальнае відэа, а копіі. Судзьдзі, аднак, вырашылі, што гэта не ўплывае на праўдзівасьць доказаў.

**Прысуд, с. 87**. *«Судом дасьледаваныя абставіны выманьня інфармацыі з камэраў відэаназіраньня Менскага мэтрапалітэну ад 12.04.2011 і 19.04.2011. Патрабаваньні крымінальна-працэсуальнага закону падчас выкананьня гэтых дзеяньняў захаваныя. Дадзеныя доказы атрыманыя ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі закону і зьяўляюцца дапушчальнымі».*

***Алесь Каліта: «Гэта быў Канавалаў, але я ня веру, што ён дзейнічаў сам»***
*01.03.12*

У 2010 годзе ў беларускім войску ў адной частцы зь Дзьмітрыем Канавалавым служылі Алесь Каліта і Іван Шыла, вядомыя актывісты дэмакратычнага руху. Алесь Каліта — сябра партыі БНФ, Іван Шыла — сябра незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт». Пра тое, што яны знаёмыя з Канавалавым, стала вядома ад іх саміх, пасьля таго як тэлебачаньне паказала відэа чалавека з торбай, які падазраецца ва ўчыненьні тэракту. Алесь Каліта і Іван Шыла пазналі свайго аднапалчаніна на гэтым відэа, зьмясьцілі гэтыя зьвесткі ў інтэрнэце, і неўзабаве ім давялося адказваць на пытаньні журналістаў, а потым і сьледчых КДБ. З Алесем Калітом пра Канавалава я размаўляў у самым пачатку сакавіка 2012 году.

**— Алесь, што б Вы маглі расказаць пра Вашага таварыша па службе Дзьмітрыя Канавалава?**

— Ня ведаю… ну, быў спакойны, вельмі ўраўнаважаны хлопец.

**— Можна я адразу буду рабіць заўвагі? Ён і на судзе быў спакойны ды ўраўнаважаны. Праседзеў увесь працэс моўчкі, хіба зь ледзь заўважнай усьмешкай на твары, дачакаўся сьмяротнага прысуду. (Дарэчы, пасьля гэтага вельмі спакойна пра нешта размаўляў з канваірам. Знайсьці б таго канваіра й даведацца, што ж яму казаў Канавалаў. — *А. Г.*)**

— Праўда? Я казаў ужо іншым журналістам, паўтару і вам: я ня веру ў тое, што Дзіма гэты тэракт учыніў самастойна. Я перакананы, што над ім было кураторства, яго суправаджалі. Ня веру, што ён гэта зрабіў бязь нейкага патранажу. Ягоныя паводзіны ў судзе... Я сутыкаўся з такімі паводзінамі падчас службы. Ён сябе так паводзіў, калі ведаў, што ў нейкай справе, у нейкай канфліктнай сытуацыі віна ня толькі ягоная, што акрамя ягонай віны ёсьць віна іншага чалавека. Тады ён замыкаўся ў сабе, не жадаючы гэтага чалавека здаваць. Замыкаўся і проста маўчаў, і глядзеў так, маўляў, рабіце са мной што хочаце, мне па барабане. Можа, пару разоў былі такія сытуацыі ў войску, і ён сябе паводзіў адпаведна, відаць, гэтак жа, як на судзе. Перакананы, што ў той момант ён ведаў, што зрабіў гэта не адзін, але ня мог сказаць, з кім.

Карацей, спакойны быў хлопец, даволі вясёлы. Неканфліктны. Да службы ставіўся як да павіннасьці — маўляў, трэба адбыць. Цікавасьці да вайсковай справы не выказваў. Проста бавіў час і ўсё. Шмат сядзеў у інтэрнэце, «Вконтакте», праз тэлефон. У войску ўсе праз тэлефон заходзяць у

інтэрнэт. Чытаў газэты, у асноўным спартовыя нейкія. Глядзеў тэлевізар вечарамі, у так званыя інфармацыйныя гадзіны, ці як, ужо сам забыўся. Кантактаваў з таварышамі па службе, але я б не сказаў, што з кімсьці моцна сябраваў. Войска — ня тое месца, дзе ты моцна сябруеш з усімі. Не магу сказаць, з кім ён сябраваў блізка, бо мы былі зь ім розных прызываў. Ужо потым, калі мяне дапытвалі ў КДБ, я даведаўся, што, відаць, пры канцы службы яго перавялі ў іншы дывізіён. Ня ведаю, з кім ён там служыў. А падчас маёй службы ён быў у маёй батарэі, у сяржанцкім складзе. Гэта была в.ч. 06405, п.а. Межыца, Лепельскі раён, супрацьпаветраная абарона. Другі дывізіён, трэцяя батарэя, мая батарэя.

**— А што ён у Вас пытаў наконт думак пра пошук тэрарыстаў, якія ўзарвалі бомбу ў 2008 годзе на сьвяце Незалежнасьці?**

— Вы пераблыталі нешта, гэта расказваў ня я, а Іван Шыла, які таксама зь ім служыў. Са мной Дзіма пра гэта не размаўляў, у нас былі чыста службовыя стасункі. А Іван быў зь ім аднаго прызыву, магчыма, яны больш камунікавалі.

**— Апошнюю сустрэчу зь ім памятаеце?**

— Апошняя сустрэча плянавалася... Летам у яго быў дэмбель, і недзе ў канцы лета 2010 году мы павінныя былі сустрэцца, усе «дэмбелі» нашага дывізіёну, але так і не сустрэліся. А апошні раз я яго бачыў, калі сыходзіў з войска, 21 студзеня. Звычайная сустрэча.

**— Як ён сябе паводзіў з афіцэрамі? Падпа-**

**радкоўваўся адразу ці на яго трэба было націскаць?**

— Я б сказаў, выконваў што загадвалі, не выяўляючы нейкай асаблівай ініцыятывы. Сказалі рабіць — пайшоў паціху рабіць. Яму было гэтае войска да аднаго месца. Як, у прынцыпе, і 90% службоўцаў.

**— А як Вы ацэньваеце ягоны інтэлектуальны ўзровень?**

— Даволі высокі. Паводле манеры размаўляць, тэмаў размоваў, выхаванасьці — шырэйшы за сярэдні сьветапогляд. Досыць начытаны і ўмее карыстацца мовай.

**— Беларускай мовай Канавалаў карыстаўся?**

— Не, але разумеў, я зь ім размаўляў па-беларуску, і ён успрымаў гэта нармальна. У дывізіёне ніхто, акрамя мяне і Шылы, не размаўляў па-беларуску, хоць усе разумелі мову і пэрыядычна адказвалі на ёй.

**— Што-небудзь можаце расказаць з Вашага допыту ў КДБ ці гэта таямніца? Было ў вас уражаньне, што сьледчыя шукаюць палітычную сувязь з тэрактам, у прыватнасьці сувязь тэрарыстаў з апазыцыяй?**

— Склалася ўражаньне, што супрацоўнікі КДБ хочуць мяне пераканаць, нібыта гэты тэракт учыніў Канавалаў. Бо яны ўвесь час казалі: ты ж бачыш, як ён усё зрабіў, гэта ж ён нарэзаў арматуру, і гэтак далей. І задавалі пытаньні, на якія немагчыма было

адказаць ня ў іхнай інтэрпрэтацыі. Прыкладна так: чаму ты лічыш, што ён быў такім эгаістычным? Альбо: чаму ты лічыш, што ён так ненавідзеў людзей? Карацей, яны ўжо за мяне вырашылі, што і як. Я ім казаў, што магу сьведчыць пра Канавалава толькі як пра вайскоўца, а як пра асобу не магу казаць, бо не стасаваўся зь ім ня ў войску. А каб чалавека ведаць, трэба зь ім бачыцца ня толькі ва ўмовах абмежаванай свабоды. Я ім гэта тлумачыў, але яны ўсё роўна пыталіся, чаму ён такі ці такі... На мяне, дарэчы, таксама спрабавалі ў нейкія моманты ціснуць і гэтымі пытаньнямі, мяркую, хацелі прымусіць мяне ўзьвесьці паклёп на Канавалава. Магчыма, каб потым даць яму мае паказаньні і сказаць: бачыш, нават гэтыя бээнэфаўцы, гэтыя апазыцыянэры, нават твой таварыш па службе, кажуць, што ты такі і такі. Каб яшчэ больш яго дабіць. І калі б ён і зьбіраўся сказаць на судзе, што зрабіў гэта не адзін, што яго падбухторылі, даць яму зразумець, што яго ніхто ня будзе абараняць, бо для ўсіх ён злачынец. Нават для таварышаў па службе. Магчыма, яны вялі мяне да гэтага, каб да канца яго зламаць, а заадно і мяне ў гэта ўвесьці, каб, калі яго расстраляюць, я быў датычны да гэтай расправы.

Хоць я і дапускаю, што гэта зрабіў ён, але ўпэўнены, што не адзін. Гэта, аднак, не здымае зь яго віны.

**— Чаму Вы мяркуеце, што гэта ён? Якія факты на Вас больш падзейнічалі як доказы?**

— Найперш я пазнаў яго на відэа, зьнятым у мэтро, пазнаў адразу, як пабачыў гэтае відэа. Калі ён нёс торбу, калі стаяў на плятформе, на пера-

ходзе — я пазнаў яго, гэта быў ён. Манера руху, паводзіны — усё выключна ягонае. Таму, мяркую, ён браў у гэтым удзел. А калі чалавек нават проста нясе торбу, хоць і не задумваецца, што ў ёй, ён усё роўна датычны.

**— А Вы дапускаеце вэрсію, што ён мог толькі прынесьці туды торбу, перадаць яе каму трэба і сысьці, а яго потым на відэа з выбухам наклалі, і атрымалася, што гэта ён націснуў пульт, каб узарвалася бомба?**

— Цалкам можа быць, дапускаю такі варыянт. Тут вельмі ўсё закручана, заблытана. Ведаеце, я вельмі спадзяваўся, што ён на судзе выступіць, скажа хоць слова. І калі б ён сказаў, што невінаваты і гэтага не рабіў, я б пачаў змагацца як магу за свайго таварыша па службе. Але ён прамаўчаў і фактычна падпісаў сабе сьмяротны прысуд. Бо калі ты не вінаваты, ты мусіш змагацца. Ты мусіш хаця б казаць, што ты невінаваты. Мяркую, яго запалохалі, але ня ведаю, які там узровень пагрозаў. Запалохаць у нас, канечне, могуць. Ведаеце, мяне затрымалі ў сувязі з тэрактам, калі я ехаў у цягніку на пахаваньне дзеда. Чацьвёра сутак праседзеў у адзіночнай камэры, і ў мяне было адзінае пытаньне да сябе: колькі я вытрымаю катаваньні? Ці не агавару я сябе, што буду рабіць на судзе і як мяне будуць расстрэльваць. Разумееце стан чалавека? Прычым я чалавек падрыхтаваны, бо ў апазыцыі 10 гадоў. Мяне і выкрадалі, і зьбівалі, і на «сутках» я сядзеў. А ён жа непадрыхтаваны. І вось я ў адзіночнай камэры, па два разы на дзень шмон, брэх сабак пад вокнамі, трывалы прэсінг, разьдзецца, адзецца, прысесьці... Гэта не адміністрацыйны арышт, а затрыманьне

чатырма байцамі спэцназу і двума кадэбістамі. Таму як яго там ламалі... Пасьля паказаньняў Міхалевіча мяркую, што моцна. Тут у яго выйсьця не было. Бо калі Лукашэнка кажа, што яны знайшлі тэрарыстаў і тыя ва ўсім прызналіся, то і дзядзя Вася з вуліцы стане тэрарыстам, калі яго злавіць і сказаць: «Дзядзя Вася, ты — тэрарыст». Судовай сыстэмы ў Беларусі няма. Праваабаронцы задушаныя. Мэдыі прыцiснутыя. І хто будзе высьвятляць праўду? Дзе справядлівы суд? Дзе незалежная адвакатура? Хто за яго будзе змагацца і абараняць? Лукашэнка падпісаў яму сьмяротны прысуд праз два дні, Канавалаў фактычна быў прыгавораны. А ўсё астатняе, суд, сьледзтва... Гэта ўсё фількава грамата. Для адводу вачэй. Паказуха.

## VI. Чорная куртка з чырвонай стужкай на каўняры

Сьледзтва называе ў якасьці доказу тое, што адзеньне затрыманага Канавалава супала з адзеньнем чалавека, які прынёс у мэтро бомбу. Ці так гэта? Як быў апрануты 11 красавіка «чалавек з торбай», бачыла ўся краіна: чорная куртка да поясу, чорныя ня вузкія штаны, чорная спартовая шапачка амаль да вачэй. Абутак таксама чорны. Ці супадае гэта з паказаньнямі сьведак?

Віцебскі таксіст Максім Маскалёў падвозіў Дзьмітрыя Канавалава з арандаванай на ноч кватэры на чыгуначны вакзал. «Быў апрануты ва ўсё чорнае, куртка дакладна не даўгая, але дэталяў ня памятаю», — паказаў Маскалёў. Паглядзеўшы на Канавалава ў судзе, сказаў, што той падобны да пасажыра зь цяжкай торбай, якога ён падвозіў.

Сьведка Тацяна Вусава — прадпрымальніца зь Віцебску, якая здавала Канавалаву кватэру на ноч з 9 на 10 красавіка (паводле сьледзтва, прымусова прайшоўшы раніцай 9 красавіка дактыляскапію, Канавалаў сабраў рэчы і зьехаў з дому, а ноч на 10-га правёў на кватэры, арандаванай праз тэлефон у Тацяны Вусавай). У судзе сьведка адназначна сказала, што пазнае Канавалава. Пра адзеньне сказала: «Быў апрануты ва ўсё чорна-цёмнае». Канавалава больш запомніла не па адзеньні, а па паводзінах: як абыходзіўся з торбай і што быў няветлівы і не падымаў вачэй.

Ці сапраўды Дзьмітрый Канавалаў быў апрануты ва ўсё цёмнае? Такое ўражаньне, пэўна,

магло скласьціся, бо паказанае па тэлебачаньні відэа фактычна было чорна-шэрым, нейкія колеры выявіліся толькі ў момант выбуху на «Кастрычніцкай». Праўда, уважлівыя гледачы адзначылі вузкую сьветлую паласу на каўняры курткі Канавалава, але сказаць пэўна, якога яна колеру, было немагчыма. Ці сапраўды гэта была каляровая ўстаўка?

Вось што паведаміла суду сьведка Тацяна Вараўка, супрацоўніца фірмы «Альміра», праз якую Канавалаў арандаваў у Менску кватэру на вуліцы Караля. Па твары сьведка Канавалава не пазнала, але пра адзеньне згадала, што акрамя чорнай курткі запомніла яшчэ нешта чырвонае: ці то ўстаўкі, ці то падшэўку.

Сьведка Аліна Фёдарава была ў мэтро на станцыі «Кастрычніцкая» ў момант тэракту — чакала на станцыі знаёмую, каб аддаць флэшку. Зьвярнула ўвагу на маладога чалавека, які перакладаў цяжкую торбу з рукі ў руку і заўважна нэрваваўся. Гледзячы ў твар Канавалаву, сказала, што падобны, але «дакладна сказаць, што гэта той чалавек са станцыі, ня можа». З адзеньня запомніла чорную шапачку і чорныя штаны, «магчыма, з парванай кішэняй», дакладна ня джынсы. Куртка таксама чорная. Запомніла, што на адзеньні былі замкі-маланкі.

У судзе адзеньне, у якім быў затрыманы Дзьмітрый Канавалаў, аглядалася 28 верасьня. Назіральнікі ясна ўбачылі на каўняры чорнай курткі чырвоную стужку, мэталічныя замкі-маланкі на кішэнях. Штаны Канавалава былі цалкам чорныя, як і чаравікі.

А вось што сказана адносна адзеньня Дзьмітрыя Канавалава ў прысудзе.

**Прысуд, с. 83.** *«Экспэртызай дасьледаваныя адпаведнасьць выгляду Канавалава Дз. Г., асаблівасьцяў адзеньня, вывучаных падчас сьледчага экспэрымэнту, выманьня, атрыманьня ўзораў з асобай, якая зафіксаваная камэрамі відэаназіраньня станцый мэтрапалітэну “Кастрычніцкая”, “Купалаўская” і “Фрунзенская” ў пэрыяд часу з 17 гадзін 39 хвілін да 18 гадзін 11 красавіка 2011 году.*

*Адпаведна з заключэньнем комплекснай крыміналістычнай экспэртызы № 8/15-11 ад 03.06.2011, якая была праведзеная Інстытутам крыміналістыкі ЦСТ ФСБ Расеі, асаблівасьці выгляду асобы, указанай у пратаколе агляду ад 28 красавіка 2011 году і зафіксаванай 11 красавіка камэрамі відэаназіраньня, усталяванымі ў Менскім мэтрапалітэне на станцыях “Фрунзенская”, “Купалаўская” і “Кастрычніцкая”, адпавядаюць асаблівасьцям выгляду адзеньня, забранага ў Канавалава Дз. Г. 13 красавіка падчас яго затрыманьня».*

На папярэдняй (82-й) старонцы прысуду сьцьвярджаецца, што асаблівасьці выгляду адзеньня Дзьмітрыя Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва падчас іх затрыманьня адпавядаюць асаблівасьцям выгляду адзеньня асобаў, зьнятых на камэры мэтро 10 красавіка. Гэтыя асобы, паводле экспэртаў ФСБ Расеі, маюць партрэтнае падабенства зь Дзьмітрыем Канавалавым і Ўладзіславам Кавалёвым. Цікава, што партрэтнае падабенства Кавалёва расейскія экспэрты вызначылі як «сярэдняй ступені», а Канавалава — як «неістотнае».

### *«Галоўная інтрыга працэсу. Ці расстраляюць Кавалёва?»*

Вячаслаў Буткевіч, карэспандэнт інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, рэгулярна асьвятляе гучныя працэсы ў беларускіх судах. Паводле Буткевіча, ён прысутнічаў на больш як 90% паседжаньняў працэсу над тэрарыстамі. Аўтар спытаў у Вячаслава Буткевіча, што яго найбольш уразіла на гэтым судзе.

**Вячаслаў Буткевіч:** «Найперш вельмі ўразіла тое, што працэс прайшоў усё ж адкрыта. Пасьля такога злачынства, пасьля ўдзелу ў расьсьледаваньні спэцслужбаў я не выключаў, што працэс закрыюць, у тым ліку каб не «сьвяціць» спэцслужбы, іх апэратыўную дзейнасьць і гэтак далей.

Але па вялікім рахунку ў мяне склалася ўражаньне, што ўвесь гэты працэс быў зрэжысаваны. Генэральная лінія сцэнарыста, рэжысэра збольшага захоўвалася, аднак дазваляліся і нейкія імправізацыі. Вядома, гаворка пра імправізацыі з боку суду. Недзе суд даваў больш выказвацца і адвакатам, але потым, падчас разгляду іншых важных пытаньняў, такой магчымасьці абарона ня мела. І на выхадзе разабрацца ў пэўных праблемах амаль не атрымалася.

Уразіла, што шмат хто з пацярпелых і нават сваякоў загінулых ад тэракту казалі пра неабходнасьць мараторыю на сьмяротнае пакараньне. Яны былі супраць пакараньня Канавалава і Кавалёва сьмерцю, хоць было бачна, што да гэтага ідзе. Такая пазыцыя была ўсё ж навіной для краіны, якая на рэфэрэндуме 1996 году большасьцю звыш 80% выказалася за захаваньне сьмяротнай кары.

Падкрэсьлю, што не адзін Аляксандар Крутой выступаў з такімі словамі. Такіх было шмат, яны самі пацярпелі, але ўсё роўна казалі, што нельга расстрэльваць Канавалава і Кавалёва. Вось гэта было дзіўна і запомнілася.

Уразіла таксама тое, што нашыя праваахоўныя органы аказаліся бясьсільнымі перад тэрактамі з 2005 да 2011 году. Выявілася, што (калі гэтыя тэракты ўчынілі Канавалаў і Кавалёў) усё стала магчымым праз аднаго інспэктара абласной управы ўнутраных справаў, які ня ўзяў адбіткаў пальцаў у Канавалава. Адзін чалавек затармазіў працу ўсёй праваахоўнай сыстэмы, і ў выніку не атрымалася злавіць злачынцу яшчэ ў 2009 годзе, як гэта афіцыйна абвяшчалася. Гэта было адно з самых моцных уражаньняў. А яшчэ ўразіла, што суд ня вынес ніякай пастановы на адрас сілавікоў: што ім трэба больш увагі аддаваць, прыкладам, экспэртнай працы і гэтак далей. Бо ў судзе выявілася, што ня толькі той міліцыянт ня выканаў сваю працу — праколы былі і ў 2005, і ў 2008 гадах. Гэта ганьба, што з 2005 году, калі гэтым хлопцам было ўсяго па 20, і аж да 2011 году іх не маглі вылічыць. Спатрэбіўся тэракт, каб іх знайшлі!

Дарэчы, калі я не памыляюся, па эпізодах 14 і 22 верасьня 2005 году, а таксама 4 ліпеня 2008 году справы заводзіліся па артыкуле аб злосным хуліганстве. Як нам тлумачылі, ніхто ніякіх патрабаваньняў ня выставіў, таму гэта не тэрарызм, а хуліганства. Але тады незразумела, чаму, калі знайшлі Канавалава і Кавалёва, гэтыя злачынствы раптам перакваліфікавалі ў тэрарызм.

Вярнуся да рэжысуры працэсу. Згадаем, што дадзеныя расейскіх экспэртаў часта не састыкоў-

валіся з дадзенымі экспэртаў беларускіх або нават ім супярэчылі. Але ўсё роўна генэральная лінія захоўвалася і яўна праглядалася. Таму людзі, зь якімі мне даводзілася гаварыць у судзе, казалі, што ўсё ж будзе сьмяротнае пакараньне. Але гаворка ішла, безумоўна, толькі пра Канавалава. Увогуле, як мне падаецца, галоўная інтрыга працэсу была ня ў тым, прызнаюць іх вінаватымі ці не, а ў тым, дадуць найвышэйшую меру абодвум ці толькі Канавалаву. Я меркаваў, што Кавалёву дадуць пажыцьцёвае, але атрымалася ня так. І для мяне гэта было вельмі нечакана. Тым больш нечаканым было адхіленьне ягонага прашэньня аб памілаваньні. Дарэчы, паводле маёй інфармацыі, прысуд выканалі яшчэ да 16 сакавіка. У праваахоўных органах — я гэта дакладна ведаю — ужо 16 сакавіка былі пра гэта зьвесткі. Калі ўлічыць, што 11 сакавіка маці і сястра Кавалёва зь ім бачыліся ў СІЗА КДБ, выходзіць, сьмяротная кара была выкананая паміж 11 і 16 сакавіка».

## VII. Сьляды на адзеньні

Усе бачылі аблокі пылу, якія вырываліся з тунэля паміж станцыямі ды з эскалятара станцыі «Кастрычніцкая» пасьля выбуху — гэта ня раз дэманстравала беларускае тэлебачаньне. Уяўлялася, што ў гэтых аблоках сярод мікрачасьцінак цэмэнту, бэтону, пабелу, пылу ня могуць не захавацца і мікрачасьцінкі выбуховых рэчываў, якія не згарэлі ў полымі выбуху, а віхрам былі занесеныя на адзеньне людзей, у тым ліку і падазраванага Канавалава. Шмат хто з назіральнікаў за працэсам лічыў, што менавіта гэтае пытаньне — ці ёсьць на адзеньні Канавалава і Кавалёва сьляды выбуховых рэчываў — можа быць найважнейшым момантам падчас высьвятленьня віны падазраваных. Сярод гэтых людзей быў і аўтар. Аднак, паводле экспэртаў, якія дасьледавалі адзеньне абодвух падазраваных, на ім ніякіх сьлядоў не аказалася. Прычым ня толькі ва Ўладзіслава Кавалёва, але і ў Дзьмітрыя Канавалава, які непасрэдна ўчыніў, паводле сьледзтва, выбух у мэтро. Як гэта патлумачыць?

У судзе дадзеныя экспэртызаў прагучалі 6 кастрычніка са спасылкай на том справы № 549. Выбуховатэхнічная экспэртыза, датаваная 28 красавіка 2011 году, высьветліла, што на адзеньні Канавалава Дз. Г., на ягоных руках і твары няма сьлядоў выбуховых рэчываў. Пры гэтым было агалошана, што адзеньне, а таксама ўзоры валасоў, сьляды з пальцаў рук, змывы з твару браліся ў Канавалава 13 красавіка — фактычна ў дзень арышту. Тады ж былі агалошаныя дадзеныя аналягічнай экспэртызы Ка-

валёва Ў. Ю., датаванай 22 красавіка. Выбуховых рэчываў на адзеньні Кавалёва, ягоных руках, твары таксама не было знойдзена.

Вось як у прысудзе было патлумачана, чаму тэрарысты не «падчапілі» сьлядоў выбухоўкі.

**Прысуд, с. 84.** *«Кавалёў У. Ю. на сьледзтве паказваў, што Канавалаў Дз. Г. заўсёды страхаваўся, каб бомба не ўзарвалася ў руках ці падчас закладаньня. Канавалаў Дз. Г. і Кавалёў У. Ю. заўсёды рабілі захады перасьцярогі. Адсутнасьць на іх адзеньні выбуховых рэчываў зьвязаная з тым, што выбуховае рэчыва ў прыстасаваньні, якое было ўзарванае 11 красавіка 2011 году ў мэтро, было выраблена раней і знаходзілася ў асобных гермэтычных ёмістасьцях».*

Пасьля заканчэньня працэсу адбылася прэсавая канфэрэнцыя прадстаўнікоў сілавых структур, задзейнічаных у пошуку тэрарыстаў і расьсьледаваньні. Журналістаў таксама вельмі цікавіла, чаму не знайшлі сьлядоў выбуху на адзеньні Канавалава. Вось якія тлумачэньні яны атрымалі.

***З прэсавай канфэрэнцыі прадстаўнікоў Генпракуратуры, КДБ, МУС і Сьледчага камітэту ад 02.12.2001.***

**— Чаму на адзеньні, скуры, валасах Канавалава ня знойдзена выбуховых рэчываў, калі ў момант выбуху ён быў у мэтро?**

**Экспэрт МУС**: «Каб знайсьці мікрачасьцінкі пасьля выбуху, адлегласьць мусіць быць прыкладна 2,5 мэтра. Вы самі бачылі на відэазапісе, на якой адлегласьці знаходзіўся Канавалаў. Тым больш што

ён стаяў за рогам пераходу. Мы дасьледавалі ня толькі ягоныя рукі і адзеньне, але і пазногці, змывы з твару, вушныя ракавіны, насавыя поласьці. Выбуховыя рэчывы, ужытыя імі, лёгка распускаюцца ў вадзе. Ад моманту вырабу да затрыманьня Канавалава мінула дастаткова часу, каб гэтыя рэчывы маглі зьнікнуць. Тут ня трэба было нічога рабіць адмыслова. Дастаткова было памыць рукі і твар».

***З інтэрвію «Экспэрт параўнаў выбух у мэтро з замахам на Гітлера»***
*Сайт ej.by (16.01.2012)*

*Пасьля суду гэтыя высновы шмат разоў камэнтавалі незалежныя экспэрты, сярод іх — Уладзімер Захматаў, доктар тэхнічных навук, прафэсар, аўтар 8 незалежных расьсьледаваньняў выбухаў у розных гарадах Украіны. З экспэртам размаўляў карэспандэнт сайту ej.by .*

**— На якой адлегласьці ад эпіцэнтру выбуху на чалавеку мусілі застацца сьляды выбуховых рэчываў?**

— На відэа бачна, што тэрарыст стаяў ад эпіцэнтру выбуху на дастаткова бясьпечнай адлегласьці, але пыл зь мікрачасьцінкамі выбуховага рэчыва, якое не ўзарвалася, да яго мусіў дайсьці.

**— Чаму ж тады экспэрты не знайшлі на адзеньні Канавалава ніякіх сьлядоў выбуху? Ці можна было ў прынцыпе знайсьці на ягоным адзеньні, на змывах з твару ці з насавой поласьці сьляды, якія б дазволілі адназначна сказаць, што ў момант выбуху ён быў у мэтро?**

— За дзень могуць зьнікнуць любыя сьляды. Што зь цяжкасьцю адмываецца ад адзеньня, дык гэта парахавы гар, сьляды тратылу і некаторых іншых выбуховых рэчываў. Аманіты, якія былі ў тым выбуховым прыстасаваньні, якраз лёгка змываюцца. Прадукты выбуху маглі застацца толькі на параненых людзях, а туды, дзе ён стаяў у момант выбуху, наўрад ці штосьці, акрамя цэмэнтнага пылу, магло даляцець. А па цэмэнтным пыле, нават калі нешта ад яго і засталося на адзеньні, нельга сказаць, што ён менавіта з мэтро. На адзеньні кожнага чалавека, які жыве ў горадзе, можна знайсьці часьцінкі цэмэнтнага пылу. А сьлядоў выбуховага рэчыва на ім магло ня быць. На відэа вось бачна, што ў момант выбуху ён ужо пачаў адыходзіць угару ў вэстыбюль (відаць, маецца на ўвазе тунэль паміж станцыямі «Кастрычніцкая» і «Купалаўская». — *А. Г.*) непасрэдна перад выбухам (што яскрава даводзіць ягоную вінаватасьць), дык якія ж на ім могуць быць сьляды?

## VIII. Чорная торба з надпісам «West»

Суд адназначна прызнаў: у торбе, зь якой у Менск прыехаў Канавалаў, была бомба, што выбухнула ў менскім мэтро 11 красавіка.

**Прысуд, с. 84.** *«Выкладзеная Кавалёвым у судзе пазыцыя, што ён не цікавіўся зьмесьцівам торбы і меркаваў, што ў ёй неабходныя штодзённыя рэчы Канавалава Дз. Г., — прыдуманая, бо вага, аб'ём і шчыльнасьць напаўненьня торбы не маглі рэальна ўспрымацца як напаўненьне бытавымі рэчамі для трохдзённай паездкі. За час знаходжаньня ў Менску Канавалаў не пераапранаўся, не карыстаўся якімі-небудзь рэчамі з торбы, што таксама бачыў Кавалёў».*

Падрабязнасьці пра торбу Канавалава ўдзельнікі працэсу пачулі ўжо на другі дзень, калі пачаў даваць паказаньні Ўладзіслаў Кавалёў.

10 красавіка Кавалёў, паводле ягоных паказаньняў, сустрэў Канавалава на менскім чыгуначным вакзале. Дакладней, Кавалёў да прыходу віцебскага цягніка спазьніўся, і Канавалаў, як дамовіліся праз тэлефон, чакаў сябра ў вэстыбюлі вакзалу на першым паверсе. Уладзіславу Кавалёву ў судзе задаваў удакладняльныя пытаньні дзяржаўны абвінаваўца Аляксей Стук.

**Кавалёў:** «Падышоў, павіталіся, узяў торбу дзьвюма рукамі...»

**Стук:** «Торба была цяжкая?»

**Кавалёў:** «Так. Паспрабаваў закінуць на плячо... Удалося».

**Стук:** «Якая была рэакцыя Канавалава?»

**Кавалёў:** «Нічога асаблівага... Нічога не сказаў».

**Стук:** «І што далей?»

**Кавалёў:** «Зьняў торбу з пляча, і далей панесьлі ўдвух за абедзьве ручкі».

**Стук:** «А чаму далей удвух? Вы ж ужо закінулі на плячо, ну і несьлі б адзін».

**Кавалёў:** «Панесьлі і панесьлі, так атрымалася».

**Стук:** «Вы кажаце, торба была цяжкая. А што ў ёй было, вас не зацікавіла?»

**Кавалёў:** «Не, я ня думаў, што ў торбе. Панесьлі і ўсё».

Аднаўляю гэты дыялёг з запісаў у журналісцкім нататніку і па памяці, бо стэнаграмы працэсу ня маю. Чаму зьвяртаю ўвагу менавіта на гэты эпізод? Таму што ўпершыню на працэсе адчуў, што Кавалёў нібыта нечага недагаворвае, а пракурор яго на гэтым спрабуе злавіць, але да канца не раскрывае картаў. Усё зрабілася больш зразумелым пасьля агалошаньня паказаньняў Кавалёва адносна гэтых жа падзей, дадзеных на сьледзтве.

«Ён сказаў, каб я апусьціў торбу», — гэтак на допыце падчас сьледзтва Кавалёў патлумачыў, чаму не адзін панёс торбу, а апусьціў яе долу і далей нёс разам з Канавалавым. І гэта выглядала больш лягічна, бо далей, паводле Кавалёва, Канавалаў паведаміў яму, што ў торбе бомба.

Гэта адбылося, калі абодва выйшлі з будынка вакзалу на Прывакзальную плошчу і зайшлі ў пераход. Там Кавалёў раскрыў замок торбы, разарваў каляровую паперу над дзьвюма бутлямі з

выбухоўкай. Тут варта зьвярнуцца да прысуду, каб зафіксаваць дэталі.

**Прысуд, с. 63.** *«Абвінавачаны Кавалёў У. Ю. на папярэднім сьледзтве ў сваіх паказаньнях, у тым ліку на вочнай стаўцы з Канавалавым, указваў, што пасьля таго як у Канавалава раніцай зьнялі адбіткі пальцаў, і ведаючы, што на бомбе, якая не разарвалася ў 2008 годзе, засталіся ягоныя адбіткі, Канавалаў Дз. Г. запанікаваў. Канавалаў Дз. Г. 9 красавіка 2011 году пазваніў яму і сказаў, што зьбіраецца прыехаць да яго ў Менск і ўчыніць выбух. Дамовіліся, што ён сустрэне Канавалава на вакзале. Ён сустрэў Канавалава. У таго была чорная торба, якую ён узяў у рукі і паспрабаваў ускінуць на плячо. Торба аказалася цяжкай, і Канавалаў папярэдзіў, каб ён з торбай абыходзіўся акуратней. Калі засталіся на плошчы, Канавалаў сказаў, што ў торбе выбуховае прыстасаваньне, якое ён ужо даўно плянаваў узарваць у мэтрапалітэне».*

Прапусьцім абзац з паказаньняў Кавалёва пра іншыя падзеі і зноў вернемся да торбы.

*«У падземным пераходзе па дарозе да мэтро ён адкрыў торбу і адарваў кавалак паперы. Убачыў 2 плястыкавыя бутэлькі на 3-5 літраў, закрытыя і заклееныя скотчам і паперай. Бутэлькі былі напоўненыя рэчывам жоўтага колеру. Торба важыла каля 15-20 кіляграмаў. Дзьмітрый патлумачыў, што гэта бомба. Пасьля гэтага ён (Канавалаў) схадзіў на вакзал, набыў газэту, па якой арандаваў кватэру. Для тэлефонных званкоў Дзьмітрый прасіў тэлефон Кавалёва і казаў, што баіцца, што праз ягоны тэлефон яго могуць вылічыць, таму ён*

*свой тэлефон адключыў. Пасьля гэтага яны ўдвох, кожны за сваю ручку, узялі торбу і паехалі да меркаванай кватэры».*

Яшчэ пра прыкметы торбы Канавалава. Дзеля гэтага вернемся больш як на дзень назад. Вечар 9 красавіка, Віцебск. Ужо знаёмая нам сьведка Тацяна Вусава, віцебская прадпрымальніца, запомніла Канавалава якраз па тым, як акуратна ён абыходзіўся зь яўна цяжкай торбай, якую прынёс на арандаваную кватэру. «Паставіў торбу на падлогу вельмі асьцярожна, было бачна, што там нешта цяжкае. Я яшчэ падумала, што там бутэлькі, бо гэтак часта бывае, калі арандуюць на ноч кватэру, каб добра пагуляць. Але ў торбу потым не залазіла і не глядзела, што там».

Раніцай 10 красавіка Канавалава падвозіў да вакзалу таксіст Максім Маскалёў. Той бачыў і запомніў торбу, бо падымаў яе, загружаючы ў багажнік свайго аўтамабіля. Колер торбы сьведка вызначыў як «шэры», аб'ём — «70 сантымэтраў на 40 на 30», вагу — «20-25 кіляграмаў».

І нарэшце сьведка Аліна Фёдарава, адзіная, хто сказала пра Канавалава, што нібыта бачыла яго на станцыі «Кастрычніцкая» непасрэдна перад выбухам. «Запомніла яго, бо ён нэрваваўся, перакладаў торбу з рукі ў руку, потым пайшоў наверх па лесьвіцы». «Ці была ў яго ў руках торба ў гэты момант?» — запытаў пракурор. «Ня памятаю», — сказала сьведка. Увогуле, убачыўшы Канавалава ў судзе, Аліна Фёдарава сказала, што ён «падобны» да чалавека, якога яна бачыла ў мэтро, але з пэўнасьцю сьцьвярджаць гэта ня можа. «Два месяцы пасьля тэракту я не магла нармальна спаць, спала

на таблетках», — паведаміла пра свой стан здароўя сьведка. Адметна, што ў прысудзе яе паказаньні ня згадваліся.

А вось што расказаў пра торбу асуджаны Дзьмітрый Канавалаў падчас першага допыту, раніцай 13 красавіка. Сваю віну ў тэракце Канавалаў на той момант цалкам прызнаваў. У судзе зачыталі пратакол допыту, а потым прагледзелі яго відэазапіс. Кіраўнік сьледчай групы Швед пытаецца ў Канавалава: «Што вы ведаеце пра выбух у мэтро?» Канавалаў на гэта адказвае: «Тое, што гэта я зрабіў. Прынёс торбу і зрабіў гэта, адзін». Далей Канавалаў расказвае, дзе, як і з чаго зрабіў бомбу. Сьледчы Швед пытаецца ў падазраванага, навошта яму гэта спатрэбілася. Гучыць адказ: «Нічога асабістага». — «А дзеля чаго?» — «Ня буду адказваць на гэтае пытаньне». Швед: «Каб максымальна забіць людзей?» — «Так». — «Вам не шкада было жанчын, дзяцей?» — «Ня буду адказваць на гэтае пытаньне».

Як бачым, пра торбу на тым допыце згадана мімаходзь, толькі як пра сродак дастаўкі бомбы ў мэтро.

Пазьней, на вочнай стаўцы з Кавалёвым, Канавалаў пацьвердзіць аповед пра тое, як яго сустрэў Кавалёў на чыгуначным вакзале і як яны ўдвух панесьлі яе ў мэтро, каб даехаць да станцыі «Фрунзенская», бліжэй да арандаванай кватэры на вуліцы Караля. Пра бомбу Канавалаў сказаў, што Кавалёў нічога ня ведаў.

### *З пратаколу затрыманьня Канавалава Дз. Г. 23.00 12 красавіка 2011 году*

У Канавалава знойдзена: пашпарт на ягонае імя, чыгуначны білет ад 10.04 зь Віцебску ў Менск, баль-

нічны ліст ад 05.04, мабільны тэлефон, сім-картка, батарэя, 480 тысяч беларускіх рублёў, ключы зь бірулькай, праязны білет на тралейбус, жэтоны на мэтро, капсулы зь белым парашком — 20 штук.

У судзе быў зачытаны ліст № 10 з гэтага тому, паводле якога рэчы Канавалава прызнаныя рэчавымі доказамі.

У прысудзе торба Канавалава некалькі разоў фігуруе падчас пераказу падзей 10-11 красавіка з удзелам Канавалава і Кавалёва.

**Прысуд, с. 61.** *«Для падрыву выбуховага рэчыва вырабіў электрадэтанатар зь лямпачкі, перакісу ацэтону — “кісы” — і электроннага званка “Космас“. У якасьці элемэнтаў паражэньня выкарыстаў нарэзаныя кавалкі арматуры, шарыкі, цьвікі, ролікі.*

*Усё гэта склаў у чорную спартовую сумку з надпісам “Вест” (мова паводле тэксту прысуду — А. Г.) . Торбу з выбуховым прыстасаваньнем 10 красавіка 2011 году прывёз у горад Менск, дзе на чыгуначным вакзале яго сустрэў Кавалёў У. Ю. Кавалёву ён паведаміў, што вязе бомбу. Кавалёў У. Ю. адкрыў торбу, разарваў паперу і ўбачыў, што ў торбе выбуховае прыстасаваньне. Кавалёў У. Ю. набыў газэту “Из рук в руки”, каб арандаваць кватэру. Па аб’явах тэлефанаваў з тэлефону Кавалёва Ў. Ю., каб яго не маглі вылічыць. Удвух узялі торбу і пайшлі ў мэтрапалітэн. Адназначна сьцьвярджае, што ў той дзень Кавалёў У. Ю. ведаў, і ён яму казаў пра гэта, што бомбу ўзарве на станцыі мэтрапалітэну. Кавалёў У. Ю. дапамог яму данесьці торбу да месца жыхарства — кв. 50, д. 9А па вул. Караля, нанятую часова ў бюро па арэндзе кватэраў. Пакінулі торбу*

*ў кватэры, схадзілі па сьпіртовыя напоі і закуску, прыйшлі ў кватэру і пачалі расьпіваць сьпіртовыя напоі. Падчас ужываньня сьпіртнога паказаў Кавалёву пульт, з дапамогай якога зьбіраўся прывесьці ў дзеяньне выбуховае прыстасаваньне. Кавалёў У. Ю. узяў пульт у рукі са сваёй ініцыятывы, пачаў націскаць кнопку, Канавалаў забраў у Кавалёва пульт і паклаў у торбу».*

Гэтыя прызнаньні Канавалава, паводле суду, сьведчаць і пра тое, што Кавалёў ведаў пра будучы выбух у мэтро ўжо 10 красавіка, не перашкодзіў гэтым плянам, а наадварот, спрыяў іх ажыцьцяўленьню.

Што торба з надпісам «West», зь якой Канавалаў прыехаў у Менск зь Віцебску, ёсьць сродкам маскіроўкі і дастаўкі бомбы, прызнала комплексная выбуховатэхнічная экспэртыза спэцыялістаў інстытуту крыміналістыкі ЦСТ ФСБ Расеі ад 25.05.2011 г. У прысудзе ёсьць адпаведная спасылка.

**Прысуд, с. 78.** *«Сродак маскіроўкі і дастаўкі выбуховага прыстасаваньня — торба з сынтэтычнай лаўсанавай тканіны чорнага колеру памерам ня менш як 15 літраў».*

Абвінавачаныя і сьведкі па-рознаму вызначалі колер торбы, зь якой Канавалаў прыехаў у Менск і якую прынёс у мэтро 11 красавіка. А адвакат Кавалёва Станіслаў Абразей у спрэчках шмат увагі аддаў надпісу «West» белага колеру на торбе. (Паводле адваката, на адным зь відэа гэтага надпісу на торбе не было.) Сама торба ў паказаньнях сьведкі таксіста Маскалёва была шэрая, у паказаньнях сяброўкі Канавалава Пачыцкай — цёмна-блакітная, а паводле

паказаньняў гаспадыні кватэры ў Віцебску і саміх абвінавачаных — чорная. Як чорны вызначылі колер торбы экспэрты, што вывучалі відэадоказы, і экспэрты, якія абсьледавалі рэшткі торбы, знойдзеныя пасьля выбуху на станцыі «Кастрычніцкая». Суд у выніку вырашыў, што гаворка ідзе пра адну і тую ж торбу. Разыходжаньні ў паказаньнях суд патлумачыў наступным чынам.

**Прысуд, с. 64.** *«Паказаньні Маскалёва і Пачыцкай пра колер торбы, якая была ў Канавалава, як шараваты і цёмна-блакітны адпаведна, тлумачацца ўспрыманьнем кожным зь іх чорнага колеру торбы, а таксама markрознымі ўмовамі асьвятленьня, пры якіх яны бачылі гэтую торбу, і не абвяргаюць факту наяўнасьці ў Канавалава цяжкай торбы чорнага колеру, якая закрываецца маланкай, з ручкамі па баках і надпісам "Вест" на адным баку, у якой знаходзілася выробленае Канавалавым выбуховае прыстасаваньне. Пры гэтым пра чорны колер торбы акрамя Канавалава далі паказаньні Кавалёў і сьведка Вусава».*

***З артыкулу «Справа «віцебскіх тэрарыстаў». Дзьмітрый Канавалаў — «страшны чалавек»***
*Віктар Федаровіч, сайт naviny.by, 13.10.2011*

«Шукаючы доказы віны Дзьмітрыя Канавалава, сьледзтва немалы час патраціла на збор штрыхоў да своеасаблівага вэрбальнага партрэту галоўнага абвінавачанага. Гэты штрыхі пастаўлялі ўсе, хто хоць некалькі словаў мог сказаць пра асобу Дзьмітрыя. У гатовым выглядзе гэты партрэт будзе прадстаўлены ў спрэчках бакоў, калі абвінавачаньне выступіць з выкрывальнай прамовай. Цалкам

магчыма, што ў ёй пракуроры выкарыстаюць словы Вікторыі Крупенінай, даўняй знаёмай абвінавачаных, якую сёньня, у дваццаты дзень слуханьняў, дапыталі ў судзе як сьведку. Дзяўчына нічога не змагла паведаміць па сутнасьці крымінальнай справы. Пра злачынную дзейнасьць альбо нейкія крымінальныя схільнасьці Канавалава яна, хутчэй за ўсё, ня ведала. З Кавалёвым Вікторыя была мала знаёмая, а вось Канавалава лічыла сваім сябрам, зь якім у невялікай кампаніі яны, што называецца, перасякаліся. Адно такое "перасячэньне" з нагоды сьвяткаваньня 8 сакавіка ў 2007 годзе і зацікавіла сьледзтва.

Падчас павольнага танцу Канавалаў, які добра выпіў, раптам сказаў Вікторыі: "Я страшны чалавек". Дзяўчына паспрабавала пераканаць партнэра, што ён добры, але той да сказанага дадаў: "Калі б ты даведалася, які я, ты б са мной не кантактавала". Вакол усе весяліліся, а Дзьмітрый застаўся адзін у калідоры, абхапіўшы галаву рукамі.

У судзе Крупеніна пацьвердзіла свае паказаньні, якія давала на папярэднім сьледзтве, у тым ліку і выказваньне пра тое, што Канавалаў не хацеў мець сям'і і дзяцей.

Разам з падобнымі паказаньнямі іншых сьведак, у тым ліку і пра суіцыдальныя спробы Канавалава, абвінавачаньне займела шырокі спэктар цёмных фарбаў, каб намаляваць партрэт абвінавачанага ў змрочных і нават злавесных колерах».

Да спробаў суіцыду, як і ўвогуле да псыхалягічных партрэтаў Канавалава і Кавалёва, мы вернемся пазьней.

## IX. Забойчы доказ: адбіткі пальцаў

Гэтыя адбіткі фігуруюць у справе аб тэракце нібы ў дзьвюх іпастасях. Першая — гэта непасрэдныя адбіткі Дзьмітрыя Канавалава, што служаць «забойчым» доказам віны Канавалава ў спробе ўзарваць бомбу на сьвяце Незалежнасьці 3 ліпеня 2008 году. Сам Канавалаў прызнаецца ў гэтым злачынстве, плюс ёсьць шэраг экспэртызаў, у тым ліку пра тое, што гайкі з бомбы супадаюць з такімі ж, знойдзенымі ў ягоным падвале, альбо што ў мэханізьме бомбы ўжыты будзільнік, аналягічны такому ж з кватэры Канавалава. Таксама ёсьць доказы паходжаньня тратылу ў неразарванай бомбе — яго, паводле сьледзтва, набыў Кавалёў і прадаў Канавалаву, прычым Кавалёў ад гэтых паказаньняў і на судзе не адмовіўся. А таму як выбух 2008 году ўваходзіць эпізодам у агульную справу Канавалава — Кавалёва, то адбіткі пальцаў — адзін з кутніх камянёў усёй базы доказаў.

Але, бадай, ня меншае значэньне маюць адбіткі пальцаў Канавалава і для самага значнага эпізоду справы — тэракту ў мэтро, хоць у часе нібыта адстаюць ад яго амаль на два гады. Гісторыя з адбіткамі пальцаў нагадвае ўзьведзены спускавы мэханізм пісталета: ён мог стрэліць у любы момант, але баёк ударыў у пістон раніцай 9 красавіка 2010 году, калі міліцыянт Канстанцін Грышман прыйшоў да Канавалава дадому, каб узяць адбіткі пальцаў шараговага «ўхіліста» — аднаго зь ліку прыкладна 20 чалавек, якія заставаліся ў раёне «не ахопленыя дактыляскапіяй» і гэтым рэзка пагаршалі міліцэй-

скую справаздачнасьць. Вось жа, зьвернемся да паказаньняў сьведкі Грышмана.

26 кастрычніка ў суд зьявіўся міліцыянт Канстанцін Грышман. Расказаў, што служыць у абласной управе Віцебскай міліцыі, у інфармацыйным цэнтры, але незадоўга да эпізоду з дактыляскапіяй Канавалава яго камандзіравалі ў РАУС, як кажуць, для ўзмацненьня. Прычына ў тым, што ў раёне прыкладна 20 чалавек, якія стаялі на вайсковым уліку, яшчэ не здалі адбіткі пальцаў. Вось іх і трэба было абысьці і зьняць у іх адбіткі.

Да Канавалава Грышман прыйшоў не адзін, а разам з опэрупаўнаважаным. Дзьверы адчыніла маці Канавалава, сам ён спаў. Папрасілі пабудзіць. Канавалаў яўна не хацеў здаваць адбіткі, спачатку казаў, што здаваў ужо, калі забіралі ў войска. Міліцыянты патлумачылі, што чамусьці ў базе дадзеных ягоных пальцаў няма, і таму давядзецца працэдуру паўтарыць. Прычым нікуды хадзіць ня трэба, «зараз жа і адкатаем». Але зноў згоды не атрымалі, згадаў Грышман. Паводле сьведкі, Канавалаў працягваў адмаўляцца, прапаноўваў у пачатку наступнага тыдня зайсьці і здаць пальцы, а цяпер, маўляў, ён хварэе. Але міліцыянты не саступалі. «Урэшце ён пагадзіўся, прычым ня памятаю, каб асабліва хваляваўся. Увогуле, я ніколі б не падумаў, што ён мог такое зрабіць», — сказаў суду міліцыянт Канстанцін Грышман. У той жа дзень, як паказаў сьведка, ён адвёз дактыляскапічную картку Канавалава ў цэнтар.

Далейшая частка допыту сьведкі прысьвячалася пытаньню, у які дзень стала вядома, што забраныя ў Канавалава адбіткі супадаюць з тымі, што знайшлі на бомбе 3 ліпеня 2010 году.

10 красавіка была нядзеля, выходны, і таму дактыляскапічная картка Канавалава трапіла ў базу дадзеных у панядзелак, 11 красавіка, а ў сераду 13-га, раніцай, каля 10.30 ён знайшоў супадзеньне і паведаміў пра гэта начальніку аддзелу Шайко. Такія паказаньні даў суду Канстанцін Грышман. Аднак суд зьвярнуў увагу на разыходжаньні ў гэтых паказаньнях з тым, што міліцыянт казаў сьледчым. Выявілася, што на папярэднім сьледзтве Грышман называў днём, калі стала вядома пра супадзеньне пальцаў, 12 красавіка. «Дык усё ж калі вы вызначылі, што пальцы супадаюць?» — запытаў судзьдзя Аляксандар Федарцоў. Сьведка крыху павагаўся і пацьвердзіў паказаньні, якія даў у судзе: што супадзеньне пальцаў было выяўленае 13 красавіка, а на сьледзтве ён зблытаў дні.

Пасьля гэтага адзін з пацярпелых запытаўся ў сьведкі, чаму міліцэйская кампутарная сыстэма, якая параўноўвае адбіткі, першапачаткова знайшла супадзеньне толькі аднаго пальца Канавалава, а ня ўсіх чатырох з бомбы, хоць усе гэтыя адбіткі былі ў базе дадзеных. Судзьдзя Аляксандар Федарцоў пытаньне зьняў: «Ён ужо расказаў усё, што ведаў», — каротка пракамэнтаваў рашэньне судзьдзя.

У прысудзе апытаньне Канстанціна Грышмана згаданае наступным чынам.

**Прысуд, с. 58.** *«Сьведка Грышман К. К. суду паказаў, што 9 красавіка 2011 году, пасьля ўдакладненьня ў РАУС зьвестак пра асобаў, якія не прайшлі дактыляскапію, разам зь іншым супрацоўнікам прыбыў раніцай да месца жыхарства Канавалава Дз. Г., дзе правёў яго дактыляскапію. Пры гэтым сьведка паведаміў, што Канавалаў адмаўляўся яе*

*праходзіць, спасылаючыся на розныя прычыны: спачатку казаў, што ён стаміўся, потым — што нібыта ўжо праходзіў дактыляскапію, пазьней абяцаў прыйсьці сам у панядзелак. Скончылі дактыляскапію каля 11-й гадзіны раніцы. У сераду, 13 красавіка 2011 году, недзе з 10-й да 11-й гадзіны было выяўленае супадзеньне адбіткаў пальцаў Канавалава з адбіткамі, якія знайшлі на пакунку ад соку “Садочак” і скотчы».*

## X. Чаму экспэрта Сініцына судзілі таемна?

На працэсе выступілі сьведкі, якія заявілі пра боязь Канавалава здаваць адбіткі пальцаў, каб яны ня трапілі ў базу дадзеных міліцыі. Пра гэта паведаміла сьведка Натальля Каралёва, знаёмая Канавалава. Паводле словаў дзяўчыны, увосень 2008 году Дзьмітрый сказаў ёй, што баіцца здаваць адбіткі пальцаў, бо тады стане вядома пра яго датычнасьць да выбуху на праспэкце Пераможцаў у ноч на 4 ліпеня.

Другім сьведкам стаў І. Буйневіч, знаёмы Кавалёва, які ўзяўся дапамагчы Канавалаву пазьбегнуць прызыву ў войска праз дапамогу знаёмага ў прызыўной мэдычнай камісіі. Паводле Буйневіча, Кавалёў распытваў яго пра такую магчымасьць і тлумачыў, што «ягонаму сябру нельга здаваць адбіткі пальцаў, бо ён нешта нарабіў» (Прысуд, с. 58).

Тое, што на бомбе, якую знайшлі 3 ліпеня, апынуліся адбіткі пальцаў менавіта Дзьмітрыя Канавалава, пацьвердзіла і спэцыяльная экспэртыза ў межах сьледзтва па справе пра тэракт у мэтро. Прысуд на гэты конт сьцьвярджае:

**Прысуд, с. 52.** *«Паводле высноваў дактыляскапічнай экспэртызы ад 11.07.2008, дадатковай дактыляскапічнай экспэртызы ад 14.07.2008 і дактыляскапічнай экспэртызы ад 19.04.2011, знойдзеныя на складных частках і элемэнтах выбуховага прыстасаваньня, якое забралі 04.07.2008 на прылеглай тэрыторыі каля дома № 23 на праспэкце Пераможцаў у г. Менску сьляды пальца рукі пакінутыя*

*безыменным пальцам левай рукі Канавалава Дз. Г.; сьлед пальца рукі пакінуты вялікім пальцам левай рукі Канавалава Дз. Г.; сьлед пальца рукі пакінуты вялікім пальцам правай рукі Канавалава Дз. Г.».*

У канцы студзеня 2012 году Віцебскі абласны суд на закрытым паседжаньні асудзіў на 3 гады пазбаўленьня волі з адбыцьцём пакараньня ў папраўчай калёніі ва ўмовах паселішча віцебскага міліцыянта, экспэрта Руслана Сініцына, прызнаўшы таго вінаватым у службовай нядбайнасьці.

Руслан Сініцын — той самы экспэрт, які ў 2009 годзе ня ўзяў у Дзьмітрыя Канавалава адбіткі пальцаў і выдаў яму даведку, паводле якой той нібыта праходзіў дактыляскапію раней. Менавіта гэта, паводле суду, дазволіла Канавалаву пазьбегнуць адказнасьці за тэракт 2008 году і адкрыла яму дарогу да новага злачынства — тэракту 11 красавіка 2011 году ў менскім мэтро.

Дарэчы, суд над Русланам Сініцыным пачаўся яшчэ падчас працэсу па справе аб тэракце і праходзіў за зачыненымі дзьвярыма, бо справа нібыта ўтрымлівала дзяржаўныя сакрэты. Дагэтуль невядома, чаму Руслан Сініцын пайшоў на злачынства: Канавалаў даў яму грошы, аддзячыў па-іншаму ці была іншая прычына «службовай нядбайнасьці» супрацоўніка экспэртна-крыміналістычнага цэнтру Віцебскай абласной управы міліцыі. Таксама невядома, чаму працэс над Сініцыным, які мог заняць лічаныя дні, скончыўся толькі ў студзені 2012 году.

***Васіль Капцюх, бацька загінулага ў тэракце: «Бог усім судзьдзя, і любы чалавек адказны за свае словы, за свае ўчынкі»***
*Радыё Свабода, 19.03.2012*

Васіль Капцюх у тэракце 11 красавіка 2011 году страціў сына Рамана, якому быў усяго 21 год. Як Васіль Капцюх паставіўся да прысуду па справе аб тэракце і ці задаволіла яго тое, што днямі прысуд быў выкананы?

**Васіль Капцюх:** «Для мяне гэта вельмі балючая тэма, але, мабыць, нічога не бывае без прычыны. З аднаго боку, хочацца сказаць: "Не судзіце, каб і вас не судзілі", — але ў той жа час... Было расьсьледаваньне, прайшоў суд, былі рэальныя доказы, факты, довады. І сказаць, што невінаватыя гэтыя людзі, я не магу. Я быў на судзе, бачыў факты, бачыў здымкі, як яны несьлі гэтую торбу яшчэ да выбуху... Ня ведаю... Але хачу паўтарыць, што Бог усім судзьдзя, і любы чалавек адказны за свае словы, за свае ўчынкі».

**Аўтар:** «Калі прагучаў прысуд, вы яму паверылі?»

**Васіль Капцюх:** «Так. Вось калі б чалавек адмаўляў, ведаючы, што ён нічога дрэннага не рабіў... Але ж былі і папярэднія падзеі. Той жа Кавалёў прызнаў, што перадаваў тратыл. І гэта ў судзе даказана. А для яго ж гэта быў пачатак, ён мог бы перадухіліць, ня раз мог бы сказаць, што рыхтуецца тэракт. Што да Канавалава, той увогуле маўчаў, не пярэчыў. І калі ўжо ў судзе прысуд абвясьцілі, немагчыма было сказаць, што там нейкія яўныя супярэчнасьці. Таму яны сядзелі ціхенька і слухалі. Калі невінаваты, можна ж было сказаць, рот ніхто не закрываў.

Сказаць: “Я невінаваты, за што мяне так?” Праўда? Але ніхто ня чуў гэтых словаў».

**Аўтар:** «Кавалёў не прызнаў сябе вінаватым у тэракце ў апошнім слове. Але яшчэ пытаньне: пасьля таго мінула 3 месяцы, прысуд выкананы. Вашае меркаваньне адносна прысуду не зьмянілася?»

**Васіль Капцюх:** «Я заўсёды быў супраць сьмяротнага пакараньня і застаўся на гэтай пазыцыі. Не лічу, што гэта выйсьце. Той жа Канавалаў, мяркую, хацеў бы, каб усё гэта для яго хутчэй скончылася. Таму мне б хацелася, каб ён усё далейшае жыцьцё думаў пра тое, што зрабіў. Сам бацька, я адчуў, што значыць страціць дзіця, таму я не прыхільнік сьмяротнай кары ў любым выпадку. Час ідзе. Нядаўна быў дзень народзінаў сына, прыйшлі ягоныя сябры, але я адчуваю, што ўсё, гэта ўсё. І ўяўляю, што такое для маці асуджаных такі вынік. Бо ўсе дзеці нараджаюцца добрымі, няма ніякіх злых думак у іх, гэта ўсё недахопы выхаваньня. Няма чалавека, які нарадзіўся б забойцам. І, натуральна, любы бацька будзе думаць, што ягонае дзіця не магло такога зрабіць. Бо не павінна так быць. Усё астатняе — недахопы грамадзтва».

## XI. Бомбы

У сучасным разуменьні бомба — гэта выбуховае прыстасаваньне ў мэталічнай абалонцы, якое кідаюць з самалёта на галовы ворагаў. Між тым першапачаткова бомбамі называлі любы выбуховы снарад, а ў другой палове XIX стагодзьдзя гэтае слова замацавалася менавіта за зарадамі, якія ўжывалі тэрарысты ў змаганьні з уладай. Іх і называлі «бамбістамі» — тых, хто кідаў бомбы ў цароў, генэрал-губэрнатараў і г.д. Паступова саматужна вырабленыя бомбы рабіліся ўсё больш дасканалымі і магутнымі, іх пачалі ўжо ня кідаць пад ногі ахвярам, а падкладаць у будынкі, цягнікі, нават пад дарогі. З гэтага пункту гледжаньня торба з выбуховым прыстасаваньнем, якую 11 красавіка 2011 году пранесьлі і ўзарвалі ў менскім мэтро, — тыповая бомба, а таму дазвольце далей яе так і называць. Множны лік у загалоўку гэтай часткі нашых дасьледаваньняў выкарыстаны таму, што ў справе фігуруе некалькі бомбаў, пры гэтым сьледзтва даводзіць, што ўсе яны былі шмат у чым падобныя і выробленыя адной асобай і ў адным месцы.

Гаворка пра Дзьмітрыя Канавалава і пра ягоны падвал у доме № 8, корпус 1 на вуліцы Рэпіна ў Віцебску. З гэтага падвалу давайце і пачнем.

16 верасьня, на другі дзень працэсу, Уладзіслаў Кавалёў пачаў даваць паказаньні, і тады назіральнікі ўпершыню пачулі зьвесткі пра падвал Канавалава, дзе той, паводле сьледзтва, зрабіў свае бомбы. Пры гэтым сам Кавалёў паведаміў пра падвал няшмат — ад большасьці паказаньняў, дадзеных

на сьледзтве, ён адразу адмовіўся, сказаўшы, што яны былі дадзеныя пад псыхалягічным ціскам. Пра падвал Канавалава прагучала літаральна некалькі словаў: што ў яго быў такі падвал, дзе яны калі-нікалі бавілі час за півам і слухалі музыку. Зь якога часу ў Канавалава было гэтае памяшканьне, ён не згадаў, але яно дакладна зьявілася яшчэ да службы ў войску (2009–2010). Ці былі якія прыстасаваньні, хімічныя рэчывы ў тым падвале, Кавалёў нічога не сказаў. Заўважу, што падчас паказаньняў абвінавачанаму задаюцца пытаньні. Спачатку на гэта мае права пракурор, потым пацярпелыя, іншыя абвінавачаныя, адвакаты. І, безумоўна, судзьдзя, які можа запытацца ў любы час. Такім чынам, фактычна даваньне паказаньняў у судзе праходзіць у выглядзе складанага, шматбаковага допыту. Паказаньні Кавалёў даваў больш як дзень. Гаворка пра падвал Канавалава заходзіла некалькі разоў.

Спачатку пракурор удакладніў, што менавіта Кавалёў памятае з абстаноўкі ў гэтым памяшканьні. Той нічога асаблівага не дадаў: памятае стол, зэдлік, нейкія паліцы, на іх нейкія рэчы.

Больш падрабязна сам Дзьмітрый Канавалаў расказаў пра падвал на наступных допытах. Быў агалошаны пратакол допыту Канавалава 18 красавіка, які вёў сьледчы Галь. Канавалаў заявіў, што часткова вырабляў выбухоўку на кухні ў хаце, а часткова ў сваім падвале. Пералічыў прылады, якія там меў: электрычная плітка, рондаль, мэталічная міска, паяльнік, два малаткі, піла. З хімічных рэчываў там, сярод іншага, была аміячная салетра, ацэтон, серная кіслата ў ёмістасьці на 4 літры. Пра тое, як у яго зьявіўся гэты падвал, паведаміў, што проста заняў пустое памяшканьне, навесіў замок,

правёў электрычнасьць, далучыўшыся да праводкі ў агульным падвале. Праз больш чым два тыдні, на допыце 5 траўня, удакладніў, што прысабечыў пусты падвал у 2006 годзе.

У судзе зачыталі пратакол допыту Канавалава ад 26 красавіка. Сярод іншага абвінавачанаму задалі пытаньні адносна знойдзеных у ягоным падвале хімічных рэчываў. Пра клей ПВА патлумачыў, што рабіў зь яго дапамогай пластыфікацыю выбухоўкі. Ацэтон выкарыстоўваў для вырабу «кісы» — гэта трыпэраксыд трыацэтону, вельмі нетрывалае рэчыва, якое выкарыстоўваў у якасьці дэтанатара асноўнага зараду. Пра некаторыя рэчывы Канавалаў даваць тлумачэньні адмовіўся. Прыкладам, у яго быў знойдзены нейкі «фізын». «Гэта лекавы сродак, нашто ён мне, не скажу», — адказаў Канавалаў сьледчым. Пра знойдзеныя пакункі ўратрапіну паведаміў, што ён быў патрэбны для вырабу асноўнага зараду на базе аміячнай салетры. Адзначу, што аміячная салетра набываецца ў любой садовай краме ці на рынку, гэта шырока распаўсюджанае хімічнае ўгнаеньне, уратрапін — гэта сухі сьпірт, набываецца ў гаспадарчай ці іншай спэцыялізаванай краме (напрыклад, турыстычных тавараў). На бомбу, якая выбухнула 11 красавіка, пайшло 10 пакункаў уратрапіну цаной 6 тысяч рублёў кожная, паведаміў на допыце Канавалаў. Дарэчы, кошт самой бомбы Канавалаў ацаніў у 300 тысяч рублёў (паводле цэнаў пачатку вясны 2011 году).

Цікавая дынаміка паказаньняў Канавалава адносна падвалу і таго, што ў ім адбывалася. На першых допытах у красавіку ён прызнаецца, што вырабіў выбухоўку часткова на кухні, часткова ў падвале, але тады ня памятаў, зь якога часу ў яго

гэты падвал. 5 траўня Канавалаў ужо згадвае, што падвал абсталяваў для сябе ў 2006 годзе. А яшчэ празь месяц, 11 чэрвеня, заявіў, што ў першыя дні пасьля арышту хлусіў, калі казаў, што прыгатаваў выбухоўку «на кухні ў каструльцы». «Гэта няпраўда, насамрэч усё рабіў у падвале, а хлусіў таму, што не хацеў казаць пра падвал».

Пра падзеі, зьвязаныя з падвалам, расказала сьведка Натальля Каралёва, якая ведала абодвух падазраваных зь сярэдзіны 2000-х. Восеньню 2008 году ёй пазваніў Канавалаў. Сказаў, што ня хоча жыць, таму рэзаў вены, а цяпер сядзіць у сваім падвале. Назаўтра раніцай пазваніў зноў, прасіў прыйсьці і дапамагчы перавязаць рукі. Каралёва сказала, што дэталяў ня памятае, але памятае, што Канавалаў прапаноўваў ёй выпіць гарэлкі ды наглытацца нейкай атруты, каб разам пайсьці з жыцьця.

На допыце 12 траўня Каралёва паказала, што ў падвале Канавалава ня бачыла хімічных рэчываў, у прыватнасьці салетры, марганцоўкі ці таблетак гідрапэрыту, а таксама якіх-колечы прыладаў для вырабу хімічных рэчываў. У судзе, калі ў яе ўдакладнялі гэтыя паказаньні, Каралёва ня выключыла, што магла зблытаць падвал Канавалава з падвалам Ільлі Коласава — маладога чалавека зь іхнай кампаніі.

А вось што расказала пра падвал Канавалава сьведка Натальля Піпкіна (былое прозьвішча — Радзівонава). Яна бачыла ў падвале аміячную салетру і таблеткі сухога сьпірту. У сьнежні 2010 году Канавалаў на сваім мабільным тэлефоне прадэманстраваў ёй відэа выбуху, дзе ўзрывалася выбухоўка, прымацаваная да дрэва. Канавалаў казаў

ёй, што гэта ён зрабіў. Сьведка апісала абстаноўку ў падвале Канавалава — даволі змрочную, мяркуючы зь яе ўспамінаў. У прыватнасьці, Натальля Піпкіна згадала пра фашыстоўскія крыжы, намаляваныя на сьценах, а таксама пра вяроўку зь пятлёй, што вісела каля сьцяны.

## XII. Што было ў падвале Канавалава?

Адразу зазначу, што на рэчах, знойдзеных у падвале Канавалава, ягоныя сьляды аказаліся толькі на гумавых пальчатках ды ізастужцы. А што кажа сьледзтва пра наяўнасьць у падвале прыладаў і хімічных рэчываў, прыдатных для вырабу бомбы?

Пазнаёмімся з пратаколам агляду падвалу, праведзенага ўжо 13 красавіка. У судзе гэты пратакол зачытвалі 28 верасьня, яшчэ ў пачатку працэсу. А ў канцы працэсу, у лістападзе, суд аглядаў рэчы з падвалу, і за гэтым маглі назіраць прысутныя ў залі. Пералічэньне рэчаў з падвалу Канавалава заняло шмат часу — у сьпісе было больш за 70 пазыцыяў. Пералічым самыя важныя.

**Прылады і інструмэнты:** электрычная плітка, пінцэт, нож, лыжка, лейка, мерная шклянка, шкляная бутэлька, слоік, гумавыя пальчаткі, мэдычная маска, шпрыц з іголкай, кіпяцільнік, скрутак алюмініевай фольгі, карабок з волавам, паяльнік, кавалак арматуры, нажоўка, мэталічныя нажніцы, штангенцыркуль, сьвердлы, 3 падшыпнікі, ціскі, фрагмэнт трубы, 2 вогнетушыцелі, скрынка з ролікамі.

**Прыборы:** зараднае прыстасаваньне да акумулятара, ізамэтрычны прыбор, прыбор для вымярэньня вільгаці.

**Электрычнае абсталяваньне:** электратэстэр з правадамі, скруткі правадоў, выключальнікі, батарэйкі, 3 электрычныя лямпачкі, ліхтар блакітны, транзыстар.

**Хімічныя і гаспадарчыя рэчывы, лекі, вадкасьці:** 5 пакетаў з аміячнай салетрай, выробленай у горадзе Хімкі, 4 пакеты з аміячнай салетрай, выробленай у Туле, 20 ампул дымэдролу, слоік з дыстыляванай вадой, слоік з надпісам «Алюмініевая пудра», пакунак пэрманганату калію, хлёрысты калій, мачавіна, нітрыт натрыю, фрагмэнт гідрапэрыту ў выглядзе парашку, пакунак сухога паліва, цюбік супэрклею «Мастер», плітка плястыліну, мыла, тасол.

**Рэчы, вызначаныя экспэртамі як часткі выбуховых прыстасаваньняў:** белае рэчыва ў цёмным ізалявальным матэрыяле з правадамі (дэтанатар), электронны гадзіньнік з канструкцыйнымі зьменамі.

У падвале быў знойдзены сшытак з запісамі хімічных формул і напісанымі ад рукі электрычнымі схемамі, а таксама асобныя нататкі.

Варта дадаць да гэтага сьпісу знойдзенае на кватэры Канавалава ў Віцебску. Гэта 12 таблетак гідрапэрыту, атляс Менску, Крымінальны кодэкс РБ, электрапаяльнік, інструмэнты для працы з мэталамі. Яшчэ ў кватэры знайшлі сьляды рэчыва, якое ўтрымлівае нітраты, і боты са сьлядамі такога рэчыва.

Што з гэтых рэчаў было прызнана доказамі і фігуравала ў прысудзе?

**Прысуд, с. 35.** *«Наяўнасьць у Канавалава інфармацыі пра выбуховыя рэчывы, самаробныя выбуховыя прыстасаваньні і спосабы іх вырабу, досьведу ў іх вырабе пацьвярджаецца пратаколамператрусу ад 13.04.11 у падвале, якім карыстаўся Канавалаў, дзе знойдзеныя і канфіскаваныя выбу-*

*ховыя рэчывы і элемэнты самаробных выбуховых прыстасаваньняў, прылады і прыстасаваньні для іх вырабу, сшытак і лісты з апісаньнем працэсаў вырабу выбуховых рэчываў і самаробных выбуховых прыстасаваньняў».*

Далей ідзе спасылка на дадзеныя комплекснай экспэртызы ад 1 чэрвеня 2011 году, паводле якой у сшытку і на двух асобных аркушах, якія знайшлі ў Канавалава, запісаныя зьвесткі пра спосабы сынтэзу і ачысткі брызантных выбуховых рэчываў, а таксама ініцыявальнага выбуховага рэчыва — трыацэтону трыпэраксыду (альбо «кісы», якую і выкарыстоўваў Канавалаў). Яшчэ важны момант: сярод запісаў Канавалава апынуліся зьвесткі пра канструкцыю, тэхнічныя парамэтры і спосаб вырабу таймэрных мэханізмаў самаробных бомбаў. Экспэрты прызналі і тое, што выбуховыя рэчывы ў бомбе 2011 году адпавядаюць запісам Канавалава на белым аркушы ў кратку, знойдзеным у ягоным падвале падчасператрусаў 13–14 красавіка.

У прысудзе спасылаюцца таксама на прызнаньне Канавалава, што знойдзеныя ў ягоным падвале прылады і хімікаты ён выкарыстоўваў для вырабу выбухоўкі і выбуховых зарадаў. У прыватнасьці, Канавалаў прызнаў, што выкарыстаў для вырабу выбухоўкі 11 двухкіляграмовых пакетаў аміячнай салетры, 9 пакункаў гідрапэрыту, уратрапін, нітрыт натрыю, серную кіслату, алюмініевую пудру. З прыладаў выкарыстоўваў электрычную плітку, ступку, таўкач, тэрмомэтар. У тым ліку драбніў кампанэнты і плавіў на плітцы трыперакіс ацэтону, пры гэтым замяраў тэмпэратуру сумесі. Сумесь ацэтону з клеем выкарыстоўваў для плястыфікацыі «кісы»,

каб наляпіць плястычную масу вакол сьпіралі награваньня электрычнай лямпачкі ў дэтанатары. Правады, батарэйкі, транзыстары, выключальнікі былі патрэбныя для вырабу новых бомбаў, прызнаў Канавалаў. Гэтаксама як лямпачкі — для вырабу дэтанатараў, а фольга — для гермэтызацыі «кісы» ў дэтанатары.

Вось што вядома з прысуду пра агульны аб'ём вырабленых у падвале выбуховых рэчываў.

**Прысуд, с. 33.** *«Канавалаў Дз. Г. патлумачыў, што ў пэрыяд зь лета 2007 да 11 красавіка 2011 году ён вырабіў ня менш як 1 кіляграм трыперакісу ацэтону, ня менш як 14 кг выбуховых рэчываў на аснове аміячнай салетры з ўратрапінам. Гэтыя рэчывы вырабляў ня менш як 20 разоў, а трыперакіс ацэтону — ня менш як 10 разоў. Вырабляў іх выключна ў падвале. Частку вырабленых рэчываў выкарыстаў у час выпрабавальных выбухаў каля станцыі Грышаны, а астатняе — падчас выбухаў у Менску ў ліпені 2008 году і ў мэтрапалітэне 11 красавіка 2011 году».*

Таксама экспэртыза высьветліла, што кавалак трубы, знойдзены ў падвале Канавалава, мае падабенства з трубой, якую знайшлі на месцы выпрабаваньняў Канавалавым сваіх выбуховых прыстасаваньняў пад чыгуначнай станцыяй Грышаны.

***З рэпартажу «Міліцыянты пачалі апытваць меркаваных тэрарыстаў»***
*Радыё Свабода, 19.04.2011*

«18 красавіка, ужо тыдзень прайшоў... І вось званок у дзьверы, стаіць супрацоўнік міліцыі. Кажа:

«Я па заданьні Генэральнай пракуратуры. Вы ж чулі, што тут адбылося?». Ён не сказаў мне, што менавіта адбылося, і прозьвішчаў не называў. Дый я сам не ўдакладняў. Ён толькі спытаўся: «Вы ж тут жывяце, ня чулі шуму ў сутарэньні, ці было ляскатаньне нейкае там, ці не сьмярдзела хімікатамі ды рэактывамі?»

Міліцыянт запісаў адмоўны адказ суседа аднаго з затрыманых хлопцаў (пазьней стала вядома, што менавіта Канавалава. — *А. Г.*):

«Я нават спусьціўся потым у сутарэньне, свой сарайчык паглядзеў... Я забыўся, трэба было міліцыянту сказаць, што там сапраўды сьмярдзіць, але памыямі, адкідамі, там трубы цякуць! Сьвятла няма! Можна, мабыць, лямпачку ўкруціць у патрон, але ён там... дзевятнаццатага стагодзьдзя (*сьмяецца*), стары зусім. Туды паткнесься, дык цябе токам заб’е! Госпадзе, і гэта лябараторыя?»

## XIII. Канавалаў зьбіраў бомбу «на аўтамаце»

У судзе быў прадэманстраваны відэазапіс сьледчага экспэрымэнту, на якім Канавалаў сабраў бомбу, падобную да той, што ўзарвалася на станцыі мэтро «Кастрычніцкая». Кампанэнты бомбы імітаваліся локшынай, дражэ ды іншымі прадуктамі — відаць, тым, што ўдалося набыць у найбліжэйшай краме. Аднак на стомленым твары Канавалава не заўважалася ніякага зьдзіўленьня — гэта я пра відэа. Жывы ж Канавалаў у судзе моўчкі глядзеў відэазапіс экспэрымэнту, нічым не паказваючы сваёй згоды зь ім ці, наадварот, нязгоды.

Згадаем падрабязьней паказанае на экране. Экспэрымэнт праводзіўся 20 красавіка, то бок праз 8 дзён пасьля арышту Канавалава, але было бачна, што ён яшчэ не ачуняў ад шоку пасьля арышту: шэры твар, ціхі голас, затарможаная рэакцыя, нейкі безуважны позірк... Аднак зразумела, што чалавек, затрыманы паводле падазрэньняў у такім жудасным злачынстве, і ня можа паводзіцца інакш, тым болей што ён прызнаецца ў зробленым, цалкам бярэ адказнасьць за тэракт на сябе. Адзначу пры гэтым, што, як і на відэа допыту 13 красавіка, сьлядоў зьбіцьця, сьвежых ці даўніх, на твары Канавалава бачна не было.

Экспэрымэнт праводзілі міліцыянт Клімовіч і экспэрт Стобар. Мэтай экспэрымэнту была імітацыя вырабу выбуховых рэчываў, якія выкарыстоўваліся ў бомбах 2008 і 2011 гадоў. Спачатку Канавалаў тлумачыў і імітаваў выраб «кісы» (трыперакісу ацэтону), якую выкарыстоўваў у сваіх бомбах як

выбухоўку-дэтанатар. У ёмістасьцях былі імітатары, якія Канавалаў называў па-сапраўднаму і тлумачыў свае дзеяньні: «Адмяраю сто грамаў ацэтону... на гэты аб’ём бяру столькі і столькі пакункаў гідрапэрыту... даліваю кіслату... асадак фільтрую... высушваю...»

Паўтараю ня слова ў слова, бо лічу, што ня варта ствараць яшчэ адзін дапаможнік па вырабе бомбы. Хоць, як казаў на допыце Канавалаў, у інтэрнэце такія сакрэты лёгка знайсьці, набраўшы адпаведныя словы ў пашукавіку.

Але пойдзем далей. Як быў выкананы другі пункт экспэрымэнту — выраб асноўнай выбухоўкі? Канавалаў апісваў, як браў аміячную салетру, драбніў у місцы ўратрапін (сухі сьпірт, які можна набыць у таблетках), награваў сумесь на электрычнай плітцы... Збольшага тэхналёгія была прадэманстраваная ня надта складаная. Прычым звонку падавалася, што яна па сілах любому дастаткова акуратнаму і ўважліваму чалавеку.

Зь лёгкасьцю даў рады Канавалаў і задачы сабраць дэтанатар. Рухі яго былі ўпэўненыя, над пасьлядоўнасьцю не задумваўся, рабіў усё як на аўтамаце. Зьдзівіла прастата канструктарскай думкі: дэтанатар, аказваецца, можна зрабіць са звычайнай лямпачкі ад кішэннага ліхтарыка. Бярэцца лямпачка і награваецца запалкамі. Потым яе колбачка апускаецца ў халодную ваду, шкло лопаецца, а вальфрамавая нітка застаецца некранутай. На яе наляпляецца плястыфікаваная раней «кіса», якая для гермэтызацыі абгортваецца алюмініевай фольгай. (Гэтымі тлумачэньнямі Канавалаў суправаджаў зборку дэтанатара). Драты, прыпаяныя да лямпачкі, другімі канцамі выводзяцца да бяздротавага званка,

які будзе прымаць сыгнал ад пульту. У бяздротавым званку ёсьць батарэйка, пасьля атрыманьня сыгналу з пульту ідзе імпульс току на лямпачку. У выніку сьпіраль імгненна награваецца і ўзрывае «кісу», ад чаго ўзрываецца асноўная выбухоўка.

На экспэрымэнце Канавалаў сабраў дэтанатар за 57 сэкундаў. Паводле сьледзтва, такі дэтанатар быў у бомбе 2011 году ў мэтро. І ў бомбах 2008 году былі дэтанатары падобнай канструкцыі. Паглядзім, ці пераканаў сьледчы экспэрымэнт судзьдзяў.

**Прысуд, с. 56.** *«З пратаколу сьледчага экспэрымэнту ад 20.04.2011 з удзелам спэцыялістаў бачна, што Канавалаў Дз. Г. паўтарыў працэс вырабу і стварыў імітатары выбуховых прыстасаваньняў, якія былі ім усталяваныя ў ноч на 4 ліпеня 2008 году ў раёне праспэкту Пераможцаў у г. Менску».*

Далей у прысудзе даецца спасылка на выбуховатэхнічную экспэртызу ад 8.06.2011. Паводле гэтай экспэртызы, Канавалаў мог сабраць бомбы 2008 году ў абставінах, якія ён назваў на сьледчым экспэрымэнце, а канструкцыя бомбаў, іх мэханізм і спосаб падрыву таксама адпавядаюць таму, што ён паказваў. Для параўнаньня экспэрты бралі часткі бомбы, якая не разарвалася на праспэкце Пераможцаў, і фрагмэнты бомбы, што ўзарвалася ў тую ж ноч на 4 ліпеня.

Вельмі важна таксама тое, што экспэрты пацьвердзілі канструкцыйнае падабенства дэтанатара ад неўзарванай бомбы з самаробным дэтанатарам, які знайшлі падчас ператрусу 13 красавіка ў падвале Канавалава. Вось што пра гэта сказана ў прысудзе.

**Прысуд, с. 56.** *«Згодна з заключэньнем комплекснай выбуховатэхнічнай і радыётэхнічнай экспэртызы № 1381сп ад 06.06.2011, самаробны электрадэтанатар, забраны з падвалу Канавалава, аналягічны самаробнаму электрадэтанатару, які быў выкарыстаны ў выбуховым прыстасаваньні, што забралі 4 ліпеня 2008 году на праспэкце Пераможцаў, паводле спосабу вырабу, канструкцыйнага выкананьня, выкарыстаных рэчываў, матэрыялаў і вырабаў».*

## XIV. Экспэртызы і сьледчыя экспэрымэнты

У прысудзе адзначаны цэлы шэраг супадзеньняў, знойдзеных экспэртамі. Так, паводле экспэртаў, супалі ня толькі дэтанатары дзьвюх бомбаў 2008 году, але і іх агульная канструкцыя, а таксама кавалкі скотчу, якім былі заматаныя часткі гэтых бомбаў.

У падвале Канавалава знайшлі электронны гадзіньнік, канструкцыя якога была зьмененая такім чынам, што яго можна было выкарыстаць у мэханізьме бомбы. Такі самы гадзіньнік з такімі самымі даробкамі быў выкарыстаны ў бомбе, якая не ўзарвалася на праспэкце Пераможцаў (той, на якой знайшлі адбіткі пальцаў Канавалава).

Трасалягічная экспэртыза № 91бк ад 30 траўня 2011 году высьветліла «групавую прыналежнасьць» часткі правадоў, знойдзеных у падвале Канавалава, з правадамі з бомбаў 2008 году (прысуд, с. 59). Таксама ў прысудзе адзначана, што на допытах Канавалаў дакладна паказаў месца закладаньня дзьвюх бомбаў 2008 году.

Вернемся да сьледчага экспэрымэнту 20 красавіка. Далей Канавалаў паказаў, як сабраў бомбу 2011 году. Да сабранага раней імітатара электрадэтанатара ён дадаў правады: яны мусілі злучацца з тумблерам, якім можна было разарваць ці злучыць электрычны ланцуг. (Паводле сьледзтва, гэтую апэрацыю Канавалаў выканаў у Менску на арандаванай кватэры на вуліцы Караля).

Канавалаў паведаміў, што схему выбуховага прыстасаваньня знайшоў у інтэрнэце, але адрасу сайту не назваў, сказаўшы, што ўжо ня памятае.

Далей на экспэрымэнце Канавалаў зьвязаў дзьве 5-літровыя плястыкавыя бутлі скотчам (паводле ўмоваў экспэрымэнту, у гэтых бутлях знаходзілася асноўная выбухоўка), абляпіў бутлі пачкамі з локшынай і дражэ (замест цьвікоў і шарыкаў). Адзначу, як было на відэа: Канавалаў прымацаваў скотчам бутлі адну да адной у палажэньні стоячы, быццам «склеіў» іх бакамі, а не гарлавінай да гарлавіны ці дном да дна. Пасьля гэтага ён крыху адышоўся, нібы дэманструючы, што праца зробленая і бомбу засталося толькі ўкласьці ў торбу.

Сьледзтва, а потым суд падрабязна вывучылі сшытак і два аркушы, якія знайшлі ў падвале Канавалава, са схемамі і запісамі пра тое, як рабіць выбухоўку, дэтанатар і саму бомбу. Экспэртыза пацьвердзіла, што запісы зробленыя рукой Канавалава. Але ці адпавядалі гэтыя нататкі рэальным дзеяньням Канавалава і канструкцыям бомбаў 2008 і 2011 гадоў?

Тут ёсьць як супадзеньні, так і разыходжаньні. Як адзначылі экспэрты, тэхналёгія вырабу Канавалавым «кісы» падчас сьледчага экспэрымэнту адпавядала ягоным запісам у сшытку, а вось праектаваны мэханізм бомбы 2008 году адрозьніваўся ад рэальнага — замест пазначанага ў запісах транзыстара быў выкарыстаны гадзіньнік.

Што да бомбы 2011 году, то яе праектная схема, паводле заключэньня беларускіх экспэртаў, адпавядала рэальнай бомбе, а вось расейскія экспэрты знайшлі адно «але», якое дадало сумневаў скептыкам. Экспэрты ФСБ зьвярнулі ўвагу на тое, што на месцы выбуху на «Кастрычніцкай» былі знойдзеныя аплаўленыя рэшткі палімэрнага рэчыва, зь якога вырабляюць аднаразовыя шпрыцы. На пад-

ставе гэтай знаходкі расейскія экспэрты выказалі меркаваньне, што тыя, хто падарваў бомбу ў мэтро, маглі выкарыстаць шпрыц у якасьці корпусу дэтанатара. Так часта робяць тэрарысты ў Расеі.

Між тым, на допытах Канавалаў пра выкарыстаньне шпрыца нічога не гаварыў, а на сьледчым экспэрымэнце паказаў, што для гермэтызацыі дэтанатара выкарыстоўваў звычайную фольгу. Таксама варта адзначыць, што, імітуючы працэс вырабу асноўнай выбухоўкі, Канавалаў не скарыстаў імітатар алюмініевай пудры і не казаў, што дадаваў да самой бомбы мэталічныя ролікі ў якасьці паражальных элемэнтаў.

Але паводле пратаколу агляду месца тэракту, такія ролікі былі знойдзеныя, а падчас вырабу асноўнай выбухоўкі мусіў быць выкарыстаны і алюмініевы парашок, як зазначылі ў сваім заключэньні экспэрты расейскага ФСБ.

Як суд абышоўся з гэтымі супярэчнасьцямі?

З тым, што для корпусу дэтанатара быў выкарыстаны аднаразовы шпрыц, судзьдзі без ваганьняў пагадзіліся, мяркуючы па цытаце з 77-й старонкі прысуду, дзе пералічваліся складнікі канструкцыі бомбы ў мэтро. Другім пунктам там было: *«...сродку ініцыяваньня (узрываньня) зараду ВР (выбуховага рэчыва. — Аўт.) — электрадэтанатара, імаверна, самаробнага вырабу на базе корпусу аднаразовага палімэрнага шпрыца».*

У доказную базу суд залічыў ролікі і алюмініевы парашок, не спаслаўшыся, праўда, на іх паходжаньне. Але на іншых старонках прысуду можна знайсьці згадкі пра тое, што ў падвале Канавалава знойдзеная скрынка з ролікамі і слоік з надпісам «Алюмініевая пудра».

Такім чынам, вось што ў выніку запісаў суд.

**Прысуд, с. 86.** *«У заключэньні экспэрта ад 23.05.2011 адлюстравана, што на месцы выбуху знойдзены паўпразрысты поліпрапілен, які выкарыстоўваецца для вырабу шпрыцаў ды іншых рэчаў мэдычнага прызначэньня. Можна меркаваць, што дадзеныя фрагмэнты маглі належаць корпусу шпрыца разавага ўжываньня...*

*На аб'ектах зь месца выбуху таксама знойдзеныя часьцінкі алюмініевай пудры.*

*На падставе гэтага экспэрт прыйшоў да высновы, што паказаньні Канавалава пра канструкцыю, спосаб выраблу, спосаб падрыву зробленага ім выбуховага прыстасаваньня і мэханізм яго ажыцьцяўленьня, якія ён даваў падчас сьледчага экспэрымэнту 20 красавіка 2011 году, не адпавядаюць высновам у заключэньні экспэрта № 4/69 ад 23.05.2011 Інстытуту крыміналістыкі Цэнтру спэцыяльнай тэхнікі ФСБ РФ у частцы складу выбуховага рэчыва, спосабу вырабу сродкаў узрываньня (электрадэтанатара) і намэнклятуры паражальных элемэнтаў.*

*Канавалаў Дз. Г. на допыце ад 27.05.2011 сьцьвярджаў, што ў выбуховым прыстасаваньні 11 красавіка ён не выкарыстоўваў алюмініевай пудры, аднак асобныя часткі гэтай пудры маглі застацца на плястыкавых бутэльках ці мэталічнай місцы, якія ён браў для выбухоўкі раней і выкарыстаў для выраблу прыстасаваньня, узарванага 11 красавіка 2011 году. Патлумачыў, што выкарыстаў у выбуховым прыстасаваньні ў якасьці паражальных элемэнтаў ролікі цыліндрычнай формы, пра якія раней забыў сказаць, бо іх было няшмат.*

*Згодна з заключэньнем комплекснай выбухова-тэхнічнай экспэртызы ад 06.06.2011, на забраных у падвале Канавалава Дз. Г. дзьвюх палімэрных бутэльках і самаробнай палімэрнай варонцы знойдзеныя наслаеньні парашкападобнага рэчыва серабрыста-шэрага колеру, якія маюць у сваім складзе нітрат амонію і алюміній.*

*Улічваючы тлумачэньні Канавалава Дз. Г. і высновы экспэрта на падставе меркаваньня пра магчымасьць выкарыстаньня шпрыца падчас вырабу дэтанатара, суд лічыць, што высновы экспэрта пра некаторыя неадпаведнасьці вырабу асобных элемэнтаў выбуховага прыстасаваньня абставінам, якія ўказаў Канавалаў Дз. Г. на сьледчым экспэрымэнце, не зьмяншаюць доказнага значэньня сьледчага экспэрымэнту ад 20 красавіка 2011 году і не абвяргаюць праўдзівасьці паказаньняў Канавалава Дз. Г. пра канструкцыю і спосаб вырабу выбуховага прыстасаваньня».*

Вышэй я згадаў, што суд фактычна пагадзіўся з высновамі расейскіх экспэртаў адносна таго, што ў якасьці корпусу дэтанатара ў бомбе 2011 году быў выкарыстаны аднаразовы шпрыц.

А якія яшчэ канструкцыйныя ды іншыя асаблівасьці бомбы прызнаў суд?

**Першае:** асноўны зарад бомбы быў з сумесевага брызантнага выбуховага рэчыва на аснове аміячнай салетры і алюмініевай пудры; у склад зараду мог уваходзіць уратрапін (сухі сьпірт).

**Другая асаблівасьць** ужо называлася — гэта самаробны электрадэтанатар з корпусам, «імаверна», ад шпрыца.

**Трэцяя асаблівасьць** датычыла ёмістасьцяў,

у якіх трымалася асноўная выбухоўка. Суд пагадзіўся, што гэта былі плястыкавыя бутлі з блакітнымі накрыўкамі агульным аб’ёмам ня менш за 12 літраў.

**Чацьвертае:** прыстасаваньне для запуску бомбы. Гэта, паводле суду, мог быць бяздротавы званок з батарэйкамі і дратамі злучэньня.

**Пятае:** паражальныя элемэнты. Суд назваў імі нарэзаныя кавалкі мэталічнага стрыжня ці арматуры дыямэтрам 14 мілімэтраў, цьвікі даўжынёй 100 і 120 мілімэтраў, шарыкі дыямэтрам 14,288 мм і 19,844 мм, а таксама ролікі дыямэтрам 0,8 мм і даўжынёй 16,5 мм.

**Шостым пунктам** у гэтым сьпісе суд палічыў чорную торбу з лаўсанавай тканіны аб’ёмам ня меней за 15 літраў, якую назваў «сродкам маскіроўкі і дастаўкі» бомбы.

З гэтага сьпісу суд аглядаў кавалкі і фрагмэнты кавалкаў стрыжняў, цьвікі і іх фрагмэнты, шарыкі і іх фрагмэнты, фрагмэнты электрычных элемэнтаў і пячатных плятаў, торбы, плястыкавых бутляў, блакітных накрывак ад бутляў і яшчэ два фрагмэнты, адзін зь якіх мог застацца ад шпрыца, а другі — ад бяздротавага званка «Космас». Усё гэта было знойдзена на станцыі «Кастрычніцкая» пасьля выбуху.

Суд вызначыў, што маса выбухоўкі ў бомбе была каля 12,5 кіляграмаў, а разьмяшчалася бомба на падлозе станцыі «Кастрычніцкая» паміж пятай і шостай калёнамі насупраць другога вагона цягніка мэтро — на месцы, дзе выбухам наскрозь прабіла жалезабэтонную пліту падлогі. Тое, што ў целах пацярпелых знайшлі фрагмэнты лавы з матэрыялу сы-

люмін, паводле суду, дадаткова ўказвае, што бомба была пакінутая вельмі блізка ад тумбы лавы.

А вось як суд вызначыў прынцып дзеяньня бомбы, што выбухнула ў мэтро.

**Прысуд, с. 78.** *«Ад націсканьня на кнопку выкліку на пульце кіраваньня званком, ягонай электроннай схемай, фармуецца высокачастотны сыгнал кіраваньня, які ідзе ў навакольную прастору. Атрымаўшы сыгнал кіраваньня, прыёмная частка электроннай схемы званка на яе выхадзе фармуе электрычны імпульс, які выклікае замыканьне электрычнага ланцуга. У выніку электрычны ток ад крыніцы току трапляе на вывадныя правады электрадэтанатара, што прыводзіць да яго спрацоўваньня і дэтанацыі ўсяго зараду выбуховага рэчыва».*

Суд вырашыў, што менавіта Канавалаў прынёс торбу з бомбай на станцыю мэтро «Кастрычніцкая», пакінуў торбу каля лавы паміж пятай і шостай калёнамі, падняўся на пляцоўку пераходу да станцыі «Купалаўская» і там, дачакаўшыся прыходу цягніка, націснуў на кнопку пульту, тым самым узарваўшы бомбу.

## XV. Навошта?

Юрыдычная навука патрабуе давесьці ня толькі сам факт дзеяньня злачынцы, але і ягоны матыў — бяз гэтага няма складу злачынства, а без даказанага складу злачынства няма законнага прысуду і законнага пакараньня.

Здавалася б, матывы чалавека — гэта ўнутранае пабуджэньне. Адны выказваюць свае матывы адкрыта, іншыя хаваюць іх да апошняга. І ўсё ж матывы нават скрытнага чалавека ў пэўнай меры можна вызначыць па асобных выказваньнях, запісах, сьведчаньнях, учынках і памкненьнях. Дык які быў матыў Канавалава?

Вядома, што зь першага допыту, які пачаўся ўжо раніцай 13 красавіка, Канавалаў адказваў на пытаньне пра матыў сваіх дзеяньняў стандартнай фразай: «Каб дэстабілізаваць сытуацыю ў Рэспубліцы Беларусь». Між тым тлумачыць свой матыў далей Канавалаў упарта не жадаў і толькі аднойчы пашырыў фармулёўку пра «дэстабілізацыю» мэтай «запалохаць людзей».

Згадваю прагляд відэазапісу першага допыту Канавалава, на якім абвінавачаны выглядаў вельмі стомленым, адказваў на пытаньні павольна, зь відавочнай цяжкасьцю падбіраючы словы.

Намесьнік генпракурора, кіраўнік сьледчай групы Швед запытаўся ў Канавалава, як ён сябе адчувае і ці можа даваць паказаньні. Канавалаў адказаў, што «ў яго ўсё баліць». Чаму баліць? На гэта прагучаў адказ: «Таму што пілі».

Пачутае «пілі» сярод назіральнікаў потым выклі-

кала спрэчкі. Адны казалі, што чулі, як Канавалаў казаў «пілі», іншыя — што ён сказаў «білі». Выгляд Канавалава быў такі, што пасавала і тое, і другое. Паводле рэканструкцыі падзеяў 12 красавіка напярэдадні арышту і адразу пасьля яго, тое, што адбывалася з Канавалавым, таксама ўкладаецца ў гэтыя два словы. Вядома ад сьведкі Пачыцкай і суўдзельніка Кавалёва, што калі Канавалаў вярнуўся пасьля тэракту ў кватэру, то сказаў: «Зараз будзем піць», — хоць да сыходу з кватэры ўстрымліваўся ад сьпіртнога. Пра тое, як пілі і як Канавалаў, нецьвярозы, нешта незразумелае сьпяваў на кухні, таксама расказвала сьведка Пачыцкая.

Зь іншага боку, і пра зьбіцьцё Канавалава міліцыянтамі зьвесткі таксама досыць пэўныя. Спачатку падчас арышту яму дасталася ад супрацоўнікаў «Алмазу», і гэта ў выніку мусілі прызнаць афіцыйна. Магчыма, каб «сьпісаць» на «Алмаз» грахі сьледзтва, пракуратура прызнала, што Канавалаў атрымаў пэўныя цялесныя пашкоджаньні падчас затрыманьня, але тлумачылася гэта выключна патрэбамі арышту падазраваных у тэракце. Між тым суду так і не прадставілі доказаў, што Канавалаў аказваў супраціўленьне і патрэба зьбіваць яго сапраўды была. Таксама не было даказана, што ён меў намер супраціўляцца. Пра зьбіцьцё Канавалава ўжо пасьля затрыманьня, у міліцыі, казаў на судзе Ўладзіслаў Кавалёў. Ён заявіў, што чуў крыкі Канавалава ў міліцыі, куды іх прывезьлі адразу пасьля затрыманьня, і менавіта гэтыя крыкі, маўляў, падштурхнулі яго да прызнаньня ў тым, чаго ён не рабіў. То бок да самаабгавору.

Вось што пра гэта сказана ў прысудзе.

**Прысуд, с. 89.** *«Заява Канавалава Дз. Г. на сьледзтве пра тое, што прызнальныя паказаньні пра ўчыненьне ім выбухаў у Віцебску 14 і 22 верасьня 2005 году ён даваў пад узьдзеяньнем фізычнага гвалту, праверанья ў працэсуальным парадку, які вызначаны законам. Падчас мэдычнага агляду Канавалава Дз. Г. пасьля яго паказаньняў пра выбухі, зьдзейсьненыя ў Віцебску, Канавалаў Дз. Г. патлумачыў пра час і абставіны атрыманьня ім неістотных цялесных пашкоджаньняў. Пры гэтым ён заявіў экспэртам, што цялесныя пашкоджаньні маглі быць нанесеныя ў часе ягонага затрыманьня. Пасьля затрыманьня ніякіх цялесных пашкоджаньняў супрацоўнікі праваахоўных органаў яму не наносілі. Спэцыялістамі ў галіне мэдыцыны ўказана, што форма гвалту, пра якую паведаміў Канавалаў, не магла быць ужытая без пашкоджаньня запясьцяў рук. Аднак падчас першаснага і другаснага агляду абвінавачанага такога пашкоджаньня ў яго ня выяўлена.*

*Таму суд прыходзіць да высновы пра надуманасьць паказаньняў Канавалава Дз. Г. пра ўжыты адносна яго гвалт і тлумачэньняў Кавалёва Ў. Ю. пра тое, што ён чуў крыкі Канавалава Дз. Г., якія зрабілі на яго псыхалягічнае ўзьдзеяньне».*

Але вернемся да відэа допыту Канавалава. Паведаміўшы сьледчым, што напярэдадні яны з Кавалёвым і Пачыцкай пілі і што цяпер яму дрэнна, ён усё ж не перастаў даваць паказаньні і пачаў тлумачыць, чаму ўчыніў тэракт.

**Канавалаў:** «Каб дэстабілізаваць сытуацыю ў Беларусі».

**Сьледчы:** «А навошта вам спатрэбілася дэстабілізаваць сытуацыю ў Беларусі?»

**Канавалаў:** «Ніякіх асабістых мэтаў».

**Сьледчы:** «Тады навошта?»

**Канавалаў:** «Больш нічога адказваць ня буду».

**Сьледчы:** «А чаму ў мэтро? Каб больш забіць людзей?»

**Канавалаў:** «Так».

**Сьледчы:** «Вам не шкада было жанчын, дзяцей?»

**Канавалаў:** «Ня буду адказваць на гэтае пытаньне».

Дыялёг Канавалава са сьледчым я запісваў ад рукі ўсьлед за відэазапісам і, хоць было нязручна, час ад часу падымаў вочы, каб паглядзець на твар Канавалава і пераканацца, што ягоныя словы адпавядаюць выразу на твары. Як правіла, словы адпавядаюць міміцы і жэстам. Прыкладам, калі чалавек кажа «не», ён можа пакруціць убакі галавой ці мімікай узмацніць адмову. Звычайна гэта робіцца аўтаматычна. Але пасьля адказаў Канавалава ў мяне ня склалася ўражаньня, што вэрбальная адмова адлюстравала ягоны эмацыйны стан. Мінімум мімікі, увогуле ніякіх жэстаў. «Ня буду» — і ўсё. Мэханічна і абыякава, як да таго казаў пра незразумелую «дэстабілізацыю абстаноўкі».

Праўда, гэтак жа адназначна Канавалаў спыняў і іншыя размовы на асабістыя тэмы. Прыкладам, калі сьледчы паспрабаваў вывесьці яго на размову пра сямейныя каштоўнасьці і запытаў, ці спрабаваў той завесьці сям’ю, Канавалаў гэтак жа спыніў тэму: «Ня буду адказваць на гэтае пытаньне».

Допыт Канавалава ад 13 красавіка складаўся

зь некалькіх частак, бо падазраваны адчуваў сябе дрэнна, расьціраў твар рукамі, казаў, што адчувае млявасьць, і некалькі разоў атрымліваў працяглыя перапынкі. Пасьля аднаго зь перапынкаў размова зайшла пра падзеі 2008 году — выбух на сьвяце Незалежнасьці.

**Сьледчы:** «Ці ведалі вы, што там павінен быць кіраўнік дзяржавы?»

**Канавалаў:** «Так».

**Сьледчы:** «Чаму вы абралі тое месца, дзе заклалі бомбу?»

**Канавалаў:** «Бо там болей людзей».

**Сьледчы:** «У вас ёсьць знаёмыя за мяжой?»

**Канавалаў:** «Не».

**Сьледчы:** «Які быў ваш матыў?»

**Канавалаў:** «Дэстабілізаваць сытуацыю ў Беларусі».

**Сьледчы:** «Адкуль вы ўзялі гэты тэрмін?»

**Канавалаў:** «Не магу патлумачыць».

На тым самым допыце Канавалава апытвалі і пра выбухі дзьвюх самаробных бомбаў у Віцебску ў 2005 годзе. Тады ён яшчэ віну ў гэтых выбухах прызнаваў, а потым ад сваіх словаў адмовіўся і ў судзе пазыцыі не зьмяніў. Зноў сьледчы запытаў пра матывы выбухаў.

**Канавалаў:** «Каб дэстабілізаваць сытуацыю ў Віцебску».

**Сьледчы:** «І што, атрымалася?»

**Канавалаў:** «Так».

**Сьледчы:** «А што далей? Мэта якая?»

Канавалаў маўчыць.

**Сьледчы:** «А чаму не ўзрывалі больш? Не хацелі?»

**Канавалаў:** «Хацеў. Але не было магчымасьці. Пайшоў служыць у войска».

**Сьледчы:** «А да войска? Як вы тлумачыце гэтыя цыклы сваіх тэрактаў — праз 3 гады?»

Не чуваць адказу.

Гаворка зноў заходзіць пра выбух 2011 году.

**Сьледчы:** «Вы вернік?»

**Канавалаў:** «Не».

**Сьледчы:** «Маеце кантакты з замежнымі спэцслужбамі?»

**Канавалаў:** «Я ўжо адказваў на гэтае пытаньне».

**Сьледчы:** «Як мяркуеце, вы дасягнулі сваёй мэты?»

**Канавалаў:** «Часткова. Бо я тут».

**Сьледчы:** «А якая ў вас галоўная мэта?»

**Канавалаў:** «Ня буду адказваць».

**Сьледчы:** «Вы меркавалі, што вас рана ці позна знойдуць?»

**Канавалаў:** «Так».

**Сьледчы:** «Вас дактыляскапіявалі?»

**Канавалаў:** «Так».

<...>

**Сьледчы:** «Вас падштурхнула тое, што хутка вас могуць вылічыць?»

**Канавалаў:** «Так».

**Сьледчы:** «Вы задаволены тым, што зрабілі?»

**Канавалаў:** «Ня буду адказваць».

На пытаньне пра сваю галоўную мару Канавалаў таксама адказваць адмовіўся.

## XVI. «Яму заўсёды падабаліся выбухі»

Як бачым, ужо зь першых допытаў Канавалаў называе мэту сваіх дзеяньняў, хоць і вельмі агульна, не тлумачачы будучых плянаў, безь якіх гэтая мэта застаецца да канца не зразумелай. На далейшых допытах нічога новага ад Канавалава пра яго пляны не пачулі. А што пра матывы сябра казаў Уладзіслаў Кавалёў?

На допыце 12 красавіка Кавалёў паведаміў пра пляны Канавалава нібыта зь ягоных словаў, сказаных яшчэ на вакзале: маўляў, той «зьбіраўся ўчыніць выбух у мэтро», яму «ўсё роўна губляць няма чаго», бо яго хутка вылічаць. Паводле словаў Кавалёва, Канавалаў пасьля тэракту зьбіраўся скончыць жыцьцё самагубствам і паказваў яму нейкія капсулы. Маўляў, у выпадку звышдозы наступіць сьмерць. Аднак у судзе Кавалёў ад гэтых паказаньняў адмовіўся. Сказаў, што пад псыхалягічным ціскам сьледчых абгаварыў і сябе, і Канавалава.

Наступным разам пра матывы Канавалава Кавалёў выказаўся на допыце 29 красавіка. У судзе пратакол гэтага допыту таксама зачыталі і паказалі відэазапіс. Расказваючы пра падзеі 2005 году ў Віцебску, Кавалёў паведаміў, што Канавалаў хацеў, каб пацярпелі людзі, і пасьля першага выбуху быў незадаволены, што пацярпела няшмат. «А які матыў быў у Канавалава?» — удакладніў сьледчы. — «Мне падаецца, яму заўсёды падабаліся выбухі, бо ён зь вялікім задавальненьнем пра іх расказваў», — адказаў Кавалёў і дадаў, што пры гэтым «Канавалаў узбуджаўся і размахваў рукамі. Іншым разам,

на допыце 23 траўня, Кавалёў сказаў: «З кантактаў з Канавалавым я зразумеў, што ён хацеў стаць тэрарыстам. Ён з захапленьнем казаў пра выбухі ў Маскве».

Ад усіх гэтых паказаньняў Кавалёў у судзе таксама адмовіўся.

У выніку суд пагадзіўся з фармулёўкай матыву Канавалава, якую прадставіла сьледзтва на падставе паказаньняў самога Канавалава: віцебскія выбухі 2005 году — «для дэстабілізацыі абстаноўкі», менскі выбух 2008 году — «для дэстабілізацыі абстаноўкі», выбух у мэтро 2011 году — «для дэстабілізацыі абстаноўкі».

**Прысуд, с. 89.** *«Матывам і мэтай Канавалава Дз. Г. падчас зьдзяйсьненьня выбухаў у месцах зграмаджэньня людзей была* ***дэстабілізацыя абстаноўкі і запалохваньне насельніцтва*** *(вылучана аўтарам. — А. Г.) На гэта ў сваіх неаднаразовых паказаньнях указваў Канавалаў Дз. Г., які казаў, што ў выніку выбуху хацеў пасеяць у людзях страх, паніку з мэтай дэстабілізацыі абстаноўкі. Кавалёў У. Ю. таксама аказваў пасобніцтва ў зьдзяйсьненьні выбуху ў мэтро з мэтай дэстабілізацыі абстаноўкі і запалохваньня насельніцтва. Падчас сьледзтва Кавалёў У. Ю. казаў, што Канавалаў Дз. Г. хацеў дэстабілізаваць абстаноўку. Яму падабалася назіраць за наступствамі выбуху, які ён учыніў. Ён расказваў пасьля выбуху ў Менску каля “Стэлы” пра паніку сярод людзей, як усе разьбягаліся ад месца выбуху».*

Параўнаем гэта з артыкулам аб тэрарызьме Крымінальнага кодэксу.

***КК РБ, артыкул 289. Тэрарызм***

*1. Учыненьне выбуху, падпалу альбо іншых дзеяньняў, якія ствараюць небясьпеку гібелі людзей, нанясеньня ім цялесных пашкоджаньняў, прычыненьня шкоды ў буйным памеры альбо надыходу іншых цяжкіх наступстваў, з мэтай* ***дэстабілізацыі грамадзкага парадку, або запалохваньня насельніцтва*** *(вылучана аўтарам. — А. Г.), або аказаньня ўзьдзеяньня на прыняцьце рашэньняў дзяржаўнымі органамі, або перашкоды палітычнай ці іншай грамадзкай дзейнасьці (тэрарызм), — караецца пазбаўленьнем волі на тэрмін ад 8 да 15 гадоў.*

*3. Дзеяньні, перадугледжаныя часткамі 1 ці 2 дадзенага артыкулу, зьвязаныя з забойствам чалавека альбо ўчыненыя арганізаванай групай, — караюцца пазбаўленьнем волі на тэрмін ад 8 да 25 гадоў, або пажыцьцёвым зьняволеньнем, або сьмяротнай карай».*

Такім чынам, зазначу, што прызнаны судом матыў фактычна капіюе фармулёўкі артыкулу Крымінальнага кодэксу аб тэрарызьме.

Ці быў зьвязаны матыў Канавалава з палітыкай? На допыце 29 красавіка Кавалёў паведаміў, што Канавалаў пасьля выбуху ў Менску ў 2008 годзе быў нязгодны з тым, што ягонае злачынства сьледчыя кваліфікуюць паводле артыкулу аб хуліганстве, а не аб тэрарызьме. Нібыта Канавалаў нават зачытваў яму, Кавалёву, артыкул аб тэрарызьме і дадаваў, што «ў турму не зьбіраецца, лепш скончыць жыцьцё самагубствам».

На допыце ад 5 траўня Канавалаў сказаў сьледчым, што на выбарах 2006 году ён галасаваў за

Аляксандра Мілінкевіча. «Палітыка Лукашэнкі не падабалася», — патлумачыў абвінавачаны ў тэрарызьме свой выбар. У судзе гэтая інфармацыя прагучала падчас зачытваньня пратаколу допыту, бо сам Канавалаў даваць паказаньні адмовіўся. Далей высьвятляць палітычныя погляды Канавалава суд ня стаў.

Тады ж назіральнікам стала вядома шмат новага пра асобу Канавалава, але пра гэта пазьней. 22 верасьня 2011 году на працэсе пацярпелы Самвэл Саакян хадайнічаў аб агалошваньні пратаколу часткі допыту Канавалава ад 27 траўня. Задаволіўшы хадайніцтва, судзьдзя Федарцоў пачаў зачытваць пратакол допыту, які вёў сьледчы Сушко. Заўважу, што частку словаў судзьдзі Федарцова было не разабраць, але часам складалася ўражаньне, быццам ён спэцыяльна нешта прапускае.

**Канавалаў:** «...для запалохваньня насельніцтва».

**Сьледчы:** «Вы хацелі палітычных зьменаў, але як бы грамадзяне адрэагавалі на тэракт?»

**Канавалаў:** «...ня думаў, што мяне вылічаць... не хацеў, каб было шмат загінулых...»

Тут ня вытрымаў пацярпелы Саакян: «Чаму вы не агалошваеце пратакол цалкам? Пра тое, што ён хацеў зьмяніць уладу?» — крыкнуў ён зь месца, што было грубым парушэньнем судовага парадку: задаваць пытаньні суду не дазваляецца. Судзьдзя Федарцоў не адрэагаваў на гэтае парушэньне, але і не дадаў нічога да прачытанага.

У прысудзе, які быў вынесены Канавалаву і Кавалёву, пра намер зьмяніць уладу не сказана ані слова.

## XVII. Ці здаровы Канавалаў псыхічна?

На адным зь першых допытаў, 13 красавіка, сьледчы наўпрост спытаў у Канавалава: «Вы нармальны?» Абвінавачаны адказаў: «Так». Экспэртыза ў Навінках пацьвердзіла, што Канавалаў у псыхічным сэнсе здаровы, хоць і мае пэўныя асаблівасьці. У прысудзе пра гэта напісана наступнае.

**Прысуд, с. 90.** *«Падчас судовага разбору дасьледаванае пытаньне пра псыхічны стан абвінавачаных.*

*Згодна з высновамі стацыянарнай комплекснай судовай псыхалягічна-псыхіятрычнай, сэксалягічнай і наркалягічнай экспэртызы № 188 ад 10.06.2011, абвінавачаны Канавалаў у пэрыяд часу, які адпавядае злачынствам, што яму інкрымінаваныя, на хранічнае псыхічнае захворваньне, часовы разлад псыхікі, аслабленьне розуму ці іншыя захворваньні псыхікі не пакутаваў. Мог усьведамляць фактычны характар і грамадзкую небясьпеку сваіх дзеяньняў і кіраваць імі».*

Пэўныя якасьці характару і душэўнага складу Канавалава, паводле судзьдзяў, тлумачаць ягоныя дзеяньні, прызнаныя злачыннымі. Пра іх чытаем далей, на той жа старонцы (адзначу, аднак, што некаторыя часткі ў далейшай цытаце асабіста мне падаюцца недастаткова злучанымі паміж сабой і таму зразумелымі да канца хіба толькі іх аўтарам).

*«Эгацэнтрычны, эмацыйна чэрствы, парушаныя валявыя дзеяньні, якія скіраваныя на задавальненьне патрэбаў у будучыні, на стварэньне аб’ектыўных*

*каштоўнасьцяў, якія задавальняюць патрэбы грамадзтва і асобных людзей, патрэба задаволіць асабісты інтарэс насуперак інтарэсам іншых, прымушаючы іх прымаць ягоныя рашэньні, тэндэнцыя да сыходу ад рэальнасьці.*

*Выяўленыя ўскосныя прыкметы паталягічнага жаданьня выбухаў:* ***зьдзяйсьненьне іх без асаблівых матываў*** *(вылучана аўтарам. — А. Г.), захопленасьць гэтай тэмай, высокая эмацыйная ўцягнутасьць і ўзбуджэньне падчас апісаньня выбухаў, якія ён зрабіў».*

Як бачым, судзьдзі пагадзіліся з высновамі сьледзтва, якое не знайшло ў Канавалава і Кавалёва «асаблівых матываў» для ўчыненьня тэракту і таму задаволілася тлумачэньнямі псыхіятраў пра «ўскосныя прыкметы».

***«Псыхалягічны партрэт Канавалава падыдзе кожнаму другому беларусу»***
*Інтэрфакс-Захад, 29.12.2011*

Інтэрвію «Псыхалягічны партрэт Канавалава падыдзе кожнаму другому беларусу» зь дзяржаўным мэдычна-судовым экспэртам, псыхолягам Людмілай Мун, якая два тыдні прафэсійна кантактавала зь Дзьмітрыем Канавалавым і Ўладзіславам Кавалёвым у аддзеле стацыянарных судова-псыхіятрычных экспэртыз асобаў са строгім назіраньнем Дзяржаўнай службы мэдычных судовых экспэртыз. Людміла Мун — адна з аўтараў псыхалягічна-псыхіятрычнага заключэньня, якое было прадстаўленае суду. Паводле яе, «два тыдні падчас абсьледаваньня Канавалава выкарысталі 27 псыхалягічных мэтадаў і мэтодык, а падчас

абсьледаваньня Кавалёва — 23. І ўсе вынікі прааналізаваныя ў комплексе. Толькі па сукупнасьці мэтадаў, вынікаў розных мэтадаў і мэтодык, якія пацьвярджаюць адна адну, былі зробленыя высновы, адлюстраваныя ў экспэртным заключэньні і агучаныя ў судзе».

Карэспандэнт запытаўся ў Людмілы Мун, ці былі ў Канавалава дзіцячыя траўмы, сур’ёзныя канфлікты ў дзіцячым узросьце, якія адбіліся на ягонай псыхіцы.

**Мун**: «У матэрыялах справы я ня ўбачыла дзіцячых псыхалягічных траўмаў, якія, як правіла, перадвызначаюць сур’ёзныя псыхалягічныя праблемы ў будучыні. Прыкладам, не было зьвестак, што Канавалаў у дзяцінстве зазнаў які-небудзь гвалт: фізычны, псыхічны, сэксуальны. Таксама не было дадзеных пра нейкія паталягічныя асаблівасьці разьвіцьця. Абодва абсьледаваныя добра ўладкаваныя ў сваім асяродзьдзі, сацыяльна досыць адаптаваныя».

**— А ці мог канфлікт, зьвязаны з сыходам бацькі зь сям’і, сур’ёзна паўплываць на псыхіку галоўнага фігуранта справы? Бо гэта ж не шараговыя паводзіны — некалькі гадоў не размаўляць з бацькам.**

(Пытаньне грунтуецца на паказаньнях Уладзіслава Кавалёва, якому было вядома, што «ў дзяцінстве Канавалаў пакрыўдзіўся на бацьку і доўга зь ім не размаўляў». Паводле Кавалёва, адносіны паміж бацькам і сынам палепшыліся толькі пасьля таго, як апошні вярнуўся з войска ў 2010-м. Сам Дзьмітрый Канавалаў пацьвярджаў, што ў яго былі складаныя адносіны з бацькам, але

не ўдакладняў, чаму, і ад далейшых аповедаў пра гэта ўстрымліваўся. Генадзя Канавалава выклікалі ў суд як сьведку, але ён скарыстаў сваё права адмовіцца ад паказаньняў супраць блізкага сваяка. Паводле маіх назіраньняў, у судзе ён паводзіў сябе вельмі стрымана, стараўся зусім не дэманстраваць эмоцый, але ўсё ж нешта падказвала, як яму было цяжка апынуцца ў такой сытуацыі. Быццам ён нечага нават баяўся. Гэта было бачна хоць бы па тым, як павольна ён набліжаўся да катэдры сьведкі, магчыма, каб даўжэй паглядзець на сына. Але ці сапраўды Генадзь Канавалаў углядаўся ў твар сына, з судовай залі не было бачна, пра гэта з пэўнасьцю могуць сказаць толькі судзьдзя і пракуроры. Потым Канавалаў-старэйшы сказаў ня вельмі гучна «не» на прапанову судзі даць паказаньні, прычым сказаў неяк пасьпешліва, быццам вырашыў хутчэй паставіць кропку ў гэтай справе, і пайшоў з залі, ужо не абарочваючыся. А якой была рэакцыя ягонага сына? Я спэцыяльна назіраў за тым, як Канавалаў-малодшы глядзіць на бацьку, але не заўважыў на твары ніякіх эмоцый, позы ён таксама не зьмяніў. Праўда, мне чамусьці падалося, што ўсё гэта было нейкай дэманстрацыяй. — *А. Г.*)

**Мун:** «Канавалаў досыць неахвотна гаварыў на тэмы сям'і, а я ня буду варажыць пра тое, што ён мог адчуваць у такой сытуацыі, я не займаюся гіпотэзамі. Ёсьць факт, што бацька сыходзіў зь сям'і, потым вярнуўся. Але дадзеных, што гэта было моцным стрэсам для Дзьмітрыя, у нас няма. Я не пачула эмацыйна цёплых словаў ані пра маці, ані пра брата, увогуле ні пра кога».

(На допыце ад 5 траўня Канавалаў паведаміў,

што ў дзяцінстве зь ім не кантактавала бабуля, але чаму, не ўдакладніў. Пры гэтым высьветлілася, што бабуля жыла ў тым жа горадзе, у Віцебску. Яшчэ Канавалаў сказаў, што на канікулах нікуды ня езьдзіў. Трэба разумець, яго, малога, бацькі нікуды не вазілі. Пагадзіцеся, гэта досыць красамоўна кажа пра абстаноўку, у якой выхоўваўся Дзіма Канавалаў.

А вось мае назіраньні з судовага паседжаньня: калі ў залю выклікалі даваць паказаньні Аляксандра Канавалава, Дзьмітрый зрэагаваў на брата гэтаксама, як і на бацьку — ніяк. А вось зьяўленьне ў судзе маці выклікала ў яго нейкія эмоцыі: Канавалаў заварушыўся і, здавалася, крыху апусьціў галаву. У Людмілы Канавалавай, калі яна адмаўлялася ад паказаньняў, задрыжаў голас. З судовай залі яна сыходзіла з мокрымі ад сьлёз вачыма і даволі хутка. Ці праводзіў Канавалаў позіркам сваю маці, сказаць не магу, бо разам зь іншымі журналістамі пабег усьлед за Людмілай Канавалавай, каб паспрабаваць узяць у яе інтэрвію. Але дарма сьпяшаліся: у фае перад заляй маці Канавалава ўжо не было, у суправаджэньні міліцыянтаў у цывільным яна сышла калідорам у тую частку будынка, якая ахоўвалася спэцназам у чорных масках з аўтаматамі. Празь дзесяць хвілін з суду выехаў мікрааўтобус з чорнымі вокнамі, якога журналісты раней ня бачылі. Імаверна, на ім трох Канавалавых і павезьлі назад у Віцебск.

Што да згадак пра маці Канавалава, то варта адзначыць яшчэ адну: на судовым сьледзтве была агалошаная інтэрнэт-перапіска Канавалава са знаёмай пад нікам «Катюша» на тэму самагубства. Сьледзтва дакладна пазначыла дзень перапіскі — 12

сьнежня 2009 году. У той час Канавалаў служыў у войску, а ў інтэрнэт выходзіў праз мабільны тэлефон. У перапісцы Канавалаў прызнаў, што таксама думаў пра тое, каб скончыць жыцьцё самагубствам. А як? Скакаць з вышыні ён ня раіць, тым больш рэзаць вены — гэта дакладна ня тое. «Рэзаў, зашылі», — паведаміў ён пра свой досьвед. Ягоная парада была простая: дастаць нешта моцнае, што для «Кацюшы», якая вучыцца на мэдыцынскім, не праблема, і наглытацца як мага болей. Дзяўчыну, аднак, цікавіла ня толькі самагубства. «А колькі табе яшчэ служыць?» — запытала «Кацюша» ў Макса Мядзьведзева (так Канавалаў называў сябе «Вконтакте»). «15 ліпеня — дамоў. Але ня ведаю, навошта я пайшоў служыць у войска... Я жыву дзеля маці. Толькі думкі пра яе мяне стрымліваюць...» — адказаў Канавалаў. У прысудзе пра гэта ня згадваецца. — *А. Г.*)

### *З псыхалягічнага партрэту Дзьмітрыя Канавалава*

*Цяжкасьці ў распазнаваньні эмоцый іншых асобаў, у разуменьні іх пачуцьцяў, слаба разьвіты мэханізм ідэнтыфікацыі, не разьвітая здольнасьць да эмпатыі, нізкі ўзровень міжасабовай сымпатыі як станоўчага эмацыйнага стаўленьня да партнэра па ўзаемадзеяньні; эмацыйная чэрствасьць, адсутнасьць імкненьня падтрымліваць эмацыйныя кантакты; завышаная самаацэнка, некрытычнае стаўленьне да сябе; мае ўяўленьне пра сябе як пра моцную асобу, якая валодае дастатковай свабодай выбару, каб будаваць сваё жыцьцё ў адпаведнасьці*

*з сваімі мэтамі і ўяўленьнямі пра яе сэнс; упэўнены ў сваёй цікавасьці для іншых.*

**— Зроблены Вамі псыхалягічны партрэт адзначае яго эмацыянальную халоднасьць і завышаную самаацэнку. Гэта зрабіла ўплыў на фармаваньне асобы Канавалава як злачынцы?**

**Мун:** «Суадносіны эмацыйнага інтэлекту, узроўню маралі і самаацэнкі мне падаюцца найбольш значнымі ў структуры асобы Канавалава. Кагнітыўны інтэлект у яго сярэдні. Паводле тэсту Равэна IQ=95 і ніякіх асаблівасьцяў. Я аддала больш увагі ягонаму эмацыйнаму інтэлекту. Ступень разьвіцьця эмоцыяў мае вялікае значэньне. Адна зь галоўных якасьцяў псыхікі, якая робіць чалавека сацыяльна прымальным для людзей вакол яго, — гэта здольнасьць разумець іншых, спачуваць іншым, адчуваць іх, стаць на іх пункт гледжаньня, адчуць боль іншага. Што ж мы атрымалі? У Дзьмітрыя Канавалава нізкі эмацыйны інтэлект. У яго відавочны дысбалянс паміж асабістым і міжасабовым інтэлектам. Ён ведае свае пачуцьці і можа імі кіраваць. А іншых ён не разумее, не адчувае, не спачувае ім».

**— Ад чаго залежыць эмацыйны інтэлект?**

**Мун:** «У першую чаргу ад эмацыйных умоваў у дзяцінстве, у сям'і. Менавіта там закладаецца эмацыйнасьць».

**— Ці можна сказаць, што яго недастаткова любілі ў дзяцінстве?**

**Мун:** «Сказаць так немагчыма, бо гэта гіпатэтычна. Мы гэтага ня ведаем. Яшчэ адна асаблівасьць Канавалава — ён ня ўмее называць свае

пачуцьці, ня ўмее выказвацца мовай эмоцый. Паводле таронтаўскай алекситымічнай шкалы ён не дасягае ўзроўню паталёгіі, але ўзровень ягонай алекситымічнасьці (няздольнасьці называць пачуцьці) — памежны... Фактам, даказаным аб'ектыўнымі дадзенымі, ёсьць выяўленыя ў яго на момант дасьледаваньня эмацыйная чэрствасьць, эмацыйная халоднасьць і адсутнасьць імкненьня падтрымліваць эмацыйныя кантакты».

**— То бок яму непатрэбныя сябры, непатрэбная сям'я, любоў?**

**Мун:** «Гэтага сказаць не магу. Але ягоная эмацыйнасьць вельмі своеасаблівая, прыглушаная, а патрэба ў іншых людзях зьніжаная».

## XVIII. Схільны да самагубства?

Тэма спробаў Канавалава скончыць жыцьцё самагубствам падымалася ў судзе некалькі разоў, хоць у прысудзе адлюстраваньня не знайшла. Упершыню яна прагучала, калі дзяржаўны абвінаваўца Аляксей Стук запытаў Кавалёва ў судзе, ці не зьбіраўся Канавалаў пайсьці з жыцьця пасьля тэракту ў мэтро.

Было гэта на другі дзень працэсу, 16 верасьня. Кавалёў адказаў, што не, такой размовы ён ня памятае. Абвінаваўца спытаў, ці не паказваў Канавалаў яму якіх прэпаратаў, таблетак. Адказ Кавалёва таксама быў адмоўны. Пасьля гэтага зачыталі тыя паказаньні Кавалёва на сьледзтве, якія разыходзіліся з тым, што ён толькі што сказаў у судзе.

Паводле допыту Кавалёва 13 красавіка, атрымлівалася, што неўзабаве пасьля таго як ён сустрэў Канавалава на менскім вакзале 10 красавіка, той расказаў пра намер узарваць у мэтро бомбу, сказаў, што страчваць яму ўжо няма чаго, паказаў нейкія капсулы ці таблеткі і патлумачыў, што зь іх дапамогай зьбіраецца скончыць з жыцьцём пасьля тэракту. Кавалёў тых паказаньняў не пацьвердзіў: сказаў, што даваў іх пад псыхалягічным ціскам. Сьледчыя запалохалі сьмяротнай карай, да таго ж ён чуў крыкі Канавалава ў міліцыі, і гэта зрабіла на яго значнае ўзьдзеяньне.

Сам Канавалаў, дарэчы, нават на допытах, дзе прызнаваў сваю віну ў тэрактах 2008 і 2011 гадоў, ад спробаў самагубства рашуча адхрышчваўся. Аднак пра такія спробы казалі і сьведкі. Натальля

Каралёва, знаёмая Канавалава зь Віцебску, паведаміла суду пра такі выпадак. Аднойчы позна ўночы Канавалаў ёй пазваніў і сказаў, што сядзіць у сваім падвале і сплывае крывёй, парэзаўшы вены. Назаўтра раніцай зноў пазваніў і папрасіў прыйсьці перавязаць рукі.

Паводле сьведкі Каралёвай, размовы на тэму самагубства паміж імі ўзьнікалі неаднойчы. «Падрабязнасьцяў ужо ня памятаю, але было такое, што ён мне прапаноўваў выпіць гарэлкі і зьесьці чагосьці, каб разам пайсьці з жыцьця», — расказала Каралёва. Нагадаю, менавіта гэтай сьведцы, паводле сьледзтва, Канавалаў восеньню 2008 году прагаварыўся, што баіцца здаваць адбіткі пальцаў.

***«Псыхалягічны партрэт Канавалава падыдзе кожнаму другому беларусу». Працяг***
*Пытаньні да псыхоляга Людмілы Мун*

**— Як жа можна патлумачыць некалькі спробаў суіцыду пры такой абыякавасьці да ўсяго?**

**Мун:** «Па-першае, ён абыякавы да ўсяго, акрамя сябе. Па-другое, сам ён адмаўляў усе спробы суіцыду, спачатку сьцьвярджаў, што ніколі гэтага не было, а потым пачаў казаць: «Мала што зь нецьвярозым можа здарыцца». У любым выпадку ён адмаўляўся гэтую тэму абмяркоўваць. Мы ня ведаем, у якім стане ён быў, ці шмат выпіў, што ім рухала. Ці быў гэта крык душы, невядома: нікому са сьведак ён нічога не казаў пра матывы парасуіцыдаў».

(Адзначу, што ў судзе тая ж Натальля Каралёва расказвала пра скаргі Канавалава на тое, што ён адзінокі, што «яго ніхто ня любіць» і ён ня хоча жыць. — *А. Г.*)

***З псыхалягічнага партрэту Дзьмітрыя Канавалава***

*У Канавалава Дз. Г. ня выяўлена павышанай агрэсіўнасьці, дыягнаставаны нізкі ўзровень варожасьці і сярэдні ўзровень агрэсіўнасьці; выяўленая завышаная самаацэнка; ёсьць схільнасьць да дамінаваньня, пагарды нормамі маралі і нежаданьне ўлічваць у сваіх паводзінах пачуцьці, намеры і правы іншых людзей.*

**— Як жа можа неагрэсіўны чалавек учыніць такую жудасьць?**

**Мун:** «Мы не сказалі, што ён неагрэсіўны чалавек. Агрэсіўнасьць як якасьць асобы ў яго ёсьць і мае сярэдні ўзровень. Любыя агрэсіўныя паводзіны абумоўленыя памкненьнем, нейкім імпульсам да агрэсіі. У той жа час у кожным чалавеку ёсьць сілы, якія яго стрымліваюць: асаблівасьці характару, маральныя прынцыпы тармозяць праявы агрэсіі. Да прыкладу, я страшэнна раззлавалася на нейкага чалавека, гатовая накінуцца на яго з кулакамі, нават задушыць, але мяне можа палохаць тое, што ён адкажа яшчэ большай агрэсіяй, альбо шкада яго, альбо мой розум кажа, што біць ці забіваць дрэнна, альбо што гэта не па-хрысьціянску і гэтак далей. Мы ж не жывёлы, мы сацыяльныя істоты, у нас такіх тармазоў шмат. Калі чалавек выказвае агрэсію? Альбо калі памкненьне да агрэсіі мацнейшае за тармазы, альбо калі яны зусім не працуюць. Калі мы вывучаем агрэсіўныя злачынствы, мы заўсёды дасьледуем гэты балянс: узровень агрэсіўнасьці і мэханізм тармажэньня агрэсіі. У Канавалава гэты мэханізм вельмі слабы».

(Акрамя эпізодаў пра тэракты 2011 і 2008 гадоў у Менску і 2005 году ў Віцебску на працэсе таксама дасьледавалася датычнасьць Канавалава і Кавалёва да шэрагу выбухаў і падпалаў у Віцебску пачынаючы з 2000 году. Гэта падрывы выбуховых пакетаў у доме № 7 па вуліцы Бядулі і доме № 22 па вуліцы 39-й Арміі, на будынку дзіцячай бібліятэкі па вуліцы 39-й Арміі, выбуховай «расьцяжкі» на трапе непадалёк ад той жа вуліцы, дзьвюх выбуховых «расьцяжак» з выкідам падпальнага рэчыва непадалёк ад чыгуначнай станцыі Грышаны, падпал кіёска № 9 «Віцебскаблсаюздруку» і аўтамабіля «РАФ» у двары дома № 8 па вуліцы Рэпіна. Таксама былі дасьледаваныя некалькі эпізодаў з набыцьцём і вырабам выбухоўкі і выбуховых прыстасаваньняў, а таксама іх выпрабаваньнямі.

Па гэтых эпізодах суд апытаў больш за 10 сьведак, зь іх некаторыя асабіста ведалі Канавалава і маглі нешта пэўнае дадаць да ягонага маральнага і псыхалягічнага партрэту. Даваў па гэтых эпізодах паказаньні і Ўладзіслаў Кавалёў.

Так, паводле Кавалёва, падчас закладаньня другой бомбы ў 2005 годзе (каля віцебскай летняй кавярні «Эрыдан») Канавалаў вельмі занэрваваўся, убачыўшы непадалёк знаёмую дзяўчыну. Ён сам расказаў пра свае перажываньні Кавалёву. Аднак засталося нявысьветленым, нэрваваўся Канавалаў праз тое, што знаёмая магла пацярпець ад выбуху (то бок спачуваў ёй), ці таму, што яна магла паказаць на яго як на магчымага злачынцу. У судзе Кавалёў ад гэтых паказаньняў увогуле адмовіўся, а Канавалаў не прызнаў сваёй віны ў тым выбуху. Гэта, аднак, не перашкодзіла суду прызнаць Канавалава вінаватым у абодвух тэрактах у Віцебску ў 2005

годзе, а Кавалёва — вінаватым у неданясеньні пра віну Канавалава ў гэтых злачынствах.

Сьведка Яна Пачыцкая ў агульнай характарыстыцы Канавалава і Кавалёва адзначыла, што яны «нармальныя хлопцы, зь якімі можна было пра ўсё пагаварыць». Паводле Пачыцкай, Канавалаў і Кавалёў не выказвалі агрэсіі адносна яе. Варта адзначыць і тое, што Канавалаў пасьлядоўна даваў паказаньні, паводле якіх Пачыцкая не магла нават бачыць бомбу ў торбе. Між тым яна зазірнула за шырму, зь яе ж словаў, якраз у той момант, калі торба яшчэ не была да канца закрытая, і пры жаданьні Канавалаў мог сказаць, што яна нешта мусіла бачыць. «Не тапіў» Пачыцкую сваімі паказаньнямі на сьледзтве і Кавалёў. Таму можна дапусьціць, што абодва шкадавалі дзяўчыну і ня помсьцілі ёй за паказаньні супраць іх. Бо яна адзіная, хто пэўна бачыў іх з торбай напярэдадні выбуху.

Былі сярод паказаньняў сьведак і тыя, што адмоўна характарызавалі Канавалава. Сьведка Яўген Куксёнак расказаў пра эпізод, аднесены да жніўня 2003 году. Ён ішоў сьцежкай і наткнуўся на расьцяжку, пасьля чаго здарыўся невялікі выбух. Сьведку заклала вушы, ён моцна спалохаўся. А калі непадалёк убачыў Канавалава, які ўсьміхаўся, то вырашыў, што гэта ён паклаў «расьцяжку» і што быў яўна задаволены дзеяньнем свайго прыстасаваньня. — *А. Г.*)

### *З псыхалягічнага партрэту Дзьмітрыя Канавалава*

*Не сфармаваныя ўстойлівыя маральныя прынцыпы, выкананьне якіх забясьпечанае асабістым*

*сумленьнем, безадносна да вонкавых абставінаў і разумовых меркаваньняў.*

**Мун:** «Пра мараль з Канавалавым мы размаўлялі даволі доўга. Ягоная мараль адзначаецца падменай маральных катэгорыяў рацыяналістычнымі развагамі і зьвядзеньнем маралі да карыснасьці. Ён ня можа выйсьці на ўзровень маральных разваг. Да прыкладу, калі мы палемізуем пра дапушчальнасьць ці недапушчальнасьць сьмяротнай кары, аргумэнт пра кошт утрыманьня злачынцаў не адпавядае ўзроўню маральнай дыскусіі.

Падчас абсьледаваньня мы выкарыстоўвалі «Маральныя дылемы Л. Кольберга», у якіх чалавека ставяць у сытуацыю маральнага выбару. Прыкладам, у чалавека сьмяротна хворая жонка. Ён пайшоў і абрабаваў краму, каб на гэтыя грошы набыць неабходныя лекі, ад якіх залежыць яе жыцьцё. Задаецца пытаньне: мае ён рацыю ці ня мае, ці мае рацыю паліцыянт, які яго затрымаў, судзьдзя, які прызнаў яго вінаватым, якога пакараньня ён заслугоўвае і г.д. Пры гэтым кожны пэрсанаж становіцца ў сытуацыю ўласнага маральнага выбару.

У Канавалава пачуцьці не рабілі ўплыву на выбар увогуле. Акрамя падмены маральных катэгорыяў рацыянальнымі развагамі, зьвядзеньня іх да карыснасьці адзначаная перавага ў развагах прававых катэгорыяў над маральнымі; адсутнасьць эмацыйных ацэнак, якіх-колечы прыкметаў эмпатыі (суперажываньня) ці спробаў ідэнтыфікацыі з кімсьці з пэрсанажаў (стаць на месца іншага); акцэнт на вонкавай, а не на ўнутранай ацэнцы рэчаў. Большая частка развагаў зводзілася да тэзы «калі за гэта нічога ня будзе, то можна».

Акрамя таго, падчас дасьледаваньня ў яго была выяўленая падмена маральнага прынцыпу прынцыпам жаданьня: «я хачу». У першую чаргу задавальненьне ўласных інтарэсаў, нават калі гэта шкодзіць інтарэсам іншых. Ён часьцей прымушае іншых прымаць сваё рашэньне. Супрацоўніцтва магчымае толькі ў тым выпадку, калі сумеснае рашэньне ня будзе супярэчыць ягоным уласным інтарэсам».

(Сьведка Ільля Коласаў, сусед Канавалава па пад'езьдзе, расказаў: яшчэ школьнікам Канавалаў аднойчы абляпіў пэтарду сьнегам і кінуў такі сьняжок у супернікаў падчас штурму сьнежнай крэпасьці. «Увогуле ён часта ўзрываў у двары пэтарды. Як узарвецца дзе пэтарда, усе адразу думаюць на Канавалава», — паведаміў Коласаў.

Сьведка Сяргей Румянцаў, сябра Канавалава і Кавалёва ў пачатку 2000-х, разам зь імі ўзрываў выбуховы пакет на будынку бібліятэкі. Пра Кавалёва ён расказаў, што той ніколі ня дзейнічаў самастойна, заўсёды з ініцыятывы Канавалава. Згадаў, як аднойчы Канавалаў паведаміў яму, «што яны зробяць нешта сур'ёзнае», але што, не ўдакладніў. У эпізодзе пра выбух на бібліятэцы Румянцаў спачатку праходзіў як падазраваны, а потым зрабіўся сьведкам. — *А. Г.*)

### *З псыхалягічнага партрэту Дзьмітрыя Канавалава*

*Валявыя якасьці: упартасьць у дасягненьні мэты; дэталёвае плянаваньне, прызначэньне канкрэтных тэрмінаў выкананьня задач, хуткае і апэратыўнае арыентаваньне ў навакольлі, добрая*

*прыстасавальнасьць і сацыяльная адаптаванасьць; не зацікаўлены ў супрацоўніцтве зь іншымі людзьмі, затое здатны на валявыя рашэньні.*

**— Пытаньне, ці быў у Канавалава куратар, займала і сьледзтва, і ўсіх удзельнікаў працэсу. Нават пасьля судовага рашэньня засталіся тыя, хто ня верыць, што малады і маладасьведчаны мог дзейнічаць без чужога ўплыву. Ці мог быць у Канавалава куратар пры ягоных валявых якасьцях?**

**Мун:** «Ня думаю. Ён дамінантны, ён сам сабе куратар. Ён ня з тых, кім можна кіраваць. Ён занадта індывідуалістычны для гэтага, занадта незалежны. Па-мойму, ягоная моцная воля выявілася і падчас сьледзтва: «Я так вырашыў і так сябе паводжу».

**— А ягоная безуважнасьць падчас працэсу?**

**Мун:** «Воля і нізкая эмацыйнасьць».

**— Вы зрабілі заключэньне пра завышаную самаацэнку Канавалава...**

**Мун:** «Ён лічыць сябе цікавым, моцным, лічыць, што кіруе сваім жыцьцём, што ён усё можа, упэўнены ў сабе і ў сваёй цікавасьці для іншых, лічыць сябе моцнай асобай. Колькасныя паказчыкі паводле розных мэтодык паказваюць, што самаацэнка яўна завышаная».

(На допыце 25 красавіка Ўладзіслаў Кавалёў расказаў пра Дзьмітрыя Канавалава, што пасьля першага выбуху ў Віцебску ў жніўні 2005 году той быў незадаволены, што мала людзей пацярпела, і задумаў выбух паўтарыць. Мэтай Канавалава было запалохваньне насельніцтва. Тады ж Кавалёў

расказаў пра Канавалава, што той скраў у бацькі, гадзіньнікавага майстра, ножкі ад будзільнікаў маркі «Сэвані» і ўклаў іх у другую бомбу для павышэньня паражальнага эфэкту. Кавалёў, паводле ягоных паказаньняў, ведаў пра выбух, але ня ведаў дакладнага часу. Турбаваўся за сястру, што магла паехаць у цэнтар і трапіць пад выбух, сам у цэнтар не зьбіраўся. Канавалаў яму так і не сказаў дакладнага часу.

На другі дзень, 26 красавіка, Кавалёў на допыце расказаў, што яшчэ ў 17-гадовым узросьце Канавалава паставілі на ўлік у наркадыспансэры. Гэта здарылася пасьля таго, як яго аднойчы затрымалі нецьвярозым. Якое месца гарэлка займала ў жыцьці Канавалава?

Маці Кавалёва Любоў Кавалёва расказвала журналістам, што старалася абмежаваць кантакты сына з Канавалавым, бо іх сустрэчы звычайна заканчваліся выпіўкай. «Ён дрэнна ўплываў на Ўладзіслава ў гэтым сэнсе», — прызнавала Любоў Кавалёва.

Журналіст Ірына Козьлік паведаміла: «У двары дома, дзе жылі Кавалёў і Канавалаў, суседзі пра іх казалі, што звычайныя хлопцы, але любілі выпіць, часта на лаўцы ў двары расьпівалі гарэлку».

У прысудзе Канавалаву адзначана, што перад тым як паехаць у мэтро з бомбай ён выпіў гарэлкі, а значыць, быў у момант зьдзяйсьненьня злачынства нецьвярозы. Суд расцаніў гэта як акалічнасьць, якая абцяжарвае віну. — *А. Г.*)

**— У заключэньні сказана, што паталягічнай жорсткасьці ў Канавалава ня выяўлена. Але ў інтэрвію нашаму агенцтву ананімная крыніца**

**расказала, што, паводле словаў сябра-суседа, Канавалаў у юначым веку ўзрываў катоў, правяраючы дзеяньне выбухоўкі.**

**Мун:** «Тое, што сказала вашая ананімная крыніца пра катоў, у матэрыялах справы, прадстаўленых экспэртам, не фігуруе. Мы не напісалі, што ён жорсткі, мы напісалі, што ня знойдзена прыкметаў жорсткасьці як псыхалягічнай уласьцівасьці асобы, зьвязанай з атрыманьнем радасьці непасрэдна ад прычыненьня болю і шкоды людзям».

**— Ці правільна я зразумела з вашага заключэньня: праблема ня ў тым, што ён злы, праблема ў тым, што ён — ня добры? Праблема ня ў тым, што ён ненавідзіць, а ў тым, што ён ня любіць?**

**Мун:** «На маю думку, вашае бачаньне абсалютна слушнае».

(Яшчэ раз нагадаю паказаньні сьведкі Натальлі Каралёвай. Паводле яе, Канавалаў скардзіўся, што «яго ніхто ня любіць».

Таксама варта нагадаць допыт Канавалава ад 13 красавіка. Канавалаў адмовіўся адказваць на пытаньне кіраўніка сьледчай групы Шведа, ці не шкада яму было дзяцей і жанчын, якія маглі загінуць ад выбуху ў мэтро. Праз некалькі хвілін Канавалаў адказаў «не» на пытаньне, ці не зьбіраўся ён завесьці сваю сям'ю. Тлумачыць, чаму не зьбіраўся, адмовіўся.

Цікавымі былі паказаньні школьных сяброў Канавалава.

Сьведка Ігар Баранок са школьных часоў ведаў абодвух, Канавалава і Кавалёва. Канавалава нават лепш, бо сядзеў зь ім за адной партай у 10-й клясе.

Сказаў, што ў Канавалава добра ішла хімія, а вось з гуманітарнымі прадметамі было сярэдне. Адзначыў, што Канавалаў неканфліктны, не адасабляўся — «хадзіў на мерапрыемствы, як і ўсе». Што да пэтардаў і выбуховых пакетаў, сказаў, што гэтым займаліся ўсе.

Сьведка Дзьмітрый Гайдукоў пра Кавалёва сказаў, што той больш кантактны, а Канавалаў больш замкнёны. Згадаў, як падчас паездкі на пікнік у лес зрабіў саматужны фаервэрк. Паводле сьведкі, Канавалаў лепш за ўсіх у клясе ведаў хімію, можа, нават лепш за настаўніцу, але пры гэтым не дэманстраваў сваіх ведаў. Паводзіўся спакойна, ні з кім не канфліктаваў і ня біўся.

Яшчэ адзін аднаклясьнік, Павал Нікіценка, пацьвердзіў, што падчас паездкі на шашлыкі Канавалаў зрабіў добры фаервэрк, але падрабязнасьцяў таго дня ня памятае, бо шмат выпіў сьпіртнога. — *А. Г.*)

## XIX. Судзьдзі і сакратаркі

Гаворка пойдзе пра ўнутраныя парадкі ў беларускіх судах. Гэтыя парадкі — безумоўна, адлюстраваньне і таго, як выконваецца правасудзьдзе, што пры гэтым галоўнае: закон ці тэлефонны званок начальніка?

Супрацоўніца суду ўзяла журналісцкае пасьведчаньне і запісала прозьвішча ў сьпіс, які ляжаў перад ёю на стале. Працэдура нагадала мне рэгістрацыю перад выбарамі. Але з той розьніцай, што замест «вучылкі» з начосам перада мной была прыгажуня з бэджыкам «Валерыя» на моднай сукенцы. А яшчэ замест кабінкі для галасаваньня пасьля «рамкі» і вобшуку чакала заля з жалезнай клеткай на сцэне. Кожны ўваход туды суправаджаўся боязьзю, што зазьвініць трэці званок, а ты не пасьпееш заняць месца. Спускаюся па рэдкіх шырокіх прыступках, і тэатральныя эмоцыі зьмяняюцца турэмнымі. Канавалава і Кавалёва ўжо прывялі. Працэс вось-вось адновіцца.

У той дзень чакаўся агляд рэчавых доказаў, пра што сьведчыла, сярод іншага, новая расстаноўка сталоў на сцэне. У прыватнасьці, стол запасных сяброў калегіі адсунулі зусім убок, а на ягоным месцы выставілі скрыні з рэштакмі бомбаў, адзеньнем абвінавачаных, ашчэпкамі і гайкамі, посудам з падвалу Канавалава ды іншым. Дэманстрацыю рэчавых доказаў праводзіў асабіста судзьдзя Аляксандар Федарцоў. У чорнай судовай мантыі, у белых гумовых пальчатках на даўгіх далонях, якія ён спрытна запускаў у кардонную скрыню, судзьдзя

быў падобны да фокусьніка, які забаўляе публіку паміж паветранымі гімнастамі і дрэсіраванымі драпежнікамі. Хоп — і «гайка са сьлядамі ўзьдзеяньня на мэтал», а потым хоп — «кавалак абпаленай плястмасы шэрага колеру». Здаецца, судзьдзя прадбачыў такую алегорыю і таму трымаўся яшчэ больш сур’ёзна, чым раней. Трэба аддаць спадару Федарцову належнае: і на авансцэне ён ні на сэкунду ня траціў кантролю над заляй. Аднаго разу я толькі прыўзьняў руку, намякаючы, што не пасьпеў разгледзець чарговы прадмет, як судзьдзя імгненна спыніўся і прадэманстраваў рэч паўторна. Сярод іншага публіцы паказалі і адзежу абвінавачаных, у тым ліку чорную куртку Канавалава з чырвонай стужкай на каўняры і ягоныя чорныя, з абвіслымі каленкамі, штаны. Паказаўшы гэтыя рэчы, судзьдзя адразу зьмяніў пальчаткі.

...Ужо пасьля працэсу, на вуліцы Леніна, каля сапраўднага будынка Вярхоўнага суду, я выпадкова сустрэў Аляксандра Федарцова. Судзьдзя ішоў насустрач не адзін — побач бегла маленькая дзяўчынка, магчыма, унучка. Дагэтуль я бачыў толькі, як Федарцоў сядзіць на чале судовага «трыюмвірату» альбо ідзе па сцэне са стосам тамоў справы ў руках. Тут ён нёс пакунак зь дзіцячымі рэчамі і бесклапотна ім памахваў. Мы абмяняліся позіркамі. Я ўсьлед падумаў: а якая ноша была цяжэйшая?

Перафармулюю пытаньне: ці цяжка быць беларускім судзьдзём, у якога да ўсіх звычайных крытэраў працы дадаўся і такі — уключаць у сьпіс неўязных у краіны Эўразьвязу і ЗША ці не? З фармальнага пункту гледжаньня — якая розьніца? Ну, не паедзе судзьдзя ў Вільню на закупы ці ў Гішпанію

на адпачынак, але ж Масква і Турцыя не закрытыя. Калі ласка, едзь сабе. Аднак у глыбіні душы кожны з нас прагне ня толькі грошай за сваю працу, але і павагі, хаця б увагі дзяцей, а яшчэ больш — унукаў. Каб вось тая ўнучка, што бегла побач, не саромелася дзеда, калі вырасьце, а ганарылася ім.

Не судзіце, каб і вас не судзілі. Ну, так. Толькі, скажа спадар Федарцоў (і будзе мець рацыю), камусьці трэба браць на сябе і гэты цяжар ды несьці яго да скону. Тэлефоннае права, пра якое мы часта гаворым адносна судовай сыстэмы ў Беларусі, я перакананы, усё роўна не адмяняе асабістага выбару судзьдзі ў пэўнай сытуацыі. Для мяне гэта значыць, што ўчорашні фігурант сьпісу неўязных сёньня цалкам можа прыняць мужнае і законнае судовае рашэньне. Аляксандар Федарцоў вёў працэс даволі дэмакратычна, але часам, на маю думку, ён быў няроўны. Так я падумаў, прыкладам, пасьля ягоных заўвагаў адвакату Станіславу Абразею, які абараняў Кавалёва. Некалькі разоў судзьдзя пераходзіў на павышаны тон і ўрэшце нават зрабіў адвакату заўвагу. Але тут прычынай магло быць тое, што адвакат Кавалёва сам быў добра прычэпісты. Больш заяўляў хадайніцтваў, задаваў больш пытаньняў. Што праўда, часам і паўтараўся, за што і атрымліваў ад судзьдзі. У любым выпадку на працу Дзьмітрыя Лепрэтара, абаронцы Канавалава, судзьдзя рэагаваў раўней.

Падрабязьней на працы адвакатаў спынюся пазьней, а пакуль вернемся да судзьдзяў. За апошнія гады я заўважыў, што прадстаўнікі гэтай прафэсіі зрабіліся больш... паважныя, салідныя, на бюракратычнай мове гэта гучыць як «павысіўся іх статус». Кажуць, што і заробкі судзьдзяў істотна

павысіліся. Але з павышэньнем асабістага статусу судзьдзяў падупаў, прынамсі ў вачах шмат каго, агульны аўтарытэт судоў, разладзіўся іх унутраны парадак, не паўстае вобраз суду як высокамаральнай і інтэлектуальнай установы. Мяркую найперш па паводзінах шараговых супрацоўнікаў. Гэтыя паводзіны, як лякмусавая паперка, сьведчаць пра норавы начальства.

Ёсьць такі асобны клан сярод гэтых супрацоўнікаў — сакратары судзьдзяў. Калі назіральнікі лічаць, што гэта звычайныя шарагоўцы, абавязак якіх — толькі натаваць і адказваць на званкі, яны сур’ёзна памыляюцца. Сакратар — гэта найбліжэйшы памочнік, які ня толькі вядзе запісы на працэсе, але і рыхтуе судовыя дакумэнты й выконвае іншыя вельмі важныя функцыі. У выніку сакратар часта робіцца другім «я» судзьдзі, яго рэальным намесьнікам, а то і суўдзельнікам.

Ня раз я назіраў, як сакратаркі «ратуюць» сваіх гаспадароў. Пасьля 19 сьнежня гэта была тыповая карціна. Бацькі арыштаванага хлопца спрабуюць даведацца, дзе будуць судзіць іх дзіця, бо хочуць прысутнічаць на працэсе. «Тут, тут, вас паклічуць, чакайце», — кажа мілая сакратарка і выходзіць з прыёмнага пакоя з ключом і тэчкай у руках. За ёй праз хвіліну выходзіць і замыкае дзьверы судзьдзя. Быццам па сваіх справах, безь ніякіх дакумэнтаў. Яшчэ праз хвіліну ў іншым кабінэце пачынаецца працэс. Атрымайце 15 сутак і расьпішыцеся!

Ад сакратарак шмат залежыць, яны сапраўды шмат робяць — а чаго так стараюцца? Паводле маіх назіраньняў, сакратары — гэта кадравыя рэзэрвы судзейскай прафэсіі. У канцы 90-х у Ленінскім судзе Менску праходзіў працэс над вядомым

прадпрымальнікам і былым дэпутатам Андрэем Клімавым. Працэс быў доўгі, разьбіраліся, колькі тысяч цаглін прыпісалі на будоўлі дома, які ўзводзіла фірма дэпутата Клімава. Пакуль разьбіраліся, сакратар суду зацяжарала. Перад прысудам яе ўрачыста адпраўлялі ў дэкрэтны адпачынак, нават Клімаў з лавы падсудных пажадаў посьпехаў. Як у ваду глядзеў. Сам потым зазнаў яшчэ два суды і тры тэрміны, а сакратарка пасьля дэкрэтнага стала судзьдзёй. І цяпер працуе ў гэтай якасьці.

Наколькі мне вядома, шмат хто з судовых сакратароў вучыцца на юрыдычным і марыць стаць судзьдзёй. У іх шанцаў, што гэта атрымаецца, вядома, больш, чым у простага чалавека з вуліцы. Але ў выніку мы ўжо маем, а далей будзем замацоўваць генэрацыю судзьдзяў, выхаваных на прыкладах сваіх непасрэдных начальнікаў. Для мяне гэтыя прыклады, калі меркаваць па вялікім сьпісе невыязных, даволі сумнеўныя.

А ў астатнім сакратаркі судоў — сама дасканаласьць і паказ мод. У Палацы правасудзьдзя ў калідоры некаторыя калегі шыю скруцілі, праводзячы позіркам то адну, то другую кабетку. Па керамічнай падлозе яны ходзяць выключна на дзесяцісантымэтровых шпільках, нават зімой не мяняюць модныя батыльёны на нізкі абцас. Чачотка гучыць у калідоры — галава баліць. Спадніцы пад такія абцасы, канечне, надзяваюць толькі кароткія — іншых у судах на сакратарках не бывае. Ну, магчыма толькі ў Вярхоўным судзе маюць уяўленьне пра дзелавы дрэс-код і яго прытрымліваюцца. На працэсе над тэрарыстамі ў гэтым сэнсе ўсё было больш-менш. Але ў раённых судах і нават менскім гарадзкім — поўная вольніца. Бесьперапыннае дэфіле.

Ці магчыма гэта неяк зьмяніць у цывілізаваны бок? Аднойчы на адміністрацыйным працэсе, які вяла судзьдзя Таццяна Паўлючук (цяпер неўязная ў краіны Эўразьвязу і ЗША), я не стрымаўся і зрабіў заўвагу адносна выгляду сакратара. Таццяна Паўлючук, мяркуючы па яе позірку ў адказ, у заўвагах ня мела патрэбы.

Але як на мяне, выгляд сакратарак сьведчыць ня столькі пра іх асаблівы статус: гэта паказчык кланавасьці, нават усёдазволенасьці найперш для судзьдзяў. «А нам усё роўна!» Разумею, нехта скажа, што ня трэба перабольшваць, тут гаворка толькі пра моладзевыя норавы і сэзонныя зьмены моды. Значыць, пакуль ня той сэзон.

Дарэчы, у судовых сакратарак некалькі гадоў таму зьявіліся сур’ёзныя канкурэнткі — судовыя выканаўцы, якіх таксама набіраюць у асноўным зь лепшай паловы чалавецтва. Гэтых ня менш прыгожых жанчын, аднак, адзелі ў ня вельмі прыгожую форму. Нейкую старамодную і занадта цёмную. Ці то праз гэта, ці то зь іншых прычын, але заўважна, што з сакратаркамі яны надта не кантактуюць.

На ганку Палаца правасудзьдзя ў канцы судовага дня заўсёды стаяла група судовых «выканальніц» — дымілі цыгарэтамі, як першыя ангельскія паравозы, і неяк насьцярожана пазіралі ў бок журналістаў з камэрамі, якія чакалі выхаду ўдзельнікаў працэсу. А раптам гэта іх здымуць і потым пакажуць на ўвесь сьвет? Але што здымаць і запісваць — хапала і бязь іх. Наперадзе быў прагляд цікавага відэа і камэнтары да яго.

## XX. Як Канавалаў сабраў бомбу

Паводле сьледзтва, добрае веданьне хіміі ў аб'ёме школьнай праграмы плюс прыродныя здольнасьці ў гэтай галіне і набыты ў юнацтве досьвед «узрыўпакетчыка» дапамаглі Дзьмітрыю Канавалаву вырабіць моцную выбухоўку, дастаткова трывалае дэтанацыйнае рэчыва і ўрэшце сабраць бомбы, якія маглі ўзрывацца праз зададзены час ці на адлегласьці некалькі дзясяткаў мэтраў ад таго, хто ініцыюе выбух.

Якія доказы гэтаму прадставіла сьледзтва і як яны былі вывучаныя ў судзе?

Мы ўжо згадвалі, што ў Канавалава знайшлі сшытак і два аркушы паперы з запісамі і схемамі пра выбухоўку і бомбу, а экспэртыза пацьвердзіла, што, па-першае, запісы былі зробленыя рукой Канавалава, а па-другое, паводле гэтых запісаў сапраўды можна было зрабіць выбухоўку і сабраць бомбу. І што так і было зроблена (некаторыя адрозьненьні, аднак, экспэртыза зафіксавала).

Канавалаў у судзе прызнаў сябе вінаватым у тэрактах 2008 і 2011 гадоў, але даваць паказаньні адмовіўся. Ці азначае гэта, што ён абверг прызнальныя паказаньні, якія даваў падчас папярэдняга сьледзтва? Вернемся да гэтых паказаньняў. Зь іх вынікае наступнае.

Канавалаў вырабляў выбухоўку самастойна.

Месцам вырабу выбухоўкі і бомбаў быў ягоны падвал, адмыслова прыстасаваны для гэтых мэтаў.

Хімічныя рэчывы для выбухоўкі ён набываў у

адкрытым продажы ці на чорным рынку. Тратыл набыў у Кавалёва.

Канавалаў плянаваў узарваць бомбу ў мэтро ў траўні ці пазьней, але праз тое, што яго выклікалі позвай для здаваньня адбіткаў пальцаў, зьмяніў пляны і тэрмінова пачаў вырабляць бомбу. Прыход да яго раніцай 9 красавіка міліцыянтаў прымусіў яго яшчэ прысьпешыцца. Назаўтра Канавалаў выправіўся з бомбай у Менск.

У якасьці паражальных элемэнтаў Канавалаў выкарыстаў шарыкі, цьвікі, ролікі і нарэзаныя «баўгаркай» кавалкі арматуры.

Праводзіў выпрабаваньні выбуховых рэчываў і дыстанцыйнай бомбы малой магутнасьці, а таксама праз выпрабаваньне дасьледаваў асаблівасьці разьлёту ашчэпкаў бомбы.

Тратыл для бомбы 2008 году Канавалаў узяў у Кавалёва, які гэта пацьвердзіў і патлумачыў, што ў сваю чаргу набыў гэтую выбухоўку ў Куксёнка.

Якія доказы гэтага былі прадстаўленыя суду?

На сьледчым экспэрымэнце 20 красавіка Канавалаў прадэманстраваў, як і з чаго сабраў бомбу. На допытах падрабязна апісаў, як і з чаго вырабляў выбухоўку, у тым ліку дэтанацыйнае рэчыва, так званую «кісу» — трыперакіс ацэтону. Экспэртыза пацьвердзіла, што так сапраўды можна зрабіць выбухоўку і бомбу.

Таксама экспэртыза пацьвердзіла, што канструкцыя бомбы 2008 году, на якой былі знойдзеныя адбіткі пальцаў Канавалава, збольшага адпавядае запісам Канавалава, якія знайшлі ў ягоным падвале. Прыпой у бомбе 2005 году супадае з прыпоем, знойдзеным у падвале Канавалава. Абрэзкі арматуры, якія знайшлі на месцы тэракту ў мэтро, вырабле-

ныя з мэталу, роднаснага знойдзенаму ў падвале Канавалава. Паводле экспэртаў, арматура была нарэзана пілой «баўгарка», якая належала брату Канавалава Аляксандру і захоўвалася ў падвале Дзьмітрыя Канавалава.

Хімічныя рэчывы, якія знайшлі ў падвале Канавалава, супадаюць з рэчывамі, неабходнымі, каб вырабіць выбухоўку.

На відэа з фотаапарату Канавалава зьняты палец Канавалава. Паказаньнямі Кавалёва і сьведкі-машыніста пацьверджана, што выпрабаваньні адбываліся каля станцыі Грышаны. Агляд месца выпрабаваньня засьведчыў наяўнасьць варонкі і сьлядоў выбухаў на дрэве. Кавалкі трубы, знойдзенай на месцы выпрабаваньняў, роднасныя трубе, знойдзенай у падвале Канавалава, вырашылі экспэрты. На сьледчым экспэрымэнце Канавалаў прадэманстраваў, як ён дасьледаваў асаблівасьці разьлёту ашчэпкаў бомбы.

На сьледзтве Кавалёў паведаміў і потым пацьвердзіў у судзе, што набыў у сьведкі Куксёнка тратыл і перадаў яго Канавалаву. Гэтыя паказаньні Кавалёва пацьвердзіў на сьледзтве і Канавалаў. Паводле экспэртаў, кавалкі скотчу з бомбы 2008 году, якую сабраў Канавалаў і якая не разарвалася на газоне праспэкту Пераможцаў з боку гатэля «Плянэта», і кавалкі скотчу, знойдзенага ў падвале Канавалава, да разрыву былі адной стужкай. Паводле сьледчых пракуратуры, у падвале Канавалава знайшлі пальчаткі і маску, на якіх захаваліся адбіткі ягоных пальцаў.

### *Экспэрты Інтэрполу пацьвердзілі, што на бомбе 2008 году былі адбіткі пальцаў Канавалава*

Пра гэта 6 лютага 2012 году паведаміла БелТА са спасылкай на начальніка Нацыянальнага цэнтральнага бюро Інтэрполу ў Беларусі Аляксандра Петрана.

«Начальнік НЦБ патлумачыў, што на наступны дзень пасьля тэракту 2008 году ў Менску ў генэральны сакратарыят Інтэрполу былі накіраваныя сьляды пальцаў тады яшчэ меркаванага злачынцы. Гэта менавіта тыя адбіткі, якія знайшлі ўнутры выбуховага прыстасаваньня, што не спрацавала. Пазьней — у 2011 годзе — яны супалі з адбіткамі пальцаў Канавалава. «Аналіз праводзіўся і ў нас, і ў Інтэрполе і даў адзін і той жа вынік», — паведаміў Аляксандар Петран. Ён дадаў, што ў Інтэрпол былі накіраваныя ня толькі адбіткі, але і генатыпаскапічная інфармацыя. Акрамя таго, пасьля эпізоду 2008 году замежныя калегі аказалі вялікую дапамогу ў справе аналізу канструкцыі выбуховага прыстасаваньня. Таксама пасьля выбуху 2011 году Інтэрпол дапамог у першы ж дзень пасьля тэракту атрымаць палепшаны фотаздымак злачынцы. У генэральны сакратарыят глябальнай паліцэйскай арганізацыі былі адпраўленыя кадры з камэраў вонкавага назіраньня, усталяваных у цэнтры Менску непадалёк ад уваходу на станцыю мэтро «Кастрычніцкая».

***Прэсавая канфэрэнцыя прадстаўнікоў Генэральнай пракуратуры, КДБ, МУС і Сьледчага камітэту адносна вынясеньня Вярхоўным судом РБ сьмяротнага прысуду Дз. Канавалаву і Ў. Кавалёву***
*02.12.2011*

**Журналісты:** Як выйшлі на Канавалава?

**Алег Пякарскі, першы намесьнік кіраўніка МУС**: «Калі вы зьвярнулі ўвагу, то ён зайшоў на станцыю мэтро «Фрунзенская» ня з боку грамадзкага транспарту, а там, дзе забароненыя прыпынкі таксі і ўсіх маршрутак. Была зробленая звычайная выснова: чалавек з такой вагой ня мог перасоўвацца дастаткова далёка. Было прынятае рашэньне спэцыяльным супрацоўнікам правесьці вышуковыя мерапрыемствы. Мы падрыхтавалі больш за 10 тысяч фатаздымкаў, каб прыцягнуць грамадзкасьць да пошуку гэтай асобы, але прафэсіяналізм спэцслужбаў дазволіў затрымаць яго праз 27 гадзін. Мы б не змаглі вылічыць адрас, калі б чалавек ня выйшаў на вуліцу.

Усё было дастаткова банальна. Пасьля зьдзяйсьненьня злачынства яны проста пілі гарэлку, ім не хапіла, Канавалаў вырашыў купіць яшчэ. І вярнуўся, зноў-такі, «на адрас». Было прынятае рашэньне ісьці туды. Безумоўна, ужылі фізычную сілу, бо была пагроза магчымага паўторнага выбуху. А ўсе размовы пра тое, што міліцыя яго быццам зьбівала… рабіць гэта нам не было патрэбы, бо ён будзе пакараны праз суд. У сераду, 13 красавіка, мы хацелі зьвярнуцца да ўсіх і паказаць гэты фатаздымак (дэманструе здымак, на якім меркаваны тэрарыст ідзе па вуліцы. — *А. Г.*), але змаглі затрымаць яго

самі 12 красавіка. Яго знайшлі спэцыяльныя супрацоўнікі, якія ў вялікім натоўпе могуць вылічыць пэўнага чалавека паводле прыкметаў. Але, на жаль, мы іх ніколі ня ўбачым».

### *З матэрыялаў справы, агалошаных у судзе*

Што стала вядома ў судзе пра ўжываньне фізычнай сілы супраць Канавалава і Кавалёва?

На допыце 28 красавіка Дзьмітрый Канавалаў заявіў, што адразу пасьля затрыманьня супраць яго ўжывалі сілу. Дзеля чаго? «Каб даў паказаньні». Паводле Канавалава, яго зьбівалі два супрацоўнікі. Апісаў аднаго зь іх: ростам пад 1 мэтар 80 сантымэтраў, у чорным швэдры. Другога не запомніў. Білі па галаве кулакамі, рабілі «ластаўку» — зьвязвалі за сьпінай рукі з нагамі і клалі на крэсла. У выніку ён «узяў» на сябе выбухі 2005 году ў Віцебску, якіх не рабіў. Адкуль яму вядомыя падрабязнасьці пра гэтыя выбухі? Чытаў у газэтах, у прыватнасьці ў «Камсамолцы», а пэўную інфармацыю атрымаў, калі да бацькі ў 2005 годзе прыходзілі міліцыянты і задавалі пытаньні пра часткі ад гадзіньнікаў, знойдзеныя на месцы выбуху. Сьледчы задаў рэзоннае пытаньне: чаму ён пра гэта не казаў раней, у прыватнасьці на допыце 17 красавіка? Гэтага Канавалаў не патлумачыў, а толькі сказаў, што згадаў цяпер і вырашыў расказаць.

6 кастрычніка 2011 году на працэсе былі зачытаныя дадзеныя судова-мэдычных экспэртызаў Канавалава. Першы раз яго аглядалі 13 красавіка. Нагадаю, Канавалава і Кавалёва затрымалі каля 9-й вечара 12 красавіка, калі верыць першаму намесьніку міністра ўнутраных справаў Алегу Пя-

карскаму, які заявіў 2 сьнежня 2011, што на пошук тэрарыстаў хапіла 27 гадзін. Якія ж цялесныя пашкоджаньні знайшлі лекары ў Канавалава?

13 красавіка лекары СІЗА КДБ знайшлі ў Канавалава вострае рэсьпіраторнае захворваньне, прызнаўшы пры гэтым, што паводле стану здароўя яго можна ўтрымліваць у ізалятары. Сам Канавалаў сказаў, што скаргаў на здароўе ў яго няма.

Паводле маіх запісаў, наступным разам Канавалава аглядалі 25 красавіка. Тады ў яго знайшлі цялесныя пашкоджаньні. Канавалаў паведаміў лекарам, што быў у мэтро, куды прынасіў бомбу, і сказаў, што мог атрымаць пашкоджаньні падчас затрыманьня. Пасьля гэтага пашкоджаньняў яму не наносілі, запісана ў экспэртызе са словаў Канавалава.

У Канавалава знайшлі кровападцёкі на галёнцы, драпіны на сьпіне ў раёне лапаткі, на сьцягне і грудзях. Даўнасьць адных пашкоджаньняў вызначылі ў 1-2 дні, іншых — у тыдзень, паходжаньні — ад удару тупым прадметам, ступень — лёгкая. Гэтым разам Канавалаў скардзіўся, што яму млосна. Па выніках агляду лекары вырашылі, што перашкодаў для ўтрыманьня Канавалава ў ізалятары няма.

Да гэтага варта дадаць паказаньні Ўладзіслава Кавалёва на судзе, у якіх ён паведаміў, што ва Ўправе барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй, куды іх прывезьлі пасьля затрыманьня ўвечары 12 красавіка, знаходзячыся ў калідоры, чуў крыкі Канавалава, якога, як ён мяркуе, зьбівалі. Пра сябе Кавалёў сказаў, што супраць яго фізычнай сілы не ўжывалі.

Вядома, што разам з Канавалавым і Кавалёвым у той жа аддзел міліцыі прывезьлі Яну Пачыцкую.

Ці казала сьведка пра зьбіцьцё Канавалава? Не. Яна толькі сказала, што чула ў міліцыі, нібы Канавалаву зрабілася блага, і да яго выклікалі хуткую. Чаму яму зрабілася блага, ня ведае, больш нічога ня чула.

Дзяржаўны абвінаваўца Аляксей Стук заявіў у спрэчках, што Канавалава спэцыяльна не зьбівалі, іншых незаконных мераў узьдзеяньня ў дачыненьні да яго не выкарыстоўвалі, а цялесныя пашкоджаньні ён атрымаў у момант арышту супрацоўнікамі спэцаддзелу «Алмаз». Аляксей Стук спаслаўся на дадзеныя праверкі, якая праводзілася паводле скаргаў Канавалава на ўжываньне фізычнай сілы.

***З інтэрвію журналістам прадстаўнікоў Генпракуратуры, КДБ, МУС і Сьледчага камітэту ад 02.12.2011***

**— Ці можна вырабіць моцнае выбуховае прыстасаваньне ў падвале, дзе няма выцяжкі?**

**Віктар Вягера, першы намесьнік старшыні КДБ:** «Сёньня адкрый інтэрнэт — і знойдзеш там інструкцыю, як вырабіць «кісу». Ёсьць розныя тэхналёгіі. Калі «кіса» вырабляецца невялікімі партыямі, захоўваецца ў спэцыяльным растворы, то яе можна зрабіць і пакласьці, зрабіць і пакласьці. Тут няма ніякіх супярэчнасьцяў з хіміяй. Хоць у падвале, хоць у якім закрытым памяшканьні. Гэта магчыма».

**Экспэрт крыміналістычнага цэнтру МУС:** «Для вырабу гэтай выбухоўкі не патрабуецца спэцыяльнага абсталяваньня і ніякага спэцыяльнага посуду».

**— Чаму на рэчах Канавалава зь ягонага падвалу не было знойдзена ягоных адбіткаў пальцаў?**

**Экспэрт МУС:** «Нельга казаць, што яны не былі знойдзеныя. Было знойдзена шмат адбіткаў пальцаў, але толькі ў кіно ўсё раз — і супала. Па-першае, вы не забывайце, што гэта падвальнае памяшканьне. Па-другое, гэта пакункі рэактываў, якія не спрыяюць захаваньню сьлядоў пальцаў рук. Гэта дынамічныя сьляды, то бок мазкі, шматлікія накладкі адных адбіткаў на іншыя. Толькі зыходзячы з гэтых пазыцый не ўдалося ідэнтыфікаваць сьляды таго ці іншага чалавека».

**— Які матыў быў у Канавалава, акрамя «дэстабілізацыі грамадзкай абстаноўкі»?**

**Андрэй Швед, першы намесьнік старшыні Сьледчага камітэту:** «Матыў тут абсалютна зразумелы: чалавек супрацьпастаўляе сябе грамадзтву. Ён такім чынам спрабаваў самарэалізавацца. Мы вывучалі разьвіцьцё Канавалава пачынаючы зь дзіцячага садку, там ёсьць асаблівасьці. Ён сам не абвяргаў, што пакуты людзей прыносяць яму маральнае задавальненьне. У дадзенай сытуацыі адбылася сур’ёзная дэфармацыя асобы. Ён перайшоў мяжу і зрабіўся монстрам, якому ягоныя дзеяньні прыносяць радасьць. Іншага матыву тут я ня бачу».

**— Як патлумачыць, што ўвесь працэс Канавалаў быў да ўсяго абыякавы? Ці не давалі яму транквілізатары?**

**Андрэй Швед:** «Калі ўжо быць шчырым, то ў

СІЗА КДБ з Кавалёва і Канавалава проста пылінкі зьдзьмухвалі, а шэраг допытаў пераносілі праз тое, што адзін прыходзіў і казаў, нібы пераеў. Нават такое было. Гэта расказваецца, каб вы разумелі, у якіх умовах іх трымалі. Ніякага ціску на іх не рабілі».

**Віктар Вягера:** «Ніякіх рэчываў ім не давалі. Яны ўтрымліваліся ў СІЗА КДБ не ў адзіночных камэрах, а ў камэрах агульнага тыпу. Што да бясьпекі, то былі прынятыя беспрэцэдэнтныя захады, каб пазьбегнуць іх магчымага атручэньня. Харчы перадавалі ў запячатаных упакоўках, а адзеньне цалкам перамывалася і праходзіла тэрмічную апрацоўку. Клопат быў дастаткова сур'ёзны».

**— Ці ёсьць у Канавалава і Кавалёва заказчыкі?**

**Андрэй Швед:** «Не, і гэта стоадсоткавая ўпэўненасьць, якая грунтуецца на выніках праверкі сьледчай групы, вышуковых мерапрыемстваў. Ніхто за імі не стаіць. Ня трэба шукаць тут сэнсацыі, яе проста няма. Няма ніякіх сумневаў, што Канавалаў і Кавалёў — адзіночкі, якія такім чынам спрабавалі рэалізавацца ў жыцьці».

**— Чаму на адзеньні, скуры, валасах Канавалава ня знойдзена выбуховых рэчываў, калі ў момант выбуху ён быў у мэтро?**

**Экспэрт МУС:** «Каб знайсьці мікрачасьцінкі пасьля выбуху, адлегласьць мусіць быць прыкладна 2,5 мэтра. Вы самі бачылі на відэазапісе, на якой адлегласьці знаходзіўся Канавалаў. Тым больш што ён стаяў за рогам пераходу. Мы дасьледавалі ня толькі ягоныя рукі і адзеньне, але і што было пад пазногцямі, змывы з твару, вушныя ракавіны,

насавыя поласьці. Выбуховыя рэчывы, якія ім ужываліся, лёгка распускаюцца ў вадзе. Мінула дастаткова часу ад моманту вырабу і да затрыманьня Канавалава, каб гэтыя хімічныя рэчывы зьніклі. Тут ня трэба было нічога рабіць адмыслова. Дастаткова было памыць рукі і твар».

### *Дадзеныя экспэртызы адносна 46 белых таблетак, знойдзеных у Канавалава падчас затрыманьня*

Экспэртыза ад 7 ліпеня вызначыла, што гэта быў нітрыт натрыю — рэагент для вырабу брызантных рэчываў. Брызантнасьць — гэта здольнасьць рэчыва разбураць, ад францускага «briser» — разбураць.

## XXI. Беларускі сындром

Мянчук Сяргей Ханжанкоў, былы палітвязень, арыштаваны ў 1963 годзе і абвінавачаны ў намеры падарваць вежу, праз якую глушылі замежнае радыёвяшчаньне, у тым ліку і Радыё Свабода, сачыў за судовымі слуханьнямі ў справе Канавалава і Кавалёва.

***Яму няма пра што размаўляць***
*З інтэрвію зь Сяргеем Ханжанковым*
*Радыё Свабода, 31.12.2011*

**— Чаму Вас зацікавіў гэты судовы працэс? Вы знайшлі нейкія паралелі з Вашай справай 1963-га?**

— Амаль ніякай сувязі няма, проста сама па сабе гэтая справа цікавая, такога ў Беларусі яшчэ ніколі не было. Хоць, вядома, нейкі ўплыў зрабіла тое, што я сам калісьці праходзіў па такіх справах.

**— Ці складана Вам было трапіць у залю суду?**

— Я быў амаль на ўсіх паседжаньнях. Трапіць было вельмі проста, і гэта мяне зьдзівіла. Выдзелілі вельмі вялікую залю на 500 чалавек. У першы дзень з позвамі зьявіліся пацярпелыя, а потым прыходзіла па 10-20 чалавек.

**— А чаму? Столькі пацярпелых, сваякоў, толькі параненых у мэтро было больш за трыста…**

— Гэта, напэўна, такі беларускі сындром. Людзі ня вераць, што ім скажуць праўду, вось і ўсё.

**— Паводле аднаго з апытаньняў, толькі 21% грамадзян Беларусі верыць афіцыйнай вэрсіі. Вы належыце да большасьці ці да меншасьці?**

— Я належу да меншасьці з адной простай прычыны: я іншых вэрсіяў ня бачу. Так, у гэтай вэрсіі шмат супярэчнасьцяў, але я іх тлумачу непрафэсіяналізмам сьледзтва, суду і наагул усёй нашай сыстэмы, пачынаючы ад вышуковага сабакі, які ня можа тратыл унюхаць, канчаючы прэзыдэнтам, які зьяўляецца на месца выбуху і спыняе сьледчыя дзеяньні. Але я ня бачу нейкіх зразумелых, альтэрнатыўных вэрсіяў. Казаць, што Лукашэнка падарваў, — поўнае глупства. Казаць, што гэта барацьба нашых спэцслужбаў паміж сабой, — тое самае. А іншых вэрсіяў няма.

**— Вы згадалі розныя нестыкоўкі. У прыватнасьці, адвакат адзначаў дзіўны мантаж у запісе камэраў назіраньня.**

— Так, адвакат Кавалёва паказваў на прыкметы мантажу. Пракурор ад гэтага проста адмахваецца, хоць цалкам маглі б зладзіць экспэртызу і даказаць, быў там мантаж ці не было. Дзе трэба было б растлумачыць сытуацыю, яны проста кажуць: і так усё ясна. І ідуць далей.

**— Адвакат, які вывучаў відэазапісы, кажа пра падазрэньні, што ў арганізацыі тэракту ўдзельнічалі і іншыя людзі. Там відаць, як невядомыя праходзяць міма тэрарыста і аглядаюцца, раптам паварочваюцца.**

— А што гэта даказвае? Шмат ёсьць людзей, якія аглядаюцца. Гэта трэба было растлумачыць. Па-першае, трэба было сабраць усіх, хто ёсьць на запісах, не такая складаная задача. Гэтага зроблена не было. А самая галоўная праблема ў тым, што ня высьветленыя матывы. Калі прыняць афіцыйную вэрсію, што гэта зрабіў Канавалаў, то няўжо нельга было яго разгаварыць? Ён абышоўся казённай фразай: для дэстабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь. А калі ў яго пытаюць на судзе, навошта яму патрэбная была дэстабілізацыя, ён кажа, што ня будзе адказваць.

**— Як гэта растлумачыць?**

— Я, зыходзячы з вэрсіі, што гэта ён, тлумачу тым, што яму няма чаго сказаць. Маньяк. Яму цікава было падрываць, бачыць пакуты людзей, што ён будзе тлумачыць?

**— А якія-небудзь прыкметы раскаяньня ён паказваў?**

— Ніякіх абсалютна. Роўныя, спакойныя паводзіны. Ніводнага слова. Рэакцыя нармальная, не пад узьдзеяньнем нейкіх прэпаратаў. Да яго падыходзіць адвакат, ён устае, яны абменьваюцца парай словаў, і ён сядае. Усё, больш ён ніяк не ўдзельнічае.

**— Яшчэ адзін аргумэнт адваката — пра тое, што Канавалаў нібыта знаходзіўся недалёка ад месца выбуху, а ніякіх сьлядоў выбуховага рэчыва на ім няма.**

— Так, гэта таксама пытаньне, якога сьледзтва не растлумачыла. Цалкам можна было правесьці экспэрымэнты, сабраць сьляды ў іншых людзей.

Нічога зроблена не было. Паводле вэрсіі пракурора, Канавалаў націснуў кнопку і схаваўся ў тунэлі за бэтонную сьценку. Адтуль, маўляў, на яго нічога ня трапіла. Трэба ж было гэта даказаць, там жа ня толькі Канавалаў быў. Калі ласка, вазьміце іх вопратку, скажыце: бачыце, у іх таксама няма. Гэтага таксама не зрабілі.

**— А самае важнае, на Вашую думку, пытаньне пра матывы на судзе наагул не абмяркоўвалася…**

— Наагул. Канавалаў кажа: «Я не хачу адказваць», — і суд спакойна ідзе далей. І вось тут яшчэ адзін важны недагляд: іх фармальна накіроўвалі на псыхіятрычную экспэртызу, якая таксама адмахнулася нейкімі казённымі штампаванымі фразамі. Нічога гэтая экспэртыза не праясьніла.

**— А ён робіць уражаньне псыхічнага здаровага чалавека?**

— Збоку цяжка сказаць. Сядзіць чалавек і маўчыць, ні на кога не глядзіць. Кавалёў часам пазірае ў залю, там у яго маці, на пытаньні адказвае, а гэты — поўная абыякавасьць.

**— Але ўсё ж нешта Канавалаў сказаў: што хацеў дэстабілізаваць абстаноўку.**

— З самага пачатку, у першы дзень, калі быў допыт абвінавачаных, ён некалькі фразаў зь сябе выціснуў, у тым ліку пра тое, што гэта дзеля дэстабілізацыі сытуацыі ў Рэспубліцы Беларусь. А пасьля гэтага адмовіўся адказваць, і так увесь суд. (...) Ад усяго адмовіўся, сказаў, што не сустракаў свайго сябра на вакзале, і яны з торбай нікуды ня

ехалі. Адмовіўся — ну і добра. Ніякіх высьвятленьняў, удакладненьняў — нічога не было.

**— Калі выказаць здагадку, што Канавалаў — маньяк, то хто Кавалёў? Выпадковы сабутэльнік ці ўсё-ткі суўдзельнік?**

— Бязвольны сябар.

**— Ня ведаў пра ўсе пляны?**

— Раней казаў, што ведаў, цяпер кажа, што ні пра што ня ведаў і што нічога не было.

**— Вы староньні назіральнік, але ў суд прыходзілі пацярпелыя, сваякі загінулых, хай і нешматлікія. Якое ў іх склалася ўражаньне пра доказы віны?**

— З тых пацярпелых, якія прыходзілі на ўсе паседжаньні, ніхто ня верыць у афіцыйную вэрсію, таму і прыходзілі. Яны лавілі ўсе гэтыя нестыкоўкі. У апошні дзень на абвяшчэньне прысуду аднекуль назьбіралі цэлую залю. І калі выступаў пракурор, судзьдзя, калі прысуд абвясьцілі, гэтая група з дваццаці чалавек скандавала: «Ганьба!».

**— Гэта значыць, сваякі пацярпелых былі супраць сьмяротнага прысуду?**

— У асноўным так. Толькі ў першы дзень устаў адзін, відавочна на замову, і сказаў: я патрабую аднаму сьмерці і пажыцьцёвага зьняволеньня другому. Потым гэты чалавек не зьяўляўся.

**— Як адрэагавалі на прысуд абвінавачаныя?**

— Надзіва спакойна. Я ўжо не кажу пра Кана-

валава — поўная абыякавасьць, але нават Кавалёў, калі абвясьцілі сьмяротны вырак і ў залі пачаліся крыкі, прыставіў палец да вуснаў: маўляў, ня трэба. Мусіць, спадзяваўся, што прэзыдэнт яго памілуе.

**— Як бы Вы сфармулявалі галоўнае пытаньне, на якое суд ня даў адказу?**

— «Чаму ня высьветлілі матывы?» Вазьміце Брэйвіка ў Нарвэгіі, там жа дзьвесьце зь лішнім старонак псыхіятрычнай экспэртызы, а тут абсалютна нічога. Чаму гэта нікога не хвалюе? Вось маё галоўнае пытаньне.

**— Што найперш пераканала Вас у тым, што Канавалаў вінаваты ў тэракце ў мэтро?**

— Ягоная датычнасьць да тэракту 2008 году ў Менску, якая даказаная праз супадзеньне адбіткаў яго пальцаў з адбіткамі, знойдзенымі на бомбе 2008 году. Дарэчы, гэтыя адбіткі былі дасланыя ў Інтэрпол, а іх спэцыялістам мы можам давяраць. Ну, і ўсё астатняе, у тым ліку і тое, што адзіночка быў цалкам здольны зрабіць такую бомбу ў падвале. Гэта я кажу як чалавек, які сам калісьці зьбіраў бомбу і вырабляў выбухоўку. Плюс праведзеныя экспэртызы, плюс відэа. Канечне, па некаторых відэа ёсьць пытаньні. Ну, давайце адкінем тыя, дзе ёсьць сумневы, што гэта ён. Але адносна ўсіх астатніх сумнявацца не даводзіцца. Асабліва калі торбу нясуць разам з Кавалёвым. Там жа добра бачна, што гэта яны.

**— Вы дапускаеце, што яго маглі зьбіць у міліцыі? Хаця б адразу пасьля затрыманьня.**

— Так, гэта магло быць адназначна і хутчэй

за ўсё было. І зьбіцьцё, і «ластаўка». Прычым ня толькі ў міліцыі, але і ў СІЗА КДБ. Вядома, як там абыходзяцца з арыштантамі. Гэта цалкам у стылі нашых сілавікоў. Але чаму на наступных допытах, калі Канавалаў быў у лепшым стане, ён працягвае прызнаваць сваю віну? Ён нармальна сябе паводзіць, усё паказвае, прызнае. І потым, я ня веру, што яго маглі чымсьці запужаць, а потым узяць і прыгаварыць да расстрэлу. Разумею, за Сталіным было так, што чалавека зьбівалі, ён прызнаваў, яго пачыналі судзіць, ён адмаўляўся, тады рабілі перапынак і зноў зьбівалі, і чалавек ужо і на судзе ва ўсім прызнаваўся. Але ж першы раз спрабаваў на судзе апраўдацца. А тут мы гэтага ня бачылі. Ніводнай спробы адмовіцца ад былых прызнаньняў. Акрамя сваіх дзіцячых гульняў у Віцебску, ад якіх адмовіўся яшчэ на сьледзтве. Вось гэта ён адмаўляе, а ўсё астатняе — самае галоўнае — прызнае. Добра ведаючы, што яго расстраляюць не за тое, ад чаго адмаўляецца, а за тое, у чым прызнаецца.

Яшчэ ходзіць у народзе вэрсія, нібыта была дамоўленасьць, што ён прызнае, а яго потым выпусьцяць з пластычнай апэрацыяй. Гэта дзіцячы садок! Найперш не паверыць у такія абяцаньні той, каму іх будуць даваць. Ты ж разумны чалавек, хто табе можа даць такую гарантыю? Сёньня далі, а заўтра загадалі — і заб’юць, рука не задрыжыць. Суцэльнае глупства. А тое, што Канавалаў ні слова не сказаў у сваю абарону, мяне яшчэ раз пераконвае, што ён вінаваты. Яму проста няма пра што з намі размаўляць.

## XXII. Пульт і паражальныя элемэнты

Журналістка, якая, як і карэспандэнт «Свабоды», рэгулярна асьвятляла працэс над падазраванымі ў тэрарызьме, расказала, што недзе ў красавіку-траўні ў рэдакцыю званілі людзі, паведамлялі пра дзіўныя рэчы, якія адбываюцца на гарадзкіх звалках. Што там супрацоўнікі ў цывільным ачапляюць пэўны кавалак і нешта шукаюць цэлы дзень. Наступнага дня паўтараецца тое самае або пошукі пераносяцца на іншы ўчастак. Што гэта магло быць, ніхто ня ведае, але ў сьмецьці рыліся яўна не бамжы, бамжоў гэтыя «капальнікі», наадварот, адганялі.

Гэтая размова адбылася, калі ў судзе агаласілі зьвесткі пра пульт дыстанцыйнага падрыву бомбы, які выкарыстаў Канавалаў. Нагадаю, гэта быў пульт ад дыстанцыйнага званка «Космас», які Канавалаў крыху перарабіў, каб званок не гучаў, але імпульс ад яго ішоў на бомбу. Паводле Канавалава, менавіта гэты пульт, невялікую белую плястыкавую скрыначку, якая зьмяшчаецца на далоні, ён трымаў у кішэні курткі, калі падышоў цягнік. Дастаткова было, не дастаючы пульт, націснуць кнопку, каб раздаўся выбух.

А куды падзеўся пульт? Зразумела, што для злачынцы-тэрарыста захоўваць яго было ўсё роўна што забойцу захоўваць нож ці рабаўніку банку — панчоху зь дзіркамі для вачэй. Для сьледзтва ж, адпаведна, не было б больш жаданага рэчавага доказу, чым гэты пульт з «пальцамі» тэрарыста. Ды хаця б проста пульт, нават без адбіткаў.

Канавалаў на першых жа допытах у міліцыі

паведаміў, што пульт выкінуў, а на сьледчым экспэрымэнце 15 красавіка гэта пацьвердзіў. Але куды? Спачатку Канавалаў казаў, што ня памятае дакладна, але, здаецца, калі ішоў пасьля выбуху цераз Кастрычніцкую плошчу, пульт яшчэ быў зь ім. Нагадаю, маршрут Канавалава быў досыць пакручасты: са станцыі мэтро «Купалаўская» ён спусьціўся па вуліцы Карла Маркса да вуліцы Янкі Купалы, там зьвярнуў налева і дайшоў да праспэкту Незалежнасьці, перайшоў яго, падняўся да ўваходу ў мэтро каля Палаца прафсаюзаў, прайшоў цераз рог Кастрычніцкай плошчы за Палац Рэспублікі і дайшоў да скрыжаваньня вуліц Інтэрнацыянальнай і Энгельса. Але вернемся да сьледчага экспэрымэнту. Праз некалькі хвілін Канавалаў ужо ўпэўнена заявіў, што ў той момант пульт быў яшчэ зь ім, і згадаў, куды яго выкінуў — у сьметніцу каля ўваходу ў «Белсьвісбанк» на плошчы Свабоды.

У судзе паказалі відэа гэтага сьледчага экспэрымэнту. Як уначы 15 красавіка стомлены Канавалаў у суправаджэньні цэлага натоўпу людзей у цывільным, на ланцужку, прывязаным да ахоўніка, ідзе пазначаным вышэй маршрутам і дае ціхія, ледзь чутныя тлумачэньні. Заблытаўся на маршруце ён толькі ў канцы, калі падыходзіў да будынку «BelSwissBank». Філіял банку знаходзіцца ў будынку Менскай абласной управы прафсаюзаў (былы кляштар францішканаў) з боку плошчы Свабоды. У красавіку 2011 году суседні будынак царквы Сьвятога Духу, у якім разьмясьцілі дзіцячую філярмонію, яшчэ ня быў адноўлены, стаяў толькі яго фундамэнт, абгароджаны плотам. Канавалаў спачатку пайшоў да банку проста па вуліцы Энгельса, але калі выйшаў на плошчу Свабоды і

трапіў у драўляны тунэль вакол будоўлі філярмоніі, засумняваўся і вярнуўся да вуліцы Інтэрнацыянальнай. Там Дзьмітрый агледзеўся, пайшоў далей па Інтэрнацыянальнай уздоўж рэстарану «Фрэскі», павярнуў на плошчу Свабоды, дайшоў да наступнага рогу, зноў павярнуў направа і падышоў да банку. «Вось тут», — паказаў Канавалаў на сьметніцу.

Але мяркуючы па тым, што ў сьпісе рэчавых доказаў пульту дыстанцыйнага кіраваньня няма, яго так і не знайшлі, а журналісцкія вэрсіі пра тое, што менавіта пульт так упарта шукалі на звалках вакол Менску міліцыянты ў цывільным, засталіся вэрсіямі. Ёсьць думка, што ад пульту Канавалаў пазбавіўся раней, чым дайшоў да Кастрычніцкай плошчы. Так, у прыватнасьці, мяркуе неназваны суразмоўца агенцтва «Інтэрфакс-Захад», які ў лістападзе 2011 году, за некалькі дзён да абвяшчэньня прысуду, сам вызваўся пракамэнтаваць працэс супраць тэрарыстаў. Дарэчы, ён пацьвердзіў вэрсію пра пошукі пульту на адной з гарадзкіх звалак.

***«Ці быў у Канавалава «куратар»? Новая праўда пра тэракты»***
*«Інтэрфакс-Захад», 24.11.11*

Аўтарка, Юлія Качубей, акрэсьліла свайго суразмоўцу як «чалавека, блізкага да сьледзтва — ЧБС».

**— Чаму не знайшлі пульт, якім быў актывізаваны выбух у мэтро?**

**ЧБС:** «Канавалаў расказаў сьледзтву, што выкінуў пульт у сьметніцу ў раёне плошчы Свабоды. Праўда, некалькі разоў паказваў розныя бакі. Колькі

тон сьмецьця было перабрана на гарадзкой звалцы, колькі мабільнікаў, будзільнікаў было знойдзена! Але безвынікова. Хутчэй за ўсё, ён проста зьдзекаваўся. Мяркуючы па ягоным маршруце, пульт ён выкінуў у Сьвіслач. Потым па другім баку падняўся да Палаца Рэспублікі і нейкі час назіраў за тым, што адбываецца на плошчы, куды ўжо зьехаліся карэты хуткай дапамогі, МЧС, дзе ўжо ляжалі параненыя і забітыя. Вяртацца на месца злачынства характэрна для маньякаў».

**— Чаму ж Канавалаў не баяўся заўчаснага выбуху, дазваляючы таксісту даволі неахайна ставіць торбу з выбухоўкай у багажнік? Дый выбуховае прыстасаваньне, якое знайшлі ў 2008 годзе, людзі штурхалі нагамі. (Сьведкі Яўген Іванец і Руслан Якімовіч расказалі, як на сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці, нецьвярозыя, знайшлі на газоне пакет ад соку, у якім апынулася бомба. «Зачапіў нагой», — сказаў Іванец. — *А. Г.*)**

**ЧБС:** «А чаго яму баяцца? У мэтро ў яго ў бутлях была салетра, зьмяшаная з алюмініевай пудрай ды іншымі кампанэнтамі. Ён мог хоць з 9 паверху кінуць гэтую торбу, у агонь кідаць — хіба што заіскрыла б.

Гэта брызантнае выбуховае рэчыва, якое само не ўзарвецца. Яго трэба ініцыяваць, то бок патрэбны маленькі выбух, каб пайшла ланцуговая рэакцыя. Менавіта дзеля гэтага і патрэбны быў дэтанатар з трыперакісу ацэтону. Калі дэтанатар не актывізаваны, яму таксама нічога не пагражае.

У 2008 годзе прыстасаваньне зь вялікай колькасьцю трыперакісу ацэтону хіба што не падбівалі

нагой. Сьвежы трыперакіс — вельмі ўстойлівае рэчыва. Тое, што апошнім часам пішуць пра «кісу», не зусім адпавядае рэчаіснасьці. Яе выбуховая небясьпека расьце толькі з часам».

### *Паражальныя элемэнты*

У бомбах 2005 году Канавалаў у якасьці паражальных элемэнтаў выкарыстаў шрубы, на некаторых зь якіх была белая фарба. Экспэртыза вызначыла, што шрубы, якія знайшлі ў ягоным падвале, мелі на сабе такую ж фарбу. Таксама ў якасьці паражальныя элемэнты былі выкарыстаныя ножкі ад будзільнікаў маркі «Сэвані». З матэрыялаў справы вядома, што да бацькі Канавалава прыходзілі міліцыянты зь percatrusам як да гадзіньнікавага майстра, але датычнасьць Канавалава-старэйшага да віцебскіх выбухаў 2005 году даказаная не была. Кавалак прыпою ад бомбы, які дасталі зь цела аднаго з пацярпелых ад выбуху 2005 году, аказаўся аналягічным прыпою, які ў 2011 годзе знайшлі ў падвале Канавалава.

У бомбах 2008 году ў якасьці паражальных элемэнтаў Канавалаў выкарыстаў гайкі. На сьледчым экспэрымэнце Дзьмітрый паказаў, як сабраў гэтую бомбу і як уклаў у яе пакет з гайкамі, якімі, паводле экспэртызы, былі параненыя пацярпелыя ад выбуху на праспэкце Пераможцаў. Экспэртыза вызначыла, што такія ж гайкі былі знойдзеныя ў падвале Канавалава.

Бомбу 2011 году, паводле паказаньняў, Канавалаў начыніў цьвікамі, ролікамі ад падшыпнікаў, шарыкамі і нарэзкамі стрыжняў арматуры. Тыя, хто загінуў, атрымалі раненьні, як сказана ў экс-

пэртызе, ад розных фактараў. Сярод іх — ашчэпкі бомбы, кавалкі лаўкі, кавалкі бэтону, апёкі, разрыў тканак і адрыў частак цела з прычыны блізкасьці да бомбы, мэталічныя шарыкі, выбуховая хваля, сумежны ўдары. У целах двух загінулых (Сяргея С. і Анатоля Н.) знайшлі мэталічныя шарыкі.

У прысудзе пра дзеяньне паражальных элемэнтаў падчас тэракту 2011 году сказана наступнае (акрамя ўжо цытаваных вытрымак).

**Прысуд, с. 74.** *«Згодна з высновамі судова-мэдычных экспэртаў, сьмерць пацярпелых Абражэй Н. В., Бакана В. С., Герасімчыка С. А., Дайнекі В. В., Захарковай Т. І., Ільіна А. У., Капцюха Р. В., Клімца Ю. А., Макейчыка А. І., Наркевіча А. У., Парфунцава А. Я., Пікулік Г. І., Сярбаева С. У., Салаўёвай В. Э., Шагойкі Г. В. наступіла ад цяжкіх цялесных пашкоджаньняў, атрыманых ў выніку выбуху ў мэтро.*

*З заключэньняў судова-мэдычных экспэртызаў таксама вынікае, што характар, лякалізацыя і ўзаемнае разьмяшчэньне цялесных пашкоджаньняў (у тым ліку наяўнасьць раневых каналаў з заглыбленьнем іншародных целаў), сьляды дзеяньня выбуховых газаў сьведчаць, што цялесныя пашкоджаньні ў загінулых маглі ўтварыцца ў выніку ўзьдзеяньня паражальных фактараў выбуху».*

**Прысуд, с. 77.** *«З пратаколаў агляду месца здарэньня (станцыя Менскага мэтрапалітэну «Кастрычніцкая») і ўчасткаў прылеглай мясцовасьці, агляду прадметаў, узятых зь месца здарэньня, бачна, што на станцыі мэтро ў выніку выбуху ёсьць пашкоджаньні і разбурэньні канструктыўных элемэнтаў станцыі, варонка ў падлозе, адзначаная*

*наяўнасьць мноства паражальных элемэнтаў (кавалкі арматуры, мэталічныя шарыкі).*

*Паводле пратаколу агляду, на другім вагоне цягніковага саставу №№ 10235-10236 ёсьць шматлікія пашкоджаньні, уласьцівыя для ўдарна-хвалевага ўзьдзеяньня на мэталічныя канструкцыі. Вонкавы выгляд дзірак і сколаў, якія ўтварыліся на вагоне, уласьцівы высокахуткаснаму ўдару паражальных элемэнтаў».*

**Прысуд, с. 86-87.** *«...Патлумачыў (Канавалаў. — А. Г.), што ён выкарыстоўваў у якасьці паражальных элемэнтаў ролікі цыліндрычнай формы, пра якія раней забыўся сказаць, бо іх было няшмат».*

***«Ці быў у Канавалава «куратар»? Новая праўда пра тэракты». Працяг***
*«Інтэрфакс-Захад», 24.11.11*

**— Ці ёсьць доказы, што ў мэтро выбухнула менавіта торба? І чаму ў целах загінулых і пацярпелых практычна не было паражальных элемэнтаў бомбы — гаек, шрубаў?**

**ЧБС:** «Сапраўды, відэа, якое пацьвярджае, што Канавалаў паставіў сваю торбу каля лавы і адышоў, няма — гэтыя некалькі мэтраў пэрону знаходзяцца па-за зонай ахопу камэраў назіраньня. Але ён прыйшоў на станцыю з торбай і сышоў бяз торбы. Хутчэй за ўсё, ён паставіў торбу побач з лавай і пачакаў цягніка — ягоныя суседзі на пэроне зьмяніліся, а тыя, хто падышоў пазьней, ужо маглі ўбачыць чалавека бяз торбы і торбу, што стаяла ля лавы, на якой, хутчэй за ўсё, сядзелі іншыя людзі.

Участак столі, пашкоджаны паражальнымі элемэнтамі, мае веерападобную форму. Ашчэпкі

пайшлі не ў людзей, што былі навокал, а ў столь. Гэта пацьвярджаецца матэрыяламі сьледзтва. Падчас сьледчага экспэрымэнту па вырабе прыстасаваньня, выкарыстанага 11 красавіка, Канавалаў адзначыў, што разьмясьціў паражальныя элемэнты ў торбе паўзьверх бутляў з выбухоўкай. А людзі гінулі і траўмаваліся ў асноўным ад баратраўмаў — хвалі высокага ціску і ашчэпкаў каменю, якім аздобленая станцыя мэтро.

А тое, што выбухнула менавіта торба, пацьверджана знойдзенымі падчас падрабязнага дасьледаваньня месца выбуху фрагмэнтамі — тканіна, маланка».

## XXIII. Пракуроры

Дзяржаўнае абвінавачаньне на працэсе прадстаўлялі намесьнік генэральнага пракурора Аляксей Стук, супрацоўнік вайсковай пракуратуры Аляксандар Мартынчык і супрацоўнік Генэральнай пракуратуры Дзьмітрый Цімафееў.

Аляксей Стук, высокі і статны, займаў месца ў цэнтры вялікага пракурорскага стала, як і належыць галоўнаму па званьні сярод прадстаўнікоў абвінавачаньня. Яму давялося часьцей за іншых браць слова, ён больш задаваў пытаньняў на допытах Кавалёва і сьведак, гэта зь ягоных вуснаў прагучала патрабаваньне пакараць сьмерцю абодвух абвінавачаных.

Падчас працэсу пракуроры адмаўляліся даваць інтэрвію, а пасьля суду на агульнай прэсавай канфэрэнцыі Аляксей Стук сумненьняў у справядлівасьці прысуду ня выказаў – і ня толькі таму, што пасада і роля вымагала.

У мяне ёсьць пэўныя падставы меркаваць, што і на працэсе намесьнік Генэральнага пракурора шчыра не сумняваўся, што Канавалаў учыніў тэракт, а Кавалёў яму дапамагаў. Патлумачу, чаму я так думаю.

Уявіце абед у Палацы правасудзьдзя. Звычайная сталоўка з буфэтам і раздачай, звычайная чарга людзей з падносамі, якія рухаюцца да касы, выбіраючы салаты, першую страву, другую, кампот ці каву-гарбату. На абед судзьдзя Федарцоў выдзяляў гадзіну, але яго самога ў сталоўцы я ня бачыў, а вось пракуроры, пацярпелыя, адвакаты, сьведкі,

ахоўнікі — усе таўкліся ў адной чарзе. Як і журналісты. Абвінавачаных, з нашых назіраньняў, кармілі прывезенымі абедамі, папярэдне пераводзячы з аднаго крыла будынка ў другое. Званок зь бюро засьпеў мяне з падносам, калі я атрымаў першую страву і чакаў другой. Трэба тэрмінова перадавацца. Не выходзячы з чаргі, надыктоўваю ў тэлефон вынікі ранішняга паседжаньня, тым часам набліжаючыся да касы. Раптам чую ад суседа справа: «Грузьдзіловіч, журфак, выпуск 1981 году? Вайсковыя зборы праходзілі ў Слоніме?» Сусед справа — Аляксей Стук. Толькі пасьля гэтай фразы пазнаю ў ім высокага хударлявага курсанта з узводу юрыстаў, зь якім на зборах дзяжурылі на кухні, разам абіралі бульбу для ўсёй роты. Трыццаць гадоў мінула ад апошняй сустрэчы. У майго знаёмага памяць на твары аказалася лепшай.

Першы і апошні раз за працэс мы абедалі за адным сталом. З журналісцкага пункту гледжаньня для мяне такая сустрэча была яшчэ і вялікай удачай, але па-чалавечы няёмка было адразу нешта выведваць пра справу. У кароткай размове згадалі «студэнцкае мінулае, баявых таварышаў». Мяне, аднак, больш цікавіў працэс, асабліва паводзіны Кавалёва. Як мне падалося, ён няўпэўнена адмаўляўся ад былых паказаньняў і даваў недастаткова лягічныя тлумачэньні сваіх паводзінаў 10–11 красавіка. Заўважу, што якраз да абеду ішоў допыт Кавалёва, і менавіта Аляксей Стук высьвятляў, калі Кавалёў казаў праўду — на допыце падчас сьледзтва або цяпер у судзе.

«Гэта не інтэрвію, — пачаў я асьцярожна, — проста заўважу, што Кавалёў гаворыць неяк няўпэўнена...» Далей я разьлічваў на паўзу, але Аляксей

Стук адказаў амаль імгненна. Зрабілася зразумела, што паводзіны Кавалёва яго неяк асабіста чапляюць. «Ніхто яго не прымушаў, ён сам усё расказаў раней за Канавалава! У тым ліку тое, пра што Канавалаў не казаў», — гэта амаль даслоўны адказ пракурора Аляксея Стука.

Пазьней на працэсе ад Аляксея Стука давялося чуць і пра тое, што Кавалёў расказваў сьледчым дэталі, якіх ён ня мог пачуць ад апэратыўнікаў на першых допытах. Маўляў, хлусіў, калі сьцьвярджаў, што яму надыктоўвалі паказаньні. І зноў у інтанацыі пракурора чулася нешта асабістае, як і тады, у сталоўцы. Было ўражаньне, што ня толькі Стук, але і ягоныя калегі Мартынчык і Цімафееў як да чалавека ставяцца да Кавалёва інакш, чым да Канавалава. Да апошняга — больш нэўтральна.

У адзін зь дзён, калі допыт Кавалёва прыпыніўся, я падышоў да Аляксея Стука з прапановай выказацца для нашага радыё — не па сутнасьці справы, бо да прысуду, зразумела, гэта немагчыма, а проста ахарактарызаваць абвінавачаных як асобаў. Адразу спадар Стук не адказаў «не», а абмежаваўся дыпляматычным «магчыма, пазьней». Падчас суду, аднак, размовы так і не адбылося. Ужо пасьля таго, як сьмяротны прысуд Канавалаву і Кавалёву быў выкананы, я зьвязаўся з прэсавай службай пракуратуры і папрасіў нагадаць Аляксею Стуку пра нашую гутарку наконт інтэрвію. Пазьней мне перадалі ад яго катэгарычнае «не».

Таму цяпер даводзіцца гадаць, сапраўды Кавалёва як чалавека за нешта незалюбілі пракуроры, а можа, і судзьдзя, ці мне гэта падалося. А калі так, то за што? Ці не за тое, што адмовіўся ад паказань-

няў? Можа, яны больш паважалі Канавалава, бо той не выкручваўся, не мяняў пазыцыі?

Цяжка ў гэтым разабрацца. Разумею, што шмат для каго з назіральнікаў якраз непрызнаньне віны — асноўны доказ невінаватасьці, а для ня меншай колькасьці іншых прызнаньне — асноўны доказ віны. «Чаму ён маўчыць, ня кажа, што невінаваты? Раз маўчыць, значыць, вінаваты», — даводзілася чуць камэнтары пацярпелых пасьля прысуду. А побач, на ганку суду, інтэрвію давала назіральніца: «Ён не прызнаў сябе вінаватым, ён адмовіўся ад паказаньняў, яны нічога не даказалі...»

У тым, што пракуроры ўсё ж жывыя людзі, а ня проста «заточаныя» на рэпрэсіі чыноўнікі, можна было цягам году пераканацца на любым з палітычных працэсаў. Пракуроры блыталіся, нэрваваліся. Магчыма, і спачувалі. Ці рабілі выгляд.

Адразу пасьля першага спатканьня Ірыны Халіп з мужам, кандыдатам на прэзыдэнта Андрэем Санькавым (гэта было ў траўні 2011 году, неўзабаве пасьля суду, побач з «Валадаркай»), я запісваў зь ёй відэаінтэрвію. Ірыну найбольш уразіў аповед мужа пра тое, як малады пракурор, які падтрымліваў у судзе абвінавачаньне, пасьля прысуду прыйшоў да яго ў «стакан» і выбачаўся, казаў, што яго прымусілі, а сам ён за Саньнікава нават галасаваў. Вось якія бываюць сярод пракурораў сарамлівыя вальнадумцы!

Цікавы мог бы быць кавалак у інтэрвію, аднак, параіўшыся, мы вырашылі яго не запісваць. Сэнсацыя сэнсацыяй, але раптам гэта пашкодзіць чалавеку... Што ў выніку? Празь нейкі час Ірыне ўсё ж давялося расказаць пра гэты выпадак. Малады пракурор на касацыі зноў гэтак жа рашуча

падтрымаў абвінавачаньне супраць Саньнікава, і захоўваць ягоную таямніцу ўсякая ахвота зьнікла. А можа, ён сам лічыць, што сваім перакананьням ня здраджваў? Ну, галасаваў за Саньнікава — і што? Гэта ж было да таго, як Саньнікаў, паводле суду, учыніў злачынства, а не пасьля. Чаго яму баяцца? Якія да яго могуць быць прэтэнзіі? У нас жа свабода палітычных поглядаў, толькі трэба ведаць час і месца.

Пра месца. На адным з паседжаньняў я са свайго шэрагу заўважыў, што матэрыялы справы ў некаторых тамах надрукаваныя на нейкай дзіўнай паперы. Гэта датычыла аркушаў, якія перагортваў вайсковы пракурор Аляксандар Мартынчык. Яны былі з адваротнага боку ня белыя, а нейкія жоўтазялёныя з чырвонымі лініямі. Абмен зьвесткамі ў «журналісцкай ложы» вывеў на разгадку: гэта былі вайсковыя мапы.

Аказваецца, дэталёвыя мапы краінаў Заходняй Эўропы, якіх тоны засталіся ў беларускім Генштабе ад былога савецкага войска, некалькі гадоў таму парэзалі на аркушы і дагэтуль выкарыстоўваюць у справаводзтве. Шмат іх было надрукавана: усё рыхтавалі кідок да Ля-Маншу, але ня выйшла. Затое мапавая папера аказалася вельмі прыдатнай для крымінальнага справаводзтва, у тым ліку па тэракце. Было ў гэтым нешта змрочна-сымбалічнае: тэрарызм, магчымая вайна з Эўропай...

Трэці пракурор, Дзьмітрый Цімафееў, запомніўся на працэсе сваімі лякантчнымі дакладнымі пытаньнямі — відаць было, што ён дасканала вывучыў шматтамовую крымінальную справу. Яшчэ я зьвярнуў увагу, што на ягоным сінім мундзіры

ўжо блішчэла некалькі значкаў ці нават ордэнаў, а з выгляду пракурор быў маладжавы.

У адзін зь дзён спадар Цімафееў зачытаў пратакол допыту Кавалёва на папярэднім сьледзтве ад 19 красавіка. На гэтым допыце Кавалёў расказаў пра сваіх знаёмых, якія выступалі за «чысьціню расы», называлі сябе правымі фанатамі, апраналіся як скінхэды. Кавалёў патлумачыў, што потым перастаў зь імі кантактаваць, але ў прадстаўнікоў пракуратуры цікавасьць да такіх дэталяў, як бачым, засталася. Гэтаксама не забылі яны агучыць допыт Дзьмітрыя Канавалава, на якім той паведаміў, што на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году галасаваў за Аляксандра Мілінкевіча.

Якое гэта мела дачыненьне да сутнасьці справы, засталося загадкай.

## XXIV. Роля Ўладзіслава Кавалёва

Уладзіслаў Кавалёў, 1986 году нараджэньня, у адрозьненьне ад свайго сябра Дзьмітрыя Канавалава, ад спробаў абараніцца ў судзе не адмовіўся і да апошняга паседжаньня спрабаваў аспрэчыць вэрсію сьледзтва адносна свайго ўдзелу ў тэракце ў мэтро ды іншых злачынствах.

Адразу Кавалёў прызнаў толькі незаконныя дзеяньні з выбухоўкай: што перадаў Канавалаву кавалак тратылу, які захоўваў у адмысловым месцы, а да таго набыў тратыл у дваровага сябра Куксёнка. А таксама прызнаў, што двойчы браў удзел ва ўзрываньні выбуховых пакетаў у пад'ездах жылых дамоў і ў выбуху на будынку бібліятэкі. Гэта было ў пачатку 2000-х, калі ён яшчэ вучыўся ў школе. Тыя ўчынкі Кавалёў назваў «бясшкоднымі падлеткавымі гульнямі».

Допыт Кавалёва ў судзе пачаўся 16 верасьня, на другі дзень працэсу. Кавалёў не пацьвердзіў ранейшых паказаньняў пра тое, што ён ведаў пра бомбу ў торбе, зь якой Канавалаў прыехаў у Менск 10 красавіка. Адмовіўся Ўладзіслаў і ад былых прызнаньняў: што прысутнічаў пры тым, як 11 красавіка Канавалаў падключаў драты да бомбы, зь якой потым пайшоў у мэтро, і што той крыху раней дэманстраваў яму пульт дыстанцыйнага падрыву бомбы й тлумачыў, як зь ім абыходзіцца. Кавалёў сьцьвярджаў, што да затрыманьня і першага допыту ў міліцыі нічога ня ведаў пра датычнасьць Канавалава да выбуху, дый цяпер у гэта ня верыць, лічыць, што сябар зь нейкай прычыны на сябе нагаворвае.

Пра свае ранейшыя паказаньні на сьледзтве (што ведаў пра бомбу і, хоць і мог, не перадухіліў тэракту) патлумачыў: мяне запалохалі сьледчыя.

«Сказалі, што ўсё роўна суд не паверыць, што я нічога ня ведаў, таму чым больш паведамлю, тым лепш для мяне. За неданясеньне ды іншае пагражае максымум 25 гадоў, а калі не прызнаюся, зробяць суўдзельнікам, намажуць лоб зялёнкай ды расстраляюць», — расказаў суду Кавалёў.

Тое, што Канавалаў прызнаваўся яму ў зьдзяйсьненьні тэракту ў ноч на 4 ліпеня 2008 году ў Менску і 12 ды 22 верасьня 2005 году ў Віцебску, Кавалёў таксама не пацьвердзіў.

Дзяржаўны абвінаваўца Аляксей Стук запытаў Кавалёва, чым канкрэтна пагражалі яму сьледчыя, што ён агаварыў сябе. «Пагражалі артыкулам, паводле якога прадугледжаная сьмяротная кара», — адказваў Кавалёў. Пракурор працягваў: «Ну і што? Вам жа і без таго інкрымінаваўся артыкул, паводле якога за пасобніцтва ў тэракце пагражае сьмерць. У чым тут пагроза? Яны мусілі гэта выставіць і выставілі супраць вас, а вы, калі гэтага не рабілі, мусілі не саступаць. Не дапамагаў і ўсё. Але вы ўсё прызналі. Чаму, калі вы не вінаватыя?»

Паводле Аляксея Стука, пра некаторыя падрабязнасьці Ўладзіслаў Кавалёў расказаў раней за Дзьмітрыя Канавалава. Так, ужо на першых допытах ён паведаміў пра колер вечка дыстанцыйнага пульту, якім Канавалаў падарваў бомбу ў мэтро. «Адкуль вы пра гэта маглі ведаць, калі раней ня бачылі пульту?» — запытаў у абвінавачанага Аляксей Стук. Кавалёў спаслаўся на сьледчых, якія яго дапытвалі. Маўляў, ад яго патрабавалі паведамляць больш дэталяў, вось ён пад дыктоўку і даў такія

паказаньні. Стук зноў не паверыў: «А адкуль гэта ведалі сьледчыя? Канавалаў, мяркуючы зь ягоных паказаньняў, пра гэта яшчэ не казаў, і сьледчыя не маглі ведаць, бо на той момант яшчэ не было дадзеных агляду месца тэракту і заключэньня экспэртаў пра знойдзеныя рэчы».

У адказ Кавалёў, як і раней, настойваў на тым, што спалохаўся.

Супастаўляючы паказаньні Кавалёва ў судзе і на сьледзтве, суд высьветліў яшчэ шмат момантаў. Так, на сьледзтве Кавалёў казаў, што калі на вакзале ўскідаў на плячо цяжкую торбу Канавалава, той яго спыніў, маўляў, «асьцярожна», і далей яны панесьлі торбу ўдвух. На судзе Кавалёў гэтыя паказаньні абверг. Маўляў, нічога сябар не казаў, проста сьцягнуў зь ягонага пляча торбу, і яны пайшлі, трымаючы яе кожны за сваю ручку. «Чаму? Ну, узвалілі вы на плячо гэтую торбу — і нясіце самі...» Кавалёў адказаў, што было цяжка. «А калі цяжка, няўжо не спыталіся, што ў торбе?» Паводле Кавалёва, ён нічога не распытваў, а проста дапамагаў сябру.

«Яшчэ адна дэталь, — працягваў пракурор. — Вось вы падыходзіце да падземнага пераходу, Канавалаў бярэ ў вас ваш мабільны тэлефон і набірае зь яго нумар агенцтва, каб арандаваць кватэру. У яго што, не было свайго мабільніка? Быў. З вамі зусім нядаўна празь яго размаўляў. Чаму ён бярэ ваш тэлефон і чаму вы яму яго даяце, каб ён званіў у агенцтва?» Кавалёў адказаў, што ня ведае. На пытаньне, ці дзяліўся Канавалаў плянамі на 11 красавіка, адказаў, што ня памятае.

***З псыхалягічнай характарыстыкі Ўладзіслава Кавалёва***

*Высокі ўзровень эмацыйнага інтэлекту; (...) здольны распазнаваць эмоцыі іншых людзей, разумець пачуцьці партнэраў па зносінах і суперажываць ім; добрая здольнасьць зразумець становішча іншага, уявіць сьвет вачыма іншага; эмацыйная ўстойлівасьць, уменьне кантраляваць свае эмоцыі і паводзіны, стрэсаўстойлівасьць.*

***«Псыхалягічны партрэт Канавалава падыдзе кожнаму другому беларусу». Працяг***
*Пытаньні да псыхоляга Людмілы Мун*

**— Кавалёў паводле ўзроўню інтэлекту (паводле тэсту Равэна IQ=114), эмацыйнага разьвіцьця значна вышэйшы. Дзіўна для суўдзельніка ў такім злачынстве.**

**Мун:** «Пры гэтым Кавалёў — няўпэўнены ў сабе чалавек, які вагаецца. Ён крыху наіўны і бязвольны. Ён ставіць плянкі, задае мэты, але рэалізаваць задачы ня можа. Канавалаў кажа: «Я хачу гэта», — і робіць гэта. А Кавалёў кажа: «Я хачу», — і на гэтым усё... Задачы ставіць умее, а выканаць ня можа».

***З псыхалягічнай характарыстыкі Ўладзіслава Кавалёва***

*Лёгка мяняе свой пункт гледжаньня; вылучаюцца агульныя мэты, але не канкрэтызуюцца спосабы іх дасягненьня; (...) неапраўданая пасьпешлівасьць у прыняцьці рашэньняў, ва ўчынках. Гатовы*

*адмовіцца ад уласных інтарэсаў, калі іншы чалавек мае над ім уладу.*

**— Мне падалося, што ў Кавалёва залежнасьць ад Канавалава. Хацеў спыніць кантакты, ня меў сувязі месяцамі, але адзін званок Канавалава — і Кавалёў пакідае размарожанае на вечар мяса разам з плянамі зарабіць мільён і робіцца ягоным суўдзельнікам?**

**Мун:** «Я думаю, тут прэвалюе іншы фактар. Любы чалавек, які перажыў далёкія і доўгія пераезды, ведае, што ў чужым горадзе кожнага знаёмага з свайго гораду ўспрымаеш як блізкага сябра. Гэтым можна патлумачыць тое, што калі Кавалёў прыяжджаў у Віцебск, яму не было патрэбы бачыцца з Канавалавым, а вось у Менску, у чужым горадзе, усё па-іншаму».

**— А Кавалёў баіцца сьмерці?**

**Мун:** «У мяне склалася ўражаньне, што ён нават ня думаў пра выключную меру. Ён выказваў упэўненасьць, што калі яму і дадуць тэрмін, то гадоў 10, і будаваў пляны на жыцьцё пасьля вызваленьня».

## *З характарыстыкі Ўладзіслава Кавалёва ў прысудзе*

**Прысуд, с. 91**. *«Характэрнымі асаблівасьцямі асобы Кавалёва Ў. Ю. ёсьць нявызначанасьць сваіх плянаў, схільнасьць да радыкалізму, патрэба ў незвычайных прыгодах, падзеях, вольнае стаўленьне да агульнапрынятых маральных правілаў і нормаў, схільнасьць да хлусьні. Кавалёў У. Ю. меў магчымасьць выбару розных варыянтаў дзеяньня,*

*быў здольны на кантроль і карэкцыю паводзінаў на кожным этапе. Ён вылучаецца скрытным, замкнёным характарам».*

***З допыту Ўладзіслава Кавалёва ў судзе 16 верасьня***

Пытаньні Кавалёву задавалі ня толькі прадстаўнікі пракуратуры і судзьдзя, але і пацярпелыя. Ні пра што не пытаўся толькі Канавалаў.

Пацярпелы Самвэл Саакян запытаў Уладзіслава, ці казаў яму Канавалаў, калі званіў 9 красавіка, што ў яго зьнялі адбіткі пальцаў. Адказ быў «не». Прадстаўнік пацярпелай Інэсы Крутой, яе бацька Аляксандар, прасіў удакладніць, які быў дзень і час, калі ён чуў крыкі Канавалава: позьні вечар 12 красавіка ці першыя гадзіны 13 красавіка? Кавалёў на гэта паўтарыў, што ня можа вызначыць дакладнага часу, толькі памятае, што гэта адбылося неўзабаве пасьля таго, як іх прывезьлі ў міліцыю, арыштаваўшы. Паведаміў некаторыя дэталі: апісаў сівога супрацоўніка гадоў 40-45, якога бачыў на першым паверсе, яшчэ адзін быў на другім паверсе, але як той выглядаў, ня памятае. Сказаў, што крыкі Канавалава на яго вельмі моцна падзейнічалі і ён нават не выключае, што яго трымалі побач спэцыяльна, каб чуў, што адбываецца з Канавалавым, і хутчэй загаварыў.

Былі агучаныя пратаколы допытаў Кавалёва падчас сьледзтва, на якіх ён прызнаваў, што ведаў пра будучы тэракт. Прыкладам, з пратаколу допыту Кавалёва вынікае, што ўжо 10 красавіка на менскім вакзале Канавалаў прадэманстраваў яму зьмесьціва торбы: дзьве 5-літровыя пластыкавыя бутлі

з парашком жоўтага колеру ўсярэдзіне. Плястыкавыя бутлі з блакітнымі накрыўкамі. Пытаньне сьледчага: «Чаму вы не зьвярнуліся ў міліцыю, каб перадухіліць тэракт?» — «Таму што ён мой сябар». На пытаньне, ці шкадуе ён пра тое, што адбылося, Кавалёў адказаў, што адчувае віну, бо ведаў і мог перадухіліць, але не зрабіў гэтага. «А чаму не перадухіліў?» — «Баяўся адказнасьці», — сказаў Кавалёў. Адзначу, што, прачытаўшы на сьледзтве пратакол таго допыту, Кавалёў сам у яго дадаў, што бачыў, як Канавалаў скручваў драты да бомбы. Гэта было 11 красавіка на арандаванай кватэры на вуліцы Караля, прыкладна за гадзіну да выбуху. Ён у гэты час стаяў побач і не пускаў за шырму Яну Пачыцкую, якая хацела туды зайсьці.

Гэты допыт быў запісаны на відэа і прадэманстраваны ў судзе. Падзялюся сваімі ўражаньнямі. Кавалёў сядзіць перад сьледчымі, апрануты ў чорнае паўпаліто, за ягонай сьпіной бачны адвакат (не С. Абразей, які будзе абараняць яго на працэсе, а жанчына, дзяржаўны абаронца), у пакоі некалькі чалавек у цывільным. Рукі Кавалёва ў кайданках, але ягоны твар спакойны, сьлядоў зьбіцьця на ім не відаць. Гаворыць роўным, магчыма, крыху напружаным голасам. Адназначна, што Кавалёў не выглядае такім стомленым, якім быў на першых допытах ад 13 красавіка Канавалаў. Што яму было млосна, як было млосна Канавалаву, не відаць, дый сам ён ня скардзіўся на самаадчуваньне, не прасіўся адпачыць і ў прыбіральню, на пытаньні сьледчых рэагаваў спакойна, адказваў не асабліва сьпяшаючыся, але і безь вялікіх паўзаў. Ва ўласьцівым яму стылі — гледзячы ў вочы таму, хто задае пытаньне, як потым будзе адказваць і ў судзе.

Сьледчы шмат распытвае Кавалёва пра Канавалава. Вось прыклады размоваў:

**— Ці чулі Вы, каб ён выказваў незадаволенасьць жыцьцём у Беларусі?**

— Не.

**— Ці выказваўся ён нэгатыўна пра кіраўніцтва Беларусі?**

— Не.

**— Вы асуджаеце ўчынак Дзьмітрыя?**

— Так, напэўна.

**— Чаму «напэўна»?**

— Так.

Вяртаемся ў суд. Зноў Кавалёў тлумачыць, чаму ягоныя паказаньні ў судзе разыходзяцца з тым, што казаў на сьледзтве. «Мне пагражалі... Ня тое што крычалі, але размова была вельмі жорсткая. Быў цырк, прадстаўленьне... Зачытвалі 289 і 406 артыкулы Крымінальнага кодэксу і прапаноўвалі параўнаць, казалі, што мне суд не паверыць, калі скажу, што нічога ня ведаў». Далей Кавалёў прывёў прыклад: «Мне сказалі, што Пачыцкая дае паказаньні, кажа, як бачыла мяне за шырмай, калі там быў Канавалаў з торбай, таму я вырашыў прызнацца, што быў там зь ім».

Зачыталі зьвесткі пра дзёньнік, які вёў Кавалёў і які сьледчыя знайшлі на ягонай менскай кватэры.

**— І якую мэту Вы ставілі сабе на найбліжэйшыя 5 гадоў?**

— Зарабіць мільён даляраў. Плянаваў заняцца

бізнэсам, пачаць сваю справу. Рыхтаваў сябе да гэтага псыхалягічна: ставіў псыхалягічныя задачы, вывучаў працы псыхолягаў.

**— І чагосьці дасягнулі?**

— Часткова выпрацаваў у сабе псыхалягічную ўстойлівасьць.

Пра тое, як ён змог назваць на допытах дакладны колер накрывак ад бутляў з выбухоўкай і апісаць прыстасаваньне для дыстанцыйнага падрыву бомбы, Кавалёў патлумачыў, што гэтыя зьвесткі яму паведамілі на допыце ва Ўправе барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю. Тамсама паведамілі і пра адбіткі пальцаў Канавалава, што супалі са знойдзенымі на бомбе 2008 году.

### *З допыту Кавалёва ад 29 красавіка*

На гэтым допыце Кавалёў расказаў яшчэ больш пра свайго сябра Канавалава. У прыватнасьці, паведаміў, што той плянаваў узарваць бомбу ў мэтро, але не на станцыі, а ў вагоне. Бомба мусіла знаходзіцца ў корпусе вогнетушыцеля. Менавіта дзеля гэтага Канавалаў прывёз з войска 2 вогнетушыцелі і захоўваў іх у сваім падвале. «Казаў, што калі выбух адбываецца ў замкнёнай прасторы, прыкладам, у вагоне, то людзі атрымліваюць яшчэ і баратраўмы — у іх вылазяць вочы, лопаюцца барабанныя перапонкі. Маўляў, пацярпелых будзе больш».

Пасьля агалошаньня пратаколу допыту ад 28 красавіка Кавалёў патлумачыў суду разыходжаньні ў паказаньнях.

— Сьледчы папярэдзіў, каб не мяняў паказаньні.

Што мяняць паказаньні — сабе рабіць горш, бо не паверацць.

**— Чаму тады мяняеце паказаньні?**

— Таму што баяцца больш няма чаго. Па тэлевізіі ўсё роўна зрабілі ворагам чалавецтва...

Адвакат спытаў у Кавалёва, хто да яго прыходзіў у камэру падчас сьледзтва.

— Прыходзілі шмат разоў, розныя людзі, у тым ліку з КДБ. Вялі размовы. Адвакат пры гэтым не прысутнічаў.

Дзе Кавалёў казаў праўду: на сьледзтве ці на судзе?

На працэсе былі агалошаныя зьвесткі, паводле якіх Кавалёў прайшоў праверку на паліграфе (дэтэктары хлусьні) адносна праўдзівасьці паказаньняў, дадзеных сьледчым КДБ. Заява Кавалёва пра жаданьне праверыцца на паліграфе, якая была зачытаная ў судзе, пісалася на імя старшыні КДБ Вадзіма Зайцава. Кавалёў пісаў: «Я даваў паказаньні пра свой удзел і хачу добраахвотна працягваць супрацоўніцтва з КДБ... Гэта Канавалаў учыніў тэракты ў 2005 і 2008 гадах, я пра гэта ведаў, але пераканаць яго адмовіцца ад тэрактаў ня змог. Патлумачыць, чаму не папярэдзіў, не магу... Прапаную праверыць мяне на дэтэктары хлусьні...»

Заява Кавалёва датаваная 5 траўня 2011 году. У прысудзе вынікі праверкі ня згадваюцца.

У апошнім слове Ўладзіслаў Кавалёў паўтарыў, што ня ведаў пра падрыхтоўку тэрактаў і дагэтуль ня верыць, што іх учыніў ягоны сябар Дзьмітрый Канавалаў. Папрасіў у сябра прабачэньня, што агаварыў яго. Пра сябе Кавалёў прызнаў, што перада-

ваў Канавалаву тратыл і раней яго захоўваў, але ня з мэтай учыніць тэракт.

## *Роля Ўладзіслава Кавалёва ў тэракце 2011 году паводле суду*

**Прысуд, с. 84.** *«У судовым паседжаньні даказаная віна Кавалёва Ў. Ю. у суўдзеле ў форме пасобніцтва ва ўчыненьні тэрарызму, спалучанага з забойствам людзей, прычыненьнем цяжкіх ды іншых цялесных пашкоджаньняў шматлікім асобам, прычыненьні асабліва вялікай шкоды і іншых цяжкіх наступстваў.*

*Суўдзел Кавалёва Ў. Ю. выявіўся ў садзейнічаньні і дапамозе ў дастаўцы выбуховага прыстасаваньня, у набыцьці газэты, прадстаўленьні свайго тэлефону Канавалаву Дз. Г. для арганізацыі пошуку, найманьня жылога памяшканьня і забясьпечаньня немагчымасьці вызначэньня месцазнаходжаньня Канавалава Дз. Г. з выбуховым прыстасаваньнем, захаваньня бясьпекі Канавалава Дз. Г. і магчымасьці яму безь перашкод з боку іншых асобаў прывесьці ў баявую гатоўнасьць выбуховае прыстасаваньне ў кватэры перад дастаўкай да месца выбуху.*

*Злачынныя дзеяньні Кавалёва Ў. Ю. у гэтай частцы падлягаюць кваліфікацыі паводле ч. 6 арт. 16 і ч. 3 арт. 289 КК Рэспублікі Беларусь.*

*Кавалёў У. Ю., дапамагаючы Канавалаву Дз. Г. учыніць злачынства, загадзя ведаў, што Канавалаў Дз. Г. рыхтуе выбух у мэтро, прывёз выбуховае прыстасаваньне вялікай магутнасьці, якое ў шмат разоў перавышала памеры і моц папярэдніх выбуховых прыстасаваньняў, і мае намер яго ўзарваць менавіта ў замкнёнай прасторы ў мэтро, на той*

*станцыі, дзе знаходзіцца найбольшая колькасьць людзей і менавіта ў «гадзіну пік».*

*Выкладзеная Кавалёвым у судзе пазыцыя, што ён не цікавіўся зьмесьцівам торбы і меркаваў, што ў ёй неабходныя штодзённыя рэчы Канавалава Дз. Г., надуманая, бо вага, аб'ём і шчыльнасьць напаўненьня торбы не маглі рэальна ўспрымацца як напаўненьне бытавымі рэчамі для трохдзённай паездкі. У пэрыяд знаходжаньня ў Менску Канавалаў не пераапранаўся, не карыстаўся якімі-колечы рэчамі з торбы, што таксама бачыў Кавалёў.*

*Кавалёў У. Ю., зыходзячы з аб'ёму выбуховага прыстасаваньня, месца і часу яго выбуху, усьведамляў, што ў выніку выбуху загінуць людзі. Кавалёў У. Ю. ведаў, што падрыў выбуховага прыстасаваньня ў мэтро зьяўляецца і кваліфікуецца менавіта як тэрарызм. Гэтыя абставіны яму тлумачыў са спасылкай на крымінальны закон Канавалаў Дз. Г. задоўга да ўчыненьня выбуху.*

*...Кавалёў У. Ю. таксама аказваў пасобніцтва ва ўчыненьні выбуху ў мэтро з мэтай дэстабілізацыі абстаноўкі і застрашваньня насельніцтва. На сьледзтве Кавалёў У. Ю. адзначаў, што Канавалаў Дз. Г. хацеў дэстабілізаваць абстаноўку. Яму падабалася назіраць за наступствамі ўчыненага ім выбуху...*

*...Аб'ектыўнасьць паказаньняў Кавалёва Ў. Ю. на сьледзтве пра садзеяньне Канавалаву Дз. Г. ва ўчыненьні ім выбуху пацьвярджаецца тым, што Кавалёў У. Ю. аб'ектыўныя паказаньні пра колер і форму пульту кіраваньня выбухам, колер кнопкі даў сьледзтву непасрэдна пасьля затрыманьня 13 красавіка 2011 году, за некалькі гадзін да таго, як*

*пра гэтыя акалічнасьці даў паказаньні Канавалаў Дз. Г.*

*...Паказаньні Кавалёва Ў. Ю. у судзе пра тое, што ён ня ведаў мэты прыезду Канавалава Дз. Г., пра падрыхтоўку ім і зьдзяйсьненьне выбуху, выдуманыя з мэтай ухіленьня ад адказнасьці і абвяргаюцца паказаньнямі Пачыцкай Я. У., зьвесткамі пра ягоныя тэлефонныя злучэньні і часам злучэньняў зь ягонага тэлефону, характарам ягоных узаемаадносін з Канавалавым Дз. Г., ягонымі дзеяньнямі перад выбухам і пасьля яго».*

## XXV. «Куратар»?

***«Ці быў у Канавалава «куратар»? Новая праўда пра тэракты». Працяг***
*«Інтэрфакс-Захад», 24.11.11*

**— Дзе выраблены выбуховае прыстасаваньне, якое не ўзарвалася ў 2008 годзе? Чаму расейскія экспэрты прышлі да высновы, што Віцебск у рэгіён вырабу выбуховага прыстасаваньня не ўваходзіць? Адкуль на ім адбіткі пальцаў невядомых? Чаму экспэрты палічылі, што бомбы, якая ўзарвалася і якая не ўзарвалася, выраблены рознымі людзьмі?**

**ЧБС:** «Сапраўды, доўгі час лічылася, што прыстасаваньні 2008 году вырабляліся групай асобаў, прафэсіяналамі. Вэрсія «настаўніка і вучня», якая зьявілася тады ж, у 2008 годзе, завяла сьледзтва ў тупік. Але яна мае тлумачэньне. Да 2008 году пагроза тэрарызму для Беларусі была толькі гіпатэтычная. Пасьля выбухаў на Дзень Незалежнасьці мы кансультаваліся з расейскімі экспэртамі, з ізраільскімі. Але ў кожнага зь іх свая лінія, абумоўленая ўнутранымі фактарамі. Так, расейцы бачаць ва ўсім каўкаскі сьлед, ізраільцяне — арабскі. Які ў нас араба-каўкаскі сьлед!

Ключавое сумненьне — гэта высновы экспэртаў ФСБ пра зону вырабу выбуховага прыстасаваньня на падставе аналізу пылку расьлін, знойдзенага на яго элемэнтах. Чаму гэтую экспэртызу рабіла ФСБ? Таму што толькі ФСБ валодае ўнікальнай базай для правядзеньня такіх экспэртыз на падставе пылку

расьлін, сабранага з усяго былога СССР. Тады была ідэя стварыць адзіную адкрытую базу, якой маглі б карыстацца ўсе, а ня толькі спэцслужбы, але ў першую чаргу мэдыкі. Аднак з шэрагу прычын сёньня гэтая база засакрэчаная і знаходзіцца ў выключным распараджэньні ФСБ.

Ведаю, што маладыя беларускія навукоўцы, якія цікавяцца тэматыкай палінамарфалягічных дасьледаваньняў, некалькі гадоў праводзілі дасьледаваньні на наяўнасьць пылку граба, бука ды іншых рэдкіх расьлін у розных рэгіёнах Беларусі. Менавіта па арэалах, дзе растуць граб і бук, расейцы вызначылі рэгіён вырабу фрагмэнту бомбы. Але з моманту збору ўзораў прайшоў не адзін дзясятак гадоў: мяняецца клімат, мяняюцца арэалы расьлін. Хто дзесяць гадоў таму ведаў пра баршчавік, які запаланіў у апошнія гады беларускія лясы? Пацьвердзіць наяўнасьць у пыле пылку граба і бука — пылок гэтых расьлін фігураваў у справе — няцяжка. Ён захоўваецца некалькі гадоў у месцах, абароненых ад сонца і вільгаці. Гэта можа зрабіць любы батанік зь мікраскопам. Высновы былі сэнсацыйныя! Сьляды цьвіценьня ўсіх гэтых расьлін былі знойдзеныя ў Віцебску менавіта ў раёне ДБК. Супадзеньне пылку — 99%!

Разумеючы, што гэтая экспэртыза — адзін з ключавых момантаў у справе, беларускія спэцыялісты аблазілі ўсю краіну ў пошуку месцаў, дзе могуць адначасова быць расьліны, збольшага не характэрныя для нашага рэгіёну. Тлумачэньне прыйшло пасьля аналізу пробаў, узятых па ўсёй Беларусі. Аналягічны склад пылку знайшлі ў раёне Мірскага замку, Нясьвіжа і шэрагу іншых раёнаў старажытнай забудовы. ДБК — стары раён, там калісьці была

панская сядзіба, а за некалькіх кілямэтраў ад яго месьціцца біялягічны заказьнік, які ў народзе клічуць «Чортава барада». А ў XIX стагодзьдзі было вельмі папулярна засаджваць маёнткі экзатычнымі расьлінамі, у ліку якіх апынаціся грабы і букі.

**— Чаму Канавалаў не актываваў першае выбуховае прыстасаваньне ў 2008 годзе? Дэтанатар быў у пазыцыі «выключана».**

— Дэтанатар быў у пазыцыі «выключана», калі выбуховае прыстасаваньне трапіла на экспэртызу да ўзрыватэхніка. Але згадайце, што казалі хлопцы, якія яго знайшлі: хацелі папіць соку, адкрылі накрыўку — і выскачыў тумблер. Магчыма, тумблер быў узьведзены, але пры адкрыцьці накрыўкі ланцуг размыкаўся. Гэта магло быць зроблена зь меркаваньняў бясьпекі выканаўцы: калі што пайшло ня так, адкрыў пачак з сокам і ўсё — прыстасаваньне дэактываванае.

**— Чаму на выбуховым прыстасаваньні, якое не ўзарвалася, знойдзеныя адбіткі пальцаў невядомых?**

— Таму што пасьля таго як яго знайшлі, яго чапалі, нюхалі, груба кажучы, лізалі ўсе, каму толькі хацелася. Неапраўданы гераізм разам з дурасьцю. Але гэта таксама можна патлумачыць тым, што мы не былі падрыхтаваныя тады да тэрактаў. І гэтае выбуховае прыстасаваньне адпачатку ўспрымалі як муляж. Два гады спэцслужбы і міліцыя шукалі адмыслоўцаў, якія ў пальчатках і масцы рабілі выбуховае прыстасаваньне. Правяралі хімікаў, студэнтаў-хімікаў, але ніхто не правяраў школьнікаў, якія ў апошнія гады мелі добрыя посьпехі ў хіміі.

**— Дарэчы, і сабака не адрэагаваў на гэтае выбуховае прыстасаваньне, нягледзячы на тое, што ў яго склад уваходзіў тратыл…**

— Гэта таксама ўмацавала сапёраў у думцы пра муляж. Але сабака, па-першае, можа эфэктыўна працаваць у такім натоўпе толькі непрацяглы час, потым яму патрэбны адпачынак. Па-другое, перакіс ацэтону мае вельмі моцны пах, які адбівае пах тратылу. Акрамя таго, тратыл быў плаўлены, што таксама зьмяншае пах.

А тая акалічнасьць, што Канавалаў паставіў пакунак з бомбай быццам за ачапленьнем, а знайшлі яго перад ачапленьнем, таксама мае тлумачэньне. Блытаніна паняцьцяў. Ачапленьне тады было толькі там, дзе знаходзіліся асобы пад аховай. Далей было не ачапленьне, былі патрулі, якія маглі папрасіць паказаць, што ў торбе, а маглі і не папрасіць.

**— Чаму Канавалаў не ўзнавіў на сьледчым экспэрымэнце дакладную копію выбуховага прыстасаваньня ў мэтро, а таксама выбуховых прыстасаваньняў, выкарыстаных у Дзень Незалежнасьці 2008 году? Чаму падчас экспэрымэнту выкарыстоўвалі розныя заменьнікі (муку, пясок, макарону, цукеркі), а не сапраўдныя рэчывы і элемэнты?**

— Цяжка сказаць, чаму Канавалаў нібыта памыліўся. Я мяркую, ён проста зьдзекаваўся. Хаця рукамі дзейнічаў прафэсійна, гэта дакладна бачна на відэазапісе сьледчага экспэрымэнту. Кожны псыхоляг-пачатковец скажа, што вызначыць, хлусіць чалавек, фантазіруе ці спрабуе нешта згадаць,

можна ня толькі па ягоных рухах, але і па позірку, інтанацыі, міміцы і шэрагу іншых прыкметаў.

Выкарыстаньне падчас сьледчага экспэрымэнту рэчываў і элемэнтаў, якія імітуюць сапраўдныя, абумоўленае ў першую чаргу пытаньнямі бясьпекі. Дзе гарантыя, што ён не паспрабуе ўзарваць сабранае ім прыстасаваньне? На сьледзтве ён увогуле даваў шмат падманных дэталяў, ад якіх потым адмаўляўся. Але ўсе ягоныя словы правяраліся, ён гэта ведаў і прымушаў сьледзтва «папрацаваць».

**— Адно з ключавых пытаньняў: ці можна вырабіць такія выбуховыя прылады ў непрыстасаваным падвале, без вэнтыляцыі, выцяжкі?**

— Што менавіта вырабіць? Калі казаць пра выбуховае прыстасаваньне 2008 году, яно складалася з тратылу і трыперакісу ацэтону вагой каля 200 г. Так, за адзін раз такую колькасьць «кісы» складана вырабіць бяз выцяжкі, але за некалькі разоў гэта магчыма. Трыперакіс — не такое ўжо небясьпечнае рэчыва, як у нас падносяць. Яно ўжывалася тэрарыстамі з XIX стагодзьдзя. (...) Правільна прыгатаванае рэчыва стабільнае. Нестабільным яно робіцца зь цягам часу. Але яго можна даволі доўга захоўваць у спэцыяльным растворы. Словам, трэба ўмець зь ім абыходзіцца.

Калі ж казаць пра выбуховае прыстасаваньне 2011 году, то на яго выраб пайшлі няпоўныя 3 дні — з 5 па 8 красавіка. Па сутнасьці, з трыперакісу Канавалаў зрабіў толькі ініцыявальны зарад вагой 20 г. Усё астатняе — салетра і іншае — было набытае ў суседняй краме і зьмяшанае літаральна за паўгадзіны. Акрамя таго, узімку і ўвесну гэтага году ён выпрабоўваў прыстасаваньне падобнага

тыпу, гэта ёсьць на яго фота і відэа. Але выпрабоўваў на адкрытай прасторы. Відавочна, што моц, зь якой бомба выбухнула на станцыі, то бок у прасторы закрытай, была неспадзяванкаю для самога Канавалава.

**— У судзе казалі, што стымулам да вырабу выбуховага прыстасаваньня стала дактыляскапіяваньне Канавалава. Але адбіткі пальцаў у яго зьнялі толькі 9 красавіка. Дык што ж яго падштурхнула?**

— Увечары 4 красавіка ён атрымаў позву зьявіцца для дактыляскапіі, там было пазначана, што ў адваротным выпадку ён будзе дактыляскапіяваны прымусова. Раніцай ён пазваніў свайму майстру, сказаў, што захварэў, і пайшоў у падвал. Сьледчыя прааналізавалі ягоныя тэлефонныя злучэньні. Калі раней ён кожную гадзіну альбо размаўляў з кімсьці, альбо заходзіў у інтэрнэт, то пачынаючы з 5 красавіка ён фактычна перапыніў зносіны. На ўсе прапановы сяброў сустрэцца адказваў адмовай. Да 8 красавіка ён зрабіў выбуховае прыстасаваньне і абтэлефанаваў усіх сяброў, арганізаваў сустрэчу. Падобна да таго, што разьвітваўся зь імі. Дадому прыйшоў пад другую гадзіну ночы. Таму эксперты, якія прышлі 9-га здымаць адбіткі пальцаў дома, зь цяжкасьцю яго пабудзілі перад 11-й гадзінай.

А тое, што ў яго рукі не пацелі ад страху, як казаў на сьледзтве эксперт, дык ён вельмі дрэнна сябе адчуваў і ня вельмі добра цяміў. Канавалаў заўсёды вельмі цяжка перажываў пахмельле.

Дзеля падстрахоўкі пасьля гэтага ён знайшоў кватэру ў Віцебску на суткі, адвёз туды выбуховае

прыстасаваньне, потым паехаў на вакзал і купіў квіток у Менск.

**— Ягонае знаходжаньне ў Менску таксама не да канца высьветленае ў судзе. Што за жанчына знаходзілася ў найманай кватэры на вуліцы Караля, калі туды прыйшлі Кавалёў і Канавалаў? Што за картка расейскага апэратара сотавай сувязі «Мэгафон» была знойдзеная?**

— Кватэра на Караля здавалася канвэерам. Дакладней, яна была здадзеная на доўгі тэрмін аднаму чалавеку, які пераздаваў яе на суткі без дазволу гаспадара. Таму нічога дзіўнага ў тым, што жыхары маглі сутыкнуцца, як і ў тым, што ў кватэры маглі быць знойдзеныя сім-карткі».

## XXVI. Лёс рэчавых доказаў

Паводле прысуду Вярхоўнага суду мусіць быць зьнішчаная большасьць рэчавых доказаў віны Канавалава і Кавалёва, уключна з тым, што было знойдзенае ў падвале Канавалава, дзе ён вырабляў бомбы.

Таксама суд пастанавіў зьнішчыць узоры грунту і рэчавыя доказы, знойдзеныя на месцах выбухаў у Віцебску ў 2005 годзе і ў Менску ў 2008 і 2011 гадах, элемэнты бомбаў, якія разарваліся, і той, якая не разарвалася, інструмэнты і прылады з падвалу і кватэры Канавалава, сшыткі з запісамі, кампакт-дыскі, прадметы, знойдзеныя ў целах пацярпелых, ды іншыя рэчы. Суд пастанавіў вярнуць бацькам Канавалава і Кавалёва іх дакумэнты, асабістыя рэчы і адзеньне, а таксама вырашыў захоўваць у крымінальнай справе відэаматэрыялы, забраныя са станцыяў мэтро. Мабільны тэлефон, забраны ў Канавалава падчас арышту, суд пастанавіў прадаць у кошт пагашэньня матэрыяльных стратаў.

Ці сапраўды пастаноўлена зьнішчыць тое, без чаго справу ўжо нельга будзе перагледзець? Спачатку варта зазірнуць у прысуд, у якім дакладна сказана, што зьнішчыць, а што пакінуць і захоўваць. Для эканоміі часу абмяжуемся рэчавымі доказамі зь месца тэракту, падвалу і кватэры Канавалава, а таксама тымі, якія дадаюць новую інфармацыю пра тэракт.

**Прысуд, с. 108**. *«Вынятыя 11–12 красавіка 2011 году падчас агляду месца здарэньня, станцыі «Кастрычніцкая» Менскага мэтрапалітэну: драўляныя*

*брускі, фрагмэнты драўніны, шкла, мэталу, мэталічнай і мармуровай пліткі, драўлянага бруса, мэталічнай пліты, палімэрных матэрыялаў, абшыўкі вагона, плястыку, радыёдэталяў, біялягічнага рэчыва, пакункі з грунтам, паражальныя элемэнты, марлевыя тампоны са змывамі, саскрэбы, фрагмэнты граніту, мармуру, бэтону, мэталу, палімэрных матэрыялаў, пашкоджаныя прадметы адзеньня, абутку, галянтарэі, парфумы, асабістай гігіены і іх фрагмэнты, чамадан, дарожную торбу сіняга колеру на колах, кейс чорнага колеру, кардонныя скрыні, фрагмэнты тканіны, біжутэрыі, мэблевай фурнітуры, люстэрка, фрагмэнты пакункаў, аркушы паперы, недакуркі, шпрыц з іголкай, змывы, сшыткі, кнігі, часопісы, праязныя квіткі і іх фрагмэнты, гадзіньнікі, акуляры, бутэлькі і слоікі (шкляныя і палімэрныя), розныя прадметы пашкоджаных аўдыёпрыстасаваньняў, мабільных тэлефонаў ды іншых электронных прыстасаваньняў, флэш-карткі — **зьнішчыць** (тут і далей вылучэньні аўтара. — А. Г.)*

*Пашкоджаныя прадметы адзеньня, якія належаць пацярпелым, вынятыя з установаў аховы здароўя, пакункі з адзеньнем нявызначаных асобаў — **зьнішчыць**.*

*Прадметы адзеньня і абутку, перададзеныя на захоўваньне пацярпелым, — **пакінуць ім жа**.*

*Вагон, пакінуты на захоўваньне ўнітарнаму прадпрыемству «Менскі мэтрапалітэн», **перадаць прадпрыемству**.*

*Адзеньне і абутак, вынятыя 13.04.2011 падчас выманьня ў Канавалава Дз. Г., — **перадаць Канавалаву Г. А.***

*Вынятыя 12.04.2011 падчас асабістага вобшуку*

*Канавалава Дз. Г.: квіток на цягнік (праязны дакумэнт) ад 10.04.2011 Віцебск — Менск; бальнічны аркуш на ягонае імя (Канавалава Дз. Г.); сім-картку «Life»; флякон «Цэрукал» з таблеткамі і капсуламі белага колеру; аркуш з запісамі, 7 праязных квіткоў на трамвай; запальнічку «Крыкет»; жэтон на мэтро —* ***зьнішчыць****;*

*мабільны тэлефон «Sony Ericsson», які належыць Канавалаву Дз. Г., —* ***абярнуць у кошт пагашэньня пазоваў»****.*

**С. 110**. *«Фрагмэнты малюнку і ДВП з надпісамі —* ***зьнішчыць****». (Малюнак і надпісы на драўнянавалакністай пліце ў судзе не дэманстравалі, а надпісы не агалошвалі. —* ***А. Г.****)*

**С. 113.** *«Дваццаць сем канвэртаў з трыццацьцю сямю кампакт-дыскамі з запісамі камэраў відэаназіраньня ад 10.04.2011 на чыгуначным вакзале ў г. Віцебску, ад 10.04.2011 на станцыі «Менск-Пасажырскі», на станцыях мэтро «Фрунзенская», «Купалаўская», «Кастрычніцкая», ад 11.04.2011 на станцыях мэтро «Фрунзенская», «Купалаўская», «Кастрычніцкая», ад 11.04.2011 па ходзе руху Канавалава па г. Менску пасьля зьдзяйсьненьня злачынства, ад 15.04.2011 на станцыях мэтро «Фрунзенская», «Купалаўская», «Кастрычніцкая» падчас праверкі ягоных паказаньняў, а таксама гуказапісам набыцьця квіткоў 10.04.2011 на чыгуначным вакзале ў г. Віцебску на цягнік № 117 Віцебск — Менск —* ***захоўваць у справе****.*

*Прадметы, вынятыя падчас агляду месца здарэньня і вагонаў пашкоджанага электрацягніка;ператрусу 12–13 красавіка 2011 году падвальнага памяшканьня № 52 па вуліцы Рэпіна, д. 8 к. 1 у г. Віцебску; агляду 15.04.2011 кв. № 53 дома № 8*

*к. 1 па вул. Рэпіна ў г. Віцебску; паражальныя элемэнты, вынятыя зь целаў пацярпелых, а таксама пашкоджаныя прадметы адзеньня і абутак пацярпелых і нявызначаных асобаў, што паступілі з Інстытуту крыміналістыкі ЦСТ ФСБ Расейскай Фэдэрацыі пасьля правядзеньня комплекснай крыміналістычнай выбуховатэхнічнай экспэртызы, — **зьнішчыць**.*

*...Палімэрны пакунак чорнага колеру зь біялягічнымі ўзорамі трупаў; палімэрны пакунак з 16 мэталічнымі шарыкамі; узоры сталі; элемэнты макету выбуховага прыстасаваньня, зробленага падазраваным Канавалавым Дз. Г. падчас сьледчага экспэрымэнту 20.04.2011, якое ён выкарыстаў 11.04.2011 на станцыі «Кастрычніцкая» Менскага мэтрапалітэну, — **зьнішчыць**».*

**С. 114.** *«Відэакасэты і дыскі з запісамі сьледчых дзеяньняў, лічбавыя носьбіты інфармацыі — дадаткі да пратаколаў сьледчых дзеяньняў і заключэньняў экспэртыз — **захоўваць у справе**.*

*Прысуд Вярхоўнага суду абскарджаньню і апратэставаньню ў касацыйным парадку не падлягае.*

*Старшыня,*

*Народныя засядальнікі».*

### *Магчымасьць паўторнага разгляду не перадугледжаная*

Былы судзьдзя, праваабаронца Гары Паганяйла кажа, што суд мае права вырашыць лёс рэчавых доказаў пасьля заканчэньня судовага працэсу, у тым ліку і пастанавіць зьнішчыць тыя рэчавыя доказы, наконт якіх у суду няма сумневаў, бо праведзеныя ўсе неабходныя экспэртызы і сьледчыя

дзеяньні. Прыкладам, праваабаронца згодны са зьнішчэньнем паражальных элемэнтаў, знойдзеных на месцах тэрактаў. Але Гары Паганяйла кажа пра супярэчлівыя высновы суду адносна таго, мог ці ня мог Канавалаў сабраць тыя бомбы.

«Калі нам казалі, што выбуховае прыстасаваньне было ўнікальнае, што яго нельга было сабраць у звычайных бытавых умовах і што патрэбныя былі асаблівыя веды для прыгатаваньня выбуховага рэчыва, то ўзьнікаюць сумненьні, чаму так пастанавіў суд».

На думку Гары Паганяйлы, суд не да канца вывучыў здольнасьць Канавалава зрабіць выбухоўку і саму бомбу паводле той тэхналёгіі, якую знайшлі ў ягоных сшытках і з тымі кампанэнтамі, якія ў яго былі. Таксама суд не правёў дасьледаваньня крыніц, зь якіх Канавалаў нібыта браў зьвесткі пра гэтыя тэхналёгіі, мяркуе Гары Паганяйла. Калі будуць зьнішчаныя ўсе прылады і рэчы з падвалу Канавалава, правесьці такі экспэрымэнт будзе немагчыма, перакананы праваабаронца. Гары Паганяйла заўважае, што прысуд Вярхоўнага суду нельга аспрэчыць у касацыйным парадку. Судзьдзі не перадугледжваюць магчымасьць паўторнага разбору і таму вырашылі зьнішчыць пераважную большасьць рэчавых доказаў. Між тым магчымасьць іх захоўваньня ў суду ёсьць.

«Існуюць тэрміны даўнасьці захоўваньня крымінальных справаў, і разам зь імі могуць захоўвацца рэчавыя доказы, якія суд пастанавіў захаваць».

На думку былога сьледчага пракуратуры Алега Воўчака, выкананьне рашэньня пра зьнішчэньне рэчавых доказаў можна было адтэрмінаваць.

Алег Воўчак: «Паводле закону парушэньняў

няма. Але ўлічваючы тое, колькі нюансаў і супярэчнасьцяў, маглі б прытрымаць выкананьне».

Гаворка ідзе пра рэчы зь месцаў выбуху ў менскім мэтро і на плошчах у Віцебску і Менску, рэчы, сканфіскаваныя ў абвінавачанага Дзьмітрыя Канавалава падчасператрусу дома і ў «выбуховатэхнічнай лябараторыі», якую ён абсталяваў у сябе ў падвале.

Вось яшчэ адно меркаваньне, якое шырока цыталася ў інтэрнэце. Палітоляг Віктар Дзямідаў: «Шмат якія з гэтых прадметаў маглі сьведчыць пра тое, што выбухнула ня торба Канавалава, а загадзя закладзеная спэцслужбамі выбухоўка. Такая вэрсія папулярная сярод шэрагу пацярпелых. Вядома, у справе застануцца фатаграфіі і відэазапісы. Але калі паўстане пытаньне пра паўторнае сьледзтва, яго бяз рэчавых доказаў паўнавартасна не правядзеш».

Лёсам рэчавых доказаў паводле Крымінальна-працэсуальнага кодэксу абавязаны распарадзіцца суд, які прымае рашэньне па справе. Рэчавыя доказы са сьлядамі злачынства, а таксама рэчавыя доказы, гаспадар якіх ня выяўлены і якія могуць спатрэбіцца ў далейшым расьсьледаваньні, павінныя быць захаваныя. Зьнішчаюць тыя рэчавыя доказы, якія не нясуць сьлядоў злачынства альбо калі яны ўжо дастаткова дасьледаваныя. Зьнішчэньне рэчавых доказаў рэгулюе «Інструкцыя аб парадку выманьня, уліку, захоўваньня і перадачы рэчавых доказаў, грошай, каштоўнасьцяў, дакумэнтаў і іншай маёмасьці па крымінальных справах».

Найбольш назіральнікі зьдзівіліся таму, што сярод прызначаных для зьнішчэньня рэчавых доказаў апынулася і бомба, якая ня выбухнула ў

Менску 3 ліпеня 2008 году — тая самая, на якой знайшлі адбіткі пальцаў Дзьмітрыя Канавалава. Праблема ў тым, што акрамя пальцаў Канавалава на ёй знайшлі адбіткі пальцаў яшчэ пяці чалавек, асобы якіх сьледзтва чамусьці ня высьветліла ці не захацела высьвятляць. Як і суд.

Між тым, у Беларусі існуе адзіная дактыляскапічная база, у якой сабраныя адбіткі пальцаў практычна ўсяго дарослага мужчынскага насельніцтва краіны...

### *Паміж прысудам і яго выкананьнем*

7 сьнежня 2011 году асуджаны на сьмяротную кару Ўладзіслаў Кавалёў падаў прашэньне аб памілаваньні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Пазьней адвакат Кавалёва падаў у Вярхоўны суд скаргу на прысуд у парадку нагляду. Маці асуджанага Любоў Кавалёва і ягоная сястра Тацяна накіравалі ў Камітэт ААН па правах чалавека скаргу аб парушэньні права на жыцьцё. Гэтая скарга была зарэгістраваная ў камітэце ААН ужо 15 сьнежня 2011 году.

Камітэт ААН у адпаведнасьці з працэдурнымі правіламі зьвярнуўся да беларускага ўраду з просьбай не выконваць сьмяротны прысуд Уладзіславу Кавалёву, пакуль скарга ня будзе разгледжаная па сутнасьці.

У пачатку лютага 2012 году стала вядома, што ўрад Беларусі накіраваў у Камітэт ААН па правах чалавека ліст, у якім заявіў пра непрымальнасьць разгляду скаргі маці і сястры Ўладзіслава Кавалёва ў Камітэце ААН. Беларускі ўрад спаслаўся на артыкул № 2 факультатыўнага пратаколу да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах,

паводле якога скарга можа быць прынятая ў Камітэце ААН па правах чалавека толькі пасьля таго, як будуць вычарпаныя ўсе ўнутраныя сродкі прававой дапамогі. Між тым на той момант наглядная скарга на імя старшыні Вярхоўнага суду яшчэ не была разгледжаная, як і прашэньне аб памілаваньні на імя Аляксандра Лукашэнкі.

Супрацьстаяньне вакол лёсу Ўладзіслава Кавалёва працягвалася. Камітэт ААН па правах чалавека прапанаваў маці і сястры Кавалёва прадставіць свае аргумэнты не пазьней за сакавік, тыя зрабілі гэта ўжо ў першыя дні лютага. Таксама Любоў Кавалёва зьвярнулася ў Канстытуцыйны суд Беларусі з просьбай прывесьці ў адпаведнасьць з Канстытуцыяй Крымінальна-выканаўчы кодэкс. Паводле гэтага кодэксу ў пачатку 2012 году нават не была прадугледжаная магчымасьць адкласьці выкананьне сьмяротнага прысуду на час, пакуль ня будзе разгледжаная скарга асуджанага ў міжнародныя судовыя інстанцыі, прыкладам, у Камітэт правоў чалавека ААН.

Між тым Канстытуцыя Беларусі гарантавала такое права. Канстытуцыйны суд адказаў Любові Кавалёвай, што яна ня мае права ўносіць такія прапановы, бо такое права маюць толькі ўпаўнаважаныя органы: Савет Міністраў, абедзьве палаты Нацыянальнага Сходу, Вярхоўны суд альбо прэзыдэнт. Любоў Кавалёва накіравала свае лісты туды. 18 лютага 2012 году маці асуджанага на сьмерць Уладзіслава Кавалёва адказаў аддзел па пытаньнях грамадзянства і памілаваньня Адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі. Адтуль паведамілі: «Паводле вашай прапановы мэтазгодны комплексны прававы аналіз законаў з удзелам кампэтэнтных

дзяржаўных органаў». І далей паабяцалі: «У сувязі з гэтым вам будзе паведамлена дадаткова». Што будзе паведамлена, не пазначылі.

Што да Дзьмітрыя Канавалава, то ў пачатку 2012 году стала вядома, што ён не падаваў прашэньня аб памілаваньні. Паводле Генэральнага пракурора Беларусі Аляксандра Канюка, у студзені 2012 году, калі скончыўся тэрмін азнаямленьня з пратаколам судовага паседжаньня, Канавалаву нагадалі пра ягонае права накіраваць прашэньне, але ён зноў адмовіўся.

Канец першай часткі

## *Сумнеўныя абставіны і доказы, якія выклікаюць недавер*

***У першай палове гэтай кнігі пералічваліся і аналізаваліся тыя доказы віны Дзьмітрыя Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва з матэрыялаў крымінальнай справы, зь якімі пагадзіўся суд. Але падчас судовага сьледзтва адкрылася шмат момантаў, якія яўна супярэчылі сьледзтву папярэдняму.***

***На думку аўтара, частку гэтых супярэчнасьцяў суд ці не заўважыў ці сьвядома праігнараваў і, як падаецца, не зрабіў усяго магчымага, каб праясьніць спрэчныя моманты. Вось жа, надышоў час заняцца гэтымі «недакладнасьцямі», каб разабрацца, якія зь іх выпадковыя, а якія могуць скласьціся ў сыстэму. Дзеля гэтага вернемся ў 15 верасьня 2011 году, калі аб 11-й гадзіне дня ў актавай залі Палаца правасудзьдзя пачаўся працэс над «тэрарыстамі».***

## XXVII. Абвінавачаныя

Мы прайшлі ўсе кардоны ахоўнікаў і занялі месца ў залі. Глядзім на сцэну, дзе стаіць пустая жалезная клетка. Прыкладна за 5 хвілін да ўваходу судзьдзі канваіры ўводзяць абвінавачаных — нахіленых галавой да сцэны, з заламанымі рукамі. Спачатку аднаго, потым другога.

Звычайна Ўладзіслаў Кавалёў, як выпрастаецца, адразу глядзіць у залю, шукае позіркам маці або сястру. Тыя сядзяць у апошнім шэрагу, побач зь імі супрацоўнік у цывільным. Абмен позіркамі.

Да Кавалёва падыходзіць адвакат Станіслаў Абразей. У іх ёсьць магчымасьць перакінуцца словамі. Кожную такую магчымасьць яны імкнуцца выкарыстоўваць напоўніцу, бо сустракацца і размаўляць сам-насам ім не дазваляюць. Пра гэта адвакат Абразей шмат разоў заяўляў на судзе.

Дзьмітрый Канавалаў, калі яго заводзяць у клетку, выпроствaецца і спачатку паводзіць плячыма, нібы абтрасаецца ад пылу. Потым кідае кароткі позірк спадылба ў залю. Магчыма, кагосьці ўсё ж чакае там убачыць, але не падае выгляду.

Калі да яго падыдзе адвакат Дзьмітрый Лепрэтар, на твары Канавалава зьявіцца зацікаўленасьць, але пачнецца суд, і да канца паседжаньня Канавалаў будзе сама абыякавасьць. За паўтара месяца працэсу ён усьміхнуўся толькі раз — калі зачытваўся тэкст ягонай SMS-перапіскі зь Янай Пачыцкай.

Спынюся на гэтым падрабязьней. Паводле матэрыялаў справы, 10 красавіка, ужо ў Менску, Канавалаў праз SMS пачаў дамаўляцца з Пачыцкай пра

сустрэчу. Сярод іншага, ён паведаміў дзяўчыне, зь якой да таго быў знаёмы толькі ў інтэрнэце, што прыехаў па справах на 3 дні, зьняў кватэру.

«Я дзяўчына прыстойная», — заўважала Пачыцкая, быццам патрабуючы нейкіх гарантыяў бясьпекі. Асьцярога, відаць, была фармальная, бо ў выніку, як паведаміла сьведка ў судзе, яна пагадзілася пайсьці зь незнаёмымі па сутнасьці хлопцамі на кватэру, дзе яны разам правялі два дні і дзьве ночы. «Не баісь, я маленькі ды худзенькі», — супакоіў тады Канавалаў Пачыцкую SMS-кай.

Магчыма, адказ ёй спадабаўся. Магчыма, пра гэта ведаў і Дзьмітрый, які яўна захаваў нейкія ўспаміны, бо ў судзе зрабілася відавочна, што гэта яго неяк кранула. Ва ўсякім разе, падчас зачытваньня гэтага эпізоду ён усьміхнуўся. Яшчэ ёсьць варыянт, што рэч ня так у сьветлых успамінах, як у двухсэнсоўным гучаньні гэтых словаў тут, на тэрарыстычным працэсе. Вось табе і «маленькі ды худзенькі»...

У любым выпадку гэта быў першы і апошні раз, калі на вуснах Канавалава зьявілася ўсьмешка, хоць і кароткая. Далей Дзьмітрый рабіўся ўсё больш непрыступным і абыякавым. Адзначу, што выраз ягонага твару і пастава ніяк не мяняліся нават тады, калі ў залі гучала нешта супярэчнае сьледзтву.

Гэтак жа спакойна Дзьмітрый Канавалаў сустрэў прысуд — нічым не паказаў свайго хваляваньня, нязгоды ці іншых пачуцьцяў. Адзінае, што я заўважыў — Канавалаў загаварыў пра нешта з канваірам, здаецца, сам задаў пытаньне міліцыянту. Канваір на некалькі сэкундаў затрымаўся ля Канавалава. Магчыма, адказваў.

Што да Ўладзіслава Кавалёва, запомнілася, як ён

прыклаў палец да вуснаў, калі ў залі пасьля абвяшчэньня прысуду раздаліся крыкі «Ганьба!»

### *Ці варта верыць прызнаньням?*

Паводле Кавалёва, ужо на першым допыце ва Ўправе барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй, куды яго прывезьлі пасьля арышту, ён чуў крыкі свайго сябра Канавалава, якога, хутчэй за ўсё, білі ці неяк інакш катавалі. «У суседнім кабінэце ці недзе побач». Калі гэта сапраўды так, то ставіцца пад пытаньне нямала таго, што потым на сьледзтве прызнаюць Канавалаў і Кавалёў. Але наколькі праўдападобная заява Ўладзіслава Кавалёва?

У яе ёсьць як слабыя, так і дастаткова пераканаўчыя моманты. Абвінавачаных разам са сьведкай Янай Пачыцкай прывезьлі ў міліцыю позна ўвечары 12 красавіка. Падчас затрыманьня Канавалаў быў зьбіты супрацоўнікамі «Алмазу» як патэнцыйны тэрарыст.

Памятаеце інтэрвію супрацоўніка, блізкага да сьледзтва, карэспандэнту «Інтэрфакс-Захад»? Падчас затрыманьня падазраванага ў тэрарызьме трэба пакласьці і нэўтралізаваць — а раптам у яго бомба сьмяротніка? Можа, і так, гучыць, ва ўсякім разе, пераканаўча. Што Канавалаву і Кавалёву падчас затрыманьня нанесьлі пэўныя цялесныя пашкоджаньні, прызнае сьледзтва, а за ім і суд.

Праўда, чамусьці, калі верыць экспэртызе, якую мы цытавалі, дасталася падчас затрыманьня ў асноўным Канавалаву, а Кавалёў атрымаў нязначныя драпіны, пра якія ён на судзе нават не згадаў. Як так? Уявіце сабе: грукат, выбіваюць дзьверы,

«Алмаз» урываецца ў кватэру, крыкі: «Усім на падлогу!», «Ляжаць!», «Не варушыцца!»... Але б'юць аднаго, а іншых не чапаюць.

Кавалёў потым згадваў, што калі яго пабудзілі (ён спаў пасьля выпіўкі), ён убачыў у пакоі Канавалава, які сядзеў на кукішках у атачэньні спэцназаўцаў. Карацей, асабіста мне ў надзвычай брутальнае зьбіцьцё падчас затрыманьня верыцца ня надта. Хутчэй тады дасталася ўсім пароўну і ня вельмі моцна. Дый чаго іх было асабліва зьбіваць? Супраціўленьня Канавалаў, а тым больш Кавалёў, які спаў, ці напужаная да сьмерці Пачыцкая не аказвалі. Ну, паклалі іх спачатку на падлогу, маглі некалькі разоў даць ботамі па нырках, каб не варушыліся. Навошта яшчэ?

Прычым «алмазаўцы» яўна былі не адны, за імі абавязкова ішлі апэратыўнікі — міліцыянты ці чэкісты, якім ня трэба тлумачыць, што арыштаваных ня варта калечыць, бо іх належыць адразу ж дапытаць, каб у стане псыхалягічнага шоку яны найхутчэй пачалі даваць зьвесткі пра злачынства. Так дзейнічаюць опэры з любым арыштаваным, што ўжо казаць пра «тэрарыстаў».

Такім чынам, на маю думку, вэрсія дзяржаўнага абвінаваўцы Аляксея Стука і «невядомага суразмоўцы са спэцслужбаў» пра моцнае зьбіцьцё Канавалава падчас арышту выклікае сумненьні. Хутчэй за ўсё, Канавалава зьбілі не «алмазаўцы», а менавіта опэры, і гэта было ўжо пасьля таго, як затрыманых прывезьлі ў міліцыю.

Пазьней на сьледзтве Канавалаў заявіць, што яго ня проста зьбівалі, а рабілі яму «ластаўку» — клалі на крэсла з заламанымі назад і зьвязанымі рукамі і нагамі. Дзяржаўны абвінаваўца Аляксей

Стук гэта абвяргаў і нават пераканаў суд, што такое немагчыма: маўляў, засталіся б характэрныя сьляды на руках, а ў Канавалава такіх сьлядоў не было. Спадар Стук спасылаўся на спэцыяльную пракурорскую праверку, якую правялі пасьля заяваў Канавалава пра катаваньні. Але тут паўстае галоўнае пытаньне працэсу — пытаньне даверу да беларускай праваахоўнай сыстэмы. Бо, напрыклад, мэдыкі СІЗА КДБ падчас агляду Канавалава маглі проста не адзначыць тых пашкоджаньняў на ягоным целе, што сьведчылі пра катаваньні.

Пасьля аповедаў вязьняў 19 сьнежня пра тое, як зь імі абыходзіліся ў «амэрыканцы», веры тамтэйшым мэдыкам, як і пракурорскім праверкам, шмат у каго не засталося.

Такім чынам, шмат для каго цалкам пераканаўча гучалі словы Кавалёва пра крыкі Канавалава і пра тое, што гэта на яго вельмі моцна ўзьдзейнічала і падштурхнула даваць прызнальныя паказаньні. «Забаяўся расстрэлу. Мне сказалі, што ў найгоршым выпадку дадуць 25 гадоў, а так лоб зялёнкай намажуць і...»

Імаверна, яшчэ па дарозе ў міліцыю опэры маглі для сябе  вызначыць, хто сярод затрыманых асноўны «тэрарыст», а хто на другасных ролях. Першага пачалі дапытваць «з прыстрасьцем», другога дастаткова было «ўзяць на пушку», і неўзабаве абодва прызналіся. Гэтае падазрэньне для многіх стала першым сур’ёзным ударам па веры ў праўдзівасьць паказаньняў абвінавачаных на сьледстве. Першым, але не апошнім.

Вось красамоўны прыклад. 29 красавіка Ўладзіслаў Кавалёў паведаміў сьледчым, што Дзьмітрый Канавалаў плянаваў узарваць у мэтро бомбу, схава-

ную ў корпусе вогнетушыцеля. Паводле Кавалёва, менавіта дзеля гэтага Канавалаў прывёз з войска скрадзены ў частцы вогнетушыцель, які знайшлі ў ягоным падвале. Далей, паводле пратаколу допыту, Канавалаў падзяліўся зь сябрам ведамі пра асаблівасьці выбухаў у замкнёнай прасторы, у прыватнасьці ў вагоне мэтро.

Увогуле, шчырасьць Кавалёва на гэтым допыце і ягоная дасьведчанасьць што да плянаў Канавалава можа зьдзівіць: у назіральнікаў ствараецца ўражаньне, нібыта ён сьвядома па цаглінцы выбудоўваў пэўны вобраз Канавалава. Спачатку пасьля эпізоду 2011 году Кавалёў згадаў выбухі 2005-га ў Віцебску: што Канавалаў быў нібыта незадаволены малой колькасьцю пацярпелых пасьля першага выбуху. Потым вярнуўся да выбуху 2008 году ў Менску. Маўляў, Канавалаў плянаваў узарваць другую бомбу неўзабаве пасьля першай, калі сярод людзей на праспэкце Пераможцаў узьнікне паніка, каб было больш ахвяраў. (Заўважу, што гэта ўвогуле дзіўная заява, бо яна супярэчыць усім ранейшым паказаньням, паводле якіх Канавалаў, калі не ўзарвалася першая бомба, пайшоў дамоў па другі зарад, вярнуўся ў натоўп і заклаў другую бомбу, якая ўрэшце выбухнула).

Але і на гэтым Кавалёў не спыніўся. Вось яшчэ цытаты зь ягоных паказаньняў сьледчым: «...яму заўсёды падабаліся выбухі», «...расказваючы пра выбухі, ён узбуджаўся, размахваў рукамі», «...быў нязгодны з тым, што справу па выбуху 2008 году завялі паводле артыкулу аб хуліганстве, а не тэрарызьме», і нарэшце «...казаў, што ў турму не зьбіраецца, лепш скончыць жыцьцё самагубствам».

Фактычна гэта выглядае як завершаны псыха-

лягічны партрэт чалавека з маніякальнай схільнасьцю да арганізацыі выбухаў, якому галоўнае забіць як мага больш, а зь якой мэтай, ня мае асаблівага значэньня. І якога, дарэчы, не хвалюе ўласны лёс. Канавалаў, якім яго намаляваў на гэтым допыце Кавалёў, урэшце аказаўся вельмі падобны да таго Канавалава, якога людзі ўбачылі ў судзе: халоднага і абыякавага да ўсіх вакол, нават да блізкіх сваякоў, нават да самога сябе. Праблема для скептычнага вока палягае ў тым, што партрэт аказаўся занадта завершаным і дакладным, цалкам адпаведным высновам сьледзтва. Ізноў паўтаруся, гэта праблема даверу да праваахоўнай сыстэмы ў цэлым.

Заўважу, што вобраз халоднага і абыякавага злачынцы падтрымліваўся і пасьля суду — зьвесткамі пра тое, што Канавалаў так і не падаў прашэньня аб памілаваньні, не рэагаваў на напаміны, што яшчэ ня позна скарыстаць такую магчымасьць. Распаўсюджвалі гэтыя зьвесткі толькі прадстаўнікі ўлады. Ад адваката ці сваякоў грамадзтва пра гэта нічога ня чула.

Цікава, на думку назіральнікаў, і тое, калі адбыўся гэты допыт Кавалёва — 29 красавіка, ажно праз два тыдні пасьля тэракту. Да таго фактычна кожны дзень ішлі допыты, сьледчыя эксьпэрымэнты, вочныя стаўкі. Яны праходзілі ў КДБ і не спыняліся нават у Навінках, куды падсьледных адвозілі на псыхіятрычную экспэртызу. Але чамусьці раней Кавалёў ня згадваў пра вогнетушыцель ды іншыя жудасныя падрабязнасьці, а тут разгаварыўся.

Можа, таму, што да таго часу ў сьледчых ужо склалася даволі лягічная вэрсія зьдзяйсьненьня тэракту, але ў ёй не хапала галоўнага зьвяна —

матыву (або першапачатковы матыў трэба было зьмяніць)?..

Магчыма, сьледчыя параіліся з кім трэба, і ў выніку спробу палітычнага замаху на першую асобу вырашана было не акцэнтаваць, каб яна не супярэчыла карціне стабільнага і дынамічнага разьвіцьця беларускага народу пад мудрым кіраўніцтвам? А што да асобных прадстаўнікоў гэтага народу, то чаму яны не могуць быць маньякамі? «Няма роду без выроду». Толькі калі вырод, патрабуюцца адпаведныя факты, паводзіны, хаця б намеры.

Вось пра іх і загаварыў 29 красавіка абвінавачаны Кавалёў. Нельга выключыць, што з падачы сьледчых і за абяцаньне меншага пакараньня. Таму ў якасьці матыву засталася невыразная «дэстабілізацыя абстаноўкі», а выканаўца павінен быў выношваць яшчэ больш жудасныя пляны, якія б сьведчылі, што ён яўны маньяк.

Нічога нельга выключыць, калі няма даверу...

## XXVIII. Пацярпелыя і публіка

Самай шматлюднай групай на працэсе была публіка. У пачатку і ў канцы працэсу ў залі зьбіралася чалавек дзьвесьце, у іншыя дні — палова ад гэтай колькасьці, а то і меней. Слова «публіка» — умоўнае. Рэч у тым, што спачатку большасьць у залі складалі пацярпелыя, а іх фармальна публікай не назавеш. Публіка — гэта назіральнікі бяз права голасу ў судзе, якія могуць толькі слухаць і запісваць. Пацярпелыя ж маюць асобны статус, які дазваляе ім на роўных зь іншымі бакамі ўдзельнічаць у працэсе: даваць паказаньні, самім апытваць сьведак, заяўляць хадайніцтвы, выказваць меркаваньні наконт хадайніцтваў іншых бакоў, удзельнічаць у судовых спрэчках.

Але пацярпелыя сядзяць у залі разам з публікай, і вонкава аддзяліць адных ад другіх немагчыма, калі гаворка не пра першы дзень суду — тады на паседжаньне зьявіліся нават людзі на мыліцах, з кійкамі — як Інэса Крутая, Аляксандар Аляксандрыя ды іншыя параненыя ў тэракце. Відовішча было балючае. Не магу забыць, як у перапынку было няёмка задаваць ім пытаньні, турбаваць іх просьбамі пра камэнтар. Мне ніколі не было так няёмка выконваць журналісцкую працу, хіба што пасьля трагедыі на Нямізе ў 1999 годзе.

На адкрыцьцё працэсу зьявіўся 121 пацярпелы. Гэта з 401, за кім сьледзтва прызнала такі статус. Суд нават адмыслова вырашаў, ці пачынаць слуханьні пры адсутнасьці большасьці пацярпелых, і пастанавіў пачынаць. Калі апытвалі пацярпелых

і асабліва калі выступалі сваякі загінулых, у залі стаяла цішыня. Усе ўспаміны вартыя цытаваньня.

Мне запомніўся аповед мужчыны, якога на папярэдняй станцыі літаральна ўціснулі ў вагон два пасажыры, муж і жонка. «Там было цесна, мяне прыціснулі, — згадваў пацярпелы апошнія сэкунды перад выбухам. — Еду незадаволены, а на станцыі дзьверы адчыняюцца і... выбух! Гэтых дваіх пасекла ашчэпкамі... Адразу загінулі. Аказалася, закрылі мяне сабой. Вось як бывае», — голас пацярпелага задрыжаў і змоўк. З майго месца твару не было відаць, але пачулася, што мужчына плача. Па вялікім рахунку, ён сказаў гэта пра ўсіх 15 загінулых.

Калі пацярпелыя давалі паказаньні, зьдзівіла, што толькі лічаныя зь іх выказвалі варожасьць да абвінавачаных, а шмат хто нават сумняваўся ў іх віне. Адна жанчына сказала, што ў абвінавачаных добрыя твары, і яна ня верыць, што перад ёй забойцы. Яна быццам павінілася: «Гэта нашая агульная віна — усяго грамадзтва, што такое здарылася». Былі і пацярпелыя, якія клялі абвінавачаных і заклікалі суд прызначыць найвышэйшую меру. Адзін мужчына запатрабаваў ад суду сьмяротнага пакараньня для Канавалава і пажыцьцёвага зьняволеньня для Кавалёва. Гэта было яшчэ да абвяшчэньня прысуду. Заўважу, што паводле закону пацярпелыя маюць права патрабаваць таго ці іншага выраку.

Сярод публікі было шмат, так бы мовіць, «чыстых назіральнікаў». Трагедыя ў мэтро так узрушыла людзей, а веры да афіцыйнай вэрсіі, відаць, настолькі бракавала, што яны гатовыя былі ахвяраваць вольным часам, каб разабрацца самім. Жанчына сталага веку, малады чалавек, мужчына

сярэдніх гадоў, выкладчыца ВНУ, пэнсіянэр… Даводзілася браць камэнтары ў людзей рознага веку і рознага сацыяльнага статусу, і я магу засьведчыць: у большасьці да канца працэсу не было гатовага рашэньня. Як журналіст прызнаюся, што, беручы інтэрвію на відэа, правакаваў на выказваньне асабістай думкі праз палеміку. Рабіў гэта наўмысна, бо жанр відэакамэнтару абмежаваны па часе і патрабуе дынамічнасьці.

Гора аб’ядноўвае людзей. На гэтым працэсе ўбачылася: яно да таго ж дэманструе як адметнасьці, так і падабенства прадстаўнікоў аднаго народу. Што беларусы — адзін народ, таксама было бачна. У працэсе ёсьць такая стадыя — допыт пацярпелых. У канцы допыту кожнага прасілі ацаніць матэрыяльныя і маральныя страты. Зь першым ішло больш-менш гладка: відаць, яшчэ на сьледзтве людзей папярэдзілі, што ў судзе ім давядзецца ацаніць згубленыя і пашкоджаныя рэчы, бо гэта рабілася без асаблівых развагаў.

Пасажыры мэтро, якія пацярпелі— людзі небагатыя, да таго ж сьціплыя. Сярэдні чалавек апранаецца танна, прычым саромеецца гэтай таннасьці, бо, прыкладам, называць кошт ботаў у 50 тысяч чалавеку было яўна няёмка.

Зноў пераканаўся, што людзі збольшага ўсё ж ня схільныя, скарыстаўшы момант, здабываць выгаду любымі сродкамі. Так, з усіх пацярпелых жанчын, якія выступілі ў судзе, можа, адна-дзьве яўна перабольшылі кошт пашкоджанай вопраткі (хоць дапускаю, што нейкая зь іх сапраўды зайшла ў мэтро пасьля моднага буціка). Але асноўнай частцы пацярпелых абмяркоўваць пытаньні матэрыяльных стратаў усё ж было неяк нязручна. «Ну што там

куртка, што боты, калі вунь людзі загінулі?» — прыкладна такое гучала з вуснаў, мабыць, кожнага другога. У мяне гэтая рыса выклікае гонар.

Зразумелай была і пазыцыя бацькі аднаго пацярпелага, які за страчанае вока сына запатрабаваў кампэнсацыю ў 500 тысяч эўра. Хлопцу патрэбныя дарагія апэрацыі.

Але сьледам у апытаньні судзьдзі выявілася яшчэ адна рыса, якой ганарыцца неяк не выпадае. Гэта нейкая заніжаная патрабавальнасьць да тых, хто цябе пакрыўдзіў, растаптаў чалавечую годнасьць. Славутая беларуская «талерантнасьць».

Патлумачу. Пасьля пытаньня пра ацэнку матэрыяльных стратаў судзьдзя прасіў пацярпелых ацаніць свае маральныя пакуты. І вось гэтае пытаньне ставіла большасьць проста ў тупік. «Якія яшчэ маральныя пакуты, калі са мной ужо ўсё добра?!» — гэта, калі перавесьці інтанацыю ў словы, чулася ў адказах кожнага другога пацярпелага (дарэчы, сьледчыя маглі б да такіх пытаньняў пацярпелых падрыхтаваць).

Памятаю, як маладзіца, якая на час выбуху была цяжарнай, у сваім выступе ані слова не сказала пра тое, што ад тэракту магло загінуць дзіця, якое яна насіла пад сэрцам! Ня тое што пагрозу ў грошах не ацаніла, але ўвогуле не абурылася, што ў яе маглі адабраць самае дарагое.

Допыт пацярпелых доўжыўся некалькі дзён і пэрыядычна аднаўляўся, журналісты гэтую тэму, як кажуць «пераварылі» і пачалі жыва абмяркоўваць паміж сабой. «Ды ўжо ж, беларусы — не амэрыканцы. Тыя б тут столькі нагаварылі пра каштоўнасьць жыцьця! Толькі за маральную шкоду выставілі б мільённыя пазовы! А з нашым

людам рабі што хочаш, усё сьцярпім!» — з гэтай думкай пагаджаліся журналісты як незалежных, так і дзяржаўных мэдыяў. Той, хто яе выказаў, як у ваду глядзеў.

Ужо на наступны дзень нарэшце знайшоўся пацярпелы беларус, які выразна выказаўся менавіта пра каштоўнасьць жыцьця і асудзіў бесчалавечнасьць тых, хто на гэтую каштоўнасьць замахнуўся. Узяўшы гэтага чалавека на заметку, у перапынку я зьвярнуўся да яго па камэнтар. Але калі даведаўся, адкуль ён, стала крыўдна за менчукоў. Не, ён таксама быў беларусам, але беларусам з амэрыканскім пашпартам. Гэты чалавек, вядомы спартовец, з 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя жыве ў ЗША, а ў Менск увесну 2011 году прыяжджаў наведаць сваякоў — і вось трапіў у мэтро 11 красавіка.

Спрабуючы пашырыць кола камэнтатараў, нечакана для сябе наткнуўся на групу назіральнікаў, аб’яднаную, як мне падалося, ня толькі цікавасьцю да працэсу. Тут былі як пацярпелыя, так і звычайныя наведнікі суду. Усе вельмі крытычна ставіліся да вэрсіі сьледзтва.

У гэтай групе было некалькі лідэраў, і сярод іх вылучаўся пацярпелы Самвэл Саакян. Ужо на першым паседжаньні ён запомніўся журналістам тым, што запатрабаваў дадатковага часу на азнаямленьне з матэрыяламі справы. Абурацца было чаго — на вывучэньне больш як 550 тамоў далі ўсяго некалькі дзён. Пацярпелы прасіў адкласьці працэс. Між тым судовая машына якраз пачала набіраць ход, дзе ёй было спыніцца? Хадайніцтва Саакяна суд не задаволіў. Потым журналісты адзначылі, што гэты пацярпелы задае юрыдычна пісьменныя пы-

таньні, спрабуе высьветліць дэталі, якіх іншыя не заўважылі.

Пры гэтым выразна было відаць, што такая актыўнасьць выходзіць яму бокам. Ва ўсякім разе, судзьдзя Аляксандар Федарцоў нэрваваўся, калі слова браў Самвэл Саакян, прысьпешваў яго, а часам і абрываў. Нэрвовае «Ён пра гэта ўжо казаў! Наступнае пытаньне!» падчас допыту чарговага сьведкі ад судзьдзі гучала толькі на адрас Саакяна. Да ўсіх астатніх удзельнікаў працэсу, нават да абвінавачаных, акрамя, магчыма, адваката Станіслава Абразея, ён ставіўся больш нэўтральна.

Бывала і такое, што людзей з гэтай групы судзьдзя Федарцоў выдаляў з залі. За аплядысмэнты, сьмех ці гучныя рэплікі. Але не заўсёды заслужана: аднойчы судзьдзя выдаліў дзяўчыну, якая нічым не парушыла парадак у залі, проста нехта за яе сьпінай нешта голасна прамовіў у момант, калі судзьдзя падняў вочы і, відаць, трапіў на яе позіркам. «Парушальніца» настойвала, што невінаватая, але судзьдзя быў няўмольны. Усім астатнім Аляксандар Федарцоў зноў нагадаў пра парадак на працэсе. Між тым у залі даволі часта перашэптваліся, у тым ліку і ў нашым журналісцкім кутку. Дзякуй Богу, на журналістаў судзьдзя такой пільнай увагі не зьвяртаў.

Аднойчы паміж Самвэлам Саакянам і Аляксандрам Федарцовым адбылося нешта накшталт спрэчкі, што было неверагодна для маіх уяўленьняў пра беларускія суды апошняга дзесяцігодзьдзя. Зачытваўся пратакол допыту Канавалава ад 27 траўня. Самвэл Саакян настаяў на тым, каб судзьдзя чытаў пратакол без купюраў. Пацярпелы назваў пэўныя старонкі 509-га тому — 101–106 — і папрасіў за-

чытаць іх цалкам. У выніку прагучалі зьвесткі, зь якіх можна было меркаваць, што матыў тэракту быў блізкі да палітычнага.

«Чаму вы не агалошваеце ўсяго цалкам? Тое, што ён хацеў зьмяніць уладу?» — выкрыкнуў Саакян, калі судзьдзя, чытаючы, зрабіў паўзу. Федарцоў рэплікі быццам не заўважыў. Магчыма, каб заўважыў, пацярпелага давялося б адразу выдаліць, а гэта ў пачатку працэсу азначала б скандал. Нагадаю, што паводле судовых парадкаў рэплікі з залі без дазволу суду катэгарычна забараняюцца.

Ці ўдалося даведацца, што менавіта не прагучала ў зачытаным судзьдзём пратаколе? На жаль, Самвэл Саакаян адмовіўся паведаміць гэта журналістам. Ня стаў ён нічога камэнтаваць нават пасьля свайго асабістага «дэмаршу» — калі ў канцы працэсу пакінуў залю на знак пратэсту. Гэта здарылася 2 лістапада, пасьля таго як пацярпелы запатрабаваў ад суду выклікаць спэцназаўцаў падразьдзяленьня «Алмаз», якія затрымлівалі Канавалава, Кавалёва і Пачыцкую. Каб падмацаваць хадайніцтва, Самвэл Саакян працытаваў Аляксандра Лукашэнку: пра тое, што «ў гэтай справе няма чаго хаваць». Пацярпелага падтрымалі адвакаты, аднак пракуроры выказаліся супраць, а судзьдзя стаў на іх бок.

Іншыя сябры «групы Саакяна» ішлі на кантакт з прэсай таксама ня вельмі ахвотна. Большасьць адмаўлялася зусім, некаторыя маглі сказаць некалькі словаў, але рашуча не хацелі нічога камэнтаваць на відэакамэру. Аднаго разу, калі я наблізіўся да гэтай групы, каб дамовіцца пра камэнтар, пры гэтым размаўляючы па мабільным тэлефоне, адзін з назіральнікаў накінуўся з абвінавачаньнямі, што я нібыта запісваю на дыктафон іх размовы паміж сабой.

Сабе я тлумачу гэтую «шпіёнаманію» тым, што, магчыма, у гэтых людзей сапраўды былі падставы баяцца праслухоўваньня і правакацыяў з прычыны свайго стаўленьня да вэрсіі сьледзтва. І ўсё ж не магу не адзначыць, што гэтае стаўленьне было нейкім запраграмаваным. Было ўражаньне, што адносна віны Канавалава і Кавалёва некаторыя мелі загадзя сфармаванае меркаваньне, якога б не зьмяніў ніякі суд.

Асобнай выспаю ў залі была маці абвінавачанага Ўладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва. Гэтая моцная ў сваім змаганьні за сына, а ў жыцьці кволая жанчына ніколі не адмаўлялася ад размовы з журналістамі, хоць было бачна, як ёй цяжка. Размаўляючы, Любоў Кавалёва вачыма шукала ў суразмоўцы аднадумца, але, здаецца, знаходзіла не заўсёды. Між тым як чалавеку ёй спачувалі незалежна ад стаўленьня да справы.

У пачатку кожнага судовага дня чарговы ахоўнік сустракаў маці Кавалёва каля будынка суду, неадлучна сядзеў побач у залі, звычайна на «галёрцы», усё паседжаньне. Магчыма, толькі ў абед «ачапленьне» здымалі, ну і ў канцы судовага дня таксама. Ня раз назіраў, як маці Кавалёва сама ці з дачкой Таццянай ішлі ад суду пешшу ў кірунку Малінаўкі. Калегі-журналісты казалі, што жанчына нібыта ўзяла крэдыт, каб наняць адваката на абарону сына і жыве ў менскіх знаёмых.

Ужо пасьля суду я даведаўся, што прытуліла Любоў Кавалёву на сваёй кватэры пацярпелая Інэса Крутая.

Інэса Крутая зьяўлялася на працэсе лічаныя разы. Жанчына ніяк не магла залячыць нагу, да таго ж у яе пагоршыўся зрок — ашчэпкамі ад вы-

буху пашкодзіла вока. Што да справы, то Інэса не хавала недаверу да афіцыйнай вэрсіі. Гэтаксама як яе бацька Аляксандар Крутой, які выступаў у судзе законным прадстаўніком пацярпелай.

Ужо на першым паседжаньні Крутой запатрабаваў адкласьці працэс, пакуль ня будзе ўведзены інстытут прысяжных і не скасуюць сьмяротную кару. Вельмі дакучаў суду прадстаўнік пацярпелай і падчас апытаньня сьведак ды абвінавачанага Кавалёва.

На маю думку, Аляксандар Крутой фармуляваў пытаньні крыху блытана, часам паўтараючыся. Падалося, што да суду ў яго было асаблівае стаўленьне...

Аднаго дня Аляксандар Крутой у суд не зьявіўся, а судзьдзя Аляксандар Федарцоў паведаміў прысутным, што супраць Крутога заведзеная крымінальная справа па абвінавачаньні ў злосным хуліганстве. Мяркуючы з цыдулкі, якую зачытаў судзьдзя, Крутой, прыйшоўшы ў паліклініку, «выліў са слоіка на галаву доктару вадкасьць з пахам мачы».

Што інцыдэнт здарыўся ў мэдычнай установе, дзе пасьля выбуху наглядалася і лячылася дачка Крутога Інэса і што да лекараў гэтай установы ў пацярпелай ёсьць вялікія прэтэнзіі, стала вядома пазьней.

У канцы 2011 году Аляксандар Крутой трапіў у псыхіятрычны шпіталь на прымусовае лячэньне, а ягоная дачка Інэса зьвярнулася ў амбасаду Нямеччыны з просьбай аб палітычным прытулку.

## XXIX. Экспэрымэнт, якога не было

Канавалаў так і не назваў сайту, на якім ён нібыта знайшоў зьвесткі пра тое, як вырабіць выбуховыя рэчывы і сабраць бомбу. Сказаў, што ўжо ня памятае, і сьледчыя супакоіліся. Узьнікае лягічнае пытаньне: чаму яго не пасадзілі за кампутар, каб усё знайшоў і прадэманстраваў, як ён гэта рабіў?

Вядома, Канавалаў мог бы ад такога экспэрымэнту і адмовіцца, але ж не адмовіўся ён ад зьбіраньня бомбы з «макароны». Ізноў пытаньне недаверлівых: ці не таму гэты экспэрымэнт не правялі, што стаў бы відавочны сапраўдны ўзровень кампутарнай пісьменнасьці Канавалава?..

Зь іншага боку, у матэрыялах справы цытавалася перапіска Канавалава ў інтэрнэце, куды ён заходзіў праз мабільны тэлефон, яшчэ калі служыў у войску ў 2010 годзе. Значыць, усё ж разьбіраўся і сапраўды мог знайсьці патрэбную інфармацыю. Чаму ж тады не знайшоў на замову сьледзтва? Адказ напрошваецца адзін: чамусьці не замаўлялі. А вось чаму не замаўлялі — адказаў можа быць шмат. У тым ліку і пра тое, што ведалі, наколькі гэта рызыкоўна для вэрсіі сьледзтва.

Увогуле, са сьледчымі экспэрымэнтамі на гэтым працэсе адбывалася дзіўнае. Дакладней, на сьледзтве, а суд фактычна ўсё прыняў. Зьняты на відэа славуты экспэрымэнт па імітацыі зьбіраньня бомбы 2011 году Канавалаў здаў на тройку, бо памыліўся ў складзе выбухоўкі (не назваў алюмініевага парашку) і наблытаў з паражальнымі элемэнтамі. За зьбіраньне макету бомбы 2008 году Канавалаву

ўвогуле можна ставіць двойку, бо ён зрабіў некалькі істотных памылак: з колькасьцю батарэек, зноў з памерам гаек, таксама сабраў інакшы электрычны ланцуг.

На судзе былі абвешчаныя вынікі экспэртызы ФСБ, якая палічыла, што бомба 2011 году, якую сабраў Канавалаў на экспэрымэнце, адрозьніваецца ад рэальнай. Але фактычна суд ад гэтай экспэртызы адмахнуўся.

Шмат пытаньняў у непрадузятага назіральніка выклікалі і экспэрымэнты, што праходзілі з удзелам экспэрта Сьцяпана Клімовіча. На відэа бачна, што некаторымі сваімі пытаньнямі ён хутчэй падказвае Канавалаву адказы. Суд у такіх умовах мог правесьці свой экспэрымэнт — і да дэманстрацыі відэа, і нават пасьля.

Прапанаваць Канавалаву зноў сабраць бомбу ва ўсіх на вачах — рызыкі ніякай, а выглядала б пераканаўча. Але ў суду ня ўзьнікла ніякіх сумненьняў наконт вэрсіі сьледзтва, а да сумненьняў абароны ён паставіўся як звычайна.

### *Дзіўны выбух 2008 году*

На допыце 13 красавіка Канавалаў сказаў, што калі не ўзарвалася першая закладзеная бомба, ён пачакаў яшчэ хвілін 10 і пайшоў на кватэру па другую. Актывізаваў яе і не пабаяўся вярнуцца фактычна на тое ж месца, яшчэ нават бліжэй да пляцоўкі, дзе быў Аляксандар Лукашэнка.

Паміж часам меркаванага выбуху першай бомбы і закладкай другой прайшло ня менш за паўгадзіны. Першую бомбу ўжо на той момант знайшлі і спрабавалі яе абсьледаваць, адначасова прачэс-

ваючы навакольную тэрыторыю — шукалі іншыя бомбы. Хоць шукалі з сабакам, нічога падазронага не знайшлі. Вядома, магло атрымацца так, што Каналаў заклаў другую бомбу ўжо пасьля таго, як тое месца праверылі з сабакам. Але каб зьвесткі пра першую бомбу не дайшлі да Лукашэнкі і не зьмянілі ягоных паводзінаў і паводзінаў ягонай аховы — у гэта паверыць цяжка.

Неяк трэба дапускаць, што ахову вакол кіраўніка краіны пасьля знаходкі першай бомбы не павялічылі, а міліцыянты, што стаялі ў вонкавым ачапленьні, зноў «пранзявалі» і прапусьцілі Канавалава з другой бомбай у пакунку ад соку.

Аднак ужо не меркаваная пагроза, а сапраўдны выбух неўзабаве пасьля 12-й ночы зноў не зьмяніў плянаў Лукашэнкі. Прычым той ня толькі ня зьехаў прэч зь небясьпечнага скрыжаваньня, а нават пайшоў разьбірацца асабіста на месца выбуху! І гэта пры тым, што мусіў ведаць, што гэта ўжо другая па ліку бомба, а значыць, можа быць і трэцяя, і чацьвертая!

Незвычайныя, мякка кажучы, паводзіны і для лідэра краіны, і для ягонай аховы, якая адказвае за жыцьцё прэзыдэнта перад законам.

Прапаную вытрымкі з артыкула Ўладзімера Барадача, які зьявіўся на сайце «Беларускі партызан» напярэдадні суду над Дзьмітрыем Канавалавым і Ўладзіславам Кавалёвым. (Невялікія купюры ў артыкуле зробленыя мною выключна зь меркаваньняў памеру тэксту. Таксама я разьбіў артыкул на падзагалоўкі, каб дапамагчы арыентавацца ў аргумэнтах палкоўніка. — *А. Г.*)

*З артыкулу «Хто ладзіць скокі на крыві?»*
*Уладзімер Барадач, сайт «Беларускі партызан»*
*09.09.2011*

Палкоўнік Уладзімер Барадач працягвае аналізаваць матэрыялы па справе аб тэракце ў менскім мэтро, разгляд якой пачнецца ў Вярхоўным судзе 15 верасьня. Як лічыць наш экспэрт, у гэтай гісторыі зашмат няяснасьцяў і супярэчнасьцяў, якія дазваляюць зрабіць выснову, што віцебскіх тэрарыстаў уцёмную выкарыстоўвалі нейкія іншыя магутныя сілы, набліжаныя да ўлады.

«Выбух 11 красавіка 2011 г., як стрэл «Аўроры», зрабіўся сыгналам для новай буйнамаштабнай апэрацыі па ўмацаваньні рэжыму, апраўданьні сваіх дзеяньняў 19 сьнежня 2010 году, паскарэньні выдачы Масквой крэдыту, зрыве вынясеньня рашэньня Эўразьвязу па Беларусі, стрымліваньні росту сацыяльна-палітычнай напружанасьці ўнутры краіны.

Цывілізаваны сьвет, паводле задумы, павінен быў падтрымаць краіну, якая абвясьціла барацьбу з тэрарызмам. Аднак вінаватых ужо загадзя падрыхтавалі і вызначылі.

Аляксандар Лукашэнка ў 17.33 15.04.2011 удакладніў: «Дэстабілізацыя абстаноўкі на харчовым рынку, валютным рынку, а таксама выбух у мэтро — гэта зьвёны аднаго ланцуга»...

***Пракол***

23 гадзіны 43 хвіліны 11.04.2011. «Прааналізуйце ўсе факты, магчыма, ёсьць сувязь з выбухам 3 ліпеня. Можа, гэта зьвёны аднаго ланцуга», — заявіў Лукашэнка на нарадзе ў сувязі з выбухам у

мэтро. Прайшло менш за 6 гадзін пасьля выбуху, яшчэ чуваць былі стогны зьнявечаных людзей. Але Лукашэнка нецярпліва паказвае сьледчым кірункі. Там жа ўскосны доказ (адбіткі пальцаў) будучага абвінавачанага ў зьдзяйсьненьні тэракту ў мэтро, які папоўніць недахоп доказаў у апошнім злачынстве.

Сьледзтва ўстанавіла, што тэхнічнай сувязі паміж выбухамі 2008 і 2011 гадоў няма. Сувязь у тым, што ў абодвух выпадках фігуруе асоба пазаштатнага «інфарматара» Канавалава. Вынікамі выбуху ў абодвух выпадках скарысталася ўлада.

У той час міністар унутраных справаў Навумаў сьцьвярджаў: «Менскай выбуховай прыладзе ўвогуле не было аналягаў у сьвеце. Ніводзін замежны спэцыяліст ніколі яшчэ з такой не сутыкаўся. Такое выбуховае прыстасаваньне ў народзе называюць «кіса», або трыперакіс ацэтону. «Зварыць 30 грамаў такой сумесі — гэта пагроза для жыцьця чалавека, а ў нашым выпадку гаворка ідзе пра 700 грамаў».

Але на 11 красавіка ў тэрарыстаў было ўжо 5–7 кг у мэтро, плюс, паводле словаў прэзыдэнта, яшчэ 3 бомбы. Пра тратыл тут і гаворкі няма.

18 гадзін 48 хвілін 13.04.2011. Старшыня КДБ перакручвае дадзеныя МУС па выбуху 2008 і 2011 гг.: «Тэракт у менскім мэтро быў зьдзейсьнены з выкарыстаньнем раней невядомага выбуховага рэчыва». Паводле ягоных словаў, такое ж рэчыва было ўжытае пры выбуху ў Менску ў 2008 годзе, і аналягаў ВР не ўдалося выявіць «у дадзеных ніводнай зь дзяржаваў» (абвяргаецца нават афіцыйнымі экспэртамі ў 2008 і 2011 гг.). Далей ён працягвае: «Аднаго граму выкарыстанага рэчыва хопіць, каб адарваць кісьць рукі» (і праўда, правяраючы нявя-

домае рэчыва ў пакеце соку «Садочак» у 2008 г., супрацоўнік «Алмазу» страціў два пальцы). Генэрал Зайцаў рабіў свае заявы, не дачакаўшыся канчатковых вынікаў экспэртызы, ва ўнісон словам Лукашэнкі пра «зьвёны аднаго ланцуга».

Паводле заключэньня экспэртызы, пасьля апошняга выбуху выяўленыя элемэнты тратылу, уратрапіну, салетры, парашку алюмінію і г.д.

Тлумачу: з усіх гэтых элемэнтаў спэцыяліст можа зрабіць ВР паніжанай магутнасьці ў звычайных умовах. Але для выбуху такіх ВР, як правіла, выкарыстоўваецца прамежкавы дэтанатар у выглядзе тратылавай шашкі. Нават ад заводзкага дэтанатара яно не выбухае.

Што да складу выбуховага рэчыва, ніякай сувязі з выбухам 4 ліпеня няма. Калі б чалавек на відэа ў мэтро нёс у торбе зарад, у якім выкарыстоўвалася ВР, як і ў 2008 годзе, то людзей на гэтай станцыі размазала б па сьценках. Тратылавы эквівалент зараду склаў бы 40 кг, калёна паляцела б як аловак.

Дарэчы, экспэрты ФСБ нічога агульнага паміж гэтымі выбухамі ня выявілі. З высновамі сьледзтва па дадзеным пытаньні не пагадзіліся і іншыя міжнародныя экспэрты.

Але, каб выканаць указаньні Лукашэнкі пра наяўнасьць гэтай узаемасувязі, сьледзтва прымушаюцьісьці на падлог. Хочуць даказаць, што ў зарадзе, які выбухнуў у 2008 годзе, мог быць тратыл (хоць экспэрты яго там не заўважылі). Канавалаў «купляе» ў Кавалёва і іншых нявысьветленых асобаў 375 грамаў тратылу, захоўвае яго 3 гады, вырабляе 700 грамаў ВР і ўзрывае 4 ліпеня. Заўважу, тратыл захоўваецца ў выглядзе 400-, 200- і 75-грамовых шашак. Ніяк не атрымліваецца 375 грамаў.

Выходзіць, прадаўцы «рэзалі» шашкі пілой і распрадавалі тратыл па грамах. Дый памяць у хлопцаў хвацкая: памятаюць усё да граму, а вось прадаўцоў забылі. Падчас куплі валюты на чорным рынку можна страціць грошы (кантралюецца ўладай), а падчас гандлю зброяй зь незнаёмымі людзьмі страчваюць усё. Прадаўцоў сьмерці не знайшлі, бо іх не было. У двухлітровым пакеце «Садочку», які не разарваўся, выбуховае прыстасаваньне ня мела тратылу (афіцыйныя дадзеныя МУС).

Навошта злачынцу 375 грамаў тратылу, калі ён сам «можа» рабіць ВР у 2 разы больш магутнае? Да таго ж для выбуху тратылу неабходныя заводзкія дэтанатары.

Напрошваецца пытаньне, не адлюстраванае ў пастанове: у каго купіў Канавалаў тратыл для выбуху ў мэтро? Экспэрты выявілі элемэнты тратылу, уратрапіну, салетры, парашку алюмінію. Тут выкарыстоўвалася ВР паніжанай магутнасьці, выбух якога без дадатковага зараду немагчымы. А дзе ён купіў электрадэтанатары, прыёмныя і перадавальныя прылады, пра якія не сказана ў знакамітым тварэньні А. Шведа?

Ах, якая драбяза, Канавалаў па жыцьці вінаваты. Дастаткова адбітку пальца на пакеце...»

## XXX. Дзе ключавое відэа зь менскага вакзалу?

Сярод відэаматэрыялаў справы ёсьць і відэа зь віцебскага чыгуначнага вакзалу, датаванае 10 красавіка 2011 году. Раніцай таго дня Дзьмітрый Канавалаў зь цяжкай спартовай торбай у руцэ зьявіўся на вакзале, праседзеў пэўны час у залі чаканьня і выйшаў з будынка на плятформу, кабісьці да цягніка на Менск. У судзе гэтыя здымкі паказалі аднымі зь першых сярод відэаматэрыялаў.

Далейшая дарога Канавалава ў Менск адсочвалася з дапамогай ягонага тэлефону. У судзе агаласілі дадзеныя тэлефоннай кампаніі пра званок з мабільнага Канавалава на мабільны Кавалёва па дарозе ў Менск. Далей быццам павінен быць менскі вакзал... Але паказалі толькі плятформу, па якой Канавалаў ішоў зь цяжкай торбай чорнага колеру. А наступнае відэа пра Канавалава і Кавалёва — знаёмыя ўсім беларускім тэлегледачам кадры, на якіх два хлопцы праносяць праз турнікет мэтро чорную торбу. А дзе ж іх легендарная сустрэча на менскім вакзале?

Раблю наўмыснае перабольшваньне, ужываючы слова «легендарная», каб падкрэсьліць яе сапраўды вялікую значнасьць для вэрсіі сьледзтва, прычым для перамогі гэтай вэрсіі таксама. Бо калі верыць зьвесткам сьледзтва пра тую сустрэчу, то кожнаму, хто за ёй назірае, стане зразумела, што Дзьмітрый Канавалаў заявіўся ў Менск зь нейкай схаванай мэтай, а ня проста папіць зь сябрам гарэлкі ды сустрэцца са знаёмай з інтэрнэту.

Хоць мы ўжо расказвалі пра гэтую сустрэчу,

варта будзе паўтарыцца. Зноў жа ў двух варыянтах.

Першы — на судзе. Паводле паказаньняў Уладзіслава Кавалёва, сустрэць свайго сябра каля цягніка, як дамаўляліся, ён ня змог з элемэнтарнай прычыны — спазьніўся. Таму адразу пайшоў у галоўны вэстыбюль вакзалу, дзе пасярод залі ўбачыў Канавалава. Побач зь ім на падлозе стаяла торба. Тады Кавалёў набліжаецца да сябра, яны вітаюцца, і тут ён хапае торбу Канавалава, спрабуючы падняць яе ды ўскінуць на плячо. Але торба цяжкая, і Кавалёў спускае яе долу.

Далей удвух, кожны за сваю лямку, яны нясуць торбу да падземнага пераходу, заходзяць у мэтро і трапляюць на відэа, калі мінаюць турнікет. «Вы сябе на гэтым відэа пазнаяце?» — запытаўся ў Кавалёва пракурор Стук. «Пазнаю», — адказаў Кавалёў. Апазнаў ён на відэа і Канавалава. Але пракурор не адчапіўся: «А чаму вы апусьцілі торбу і потым панесьлі яе разам? Раз ужо паднялі, дык і несьлі б далей, за плячом». Кавалёў на гэта нічога лягічнага не адказаў. Апусьціў і ўсё. А потым панесьлі разам.

А зараз другі варыянт той жа сцэны — паводле паказаньняў Кавалёва на сьледзтве. Там усё тое самае да моманту, калі ён падняў торбу і пачаў ускідаць на плячо. Тады, паводле Кавалёва, сябар сказаў яму, каб асьцярогся, бо там бомба. Менавіта таму Кавалёў не панёс далей торбу адзін: яны ўзялі яе кожны са свайго боку за лямкі і асьцярожна рушылі да мэтро. А па дарозе да падземнага пераходу Канавалаў нібыта разгарнуў падарункавую паперу, якой была замаскаваная бомба, і Кавалёў убачыў бутлі, запоўненыя жоўтай выбухоўкай.

Мяркую, што першы варыянт сустрэчы Канавалава і Кавалёва нават вонкава адрозьніваўся б ад другога, хоць зразумела, што гук на гэтае відэа не трапляе, а на вялікай адлегласьці пагатоў нічога не было б чуваць. Але з паўзаў, жэстыкуляцыі можна было б зразумець, што адбываецца. Прыкладам, што чалавек нечым азадачыўся, я ўжо не кажу «спалохаўся», што было б натуральна. Мяркую, паглядзеўшы відэа, мы лягчэй маглі б зразумець, дзе хлусіў Кавалёў, на сьледзтве ці на судзе. І з выгляду Канавалава падчас гэтай сустрэчы можна было б меркаваць, прыехаў ён сустрэцца зь сябрам ці па нейкай «сакрэтнай» справе.

Дзіўна, але відэа сустрэчы Канавалава і Кавалёва на менскім вакзале 10 красавіка сьледзтва не знайшло — або не палічыла патрэбным даць гэтую стужку ў матэрыялы справы. Паводле крыніцы, блізкай да суду, сьледчыя спасылаліся на тое, што спазьніліся зьвярнуцца з запытам на Менскі чыгуначны вакзал, дзе такія відэафайлы захоўваюцца нібыта толькі тры дні. Карацей, калі зьвярнуліся, файлы ўжо сьцерлі. На вакзале ў Віцебску, дзе выбуху ў 2011 годзе не было, нічога ня сьцерлі, у менскім мэтро ня сьцерлі, кадры з плятформы ня сьцерлі. А вось на самім вакзале — сьцерлі. Дзіўна.

Дарэчы, паводле той жа крыніцы, запыт да адміністрацыі вакзалу быў накіраваны ажно ў 20-х чыслах красавіка. Параўнайце: паказаньні пра сустрэчу на вакзале ў сьледчых былі ўжо 13 красавіка, але яны чамусьці не пасьпяшаліся замацаваць іх доказам у выглядзе відэа. Мяркую, прычын тут можа быць некалькі.

Першая — ужо згаданая непаваротлівасьць ці

неахайнасьць сьледчых. Забыў сьледчы адправіць запыт ці нешта пераблытаў, вось і не пасьпелі.

Другая прычына: атрыманае відэа аказалася невыразным, дрэннай якасьці, яно пэўна ні пра што ня сьведчыла. Але зь іншага боку, калі б было хоць якое відэа зь менскага вакзалу, няўжо б сьледчыя ад яго самі адмовіліся? Відэа засьведчыла дарогу Канавалава зь Віцебску да месца злачынства, і ў гэтым ланцугу ніводнае зьвяно ня можа быць лішнім, хіба ня так?

Трэці варыянт: відэа даказала тое, пра што казаў на судзе Кавалёў. Што ён проста па-сяброўску хацеў дапамагчы, калі падымаў торбу на плячо, але торба аказалася цяжкая, і далей яны панесьлі яе ўдвух. Звычайная жыцьцёвая сытуацыя.

Застаўся, праўда, і чацьверты варыянт — што сустрэчы на вакзале ўвогуле не было. Тады Кавалёў на сьледзтве казаў што загадалі казаць, а на судзе спрабаваў гэтыя паказаньні павярнуць у больш выгадны для сябе бок. Маўляў, хоць і нёс торбу, але ведаць ня ведаў, што ў ёй. Пры такім варыянце сьледчым трэба было б прыдумаць, чаму яны не змаглі знайсьці відэа сустрэчы. Так і мог узьнікнуць адказ — маўляў, спазьніліся, прашляпілі.

Але калі сустрэчы Канавалава і Кавалёва на менскім вакзале не было, то адкуль узяўся Кавалёў, які на відэа з мэтро разам з Канавалавым нясе цяжкую торбу 10 красавіка? Таму ня менш праўдападобнай за вэрсію сьледзтва можна лічыць і вэрсію Кавалёва, выкладзеную ў судзе: што ён проста дапамагаў сябру несьці цяжкую торбу, не распытваючы пра яе зьмесьціва.

## XXXI. «На відэа дакладна ён»

Літаральна праз некалькі дзён пасьля тэракту маладафронтавец Іван Шыла паведаміў, што пазнаў на відэа з мэтро свайго таварыша па службе К. (так да зьяўленьня афіцыйных дадзеных пра арыштаванага называлі ў мэдыях Дзьмітрыя Канавалава).

***Іван Шыла: «У нашай частцы падазраваны ня мог навучыцца выбуховай справе»***
*З інтэрвію для Радыё Свабода 20.04.2011*

Пытаюся ў Івана Шылы, ці пазнаў ён свайго таварыша па службе К. на відэа, якое ў інтэрнэце фігуруе як прадстаўленае сьледзтвам.

— Так, 99%, што гэта ён. На першым кавалку дрэнна бачна, але на апошнім, калі ён выходзіць з мэтро пасьля выбуху, — там дакладна ён. Малаверагодна, што нехта можа быць так да яго падобны.

**— Цяпер шмат хто зьдзіўляецца, чаму тэрарыст, які сплянаваў і ажыцьцявіў такое злачынства, так неразумна сябе паводзіў пасьля. «Засьвяціўся» на відэа, не зьмяніў вопраткі, увогуле ня зьехаў куды-небудзь далёка, а пайшоў піць гарэлку. Калі тэрарыст — сапраўды твой таварыш па службе К., ці можна патлумачыць гэта нейкімі ўласьцівымі яму асаблівасьцямі?**

— Я не экспэрт, для мяне галоўнае пытаньне (калі гэта сапраўды ён) — якая была ягоная матывацыя. Ведаючы яго, я ня вельмі веру ў агучаны матыў: нібыта ён хацеў забіць як мага больш лю-

дзей. Бо быў ён усё ж трохі баязьлівы, безыніцыятыўны. Да таго ж, калі гаворка пра нейкую групу людзей, якія ўсьведамлялі, што робяць, калі гэта была сплянаваная акцыя, то я б не сказаў, што ў яго нейкія асаблівыя лідэрскія якасьці, каб пераканаць людзей зьдзейсьніць злачынства, якое перадугледжвае сьмяротнае пакараньне. Але зь іншага боку, калі яго арыштавалі, нешта падказала мне, што ён мог зрабіць гэта сам.

Іван Шыла згадаў, што ягоны саслужывец меў нядрэнныя веды ў хіміі. Таксама К., паводле Івана Шылы, сам заводзіў размовы пра выбух у Менску ў 2008 годзе. «Пытаўся, што я пра гэта думаю, хто б гэта мог быць і ці зловяць злачынцаў». Калі б ня арышт, ён, магчыма, і не згадаў бы пра тыя размовы, кажа Іван Шыла.

Іван Шыла ведае з інтэрнэту, што днямі быў затрыманы і бацька К. — гадзіньнікавы майстар. Нагадаю, паводле афіцыйных крыніц выбуховае прыстасаваньне, якое грымнула ў Віцебску ў 2005 годзе, было начыненае дэталямі ад гадзіньнікаў. У інтэрнэце зьявіліся зьвесткі пра тое, што ў доме К. у 2005 годзе праводзіўся ператрус — тады абшуквалі кватэры ўсіх гадзіньнікавых майстроў гораду. Ці чуў пра гэта Іван Шыла ад свайго таварыша? Іван кажа, што К. альбо ўвогуле не расказваў пра сваіх родных, альбо казаў такое, што ніяк не запомнілася.

У сакавіку 2012 году размова з Іванам Шылам пра тэракт у мэтро атрымала працяг. Гэтым разам я папрасіў свайго суразмоўцу найперш ахарактарызаваць Канавалава як чалавека.

— Прызываліся мы разам і пачынаючы ад карантыну часта кантактавалі, бо былі ў адным дывізіёне,

хоць і ў розных батарэях. Часта нас адпраўлялі на розныя заданьні. Ён даволі хутка атрымаў званьне сяржанта, быў ужо кіраўніком малодшай ступені, і мне часта даводзілася пад ягоным кіраўніцтвам выконваць нейкія працы, хадзіць у нарады.

Скажу шчыра, што як сяржант, як малодшы кіраўнік ён мне падабаўся. Мне імпанаваў ягоны падыход: ён не загадваў, як у войску часта робіцца, працаваць дзеля працы ці капаць адсюль і да абеду. Таксама ён ня быў прыхільнікам дзедаўшчыны, якая і ў нас была, не вылучаўся на фоне малодшых прызыўнікоў. Таму большасьць таварышаў па службе была радая выходзіць зь ім у нарад, бо ў яго былі разумныя патрабаваньні, разумны падыход.

А як чалавек ён быў закрыты. Наколькі памятаю, ён нічога не казаў пра сваю сям’ю, да яго нават ніхто не прыехаў за ўвесь тэрмін службы. Я ведаў толькі, што ён зь Віцебску, што недзе працаваў там на заводзе, адкуль звольніўся перад войскам.

**— Ці былі нейкія ўчынкі, якія б сьведчылі пра ягоныя чалавечыя рысы: злы ці добры, злапомны ці даверлівы, чэрствы, мяккасардэчны? Які ён быў?**

— Злапомным ня быў дакладна. Дый не было ў яго такіх праблемаў, каб выявіліся пэўныя рысы характару. Сказаў бы, што ён пакінуў нэўтральнае ўражаньне. Асаблівай дабрыні, як і асаблівай злоснасьці, у ягоным характары не было. Паўтаруся, ягонае стаўленьне да таварышаў па службе было добрае, і ён займеў праблемы з камандаваньнем — магчыма, праз такія вось стасункі з таварышамі.

Ён нават на гаўптвахце сядзеў; яго наўмысна завозілі на менскую гаўптвахту за тое, што, дзяжу-

рачы ў карантыне, ня ўгледзеў, як адзін навабранец спрабаваў павесіцца. Спроба была няўдалая, ня думаю, што Канавалаў мог усё пракантраляваць, але яго зрабілі адказным. Магчыма, былі нейкія прэтэнзіі і апроч гэтага, бо на гаўптвахту часта вязуць за некалькі заўвагаў.

**— Якія ў яго былі палітычныя перакананьні? Ён іх неяк паказваў?**

— Казаў, што на выбарах галасаваў за Мілінкевіча, але да палітыкі быў даволі абыякавы. Пэрыядычна мог сказаць, што мэтады, якія выкарыстоўвае апазыцыя, неэфэктыўныя, але сам не прапаноўваў іншых варыянтаў. Я выпісваў незалежную прэсу ў войска, і ён яе ахвотна чытаў, але каб акрэсьліваў сваю пазыцыю ці хаця б размаўляў на палітычныя тэмы — такога ня памятаю. Ён увогуле мала размаўляў.

**— Але вядома, што пра выбухі вы ўсё ж размаўлялі. А што ён пра іх казаў і ў сувязі з чым?**

— Так, мы размаўлялі пра выбух 2008 году, але сам ён пра гэта нічога не казаў. Яго цікавіла, якія ёсьць вэрсіі, што пра гэта пішуць, што думаюць людзі ў маім асяродзьдзі. У свой час мяне выклікалі на допыты ў сувязі з выбухам 3 ліпеня, і ён цікавіўся, пра што мяне пыталі сьледчыя, ці бралі ў мяне адбіткі пальцаў. Пытаўся майго меркаваньня наконт таго, ці знойдуць злачынцаў. Яго цікавілі вэрсіі, хто мог гэта зрабіць. Сам ня бачыў, але шмат хто з таварышаў казаў мне, што ў ягоным тэлефоне было шмат відэа, прысьвечанага нейкім тэрактам.

## XXXII. Скептычны «Чытач»: «Асноўнае відэа — падробка»

Размову з дасьведчанай крыніцай (якую я ўмоўна назваў Чытачом, бо суразмоўца пажадаў захаваць інкогніта) аўтар запісаў паводле нататак і ўспамінаў. Гутарка адбылася ў лютым 2012 году. Чытач перакананы, што асноўнае відэа — запісы са станцыяў «Купалаўская» і «Кастрычніцкая» ад 11 красавіка — падробка, і тлумачыць, чаму ён так мяркуе. Спачатку пра відэа, зьнятае на лесьвіцы да пераходу ад «Кастрычніцкай» да «Купалаўскай» за некалькі хвілін да выбуху.

— Вось глядзіце, ідзе чалавек, гэты сівы, у куртцы. Зараз у яго ногі зьнікнуць. Вось павіс у паветры. 40 разоў я гэта праглядаў і перакананы, што ногі зьніклі. Куды? Ногі зьніклі, бо быў мантаж. Нам трэба было ўбачыць чалавека, які ішоў наперадзе. Менавіта ў гэты момант той чалавек заходзіць у пераход, адбываецца накладаньне карцінак і зьяўляецца мантажная пляма, пра якую казалі экспэрты.

Вось гэтыя два чалавекі. Калі ўважліва за імі назіраць хвіліны паўтары, то бачна, што іх рухі праз пэўны час паўтараюцца. А калі першы падыходзіць сюды, той, які ў сьветлай куртцы, ледзь торгаецца.

**— І які, на Вашую думку, сэнс гэтай падробкі?**

— Сэнс? Каб была адна карцінка: быццам Канавалаў стаіць на пляцоўцы каля ўваходу ў тунэль і чакае цягніка, каб прывесьці ў дзеяньне бомбу. Яго

на гэтыя кадры наклалі. Вось тут, у правым ніжнім куце, дзе стаіць Канавалаў, усё накладзена. Той новы чалавек, які выходзіць зь пераходу і зьбягае па лесьвіцы на станцыю, рэальна быў. Астатнія — накладзеныя.

Яшчэ заўвага. Вось Канавалаў стаіць, а потым чамусьці адыходзіць убок. Якая лёгіка такіх дзеяньняў? На маю думку, яе няма. Калі ты націскаеш кнопку выбуху, табе, каб не пацярпець, лепш заставацца за нейкім прадметам. Так гэты «нібыта Канавалаў» і стаяў, але раптам адышоў убок і толькі потым скіраваўся ў тунэль. Мяркую, усё таму, што на сапраўдным кадры быў малады чалавек, які хутка ішоў да лесьвіцы фактычна праз «нібыта Канавалава». Але такога ня можа быць, таму «нібыта Канавалава» быццам адціснулі ўбок. Малады чалавек прайшоў, «нібыта Канавалаў» скіраваўся ў тунэль, адбыўся выбух. Заўважу, што калі гэты чалавек стаіць, вакол яго даволі доўга амаль нікога няма. Гадзіна пік, а вакол — усяго некалькі чалавек. Згадайце, як ён падымаўся па лесьвіцы: там шмат людзей было, а тут — нікога. Бо яго наклалі на амаль пусты кадар, каб лепш выдзяляўся. Каб было больш відавочна.

*(Заўважу, што асабіста мяне Чытач не пераканаў. Успрыманьне карцінкі на экране — усё ж вельмі суб'ектыўная рэч. Калі Чытач кажа, што «нібыта Канавалава» адціснулі ўбок, каб даць дарогу маладому чалавеку, я бачу, што Канавалаў проста крыху зварухнуўся. — А. Г.)*

**— З матэрыялаў суду памятаю, што сярод пацярпелых быў вядомы спартовец Вячаслаў Харанека. На наступны дзень пасьля тэракту**

**ў мэдыях зьявіўся ягоны аповед пра тое, што ў момант выбуху ён стаяў на пляцоўцы паміж пралётамі лесьвіцы да тунэля, і яму па датычнай ударыў у галаву кавалак пліткі ці бэтону...**

— Так, славуты гіравік. Яго ў судзе не дапыталі, але зачыталі ягоныя паказаньні. Што стаяў, ад выбуху прысеў, нічога падазронага ня бачыў, ня памятае. Потым у пераходзе адчуў цяпло на патыліцы, была кроў, яму аказалі дапамогу. Але на тым мосьціку быў ня ён адзін, было яшчэ 4 сьведкі. Іх усіх у судзе так і не распыталі. Я патлумачу, чаму. Бо на кадрах відэа адразу пасьля выбуху на пляцоўцы ўвогуле нікога няма. Калі вы павялічыце кадар і стане сьвятлей пасьля выбуху, будзе добра бачна, што на пляцоўцы нікога няма, хоць там павінныя быць людзі.

*(Зусім не абавязкова. Шмат разоў сутыкаўся з тым, што ў гэтым месцы паміж прыездам цягнікоў нават 10–15 сэкунд можа быць мала людзей. Рэгулярна карыстаюся мэтро і пераходжу з адной станцыі на другую якраз праз гэты тунэль. Бывае такое і ў гадзіну пік, калі на супадзеньне прыезду і ад’езду цягнікоў на «Кастрычніцкай» накладаецца рытм руху цягнікоў на «Купалаўскай». — А.Г.).*

Яшчэ дзіўна, што на розных кавалках відэа па-рознаму разьмешчаныя дадзеныя: час, дзень, месяца. На адных — у правым верхнім куце, на іншых — у ніжнім левым. Знаёмы адмысловец з мэтро патлумачыў, што яны могуць нанесьці гэтыя дадзеныя ў любым куце. Але выходзіць, што так можна і час любы нанесьці, і дзень. А значыць, цалкам магчыма, што кадры ад аднаго дня накладзеныя на кадры іншага.

**— У судзе адвакат казаў, што на відэа нейкія людзі зьяўляюцца вакол Канавалава ў адных кадрах, а потым — там, дзе іх быць не магло, калі верыць сьледзтву. Называліся прыкметы гэтых людзей. Што Вы скажаце пра гэта? Вы бачыце такія прыкметы?**

— Так, разумею, пра што казаў адвакат. Вось глядзіце: жанчына зь белай касой. У яе цёмнае адзеньне, белы пакунак, чорная торба ў руцэ. Вось яна ідзе, ідзе і раптам мэтры на два быццам прасkoквае наперад. Гэта таксама сьляды мантажу: нешта выразалі. Зьнікла недзе 1,8 сэкунды. «Нібыта Канавалаў» у гэты момант усё стаіць на «мосьціку», чакае цягніка. Так пройдзе яшчэ амаль хвіліна. Вакол амаль нікога ня будзе, нават бачна, што і на плятформе няма людзей. Ня трапілі ў кадар, хоць была гадзіна пік? А вось зноў гэтая дзяўчына — выходзіць з мэтро, а за ёй ідзе «нібыта Канавалаў». Вось яшчэ дзьве дзяўчыны — адна ў чырвонай куртцы, другая ў чорнай, яны добра бачныя на відэа. Зноў праходзяць міма «нібыта Канавалава» на «мосьціку». Ён застаецца, але на іншым відэа выходзіць з мэтро непадалёк ад гэтых жа дзяўчат. Альбо стары з даўгім шалікам. Да выбуху ён падымаецца ў тунэль адначасова зь «нібыта Канавалавым», а калі выходзіць з мэтро, Канавалаў ідзе адразу за ім. Я налічыў 10 чалавек, якія ішлі міма «Канавалава», даўно прайшлі, а выходзяць чамусьці разам. Як я мяркую, Канавалаў ці чалавек, да яго падобны, што падняўся на лесьвіцу перад тунэлем у суправаджэньні пэўных людзей, выйшаў з мэтро не спыняючыся, бо вакол яго апынуліся тыя ж людзі. А на відэа на «мосьціку» непасрэдна перад

выбухам мы бачым іншага чалавека, выяву якога наклалі на запіс.

**— А хіба яны не маглі проста затрымацца? Здарыўся выбух, людзі разгубіліся, не адразу пайшлі далей, а Канавалаў усё ведаў і ішоў хутка, вось і нагнаў іх. І атрымалася, што ўсе вышлі прыкладна ў адзін час. Вось першай ідзе дзяўчына з касой, потым мужчыны, якія размаўлялі на пляцоўцы, і толькі потым Канавалаў...**

— Але прайшло ня менш за хвіліну, як апошні зь іх зьнік у тунэлі, а Канавалаў усё стаяў і чакаў цягніка. За хвіліну можна было прайсьці амаль увесь пераход. Чаму яны зноў сабраліся ў адным месцы на выхадзе? Атрымліваецца, што ўсе дзесяць чалавек, якіх я налічыў, затрымаліся, прычым на аднолькавы час? Так мяркуе сьледзтва, але мне гэта падаецца непраўдападобным. Таму я настойваю, што той чалавек, нібыта Канавалаў, які падымаўся разам зь іншымі да тунэля, не спыняўся, а разам з тымі ж людзьмі і выйшаў. А мы бачым мантаж, які зьявіўся ў момант, калі той чалавек нібыта затрымаўся перад тунэлем: усе гэтыя зьнікненьні ног, затрымкі часу, пляма. Гэта і ёсьць доказ мантажу.

***Ці былі ў мэтро перад тэрактам адмыслоўцы па выбухах?***

**— У студзені ў інтэрнэце зьявіліся фатаздымкі БелТА — 11 красавіка фатограф зьняў на ўваходзе ў мэтро «Кастрычніцкая», як нейкія людзі выбягаюць з прыладамі для правядзеньня выбухаў. Праз два дні пасьля таго, як падняўся шум, сталічная міліцыя запрасіла журналістаў**

**і абвергла «сэнсацыю» — аказваецца, гэта былі людзі з каманды па разьмініраваньні, іх выклікалі на месца здарэньня тэрмінова пасьля выбуху, яны зьяжджаліся з розных месцаў, у тым ліку з хатаў, таму былі без спэцыяльнай вопраткі. Гэтых людзей журналістам паказалі, назвалі іх імёны. Хіба не канец сэнсацыі?**

— Для вас — магчыма. А я гляджу на відэа ад 11 красавіка, зьнятае за некалькі хвілін да выбуху. Вось чалавек, якога называюць Канавалавым, стаіць з торбай за калёнай. Як толькі ён ставіць торбу на падлогу, з-за калёны выходзіць чалавек у куртцы, надзетай на паласаты джэмпэр. А за ім ідзе яшчэ адзін, у якога таксама джэмпэр пад курткай бачны, у шырокую палоску. А цяпер паглядзім на фатаздымак БелТА, зроблены пасьля тэракту, на якім невядомыя ў цывільным выносяць нейкія прылады з мэтро. Першы мужчына — у куртцы на джэмпэр з палоскамі; гэта той, што нясе вялікі пакунак. Апошні мужчына — у куртцы на джэмпэр з шырокімі палоскамі. Калі б трапіўся адзін зь іх, можна было б казаць пра супадзеньне. Але на фота апынуліся абодва: яны былі там і да выбуху, і выходзілі з мэтро недзе праз гадзіну пасьля выбуху. І камплекцыяй, і адзеньнем вельмі падобныя, адзін у адзін. Што яны там рабілі, невядома, але ж пэўна нешта рабілі.

**— Адвакат Канавалава даводзіў у судзе, што ня толькі відэа, але і дадзеныя антрапамэтрычнага экспэрымэнту былі падробленыя: маўляў, рост чалавека, якога зьнялі камэры відэаназіраньня, не супадае з ростам Канавалава. Вы згодны з гэтымі высновамі?**

— Можна пагадзіцца з тым, што і тут несупадзеньні істотныя. Возьмем стоп-кадар, дзе Канавалаў выходзіць з торбай зь цягніка на станцыі «Купалаўская». Умоўнымі лініямі зафіксаваны ягоны рост. А потым гэта параўноўваюць з фота са сьледчага экспэрымэнту ад 15 красавіка, калі Канавалава прывялі ноччу ў мэтро і фатаграфавалі ды здымалі на відэа ўсе ягоныя перамяшчэньні. Там таксама ўмоўнымі рысачкамі адзначаны рост. Дык вось, пры параўнаньні сапраўды бачна, што калі верхнія рысачкі супадаюць, то ніжнія — не: у чалавека зь відэа ад 11 красавіка рысачка знаходзіцца ніжэй, чым у сапраўднага Канавалава на экспэрымэнце ад 15 красавіка.

***Як сьледчыя абыходзіліся з Кавалёвым?***

**— Чаму, на Вашую думку, Кавалёў прызнаваўся на сьледзтве ў тым, чаго не рабіў? Пра Канавалава вядома, што супраць яго выкарыстоўвалі сілу, але супраць Кавалёва — быццам не. Ва ўсякім разе, ён сам пра гэта нічога не казаў. Калі запалохалі, то чым?**

— Ціск на яго быў, відаць, немалы. У судзе гучалі хадайніцтвы пра тое, каб разабрацца, хто наведваў Канавалава і Кавалёва ў ізалятары КДБ і ў псыхдыспансэры ў Навінках. І такія адказы нібыта прыйшлі, але іх так і не агучылі. Нагадаю, у судзе Кавалёў казаў, што яго наведвалі вельмі часта. Ён адказваў на пытаньне адваката: «Розныя супрацоўнікі, сьледчыя». Іншыя крыніцы таксама пацьвярджаюць, што сьледчыя да яго прыходзілі фактычна перад кожным допытам да прыходу

адваката. Гэта значыць, што на яго маглі ціснуць па-сапраўднаму, а ня толькі псыхалягічна.

**— Нагадаю, на адным з паседжаньняў пацярпелы Самвэл Саакян настаяў на зачытваньні допыту Канавалава і ўголас пачаў абурацца, калі судзьдзя, на ягоную думку, прапусьціў частку паказаньняў. Зь яго словаў, быў прапушчаны кавалак пра намер зьмяніць уладу. На Вашую думку, ці былі ў дзеяньнях Канавалава і Кавалёва палітычныя матывы?**

— У мяне таксама склалася ўражаньне, што судзьдзя зачытаў ня ўсё. Калі я кажу, што не лічу віну Канавалава, а тым больш Кавалёва, даказанай, то ў тым ліку і таму, што не лічу высьветленым матыў злачынства. Па-сапраўднаму яго нават і не высьвятлялі, для шырокай публікі ён застаецца невядомым. Хоць у вузкім коле пэўнасьць, відаць, ёсьць, адсюль і такі жорсткі прысуд. А «дэстабілізацыя абстаноўкі», пра якую як заведзены казаў на сьледзтве Канавалаў, — гэта так, для дурных. Пагадзіцеся, нелягічна лічыць «дэстабілізацыю» канчатковай мэтай, хутчэй гэта адзін са сродкаў дасягненьня нейкай мэты. Якой? Мяркую, можна здагадацца, пра што гаворка. Прыкладам, агучанае пацярпелым Саакянам — зьмена ўлады — больш падобнае да матыву. Але суд чамусьці не захацеў, каб пра гэта было публічна абвешчана, і спыніўся на «дэстабілізацыі». Заўважце, і сьледчыя на першых допытах спрабавалі распытваць нешта пра далейшыя пляны, а потым адчапіліся, і судзьдзя не прыклаў ніякіх намаганьняў, каб высьветліць: а што Канавалаў зьбіраўся рабіць пасьля гэтай «дэстабілізацыі»?

Яшчэ мне запомнілася, што ў яго была добрая тэхнічная падрыхтоўка. Прыкладам, ён мог лёгка знайсьці праз інтэрнэт нейкія зьвесткі, схемы, дадзеныя. Яго цікавіла, як можна сымуляваць хваробы, якія для гэтага трэба прымаць прэпараты. Я сам у хіміі разьбіраюся, і ў мяне склалася ўражаньне, што ён быў у гэтым добра абазнаны. Аднойчы мы зь ім езьдзілі ў Рэспубліканскі вайсковы шпіталь. У яго было падазрэньне на варыкознае расшырэньне венаў. Было незразумела, ці патрэбная яму апэрацыя, але ён ведаў пра так званы люфт — момант у дыягностыцы гэтай хваробы, калі немагчыма сказаць, патрэбная апэрацыя ці не. Я чуў размову лекара з нашым начальнікам мэдычнай службы, і лекар казаў, што апэрацыя непатрэбная. Але Канавалаў упарта настойваў, таму апэрацыю яму зрабілі. Як на мяне, гэта нейк нетрывіяльна. Бо я з размоваў зь ім ведаў, што ніякіх боляў у яго не было, але ж дзеля чагосьці яму гэта спатрэбілася.

**— Дык што Вы мяркуеце пра ягоную датычнасьць да тэракту? Гэта зрабіў ён ці не зусім ён, а пад нечым кіраўніцтвам?**

— Я ўсё ж схільны думаць, што выбух учыніў ён. Але гэта ня значыць, што я давяраю сьледзтву і суду. Я хацеў бы, каб справа была перагледжаная і каб увялі мараторый на выкананьне сьмяротных прысудаў. Я разумею, што ўлада ў нас вельмі кепская, калі не сказаць горш, але ўсё ж у мяне ўражаньне, што да выбуху яна сапраўды ня мае дачыненьня. На відэа я пазнаў Канавалава: ягоная хада, ягоная вопратка — я бачыў яе на ягоных фатаздымках.

### *Расейскія экспэрты: «Партрэтнага падабенства няма»*

На відэа з мэтро Канавалава пазнаюць ягоныя таварышы па службе, пазнае ягоны сябар Кавалёў, у тым ліку і даючы паказаньні ў судзе. А што афіцыйная экспэртыза? Ці прызнала яна, што зь цяжкай торбай па станцыях «Купалаўская» і «Кастрычніцкая» 11 красавіка 2011 году хадзіў менавіта Дзьмітрый Канавалаў? Тут усё ня так адназначна.

Экспэртыза прайшла быццам бездакорна. Адзначу адразу, што, каб было з кім параўноўваць, Канавалава адмыслова вывозілі ў мэтро, ставілі на тыя месцы, дзе яго зьнялі камэры. Гэта рабілася сама меней двойчы: у ноч на 15 красавіка і 5 траўня. Першую экспэртызу паказалі на відэа ў судзе. Запісвалася яна позна ўначы. Канавалаў хадзіў па цёмным Менску, прывязаны адмысловым дротам да ўнушальнага ахоўніка, выглядаў стомленым і сам да сабе ня вельмі падобным — таму што быў апрануты ў нейкую куртку і шаравары яўна не свайго памеру.

Магчыма, адзеньне Канавалава якраз тады забіралі на экспэртызу, а яго апранулі ў тое, што знайшлі ў ізалятары КДБ. Параўнаўшы атрыманыя кадры з запісам камэраў ад 11 красавіка, экспэрты расейскага ФСБ не знайшлі «партрэтнага падабенства» паміж падазраваным Канавалавым і чалавекам з торбай, што і адзначылі ў сваім заключэньні. Праўда, яны ж адзначылі, што асаблівасьці адзеньня асобы на відэа супадаюць з асаблівасьцямі адзеньня, узятага ў Канавалава на экспэртызу.

Калі ж Канавалава здымалі на экспэрымэнце 5 траўня і параўноўвалі здымкі зь відэа ад 10 кра-

савіка (нагадаю, паводле сьледзтва, Канавалаў 10 красавіка праводзіў рэкагнасцыроўку перад тэрактам), то партрэтнае падабенства знайшлі, але толькі «сярэдняй ступені». Пры гэтым расейскія экспэрты адзначылі на відэа «сьляды міжкадравага мантажу». Іх жа экспэрты знайшлі на ключавым відэа 11 красавіка са станцыі «Кастрычніцкая».

Суд ва ўсіх гэтых «сьлядах» асабліва разьбірацца ня стаў: новых экспэртызаў відэа не прызначыў, усё было патлумачана тэхнічнымі асаблівасьцямі відэазапісу. Суд нават не дазволіў адвакату Станіславу Абразею пракамэнтаваць відэа на экране манітора падчас працэсу. Аргумэнт быў такі: «Відэа ўжо вывучалася». Між тым адвакат браўся давесьці не якую драбязу, а тое, што відэадоказ падроблены. У выніку Станіславу Абразею давялося ў спрэчках тлумачыць, як кажуць, на пальцах, што і ў які момант адбывалася ў кадры. Нагадаю, раней пракурор меў магчымасьць камэнтаваць відэа падчас дэманстрацыі, а гэта зусім іншыя ўмовы для абгрунтаваньня сваёй пазыцыі.

У адной з экспэртызаў, на якія спасылалася сьледзтва і потым суд, было пазначана, што рост падазраванага, зьнятага на відэа 11 красавіка, адпавядае росту Дзьмітрыя Канавалава, зьнятага на сьледчым экспэрымэнце. Гэтую экспэртызу Станіслаў Абразей таксама аспрэчваў. Адвакат карыстаўся ўмоўнымі рыскамі ў пэўных месцах на відэа і на кадрах з экспэрымэнту. Калі накласьці выявы, то рыскі не супадуць так, як яны супалі ў экспэртаў. Рост Канавалава на відэа і рэальнага Канавалава, паводле адваката, быў розны. Але прадэманстраваць свае дасьледаваньні з дапамогай судовага манітора яму таксама не дазволілі.

## XXXIII. Адбіткі пальцаў і біялягічнае рэчыва (Працяг размовы)

**— Сьледзтва найперш апэруе такім аргумэнтам супраць Канавалава, як адбіткі ягоных пальцаў на бомбе 2008 году. Хіба гэта не «забойчы» аргумэнт? Тым больш што і экспэрты Інтэрполу пацьвердзілі: на бомбе адбіткі чалавека, якога арыштавалі пасьля тэракту ў 2011 годзе, — грамадзяніна Канавалава.**

— Ня ведаю, сумняюся. Магчыма, гэта пальцы і не Канавалава. Мы ж ня ведаем, якія адбіткі паслалі ў Інтэрпол пасьля 2008 году. На судзе прагучала, што на бомбе адбіткі ня толькі Канавалава, але і Крукоўскага, Зайцава ды некалькіх нявысьветленых асобаў, і яшчэ сьляды біялягічнага рэчыва міліцыянтаў Іванова і Клімовіча. Крукоўскага дапыталі, усе чулі ягоныя паказаньні, а вось Канстанцін Зайцаў чамусьці да суду не даехаў. Было сказана, што ён у камандзіроўцы, і суд гэта задаволіла.

Што маглі розныя людзі падчас разьміраваньня дакранацца — гэта сьмех! Што за разьмініраваньне такое? А адкуль узяліся сьляды біялягічнага рэчыва Іванова і Клімовіча паміж слаямі скотчу? Мяркую, гэта магчыма толькі падчас зьбіраньня бомбы, а не яе абясшкоджаньня. Дарэчы, наколькі мне вядома, гэтыя біялягічныя сьляды знайшлі экспэрты ФСБ, таму беларускія сьледчыя і вымушаныя былі шукаць выйсьце з складанага становішча. У выніку яго не знайшлі, бо яго няма, а суд пагадзіўся з тлумачэньнем, што падчас разборкі неахайна

дзейнічалі і пакінулі шмат сваіх сьлядоў. Нічога сабе — неахайна дзейнічалі. Гэта хто? Іваноў, пра якога кажуць, што ён найлепшы экспэрт па выбуховых прыладах?

*Куды падзеліся цьвікі і гайкі з бомбы?*

**— Як Вы патлумачыце тое, што ахвяры і пацярпелыя ад тэракту амаль ня маюць пашкоджаньняў і ранаў ад паражальных элемэнтаў, якія Канавалаў, паводле сьледзтва, закладваў у бомбу? Ён жа на сьледчым экспэрымэнце паказваў, як прымацаваў да бомбы пакунак з дражэ — так абазначылі гайкі, як уклаў пачак локшыны — гэта буйныя цьвікі. А яшчэ былі кавалкі нарэзанай арматуры. Але з экспэртызы вынікае, што толькі два-тры чалавекі зь дзясяткаў сур’ёзна пацярпелых атрымалі раны паражальнымі элемэнтамі. А большасьць былі параненыя кавалкамі лавы, пліт, бэтону з падлогі, мелі так званыя другасныя раны ад сутыкненьняў, апёкі і г.д. Нават з загінулымі, што былі вакол торбы з бомбай, тая самая сытуацыя. Чаму?**

— Я не спэцыяліст у гэтай галіне, але мяркую, што тлумачэньне тут простае. Калі і на плятформе розных гаек ці цьвікоў знайшлі ня больш за 5 штук — а ў судзе гэта ўсё дэманстраваў сам судзьдзя, — то болей іх і не было. Значыць, тое, што паказваў Канавалаў на экспэрымэнце, зьбіраючы бомбу, не адпавядае рэчаіснасьці.

З таго, што я чуў ад пацярпелых падчас працэсу, вынікае, што шмат хто пацярпеў ад электрычнага току. Людзі расказвалі, што іх вельмі моцна трэсла, ці калі яны трымаліся за поручні, ці ў іншы момант.

Але сьледзтва, а потым і суд гэта не зацікавіла, нават не паспрабавалі разабрацца. Яшчэ магу дадаць, што сьведкі — супрацоўнікі мэтро хлусілі, калі казалі ў судзе, што на плятформе няма датчыкаў, каб вызначыць, ці ёсьць хто на рэйках станцыі. Адмыслова высьвятляў — ёсьць такія датчыкі, і яны маглі запеленгаваць перашкоду. Гэта я пра жудасны выпадак, калі пацярпелую жанчыну, якую выбухам адкінула на супрацьлеглыя рэйкі, пераехаў цягнік.

У мяне дагэтуль застаецца пытаньне, ад чаго яна памерла: ад траўмаў ці ад наезду цягніка. Экспэртыза кажа, што яна атрымала траўмы, несумяшчальныя з жыцьцём, ад выбуху. Але іншага ад нашых экспэртаў я б не чакаў.

Заўважце, што экспэртызы ФСБ заўсёды адрозьніваліся ад нашых. Што гэта за экспэрты, якія, параўноўваючы бомбу, сабраную Канавалавым на экспэрымэнце, з бомбай, якая не ўзарвалася ў 2008 годзе, робяць выснову, што такую бомбу ён сабраць мог, але сёе-тое забыў, бо прайшоў час. Гэта экспэртыза ўжо не выбухова-тэхнічная, а псыхіятрычная ці яшчэ якая.

Забыў некалькі важных элемэнтаў! Мяркую, калі б гэтую экспэртызу рабілі расейскія экспэрты, вынік быў бы іншы. А ўвогуле трэба было рабіць комплексную экспэртызу, з прыцягненьнем спэцыялістаў у розных галінах.

### *Ці ня хлусіла ключавая сьведка?*

**— Адна з ключавых сьведак — Яна Пачыцкая. Фактычна яна адзіная засьведчыла, што бачыла Канавалава і Кавалёва побач з торбай.**

**Самой бомбы ня бачыла, але зь яе аповеду вынікае падазроная карціна: вось ідзе падрыхтоўка бомбы да выбуху. Потым на яе паказаньні накладаюцца прызнаньні Канавалава і Кавалёва на сьледзтве — вось вам і сапраўды падрыхтоўка. Яе ж спачатку трымалі як падазраваную. Ці маглі яе запалохаць так, каб яна дала ілжывыя паказаньні?**

— Тое, што ў яе быў вельмі моцны шок на сьледзтве, было бачна на відэа сьледчага экспэрымэнту. І там яна расказвала фактычна тое самае, што потым у судзе. У судзе яна трымалася спакайней, але ад паказаньняў на сьледзтве асабліва не адступалася.

**— У яе паказаньнях было нешта такое, што не супадае зь іншымі паказаньнямі?**

— Дык шмат што не супадае. Вось узяць хоць бы колер торбы. Яна кажа пра адзін, таксіст — пра другі, гаспадыня віцебскай кватэры — пра трэці. І чорны, і шэры, і сіні.

**— Суд патлумачыў гэта тым, што ў кожнага рознае ўспрыманьне колеру...**

— Так, рознае... Як з той жа эмблемай на торбе. То бачыш на відэа эмблему на адлегласьці 30 мэтраў, і яна добра чытаецца, а то за пяць мэтраў зусім ня бачная. Памятаеце, на відэа Канавалаў бярэ торбу, ідзе зь ёй бліжэй да лесьвіцы і там перакладае торбу ў другую руку? Далёка, але надпіс на торбе добра праглядаецца. А на «Купалаўскай», калі ён таксама перакладаў торбу з рукі ў руку, эмблемы чамусьці не відаць. А да яго была значна меншая адлегласьць.

## XXXIV. Працяг дзіўнага экспэрымэнту

Сьледчы экспэрымэнт, які праводзіўся ўначы 15 красавіка, пасьля здымак у мэтро і на плошчы Свабоды, куды Канавалаў прывёў сьледчых у пошуку месца, дзе нібыта пазбавіўся ад пульту, меў досыць дзіўны працяг. З плошчы Свабоды Канавалаў у суправаджэньні сьледчых скіраваўся не на арандаваную кватэру на вуліцы Караля, што было б лягічна, а на кватэру непадалёк, у тым самым раёне. Тую кватэру ён нібыта наймаў у ліпені 2008 году, калі, паводле сьледзтва, узрываў бомбы на сьвяце Незалежнасьці — адну няўдала, другую пасьпяхова.

І што ж убачыла публіка на відэа гэтай часткі экспэрымэнту? А нічога пэўнага, акрамя зачыненых дзьвярэй нейкай кватэры, каля якіх сьледчыя патаўкліся, пасьвяцілі ліхтарыкам ды сышлі.

Між тым, паводле сьледзтва, менавіта ў той кватэры Дзьмітрый Канавалаў жыў больш за дзень, тут зьбіраў свае бомбы, сюды вярнуўся пасьля першай няўдалай закладкі па другі сьмяротны снарад, схаваны, як і першы, у пакунку з-пад соку. Чаму яго не завялі ў кватэру? Чаму не спыталі, дзе ён спаў, дзе зьбіраў бомбы, ці тая там мэбля? Магчыма, нешта засталося з кухоннага посуду, якім Канавалаў мог карыстацца, калі рыхтаваў свае зарады? На жаль, публіка ў судзе не пачула гэтых пытаньняў, а галоўнае — адказаў на іх.

Чаму? Магчыма, гаспадары кватэры не пацьвердзілі б успамінаў Канавалава, і тады ўзьніклі б

сур’ёзныя сумненьні ў вэрсіі пра яго датычнасьць да тэракту 2008 году.

Нагадаю, што гэты тэракт фактычна служыць базай для тэракту ў мэтро, бо менавіта віна Канавалава ў тым тэракце (які спачатку чамусьці назвалі злосным хуліганствам) прывяла яго, паводле сьледзтва, да новага злачынства. І тыя «пальчыкі», якія сталі імпульсам да ўсіх дзеяньняў Канавалава ў пачатку красавіка 2011 году, пачаліся яшчэ там — у 2008 годзе, на сьвяце Незалежнасьці. Але чаму сьледчыя, якія так карпатліва адпрацавалі на ўсіх дзіцячых эпізодах у справе Канавалава — Кавалёва, раптам неахайна, быццам мімаходзь, паставіліся да абставінаў зьдзяйсьненьня ключавога злачынства Канавалава — эпізоду 2008 году? Няма адказу — толькі чарговыя падазрэньні.

Дарэчы, загадкавыя абставіны, зьвязаныя з жытлом, што фігуруе ў справе «тэрарыстаў», датычаць і кватэры на вуліцы Караля. Адносна яе таксама засталіся нявысьветленыя дэталі.

Уладзіслаў Кавалёў на допыце расказаў пра нейкую жанчыну, якую яны з Канавалавым убачылі 10 красавіка ў кватэры на Караля, куды яны прыйшлі з торбай. «Яна сыходзіла, яшчэ павіталася з намі», — згадаў Кавалёў. Гэта магла быць былая кватарантка ці прыбіральшчыца, але сьведкі такога меркаваньня не агучылі.

Дырэктар кватэрнага бюро «Арміра» Дзержановіч і рыэлтар гэтага бюро, даючы паказаньні ў судзе, заявілі, што кватаранткі там быць не магло, а жанчына, якая магла рыхтаваць кватэру для новага кліента, знаходзілася ў іншым месцы. Такім чынам, сьледзтва і суд так і не пралілі сьвятла на гэтае пытаньне. Яно можа быць сапраўды нязначным, але

вырашаць гэта можна толькі пасьля паўнавартаснай праверкі. Мяркуючы па выніках, яе не праводзілі.

Гэтаксама як і адносна сім-карткі расейскага тэлефоннага апэратара «Мэгафон», знойдзенай на той жа кватэры. Але да карткі мы вернемся пазьней.

*З артыкулу «Экспэрт параўнаў выбух у мэтро з замахам на Гітлера»*
*«Ежедневник», 16.01.2012*

16 студзеня, праз паўтара месяца пасьля вынясеньня прысуду Дзьмітрыю Канавалаву і Ўладзіславу Кавалёву, на сайце «Ежедневника» зьявілася інтэрвію з Уладзімерам Захматавым, незалежным экспэртам па выбухах і пажарах з Украіны, доктарам тэхнічных навук, прафэсарам.

Спадару Захматаву прапанавалі даць заключэньне пра выбух у менскім мэтро, асаблівасьці выбухоўкі, выкарыстанай беларускімі тэрарыстамі, а таксама ацаніць праўдападабенства прынятай судом вэрсіі. Высновы прафэсара Захматава важна параўнаць з высновамі Ўладзімера Барадача. Да некаторых ацэнак экспэрта аўтар зрабіў камэнтары.

Уладзімер Захматаў — вядомы навуковец, спэцыяліст у сфэры фізыкі гарэньня і выбуху, распрацоўшчык сучасных імпульсных сродкаў пажаратушэньня. Зь лютага 2008 году правёў восем незалежных расьследаваньняў выбухаў і вялікіх пажараў з катастрафічнымі наступствамі ў Львове, Драгобычы, Івана-Франкоўску, Баляславе, Еўпаторыі, Днепрапятроўску, Луганску. У шасьці выпадках абверг заключэньні дзяржаўных экспэртаў, у двух унёс у афіцыйную экспэртызу істотныя

ўдакладненьні. Выступаў у судах на запрашэньне пацярпелага боку.

**— Уладзімер Дзьмітрыевіч, Вам паказалі фота з адтулінай у бэтоннай пліце на месцы выбуху. Што можаце сказаць у зьвязку з гэтым?**

— Тут мы бачым разбурэньне жалезабэтоннай канструкцыі з частковым разрывам сталёвай арматуры. На разбурэньне такой жалезабэтоннай пліты, паводле элемэнтарнай прыкідкі, спатрэбілася б 10-13 кіляграмаў тратылу.

**— Паводле вэрсіі сьледзтва, сіла выбуху была роўнай 5 кіляграмам у тратылавым эквіваленце. Ці мог ён пакінуць такія разбурэньні?**

— Сьледзтву відней, бо яны бачылі карціну цалкам і ў натуры, а я — толькі фрагмэнты. Мяркую, што 5 кіляграмаў таксама маглі зрабіць такую дзірку, але я ня бачыў яе ў сапраўднасьці і не вымяраў. Я таксама ня бачыў таўшчыні пліты перакрыцьця і разбураных жалезных прутоў у пліце, таму мае ацэнкі могуць быць толькі прыблізнымі, без дакладнага разьліку эквівалентнай колькасьці выбуховага рэчыва. Да таго ж, калі ўлічыць, што торба з зарадам знаходзілася пад параўнальна тоўстай лавай і была прыціснутая збоку бэтоннай апорай — тумбай лавы, а таксама што зарад выбуховага рэчыва фактычна кантактаваў з падлогай, то 5 кіляграмаў маглі зрабіць падобную дзірку. Элемэнтарныя разьлікі з усімі каэфіцыентамі паказваюць, што было ня менш як 10 кіляграмаў, у мяне нават 13 кіляграмаў атрымалася. Аналягічны выпадак у нас здарыўся ў луганскім шпіталі, там таксама была дзірка ў падлозе і абрынулася столь. Але тут столь

не магла разбурыцца, бо яна занадта высока, і я ня бачыў яе формы. Напрыклад, пры скляпеністай форме высокай столі на ёй пашкоджаньняў можа і ня быць. *(Заўважу, што на столі станцыі мэтро «Купалаўская» увогуле не відаць сьлядоў ад выбуху, не паведамлялася пра іх і ў матэрыялах справы. Адсутнасьць сьлядоў выбуху на столі станцыі пэўна сьведчыць пра характар разьлёту паражальных элемэнтаў і ашчэпкаў лавы. — **А.Г.)***

**— Чаму пры такой моцы выбуху засталіся непашкоджанымі калёны? Ці магчыма на гэтай падставе сьцьвярджаць, што выбух быў накіраваны, і тым самым паставіць пад сумнеў вынікі афіцыйнага расьсьледаваньня?**

— У тым, што калёны не разбурыліся, я вялікай супярэчнасьці ня бачу, яны ўвогуле рэдка разбураюцца. Каб калёна разбурылася, выбуховае прыстасаваньне трэба прыставіць непасрэдна да калёны. Ёсьць у маёй практыцы канкрэтны выпадак, калі чалавек, які вучыўся ў палітэхнічным інстытуце на спэцыяльнасьці «Тэхналёгія выбуховых рэчываў і падрыхтоўка боепрыпасаў», захацеў узарваць помнік Усьцінаву ў Самары. Ён прафэсіянал і самаробкамі ніколі не займаўся. Ён здолеў скрасьці каля 2-3 кіляграмаў гексагену (3-4 у тратылавым эквіваленце), склаў іх у торбачку, прыставіў яе да калёны (помнік не ахоўваўся) і ўзарваў штатным дэтанатарам. Дык вось, помнік вытрымаў.

*(Экспэрта запыталі пра пашкоджаньні, а ён сам узяўся адказваць на пытаньне, чаму не разбурыліся калёны. Пашкоджаньні на калёнах насамрэч былі, дробныя сьляды можна пабачыць і цяпер. — **А. Г.)***

**— А хіба не маглі калёны хоць бы часткова разбурыцца, напрыклад, адкалоцца мармуровыя пліты?**

— У гэтай калёны форма, устойлівая да разбуральнага ўзьдзеяньня — з рэбрамі жорсткасьці. Маглі адкалоцца, але трэба ўлічваць, што вакол былі людзі. Людзі ж таксама служаць добрым экранам. Калі паглядзець на фатаздымкі вагону, то відаць, што на шляху ашчэпкаў, якія зрабілі ў ім дзіркі, не было перашкоды, не было людзей. Паміж зарадам выбухоўкі і калёнай людзі, магчыма, былі, таму яна не атрымала сур'ёзных пашкоджаньняў. На відэа добра відаць, што ў момант выбуху з вагону мэтро выходзіла шмат людзей, якія ішлі паўз калёну. Яны і паслужылі экранам.

**— А той факт, што хлопец, які сядзеў на лаве, застаўся жывы, у той час як вагон мэтро разьвярнула, ня сьведчыць пра скіраванасьць выбуху?**

— Гэта слушна. Але давайце паглядзім, што задае скіраванасьць. Па-першае, гэта тумба лавы, да якой была прыстаўленая торба. Па-другое, заканчына лавы, пад якой торба стаяла. Таму на хлопца пайшла хваля з прасторы пад лавай і адарвала яму ногі па калені. А для ягонага тулава лава зрабілася абаронай.

*(Паводле экспэртызы, загінулы К. таксама сядзеў у момант выбуху на лаве, імаверна, на тым канцы, побач зь якім паклалі торбу з бомбай. К. выбухам разарвала на часткі. — А. Г.)*

Адносна кампактнай групы дзірак у вагоне мэтро няма падставаў казаць пра канкрэтную

скіраванасьць. Частка выбуховай хвалі пайшла на вагон натуральным парадкам — напрыклад, праз наяўнасьць мноства людзей паміж вагонам і эпіцэнтрам выбуху. У такой сытуацыі разьлічыць выбух вельмі складана: на яго ўплывае вельмі шмат фактараў, асабліва цьвёрдыя прадметы, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізіні, — тумба і сядзеньне лавы. Вазьміце для прыкладу замах на Гітлера ў 1944 годзе. Падобная абстаноўка. Гітлер стаяў за 2-3 мэтры ад выбуховага прыстасаваньня, што знаходзілася ў партфэлі, і там таксама было каля 10 кіляграмаў у тратылавым эквіваленце. Магутная вайсковая выбухоўка была зробленая прафэсійна, і тым ня менш, тумба адыграла ролю адбівальніка, і за ёй пайшла шырокая зона экранаваньня, Гітлер у яе трапіў і застаўся жывы, хоць там шмат хто загінуў, у тым ліку тыя, што знаходзіліся значна далей за яго ад эпіцэнтру выбуху. І калі паглядзець схему разьмяшчэньня выбуховай прылады, хлопец, які сядзеў на лаве, таксама знаходзіўся ў зоне экранаваньня, якую стваралі тумба і лава. А ногі былі па-за зонай, вось іх і адарвала.

**— Ёсьць вэрсія аднаго экспэрта, што бомбу зьмясьцілі ўнутры тумбы. Гэта магчыма?**

— Не. Калі б бомба была ўнутры тумбы, выбух быў бы зусім інакшы. Тут тумба не была б адбівальнікам, яна б паслужыла ўзмацняльнікам. Корпус тумбы спрацаваў бы як велізарная ашчэпкавая граната, і людзі вакол атрымалі б вельмі сур’ёзныя раненьні, аж да адрыву канцавінаў буйнымі ашчэпкамі. І гэтаму хлопцу ўжо ня толькі ногі б адарвала. Вось тут і калёны пашкодзіла б абавязкова.

*(Вэрсіі пра бомбу ў тумбе лавы прытрымліва-*

*ецца Ўладзімер Барадач, а таксама некаторыя іншыя аўтары ў інтэрнэце, у прыватнасьці, спадар Лапіцкі. Іх меркаваньне эксьпэрт Захматаў, як мне падаецца, абверг пераканаўча. — А. Г.)*

**— Нейкія рэшткі лавы павінныя былі захавацца пасьля выбуху?**

— Вядома. Калі б разьнесла на шматкі яе, то і хлопца, які на ёй сядзеў, таксама. Гэта якраз і паказвае, што выбуховае рэчыва было паніжанай магутнасьці. З тратылам тут быў бы зусім іншы малюнак. Тратылавы эквівалент — умоўнае паняцьце, а характар дзеяньня выбуху розны ў розных выбуховых рэчываў. А тратыл і аміячна-салетравыя рэчывы даюць выбуховыя хвалі рознай структуры, розных парамэтраў, таму ад іх выбухаў якасна іншая карціна. Пры выбуху зараду тратылу на 10 кіляграмаў у радыюсе 1,5-2,5 мэтра ўсе цьвёрдыя прадметы разносіць на шматкі, а на большых радыюсах пачынаецца фрагмэнтарнае разьлятаньне. А тут мы адпачатку, калі меркаваць па характары разбурэньня лавы і траўмах хлопца, які сядзеў на лаўцы, маем фрагмэнтарнае разьлятаньне, таму што выбух мяккі. Прыкладам, у маскоўскім аэрапорце выбух быў зусім іншы, значна больш жорсткі і з нашмат большым радыюсам паражальнага ўзьдзеяньня выбуховай хвалі.

*(Калі б эксьпэрт меў інфармацыю пра тое, што на лаве разам з хлопцам, які выжыў, сядзеў другі, якога разарвала на кавалкі, высновы пра адносную мяккасьць выбуху былі б скарэктаваныя. У гэтым разе эксьпэрт мог бы дапусьціць, што лаву разьнесла на меншыя фрагмэнты. — А. Г.)*

## XXXV. Хто са сьведак апазнаў Канавалава?

Яшчэ адно пытаньне, якое паўстае пасьля аналізу матэрыялаў суду: хто са сьведак, раней не знаёмых з Канавалавым, апазнаў яго ў судзе?

Супрацоўніца менскага кватэрнага бюро «Альміра» Тацяна Бараўка не апазнала. 10 красавіка яна трымала ў руках пашпарт Дзьмітрыя Канавалава, калі той засяляўся ў «нехарошую» кватэру № 50 дома 9А на вуліцы Караля. Маладая жанчына памятае, што засяляўся хлопец на 3 дні, заплаціў 300 тысяч рублёў, яна запісала дадзеныя пашпарта і выдала ключы. Пра выгляд кліента сказала, што той меў круглы твар, чорныя бровы, на галаве была шапачка, апрануты быў у звычайную куртку, але пра колер пэўнасьці няма. Памятае нешта чырвонае: ці то ўстаўкі, ці то падкладку.

Яшчэ сьведку зьдзівіла, што раней яе не выклікалі на апазнаньне, хоць яна сама прапаноўвала гэта сьледчаму. У судзе, калі Тацяну Бараўку наўпрост спыталі, ці пазнае яна ў Канавалаву таго чалавека, сьведка сказала, што не пазнае.

Заўважу, дарэчы, што Канавалаў у эпізодзе, пра які ідзе гаворка, паводзіў сябе досыць неабачліва для дасьведчанага кансьпіратара, якім ён мусіў быць пасьля ўдалых тэрактаў. Наймаць на сваё імя кватэру, паказваць у кватэрным бюро пашпарт напярэдадні таго, што ён заплянаваў, — верх легкадумнасьці! І гэта пры тым, што пад рукой ёсьць верны Санча Панса (як яго прадстаўляе сьледзтва) — Улад Кавалёў. Хіба цяжка было папрасіць Кавалёва наняць кватэру на сваё імя ці самому знай-

сьці жытло на два дні ўвогуле без афармленьня дакумэнтаў? У Менску гэта не такая ўжо вялікая праблема.

Канавалаў, калі верыць сьледзтву, сарваўся ў Менск таму, што ў яго ўсё ж узялі адбіткі пальцаў. Тады ён мусіў дапускаць, што ўжо празь дзень-два яго пачнуць шукаць і пэўна знойдуць, калі ён «засьвеціцца», арандаваўшы кватэру. Чаму ён не перасьцярогся — незразумела. Магчыма, на выпадак такіх сумненьняў сьледзтва і распрацоўвала вэрсію пра падрыхтоўку Канавалава да самагубства. Маўляў, таму і не перасьцерагаўся, што вырашыў адразу пасьля тэракту скончыць з жыцьцём.

Другі варыянт — сьледзтва мае рацыю і Канавалаў сапраўды ня надта хаваўся. У тым ліку таму ён і ня ўцёк адразу пасьля выбуху з краіны, хоць меў такую магчымасьць. Згадайма паказаньні Пачыцкай пра тое, як Канавалаў распытваў яе, што б яна рабіла, калі б ведала, што гэта апошнія гадзіны яе жыцьця.

Але чаму тады Канавалаў прасіў у Кавалёва тэлефон, каб пазваніць у Менску ў кватэрнае бюро? Чаму не пазваніў са свайго? А можа, з гэтым доказам, які супярэчыць вэрсіі пра самагубства, сьледзтва пагадзілася з адной мэтай — каб глыбей уцягнуць у справу Кавалёва? Бо ў выніку той звычайны факт, што Кавалёў даў Канавалаву пазваніць са свайго мабільніка ў кватэрнае бюро, суд таксама палічыў садзейнічаньнем у падрыхтоўцы да тэракту.

Яшчэ адзін сьведка — віцебскі таксіст Максім Маскалёў. Гэта ён раніцай 10 красавіка падвозіў на вакзал Дзьмітрыя Канавалава, калі той вырашыў «рвануць» у Менск. Маскалёў памятае, што ў Ка-

навалава была цяжкая торба шэрага колеру, пасажыр быў апрануты ў кароткую куртку. Увогуле ўсё адзеньне было цёмнае, дэталяў ён не запомніў.

На пытаньне, ці пазнае ён Канавалава, сьведка адказаў, што збольшага пазнае, але ня можа катэгарычна сказаць, што гэта той самы чалавек, якога ён падвозіў. Увогуле дзіўна, што Маскалёў запомніў хоць нейкія дэталі. Пачатак красавіка, на гадзіньніку крыху пазьней за 5 раніцы — фактычна яшчэ ноч. Ня дзіва, што таксіст пэўна сказаў толькі пра вагу торбы — каля 20 кіляграмаў.

Сьведка Таццяна Вусава, прадпрымальніца зь Віцебску. Адзіная, хто ў судзе быў цалкам пераананы, што перад ёй менавіта той чалавек, якога яна ўпершыню ўбачыла вечарам 9 красавіка ў кватэры на вуліцы Гарбачэўскага, 38. Наступным ранкам яна ж праводзіла высяленьне Канавалава з кватэры. Правярала, відаць, уважліва, мяркуючы па тым, як яна расказвала суду, што некаторыя пастаяльцы крадуць кватэрныя рэчы ці б'юць падчас начных гульбішчаў посуд. Але тым разам усё было на месцы.

Дарэчы, Канавалава яна ўжо апазнавала — раней, на сьледчым экспэрымэнце ў Віцебску. Запомніла яго з прычыны нейкіх дзіўных паводзінаў: не падымаў вачэй, выглядаў змрочным. І далей у паказаньнях сьведкі ўсё было гэтаксама пэўна: торба — цяжкая, паставіў яе на падлогу — ну вельмі акуратна. «Гэта было падазрона, думала, што там алькаголь, але я ў торбу не глядзела», — пераконвала суд сьведка. І хаця такія паказаньні можна назваць бездакорнымі, застаецца яшчэ шмат пытаньняў.

Прыкладам, нашто ўвогуле Канавалаву перад

ад'ездам у Менск спатрэбілася на ноч наймаць кватэру ў Віцебску?

Калі мэта злачынца — прашмыгнуць незаўважаным, ці стаў бы ён рызыкаваць, зьяжджаючы на невядомую кватэру, дзе ў яго могуць праверыць дакумэнты, а гаспадыня можа залезьці ў торбу, каб паглядзець, што ж такое ён там хавае?

Канавалаў баяўся заставацца на ноч у родным доме, не выключаючы, што ў любы момант па яго могуць прыйсьці. Калі ён сапраўды так асьцярожнічаў, дык мог бы і ў сваім падвале перакантавацца, там бы яго да раніцы ніхто не патурбаваў.

А можа, Канавалаў проста прынёс на найманую кватэру некалькі бутэлек гарэлкі з закускай, потым расьпіў іх зь сябрамі да ранішняга прыходу гаспадыні, а яна прыкметаў п'янкі не заўважыла? Гэтае меркаваньне, аднак, не супадае з паказаньнямі сьведкі-таксіста — «торба была цяжкая».

Нарэшце, пацярпелая ад выбуху ў мэтро Аліна Фёдарава, адна з ключавых сьведак на працэсе. Перад выбухам была на плятформе «Кастрычніцкай», чакала знаёмую, каб перадаць флэшку. Аліне пашчасьціла, што ў момант выбуху яна стаяла бліжэй да эскалятара, — абышлася цялеснымі пашкоджаньнямі. Страціла прытомнасьць, ачуняла толькі празь дзьве гадзіны пасьля выбуху. Потым два месяцы, кажа, «спала на таблетках».

Але яна памятае, што да выбуху некалькі разоў бачыла на плятформе маладога чалавека з торбай, якую той перакладаў з рукі ў руку. «Хадзіў сюды-туды, нэрваваўся», — паведаміла сьведка і дадала, што ў нейкі момант бачыла яго і пад лесьвіцай (гэта акурат пасярэдзіне плятформы). «Потым, здаецца, ён пайшоў па лесьвіцы ўгару». Але ці было што ў

руках, ня памятае, на самой пляцоўцы лесьвіцы яго ня бачыла.

З адзеньня маладога чалавека запомніла чорныя штаны з парванай кішэняй. Зрабіла дзіўную заўвагу наконт валасоў — пэўна сказала, што яны былі кароткія. Адвакат заўважыў супярэчнасьць і пачаў удакладняць: ці быў малады чалавек у спартовай шапцы? Тут сьведка нічога не змагла сказаць пэўна. «Можа, быў, можа, не. Ня памятаю».

Між тым, калі ён быў у шапцы, то з чаго пацярпелая ўзяла, што ў яго кароткія валасы? Пад шапкай ня надта відаць. А калі быў бяз шапкі — то гэта яўна не Канавалаў, ва ўсякім разе ня той чалавек, якога зьнялі відэакамэры. «Ці пазнаяце вы таго чалавека тут, у судзе?» Гледзячы на Канавалава, Аліна Фёдарава адказала: «Падобны, але не магу сказаць дакладна, што гэта ён».

І што мы маем, як кажуць, у сухім астатку? З чатырох сьведак адна пэўна пазнала Канавалава, але гэта было ў Віцебску. Адна яго гэтак жа пэўна не пазнала, двое астатніх ад катэгарычнага адказу ўхіліліся. Плюс можна меркаваць, што паказаньні гэтых сьведак ускосна падказаныя сьледчымі. Асабліва нацягнутымі падаюцца паказаньні Фёдаравай. Запомніць у натоўпе мэтро канкрэтнага чалавека, прычым дакладна запомніць, што ён нэрваваўся — як на мяне, гэта досыць дзіўна. Тым больш згадаць пра гэта пасьля моцнага стрэсу, пасьля «двух месяцаў сну на таблетках». А як толькі гучаць удакладняльныя пытаньні адваката — блытаніна ў дэталях.

Відэа ад 11 красавіка са станцыі «Кастрычніцкая» не найлепшай якасьці, і ўсё ж на ім дастаткова добра відаць, што чалавек, падобны да Канавалава,

паступова наблізіўся з торбай да лавы, а на іншым кавалку бачна, што ён падняўся на пляцоўку бяз торбы і больш за хвіліну стаяў там фактычна адзін, пакуль не прагучаў выбух.

Між тым Аліны Фёдаравай на лесьвіцы не было, і заўважыць яго там і запомніць яна не магла. Ды яна і не казала, што бачыла таго чалавека на пляцоўцы лесьвіцы. «Пайшоў да лесьвіцы» — і ўсё. А што некага падобнага запомніла на плятформе — ну, бывае... Толькі здаецца, што сьледчым вельмі трэба было падмацаваць відэадоказы (якія паводле нашага закону самі па сабе доказамі быць ня могуць) паказаньнямі хоць аднаго сьведкі.

І сьведка, якая запомніла «маладога чалавека», не магла не знайсьціся: маладых людзей на плятформе было некалькі дзясяткаў, а пра каго зь іх гаворка, высьветліць цяжка. Ці такая здагадка: а што, калі пацярпелая сапраўды бачыла маладога чалавека, датычнага да выбуху, але гэта быў не Канавалаў, і таму яна Канавалава ў судзе з пэўнасьцю не пазнала?

У выніку мы маем тое, што сьведкі пэўна паказваюць толькі адно: што Канавалаў прыехаў у Менск зь цяжкай торбай.

***З артыкулу «Тэракт, які раскалоў грамадзтва»***
*Радыё Свабода, 31.12.2011*

Шмат дзён назірала за працэсам па справе аб тэрактах вядомая праваабаронца Людміла Гразнова. Больш за тое, зь ліку праваабаронцаў, паводле маіх назіраньняў, яна была ў судзе часьцей за ўсіх. На першых паседжаньнях Людміла Гразнова сядзела побач зь Сяргеем Ханжанковым, меркаваньне якога

мы ўжо прыводзілі. Сяргей Ханжанкоў збольшага пагадзіўся з высновамі суду. Людміла Гразнова — не. Чаму?

Людміла Гразнова пачала пералік сваіх сумненьняў наконт справядлівасьці прысуду з таго, што сьледзтва не прадставіла суду фрагмэнтаў каменнай лавы, каля якой нібыта паставілі торбу з бомбай, і таму немагчыма вызначыць, дзе дакладна знаходзілася бомба і якія былі яе кампанэнты.

«Другі момант: відэа. Яно ня можа быць рэчавым доказам, бо было парушана шмат правілаў. Яно — не арыгінал, а копія копіі, больш за тое, на ім знайшлі сьляды мантажу. Сама торба невядома якога колеру. Разыходжаньні тут так і не ліквідаваныя. На адзеньні Канавалава няма сьлядоў выбуховых рэчываў, хоць, як кажа сьледзтва, ён быў унутры, а там усе людзі былі ў гэтых сьлядах. Калі сьледзтва хацела ўсё так дасканала праверыць, яно б магло ўзяць на экспэртызу адзеньне іншых пацярпелых, а не бяздоказна заяўляць, што такія сьляды маглі мець толькі тыя, хто быў за 2,5 мэтра ад выбуху. Далей — антрапамэтрычныя дадзеныя. Забранае з мэтро фота і відэа з чалавекам, які нясе торбу, было сьціснутае, а фота, што рабілі зь відэа на сьледчым экспэрымэнце, — наадварот, расьцягнутае. У выніку антрапамэтрычныя дадзеныя нібыта супалі. У выніку Канавалаў на відэа вышэйшы за ўсіх, хто побач, хоць мы бачылі, што ён не такі высокі».

Таксама Людміла Гразнова згадвае, што бачыла на штанах Канавалава, якія дэманстраваліся ў судзе як рэчавы доказ, белую эмблему, а вось на відэа яна такога не заўважыла. Паводле праваабаронцы, на экспэрымэнце Канавалаў сабраў ня тое выбуховае

прыстасаваньне, якое ўзарвалася згодна з высновамі расейскіх экспэртаў: ён не скарыстаў шпрыц для дэтанатара і алюмініевую пудру. Прызнаньні Канавалава на сьледзтве, як лічыць Людміла Гразнова, былі атрыманыя праз катаваньні, і таму ім няма веры.

«На яго яўна ўзьдзейнічалі фізычна, мы бачылі яго зьбітым, ён ледзь гаварыў. А тое, што рэчавыя доказы нічога не даводзяць, і спосаб правядзеньня сьледчых экспэрымэнтаў выклікае ня проста пытаньні, а выклікае абурэньне. Як так можна было праводзіць сьледзтва і як суд мог не зьвярнуць на гэта ўвагі?!»

## XXXVI. Ахоўнікі

Зробім перадышку ў аналізе вэрсіяў.

За больш як пятнаццацігадовую практыку асьвятленьня рознага кшталту судовых працэсаў (апошнія 10 гадоў — у асноўным палітычных) мне ўпершыню давялося бачыць такую разнастайную сыстэму бясьпекі, як на працэсе над тэрарыстамі. Паводле колькасьці супрацоўнікаў сілавых ведамстваў, набору тэхнічных сродкаў ды прыёмаў гэты суд яўна даў бы фору ўсім ранейшым.

Нават тым, на якіх зімой-вясной 2011 году аднаго за адным судзілі пяцёх кандыдатаў на прэзыдэнта ды дзясяткі іх памочнікаў, актывістаў штабаў і проста ўдзельнікаў мітынгу пратэсту 19 сьнежня 2010 году. Дарэчы, такія працэсы праходзілі і ў будынку Палаца правасудзьдзя — толькі ня ў актавай залі, а ў памяшканьнях раённых судоў. Гэта суды над Андрэем Саньнікавым, Міколам Статкевічам і Дзьмітрыем Вусам. Прызнаюся, у мяне нават склалася ўражаньне, што тады праходзілі яшчэ «манэўры», а сапраўдную моц дзяржаўнай рэпрэсіўнай машыны ўсе пабачылі на працэсе над «тэрарыстамі».

Каб проста трапіць у будынак Палаца правасудзьдзя, трэба было спачатку пераадолець міліцэйскі кардон на ўваходзе: у цябе правяралі дакумэнты, прычым журналістаў заносілі ў асобны сьпіс. Вядома ж, зазіралі ў торбы і магніцілі цела мэталашукальнікам.

Другі кардон чакаў наведнікаў на ўваходзе ў актавую залю: спачатку яшчэ адна рэгістрацыя па пашпарце ці службовым пасьведчаньні, по-

тым «рамка» — мэталашукальнік. Калі прайшоў «рамку», яшчэ раз прамагніцяць ручным мэталашукальнікам, дастануць усе рэчы з торбы і правераць нават драты да гуказапіснай апаратуры.

Відэакамэру ці фотаапарат з сабой пранесьці забароняць, і давядзецца разварочвацца і адносіць тэхніку ў гардэроб, а потым вяртацца і зноў праходзіць тыя ж этапы. Працэс праверкі і ваш уваход у залю будзе здымаць на відэа спэцыяльны супрацоўнік.

У судовай залі ўсё як і ў першы дзень працэсу. Той жа ланцуг амапаўцаў стаіць перад сцэнай, супрацоўнікі ў цывільным з дратамі ў вушах сядзяць уздоўж бакавых праходаў амаль праз шэраг. У пачатку сцэны ўсталяваныя дзіўныя прыстасаваньні на трыногах, падобныя да схаваных пад капелюшы відэакамэр. Час ад часу «капелюшы» павольна паварочваюцца вакол сваёй восі, быццам здымаючы ўсю залю. Пазьней журналісты вырашылі, што гэта ўсё ж ня камэры, а глушылкі сыгналаў мабільнай сувязі.

Мяркую, задзейнічаных у ахове і назіраньні за заляй супрацоўнікаў сілавых структур у некаторыя дні было ня меней, чым публікі. Прычым да ўжо названых варта дадаць дзьве групы супрацоўнікаў у цывільным (штодзень розных), якія правяралі наведнікаў на абодвух уваходах у залю. Вызначыць, зь якой яны міліцэйскай управы, было нескладана, бо іх твары запомніліся яшчэ 19 сьнежня 2010-га і падчас разгонаў маўклівых акцыяў улетку 2011 году. Усе яны былі падначаленымі палкоўніка міліцыі Ігара Яўсеева. З адным з тых, хто круціў мне рукі, ведучы ў «варанок» падчас такой акцыі,

я сутыкнуўся, як кажуць, нос у нос і ў гэтым судзе. Маладзён зрабіў выгляд, што не пазнаў мяне.

Кожная зь дзьвюх групаў складалася з 5-7 чалавек, зь іх 2-3 проста стаялі побач з уваходам, нічога канкрэтнага ня робячы. Усіх яўна не было чым заняць. У кожнай групе абавязкова было па 1-2 маладыя жанчыны, якім звычайна даручалі правяраць торбы. У прамежках паміж гэтым цікавым заняткам міліцыянэркі жыва абмяркоўвалі падзеі з пазаслужбовага жыцьця. Мяркую паводле асобных словаў, якія выпадкова даляталі да мяне, пакуль стаяў у чарзе, адмыслова не прыслухоўваўся.

А ці падслухоўвалі міліцыянты нас — журналістаў альбо публіку? Збольшага на гэтым працэсе я такіх спэцмерапрыемстваў не заўважаў, але раней здаралася. У прыватнасьці, на працэсе ў Фрунзенскім судзе, дзе судзілі кандыдатаў на прэзыдэнта Ўладзімера Някляева і Віталя Рымашэўскага, а таксама іншых удзельнікаў акцыі 19 сьнежня. Аднаго разу на свае вочы бачыў, як у фае да чаргі тых, хто чакаў пачатку працэсу, наблізілася супрацоўніца ў цывільным і, зайшоўшы ў натоўп, «наставіла лякатары» — аж замерла, прыслухоўваючыся да звычайнай балбатні журналістаў. Давялося ўголас загаварыць пра «шпіёнаў вакол». Тады «лазутчыца», кінуўшы на нас млявы позірк, павольна адышла. Аднак, паўтаруся, на працэсе па справе тэракту такіх яўных «апэратыўных дзеяньняў» не назіраў.

Таксама ўвесь час у фае знаходзіліся некалькі службоўцаў у цывільным з рацыямі. «Праверка пачалася», «праверка скончылася», — бубнілі хлопцы ў свае дапатопныя «цаглiны» з антэнамі. У прасаваных штанах, у начышчаных штыблетах з

даўгімі насамі яны важнічалі і выхваляліся, быццам перад дзеўкамі на вясельлі. Далей, назіраючы за ўсімі, стаялі яшчэ нейкія мужыкі, але больш строгіх паводзінаў — яўна са спэцслужбаў. Гэтыя ні ў што ня ўмешваліся, але паўсюль прысутнічалі. Ну і, зразумела, у двары за агароджай суду былі яшчэ нейкія байцы, узброеныя аўтаматамі, у масках і бронекамізэльках. Іх можна было ўбачыць толькі на імгненьне, калі перад працэсам два мікрааўтобусы з абвінавачанымі куляй уляталі ў судовы двор і гэтак жа імкліва вылятылі зь яго пасьля паседжаньня.

За бусікамі павольна выяжджаў цяжкі пажарны аўтамабіль. Кажуць, што раніцай ён зьяўляўся да Палаца правасудзьдзя нават раней за даішнікаў, якія блакітна-чырвоным знакам перагароджвалі ўезд на паркоўку. Таксама кожную раніцу да Палаца правасудзьдзя прыяжджала карэта хуткай дапамогі. Са скрыпам адчыняліся дзьверцы, і з машыны павольна вылазілі лекары ў малінавых камізэльках зь вялікімі куфрамі ў руках. Найчасьцей гэта былі маладыя жанчыны.

Мэдычная брыгада сядзела ў судовай залі ў першых шэрагах і да працэсу дружна шчабятала пра сваё, жаночае. Запомнілася кабетка, якая бясконца гладзіла сьветлыя валасы белай, як цукар, рукою. Месца лекаркі было насупраць амапаўца ў шэрым бэрэце з грозным позіркам, але страж парадку зь мяккім падбародкам нядаўняга школьніка ўпарта глядзеў скрозь яе ў залю. Відаць, ні на сэкунду не забываў пра строгі загад айцоў-камандзіраў не дапускаць дывэрсіяў ці правакацыяў.

З убачанага я зрабіў выснову, што існуе сакрэтная градацыя ступеняў аховы, паводле якой працэс над меркаванымі тэрарыстамі апынуўся на найвышэй-

шай прыступцы. Магчыма, яна так і завецца — «тэрарыстычная» ці «надзвычайная». Або для яе пазначэньня выбраны пэўны колер, прыкладам, чорны. Пры відавочнай адсутнасьці якіх-колечы прыкмет агрэсіі з боку пацярпелых ці публікі да сваякоў асуджаных дый любых агрэсіўных паводзінаў на судзе такая колькасьць праваахоўных сілаў выклікала думкі толькі пра адно — што байцоў няма чым заняць і што іх камандзіры зацікаўленыя ў пэўнай эскаляцыі напружанасьці. Бо гэтым яны апраўдваюць сваё існаваньне, заробкі і ўзнагароды.

Толькі адзін раз шмат ахоўнікаў раптам спатрэбілася — і дзеля чаго! На абсалютна нікчэмную справу. Гэта было пасьля абвяшчэньня прысуду, калі публіка высыпала ў фае, а журналісты падрыхтаваліся браць камэнтары. З залі выйшла маці Кавалёва, але наблізіцца да яе журналістам не далі — ахоўнікі абступілі жанчыну і праводзілі яе да прыбіральні, а самі засталіся на ўваходзе, не пускаючы туды іншых жанчын. Выглядала ўсё па-дзікунску: у калідоры побач з прыбіральнямі стаіць натоўп, ніхто нічога ня ведае і не разумее, што будзе далей. Толькі рацыі вакол гучаць: «Яна ў прыбіральні», «яна ў прыбіральні».

Яшчэ ахоўнікі былі патрэбныя кожны дзень пасьля заканчэньня паседжаньня: зацягваць у аўтобусы зь цёмнымі вокнамі цяжкія рамкі мэталашукальнікаў і іншае абсталяваньне. Я зьняў аднойчы гэты «складаны» працэс на відэа для застаўкі. Раптам падыходзіць камандзір у цывільным і патрабуе ўсё зьнішчыць, бо «хлопцы ўбачаць і пакрыўдзяцца». Я паабяцаў зьнішчыць. Ён ня стаў пераправяраць, паверыў на слова. Таму я ня выкарыстаў гэтыя кадры.

Але іншым разам мне не паверылі — гэта было на абвяшчэньні прысуду. Усе міліцыянты ў цывільным, якія сядзелі ўздоўж праходу, сачылі за заляй. Адзін зь іх убачыў, што я карыстаюся відэакамэрай у мабільным тэлефоне. Пасьля прысуду мяне спынілі на выхадзе і завялі ў асобны пакой, застаўлены самай рознай апаратурай. Мяркую, гэта быў пакой нейкай спэцслужбы. Ва ўсякім разе, супрацоўнікі, якія карысталіся той апаратурай, няўлоўна адрозьніваліся ад міліцыянтаў у залі.

Гуляць у кошкі-мышкі зь імі ня мела сэнсу — я проста аддаў ім апарат, а сам пабег у фае, дзе мяне чакала відэакамэра, каб здымаць камэнтары. Калі празь 10 хвілін вярнуўся, «мабілу» ужо прафэсійна пачысьцілі. Аднавіць зьнятае не ўдалося нават з дапамогай самай хітрай праграмы. Калі я сыходзіў з «тэхнічнага» пакоя спэцслужбы, то чуў з актавай залі нейкі ляскат, быццам нерытмічна зьвінеў далёкі звон. Гэта прыйшоў час разьбіраць жалезную клетку, у якой на працэсе сядзелі Канавалаў і Кавалёў.

## XXXVII. Тэрарыст — адзін, бомбы — дзьве?

Палкоўнік у адстаўцы Ўладзімер Барадач справядліва зьвяртае ўвагу на тое, што бомба 2008 году, на якой знайшлі адбіткі пальцаў Канавалава, адрозьніваецца ад бомбы 2011 году, якая выбухнула ў менскім мэтро. Былы прафэсійны дывэрсант разважае лягічна: калі ты навучыўся дасканала рабіць нешта адно, навошта рызыкаваць, выдумляючы новае? Проста паўтары ранейшае.

Другі аргумэнт Барадача: бомба-2011 зробленая зь менш магутнай выбухоўкі, таму больш аб'ёмная. Калі Канавалаў навучыўся рабіць «кісу» і мае пад рукой тратыл, навошта яму зьвязвацца зь неэфэктыўнай выбухоўкай з салетры? Зноў бы зрабіў маленькую бомбачку з тратылу, уклаў бы ў пакунак умоўнага «Садочку», які можна незаўважна пранесьці і пакінуць у вагоне мэтро, — бах, і гатова. Але тэрарыст чамусьці ўскладняе сабе задачу, выробляючы іншую, аб'ёмную выбухоўку, да таго ж карыстаецца іншай схемай прывядзеньня бомбы ў дзеяньне — праз бяздротавы званок. Але наколькі прынцыповыя гэтыя адрозьненьні?

Афіцыйная экспэртыза іх не аналізуе. Экспэрты параўноўваюць бомбы з запісамі, знойдзенымі ў падвале Канавалава падчас ператрусу. Паводле экспэртаў, наяўнасьць брызантных выбуховых рэчываў, у тым ліку «кісы», у бомбе-2008 не адпавядае запісам Канавалава. І мэханізм падрыву там быў выкарыстаны іншы: у сапраўднай бомбе быў гадзіньнік, а на схеме ў Канавалава пазначаны транзыстар.

Затое бомба 2011 году, паводле экспэртаў з расейскага ФСБ, цалкам адпавядае схеме, якую нібыта змаляваў з інтэрнэту Дзьмітрый Канавалаў. Прычым адразу за дадзенымі гэтай экспэртызы сьледзтва прадставіла суду экспэртызу почырку Канавалава і запісаў у сшытку. Выявілася, што рука адна і тая ж. А цяпер згадаем, з чым параўноўвалі экспэрты гэтыя запісы: з рэальнай бомбай 2011 году ці з рэшткамі, якія ад яе засталіся? Так, менавіта з апошнім. І, паводле экспэртаў, на станцыі мэтро знайшлі сьляды тратылу і алюмініевай пудры.

Аднак гэта яўна супярэчыць сьледчаму экспэрымэнту з удзелам Канавалава. Такія рэчывы, паводле яго, у згаданай бомбе не выкарыстоўваліся. Ён мог схлусіць? Дапусьцім. Але чаму тады сьледзтва ня высьветліла, адкуль у яго тратыл? Тое самае з алюмініевым парашком. У падвале Канавалава яго не знайшлі — толькі сьляды парашку на месцы. Але калі ён выкарыстоўваў у бомбе алюмініевы парашок, то яўна не адзін грам. Зноў жа: дзе браў? Чаму ня высьветлілі?

І нарэшце пра бяздротавы званок «Космас», нібыта выкарыстаны для ініцыяцыі бомбы. Як сьцьвярджае Ўладзімер Барадач, ягоны знаёмы дзеля экспэрымэнту браў у кішэню пульт ад такога званка і ў гадзіну пік пасылаў сыгнал, стоячы на «мосьціку» станцыі мэтро «Кастрычніцкая». У гэты час другі знаёмы, са званком у кішэні, прымаў сыгнал, стоячы на месцы выбуху. Сыгнал не даходзіў. Хто са сьледчых праводзіў такі экспэрымэнт? Чамусьці пра гэта невядома.

Застаецца самому паўтарыць экспэрымэнт знаёмага Ўладзімера Барадача. Вось толькі ў мэтро цяпер затрымліваюць нават пасьля фатаздым-

каў, дый умовы зьмяніліся — на «мосьціку» зьявілася плястыкавая агароджа, якая перашкаджае сыгналу.

Можна пагадзіцца са спадаром Барадачом і вось у чым: незразумела, чаму Канавалаў рабіў для мэтро зусім інакшую бомбу. Сьледзтва ўвогуле не задаецца такім пытаньнем. Маўляў, Канавалаву падабалася рабіць усё больш складаныя рэчы, шукаць іншыя варыянты, ён па прыродзе быў вынаходнік, дастаткова таленавіты, хоць і жудасны. Ёсьць жа відэа, знойдзенае ў фотаапараце Канавалава: ён сам зьняў, як праз бесправадны званок узрывае зарад, прымацаваны да дрэва. У адзін з кадраў трапіў палец Канавалава, які трымаў фотаапарат.

Добра. Магчыма. Самародак, а з пальцам прамахнуўся, бывае. Але сапраўды, што прымусіла Канавалава вырабляць зусім новую выбухоўку, зь якой непазьбежна ўзьнікнуць новыя праблемы?

Калі верыць блізкай да сьледзтва крыніцы, зь якой размаўляла карэспандэнт «Інтэрфакс-Захад» Юлія Качубей, Канавалаў перад тым, як да яго прыйшоў міліцыянт Грышман наконт адбіткаў пальцаў, некалькі дзён рабіў у падвале выбухоўку для будучай бомбы. Яго нібыта напалохаў пазоў у міліцыю, таму ён узяў бальнічны і тэрмінова вырабіў «кісу», якую потым скарыстаў для дэтанацыі, а таксама асноўную выбухоўку на аснове салетры.

Між тым і палкоўнік Уладзімер Барадач, і ўкраінскі экспэрт Уладзімер Захматаў кажуць, што для падрыву асноўнай выбухоўкі з салетры такога аб'ёму апроч «кісы» мусіў быць яшчэ адзін дэтанатар. Хутчэй за ўсё — тратыл. Тым больш што расейскія экспэрты знайшлі на месцы выбуху ў

мэтро сьляды тратылу, хоць Канавалаў на допытах пра тратыл нічога не казаў.

Нават калі б суд пагадзіўся, што Канавалаў абышоўся для дэтанацыі адной «кісай», у ягоных паказаньнях на сьледчым экспэрымэнце ўсё роўна было тое, што мусіла насьцярожыць. Там ён казаў пра дэтанатар, які ўторкнуў у адну з бутляў. А як выбухнула другая? Ад першай? Між тым адмыслоўцы сьцьвярджаюць, што ў такім разе выбух быў бы інакшы, выбухоўка з другой бутлі збольшага згарэла б, а не ўзарвалася, а значыць, агульная моц выбуху значна зьнізілася б. Калі Канавалаў такі добры падрыўнік і вынаходнік, ён мусіў бы гэта прадугледзець і зрабіць два дэтанатары — для кожнай з бутляў.

Суд, аднак, ня стаў разьбірацца ў такіх «нюансах». Быў ці ня быў і адкуль мог узяцца тратыл? Ці хапіла б аднаго дэтанатара з «кісы» на дзьве бутлі выбухоўкі? Ці дастаткова глыбока ўторкнуў Канавалаў свой самаробны дэтанатар, каб выбухоўка спрацавала, а ня «пыхнула»?

## *Вячаслаў Харанека: «На відэа я бачыў свой цень»*

Вядомы спартовец, пацярпелы ў справе тэракту Вячаслаў Харанека расказаў аўтару, каго ён бачыў на лесьвіцы перад выбухам, што памятае пра момант выбуху, што ў яго пыталіся сьледчыя і чаму ён ня выступіў у судзе як сьведка.

«Ух, шмат разоў ужо пра гэта расказваў. Ведаеце, у мяне блізарукасьць. Гэта потым, калі мне паказалі відэа і сказалі, маўляў, вунь жа ён перад вамі стаяў, я пагадзіўся, што магчыма. Але нагаворваць на ча-

лавека, калі я дакладна ня ведаю, не перакананы... Я проста не запомніў яго. Запомніў жанчын, якія побач са мной зьлева стаялі. Яны перашкаджалі маёй прасторы, торбу там паставіць… Вось іх я запомніў, пакуль чакаў свайго сябра, і пазнаў іх потым на відэа. Памятаю, як адна запытала другую: «Чаго ты так позна?» Потым яны пацалаваліся і сышлі. І неўзабаве быў выбух. Ці знайшлі гэтых жанчын сьледчыя, ня ведаю.

Вось пра хлопца, які зьбег па лесьвіцы, як цяпер вядома, насустрач сваёй сьмерці, ведаю, што гэта сын вядомага спартоўца Раман Капцюх. Дакладна не скажу, што я яго бачыў, але што нехта якраз прабег па лесьвіцы перад выбухам, памятаю. А што было перада мной, не асабліва памятаю. Я хоць і стаяў тварам да пераходу і сьпінай да цягніка, але думаў пра будучую сустрэчу з чалавекам, увесь час круціўся, чакаў, калі пад'едзе цягнік.

У сам момант выбуху мяне быццам нешта ўратавала, быццам ногі падкасіла, бо калі б я пачаў прысядаць пасьля пляску, быў бы канец. Той ашчэпак мармуру, пэўна, зьнёс бы мне галаву. А так ён проста пайшоў па плаўнай траекторыі. А яшчэ перад самым выбухам, калі пад'ехаў цягнік і людзі выходзілі, я хацеў на некалькі ступеняў спусьціцца і паглядзець, ці там чалавек, якога я чакаў. Чаму не спусьціўся, дагэтуль ня ведаю. Бо калі б спусьціўся хоць на пару ступеняў, мяне б нічога не ўратавала. Туды вельмі шмат ашчэпкаў паляцела.

Спачатку мяне выклікалі да сьледчых, я расказаў усё, што памятаю, што бачыў. Дэманстравалі відэа. Сябе я там не ўбачыў, бо не трапляў у агляд камэры, але бачыў свой цень. І жанчын, якія сталі побач, пазнаў на відэа. Асабіста я не сумняюся,

што гэта відэа менавіта з таго месца і зьнятае якраз перад выбухам.

Перад судом мне прыйшла позва, але я тады праходзіў ужо як пацярпелы і меў права адмовіцца. Я прыехаў у суд у першы дзень і напісаў заяву, папрасіўшы судзьдзю, каб мяне больш не выклікалі, а зачыталі паказаньні са сьледзтва, якія я цалкам пацьвярджаю. Мяне спыталі, чаму. Патлумачыў, што хачу гэта забыць. Хаця як такое забудзеш? Але ўспамінаючы, адчуваю сябе не ў сваёй талерцы, усяго ажно трасе. Пры гэтым я пэрыядычна сачыў за працэсам і ведаю, што там адбывалася».

## XXXVIII. Усё ж «пілі» ці «білі»?

Гэта было пасьля паседжаньня, на якім публіка прагледзела, магчыма, самае ўражальнае відэа з шэрагу допытаў і вочных ставак абвінавачаных — відэа першага допыту Дзьмітрыя Канавалава, зьнятае раніцай 13 красавіка. Тое, на якім стомлены, каб не сказаць «ледзь жывы», Канавалаў прызнаецца, што гэта ён пранёс і ўзарваў бомбу ў мэтро.

У камэнтары для Радыё Свабода праваабаронца Людміла Гразнова рэканструявала адказ Канавалава на пытаньне сьледчага, чаму яму цяжка гаварыць. «Таму што білі», — сказаў Канавалаў». Так пачула Людміла Гразнова. Скажу пра сябе, што я пачуў ня «білі», а «пілі». Па-мойму, Дзьмітрый Канавалаў спасылаўся на тое, што шмат выпіў напярэдадні, таму так дрэнна сябе цяпер адчувае.

Увогуле, паводле сьледзтва вынікала і ўвесь час праз розныя сьведчаньні падкрэсьлівалася, што Канавалаў і Кавалёў выпілі шмат гарэлкі, пакуль былі на арандаванай кватэры на вуліцы Караля. Пілі 10-га ўвечары зь дзяўчатамі (разам з Пачыцкай была яе сяброўка, якая потым сышла). Потым пілі 11-га да тэракту. Праўда, і Кавалёў, і Пачыцкая казалі, што Канавалаў піў мала, ледзь прыгубляў, гаворачы, што яму трэба застацца цьвярозым. Затое прыйшоўшы «пасьля 19-й», пасьля выбуху ў мэтро, сам сказаў: «Зараз будзем гуляць» (Пачыцкая), і п’янка працягнулася. Да вечара наступнага дня нібыта «гудзелі» добра. Сьведка згадала і незразумелыя сьпевы нецьвярозага Канавалава, і ягоны твар з другога боку акна (чамусьці той вылез на балькон

і хацеў ці скочыць уніз, ці проста яе напалохаць). А яшчэ згадала красамоўнае пытаньне Канавалава пра тое, што б яна рабіла, калі б гэта былі яе апошнія гадзіны. Карацей, п'янае трызьненьне з прасьветамі запалёнага розуму — так выходзіць паводле матэрыялаў сьледзтва.

Але возьмем агалошаны ў судзе сьпіс рэчаў, знойдзеных на кватэры, дзе два дні і дзьве ночы правялі двое маладых мужчын і адна маладая жанчына (другую ў разьлік браць ня будзем, бо яна сышла 10 красавіка ўсяго праз пару гадзін). Які знайшлі посуд з-пад сьпіртнога? 3 бутэлькі з-пад віна. 2 бутэлькі з-пад гарэлкі, 3 бутэлькі з-пад піва. Усё.

Усё? Для беспрабуднага двухдзённага п'янства? Вядома, можна дапусьціць, што індывідуальная норма ўжываньня алькаголю ў гэтых маладых людзей значна меншая за звычайную ў Беларусі, але хіба настолькі? Прычым бутэлькі яны з кватэры не выносілі, гэта адназначна. Сьведка і абвінавачаныя пра гэта маўчаць, ды ім і пытаньняў такіх не задавалі. Пры гэтым я далёкі ад думкі, што Канавалаў і Кавалёў — непітушчыя, а бутэлькі з-пад гарэлкі ў кватэры засталіся ад былых пастаяльцаў.

Як казалі віцебскія суседзі Канавалава і Кавалёва, у гэтых хлопцаў звычка пасядзець на лавачцы з «гарэлачкай і піўком» была даволі ўстойлівая. Маці Кавалёва прызнавала, што Дзьмітрый дрэнна ўплываў у гэтым сэнсе на Ўладзіслава. Такім чынам, яны ўсё ж маглі выпіць, але чаму былі настолькі нецьвярозыя, што праз два дні Канавалаў ледзь мог гаварыць, калі выпітага пры звычайнай норме ім хапіла б толькі на дзень? І чаму Канавалаў стомлены і зьнясілены, як з сапраўднага перапою, а Кавалёў на допыце ў той жа дзень — як агурочак?

Каб зрабіць больш пэўныя высновы, застаецца высьветліць, якой ёмістасьці былі бутэлькі з-пад гарэлкі. Правінцыйныя хлопцы — яны ж такія, могуць і літровыя бутэлькі гарэлкі закупіць, каб лішні раз у краму ня бегаць.

### *Ці быў 12-га выхад у краму?*

Дарэчы, пра гэты лішні раз. Кавалёў у судзе настойваў, што ніхто зь іх увечары 12 красавіка не выходзіў. А значыць, не маглі іх міліцыянты вылічыць у краме і прыйсьці па сьлядах на кватэру. Праўда, з паказаньняў таго ж Кавалёва вынікае, што ў момант уварваньня «Алмазу» ён спаў. Значыць, мог спаць і тады, калі Канавалаў сапраўды мог пайсьці ў краму. Адзіны чалавек, які можа гэта пэўна засьведчыць, — Яна Пачыцкая. І яна засьведчыла, што Канавалаў увечары хадзіў у краму, што напярэдадні яны разам сядзелі на кухні, ён быў добра выпіўшы, нешта сьпяваў, а яна не магла разабраць словаў. «Пасьля гэтага пайшоў у краму».

Але калі дапусьціць, што сапраўды ён пайшоў яшчэ па гарэлку, чаму суд не пажадаў гэта спраўдзіць, пераканацца, падмацаваць іншымі паказаньнямі, тым больш што сьведак знайсьці было нескладана? Таго ж міліцыянта, які вылічыў Канавалава ў краме, ягоных калегаў, якія ішлі па сьледзе «тэрарыста» да кватэры. Нарэшце, супрацоўнікаў «Алмазу», якія ўрываліся ў кватэру. Хай бы засьведчылі: Канавалаў быў апрануты, Кавалёў спаў на канапе. Гэты прыйшоў з вуліцы, той быў дома. Ці наадварот.

Але не, ніякіх сьведчаньняў, ніякіх паказаньняў. Ну добра, «алмазаўцы» пад сакрэтам як

супрацоўнікі спэцпадразьдзяленьня, але чаму не апыталі звычайных міліцыянтаў, якія вылічылі Канавалава?

Тое, што звычайныя міліцыянты сапраўды датычныя да затрыманьня Канавалава і Кавалёва, вынікае з аповеду журналісткі Ірыны Халіп. Расказваючы на старонках сваёй кнігі «Дзёньнік зэчкі» пра перажытае ў канцы 2010-га і ў 2011-м гадах, жонка Андрэя Саньнікава згадала пра канваіраў, якія суправаджалі яе з хатняга арышту на судовы працэс. Вось кавалачак з разьдзелу «Канвой з чалавечым тварам».

«І, безумоўна, чаго не хавалі канвойныя, як і ўсе іншыя ў міліцэйскай вопратцы, — гэта клясавай нянавісьці да КДБ.

— Вось скажыце, гэбісты, якія вас ахоўваюць, сволачы? — пыталіся канваіры.

— Вядома, сволачы! — зь лёгкасьцю адказвала я.

— Вось. І мы пра тое ж. Тыпу, блін, белыя каўняры, тыпу, блін, адукацыя ў іх нібыта ёсьць... Ага, як жа ж... А хто ім тэрарыста злавіў? Вядома ж, міліцыянт! Просты пэпээсьнік, між іншым. І дзе іх мазгі былі? У Карагандзе! Ой, а вы б бачылі, які яны нам фатаробат склалі пасьля выбуху ў Менску ў 2008 годзе. Гэта ж той самы тэрарыст быў, што і цяпер. А вы б той фатаробат бачылі — дзеда нейкага намалявалі. Ну не ідыёты?..»

Зразумела, што канваіры-міліцыянты ня вельмі любяць сваіх куратараў-чэкістаў, а апошнія, пэўна, плацяць ім узаемнасьцю і могуць расказаць шмат цікавых баек пра «подзьвігі» канваіраў. Але ж ніхто не цягнуў простага канваіра за язык, наўрад ці яго падгаворвалі хлусіць, дый выгады ад той размовы

з падсуднай для яго ніякай. І ў шчырасьць журналісткі варта верыць. Як кажуць, «за што купіла, за тое прадала».

Уладзімер Барадач, аднак, мяркуе, што гэта супрацоўнікі спэцслужбаў вывелі міліцыянтаў на кватэру «тэрарыстаў», і ніякага «звышпільнага наводчыка» не было. Калі прыняць гэтую вэрсію, то лепш сапраўды не выклікаць нібыта героя-міліцыянта ў суд — а раптам скажа нешта, што супярэчыць іншым паказаньням? Згадайма сьведку Грышмана, які блытаўся з днём, калі пальцы Канавалава праверылі па базе. Так і тут — ад граху далей.

Але як тады быць з канваірам, які выбалбатаў службовы сакрэт Ірыне Халіп? Калі дапусьціць, што «інфарматар» усё ж казаў праўду, застаецца адна лягічная выснова: зьвесткі пра ўдзел шараговых міліцыянтаў у затрыманьні меркаваных тэрарыстаў нявыгадныя КДБ ці нейкай іншай спэцслужбе.

Адсюль цягнуцца дзьве вэрсіі: гэта можа быць як «змова», якую падазрае Уладзімер Барадач, так і традыцыйная для нашай краіны грызьня праваахоўных структур за першынства, узнагароды, ляўры пераможцаў — тое, што забясьпечвае трывалы «доступ да цела». Мяркуючы па кадравай чыстцы, якая адбылася ў вярхах МУС у канцы 2011 — пачатку 2012 году, гэтую бітву міліцыя з трэскам прайграла. Спачатку паводле абвінавачаньня ў службовых злоўжываньнях быў арыштаваны і зьмешчаны ў «амэрыканку» намесьнік міністра ўнутраных справаў Яўген Полудзень, а празь некалькі месяцаў пасьля яго адпраўлены ў адстаўку яшчэ адзін намесьнік міністра Куляшова — Алег Пякарскі. Той самы, які пасьля суду над Канава-

лавым і Кавалёвым расказаў усёй краіне, як тэрарыстаў вылічылі простыя міліцыянты, а КДБ тут аказаўся ні пры чым. На той момант — так. Але ў выніку пасаду Пякарскага заняў якраз выхадзец з КДБ. Цяпер і Куляшоў таксама «былы» міністар.

## XXXIX. Лішнія «пальцы» і сім-картка

Каб больш не вяртацца да «дрэннай» кватэры № 50, на якой арыштавалі Канавалава, Кавалёва і Пачыцкую, адзначу яшчэ два падазроныя моманты. Першы: паводле экспэртызы, на кватэры на вуліцы Караля былі знойдзеныя адбіткі пальцаў невядомай асобы, якую сьледзтва чамусьці ня высьветліла.

Тут альбо кіраўніцтва сьледзтва пакрывае сваіх неахайных падначаленых, што не знайшлі чалавека, якому належалі гэтыя адбіткі, альбо яго і не шукалі. У выніку заявілі, што кватэра здавалася ў арэнду, прычым сам арандатар таксама здаваў яе кліентам, жыло іх у кватэры шмат, вось ад кагосьці лішнія «пальчыкі» і засталіся.

Другі момант: на кватэры знайшлі сім-картку ад мабільнага тэлефону, якую абслугоўваў расейскі апэратар «Мэгафон». Дакладна вядома, што Канавалаў, Кавалёў і Пачыцкая такой сім-карткай не карысталіся.

Падазрона? Безумоўна. Але ў выніку зь сім-карткай адбылася тая ж гісторыя: сьледзтва нічога ня высьветліла пра яе паходжаньне і ўладальніка, хоць зрабіць гэта было яшчэ лягчэй, чым зь лішнімі пальчыкамі. Суд таксама не пажадаў разьбірацца зь сім-карткай. Прычым абарона адмыслова хадайнічала, каб разабраліся, але дарэмна. «Што новага гэта нам дасьць?» — пытаўся судзьдзя Федарцоў у адваката Абразея, а паколькі дакладнага адказу не было і быць не магло, хадайніцтва адхілілі.

Гэтаксама суд ня стаў разьбірацца з «пальцамі»

на бомбе 2008 году, якія не належалі Канавалаву. Пра іх мы ўжо расказвалі.

А вось на яшчэ адным важным эпізодзе справы варта спыніцца асобна. Гаворка пра апытаньне сьведак Яўгена Іванца і Руслана Якімовіча, якія 3 ліпеня 2008 году на сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці на праспэкце Машэрава знайшлі пачак соку «Садочак» з бомбай унутры, на якой і апынуліся адбіткі пальцаў Канавалава. Чамусьці суд не зацікавіла тое, што на пачку не было адбіткаў пальцаў саміх маладых людзей, хоць яны, згодна зь іх паказаньнямі, бралі пачак у рукі і праводзілі зь ім розныя маніпуляцыі. «О, думаю, халяўны сок, — згадаў Руслан Якімовіч, які, як ён кажа, зачапіў пачак нагою, ідучы па газоне прыкладна за 150 мэтраў ад гатэля «Плянэта». — Падняў пачак, адкруціў накрыўку, а адтуль выскачыў мэталічны чорны тумблер».

Сабутэльнік Якімовіча ў той вечар Яўген Іванец у судзе аказаўся яшчэ больш памятлівым. Ён згадаў, што яны спрабавалі ўзрэзаць пачак ключом, і гэта ім удалося. Усярэдзіне ўбачылі гайкі, правады і нават будзільнік, званок якога быў пастаўлены на «каля 12-й». І толькі тады панесьлі падазроную знаходку да міліцыянтаў.

Да гэтага аповеду ў суду павінна было ўзьнікнуць шмат пытаньняў. Чаго гэта маладыя людзі пачалі ўзразаць пачак, калі пасьля адкручваньня накрыўкі сок зь яго не паліўся? Нават навобмацак яны мусілі западозрыць, што ў пачку яўна ня вадкасьць, і асьцерагчыся. Між тым адбываецца ўсё наадварот: сьведкі пачынаюць рэзаць пачак тупым ключом ад аўтамабіля ды яшчэ не спыняюцца, калі бачаць правады і гайкі, а раскрываюць пачак болей — ажно робіцца бачны будзільнік!

Маючы на ўвазе гэтыя паказаньні, як быць з аповедам Канавалава пра тое, як ён зьбіраў бомбу 2008 году, якая не разарвалася? Канавалаў сказаў, што ўзрэзаў дно, каб уставіць зьнізу бомбу, і заклеіў пачак скотчам. Значыць, Якімовіч і Іванец маглі бачыць, што пачак пашкоджаны. Маглі, але ўсё роўна пачалі калупацца ў ім ключом? Калі дапусьціць, што на той момант яны ўжо добра насьвяткаваліся, то гэта магчыма. Але чаго тады вартыя паказаньні гэткіх сьведак?

Варта дадаць яшчэ адну дэталь. Яўгена Іванца даставілі ў суд пад канвоем — ён адбывае пакараньне ў 2-й Бабруйскай калёніі. За што яго пасадзілі, прысутным не паведамілі. Але як сьведка Яўген Іванец паводзіў сябе бездакорна.

***«Экспэрт параўнаў выбух у мэтро з замахам на Гітлера»***
*«Ежедневник», 16.01.2012*

***Працяг размовы зь незалежным украінскім экспэртам Уладзімерам Захматавым***

**— Паводле вэрсіі сьледзтва, выбуховая прылада складалася зь дзьвюх плястыкавых шасьцілітровых бутляў, напоўненых сумесьсю аміячнай салетры і гідрапэрыту, зьмешчаных у вялікую спартовую торбу вагой каля 25 кілаграмаў, якая добра бачная на відэа. Скажыце, гэта падобна да праўды?**

— Калі зыходзіць з маёй вэрсіі (10 кілаграмаў у тратылавым эквіваленце), то, улічваючы, што гэта самаробнае рэчыва з аміячнай салетры, мы мусім вагу выбуховага рэчыва павялічыць у параўнаньні з

тратылам у 2-3 разы. То бок якраз і выходзіць, што вага торбы павінная складаць 25-30 кіляграмаў. Гэта якраз дзьве шасьцілітровыя бутлі з салетрай. Аднак гэтая вэрсія перадугледжвае поўны выбух усёй масы выбуховага рэчыва, што малаімаверна ў самаробных зарадах. Большая частка выбуховага рэчыва ў іх не ўзрываецца. Прыкладам, на відэа бачнае разьлятаньне часьцінак выбуховага рэчыва, якія гараць, але не ўзарваліся.

**— Я Вам паказаў фатаздымкі, зробленыя падчасператрусу ў падвале Канавалава. Скажыце, ці падобна гэта да лябараторыі тэрарыста? Ці мог Канавалаў у гэтых умовах прыгатаваць выбуховае рэчыва і сабраць бомбу?**

— Аміячную салетру кіпяціць ці нешта зь ёй рабіць ня трэба. Аміячныя выбуховыя рэчывы — сумесевыя, іх проста зьмяшаў — і ўсё. Аміячная салетра — крыніца кіслароду. Яна пры награваньні ці выбуху імгненна раскладаецца і выдзяляе кісларод. Да яе можна дадаць любы вуглявод, прыкладам, муку, цукар, пілавіньне, дызэльнае паліва і гэтак далей.

**— А так званую «кісу» Канавалаў мог вырабіць у дадзеных умовах?**

— Я ня веру ў гэта. Вось напісалі, што ён шматкроць вырабляў ініцыявальнае выбуховае рэчыва, але ж гэта чыстае самагубства. У мастацкай літаратуры любяць пісаць, як выраблялі выбуховыя рэчывы ў царскай Расеі нарадавольцы ды іншыя. Але шмат якія пісьменьнікі забываюць, што тыя ж нарадавольцы карысталіся вялікай падтрымкай інтэлігенцыі. Яны ж ня самі рабілі выбуховыя

рэчывы ў каструльках на кухні — для іх выбухоўку рабілі спэцыялісты ў добра абсталяваных лябараторыях Масквы, Санкт-Пецярбургу, Казані, Адэсы.

*(Вядома, аднак, і пра шматлікія выпадкі ўзрываў пры падрыхтоўцы выбухоўкі ў хатніх умовах, якраз у канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя. То бок хапала і тэрарыстаў, што выраблялі свае бомбы не ў «абсталяваных лябараторыях». Эсэрка Фані Каплан, што ў 1918 годзе нібыта страляла ў Леніна, амаль страціла зрок ад выбуху бомбы, якую тэрарысты зьбіралі на кватэры. — А. Г.)*

Таму я ня веру, што ў падвале можна было вырабіць ініцыявальнае рэчыва. Да таго ж ёсьць яшчэ адна бясспрэчная ісьціна. Сумесевыя выбуховыя рэчывы на аснове аміячнай салетры кваліфікуюцца як рэчывы паніжанай магутнасьці. Каб выбухнуць, яны патрабуюць ня проста дэтанатара, а прамежкавага зараду выбуховага рэчыва. Каб гэты зарад выбухоўкі з аміячнай салетры дастаткова поўна ўзарваўся, у кожнай бутлі павінна было быць сама меней па 200-грамовай, а яшчэ лепш — па 400-грамовай тратылавай шашцы. Плюс да шашкі мусіў быць дэтанатар. Мяркую, у дадзеным выпадку былі ўжытыя не адносна вялікія зарады самаробнай выбухоўкі, а нармальны прамежкавы зарад моцнага выбуховага рэчыва, прыкладам, тратылу. Каб узарваць 6 літраў аманіту, трэба як мінімум 400 грамаў тратылу.

**— А трыпэраксыд трыацэтону ня мог служыць гэтым прамежкавым зарадам?**

— Калі б Канавалаў сам яго гатаваў, ён бы даўно ўжо ўзарваўся к чортавай галаве. Вы ведаеце, як робяць ініцыявальныя выбуховыя рэчывы і начы-

няюць імі ўзрывальнікі? Гэта выцяжная гермэтычная шафа, бранявая пліта перад тым, хто працуе, на рукі ён надзявае спэцыяльныя пальчаткі, сам у ахоўным строі, з рэспіратарам. Толькі тады ён нешта робіць. Гэта стандартныя заводзкія ўмовы, і нават у такіх умовах часта здараюцца няшчасныя выпадкі. Я вырас у горадзе ў Самарскай вобласьці, дзе былі чатыры вялікія ваенныя заводы. Першы быў адным з самых вялікіх у СССР па вытворчасьці выбуховых рэчываў (тратылу, гексагену і розных іх варыянтаў, у тым ліку аматолу) і начыненьні боепрыпасаў. Другі завод вырабляў узрывальнікі. Дык вось, там кожны месяц здаралася па 3-4 няшчасныя выпадкі. Гэта людзі запаўнялі ўзрывальнікі — па 1-2 грамы ініцыявальнага рэчыва. Прыкладам, да нітрагліцэрыну дастаткова проста дакрануцца, каб ён узарваўся.

**— Вядомы ўкраінскі хімік, дэкан хімічнага факультэту сказаў нам, што вырабіць трыпэраксыд трыацэтону нескладана...**

— Адна рэч — хімія, і зусім іншая — адмыслоўцы, якія займаюцца вырабам ініцыявальных выбуховых рэчываў. Калі гэты хімік зможа зрабіць у падвале трыпэраксыд трыацэтону з захаваньнем усіх нормаў бясьпекі, я здыму перад ім капялюш. Інакш гэта як рулетка — сёньня застаўся жывы, заўтра ўзарваўся. Вы ведаеце, як у інтэрнэце зьявіліся рэцэпты вырабу ініцыявальных выбуховых рэчываў? Гэта была апэрацыя ФБР ЗША, якое такім чынам вельмі моцна зьменшыла колькасьць падрыўнікоў-тэрарыстаў, што займаліся самаробкамі. Яны проста ўзрываліся на сваіх кухнях. Гэта надзвычай небясьпечна, і тыя, хто займаецца

такім у саматужных умовах, абавязкова ўзарвуцца, хутчэй раней чым пазьней,. Саматужныя ініцыявальныя выбуховыя рэчывы могуць узарвацца літаральна ад павеву ветру.

**— Як высьветліла сьледзтва, Канавалаў пачынаў з вырабу простых выбуховых пакетаў, а потым рабіў усё складанейшыя прыстасаваньні, і беларускія ўлады назвалі яго ўнікальным хімікам-самавукам. Нават такі ўнікальны хімік ня мог атрымаць у падвале трыпэраксыд трыацэтону?**

— У ЗША навукоўцы яшчэ пяць гадоў таму даказалі, што ў хатніх умовах можна і атамную бомбу вырабіць. Я дапускаю існаваньне геніяльнага хіміка, але ўсё роўна застаюцца пытаньні. Калі ён здолеў атрымаць трыпэраксыд трыацэтону і пры гэтым не ўзарвацца, то як ён яго захоўваў, як пераносіў, як ініцыяваў, як увогуле зьмяшчаў яго ў гэтую бутлю? Да яго ж дакранацца небясьпечна. Бо дзеля чаго робяць дэтанатары, куды зьмяшчаюць 1-2 грамы ініцыявальнага рэчыва? Каб з ініцыявальнымі рэчывамі можна было хоць неяк абыходзіцца. Іх у жывым выглядзе нават кранаць небясьпечна. Паводле тэорыі імавернасьці, калі б Канавалаў раней гэтым займаўся, у яго абавязкова былі б пальцы адарваныя, ці аднаго вока не было б, ці былі б нейкія іншыя пашкоджаньні. Інакш не бывае.

**— На адным з допытаў Канавалаў патлумачыў, што зь лета 2007 году ён вырабіў ня менш як кіляграм трыпэраксыду трыацэтону, прычым рабіў яго ня менш як 10 разоў, а потым право-**

**дзіў выпрабаваньні, узрываючы па 20-30 грамаў. Пры гэтым падчасператрусу ў падвале Канавалава быў выняты ўласна трыперакіс ацэтону, цыклатрымэтылентрынітразаамін (ЦТМТНА), а таксама ацэтон і сумесь ацэтону з клеем — для плястыфікацыі трыперакісу ацэтону. Таксама падчасператрусу быў выняты самаробны электрадэтанатар у выглядзе зараду трыпэраксыду трыацэтону і электрычнай лямпачкі (Вы бачылі яго на фота). Вы па-ранейшаму сьцьвярджаеце, што Канавалаў ня мог вырабіць у падвале трыпэраксыд трыацэтону, ужываючы клей для плястыфікацыі? Можа, ён знайшоў спосаб спакойна яго вырабляць і перамяшчаць з дапамогай клею, які і абараняў ад выпадковай дэтанацыі? Ці мог ён выкарыстаць 200-300-грамовыя зарады плястычнага (з дапамогай клею) трыпэраксыд трыацэтону, каб узарваць гэтыя бутлі?**

— Тэарэтычна шмат што магчыма. Але практыка выбуху — іншая рэч. Клей — не найлепшы плястыфікатар, але ён павялічвае магутнасьць пачатковага ініцыявальнага імпульсу — то бок патрэбны больш магутны дэтанатар. Я прытрымліваюся сваёй думкі. У такіх выпадках ладзяць сьледчы экспэрымэнт. Хай вырабіць асноўны і ініцыявальны зарад выбухоўкі, потым узарвем і па відэаздымках параўнаем з выбухам у мэтро. Таксама ёсьць сэнс сабраць зарад паводле маёй вэрсіі і параўнаць выбухі. Я гатовы ўдзельнічаць у такім экспэрымэнце — яго плянаваньні і правядзеньні. Гэта немалая праца і, адпаведна, немалыя страты, аднак можа рэальна паставіць кропку ў гэтай частцы сьледзтва. Інакш чуткі і плёткі яшчэ доўга будуць хадзіць.

*(Прапановы прафэсара Захматава не былі пачутыя. На той момант мінула паўтара месяца, як скончыўся працэс. Яшчэ праз два месяцы прызнаных вінаватымі ў тэракце ў мэтро расстраляюць. — А. Г.)*

**— Калі, як Вы кажаце, у бомбе не было трыпэраксыду трыацэтону, што ж тады выкарыстоўвалася ў якасьці прамежкавага выбуховага рэчыва?**

— Тратыл, гексаген ці іншае магутнае выбуховае рэчыва. Толькі так і магло быць.

**— А экспэрты тады мусілі знайсьці сьляды тратылу ці гексагену?**

— Зусім не абавязкова. Калі б тратыл узарваўся сам па сабе, тады магчыма. А так вакол шашкі быў магутны слой іншага выбуховага рэчыва. У звычайнай літай тратылавай шашцы ўзрываецца 80-90% рэчыва, і таму пасьля выбуху можна знайсьці рэшткі. А тут гэтыя 10-20% проста згарэлі ў выбуху аміячна-салетравага рэчыва. Пры такой схеме ад тратылу сьлядоў не застацца ня мусіла, як і ад любога іншага прамежкавага выбуховага рэчыва.

**— Калі экспэрты ня мелі магчымасьці вызначыць, якое прамежкавае рэчыва выкарыстоўвалася ў бомбе, то атрымліваецца, што сьледзтва магло абапірацца толькі на паказаньні Канавалава пра тое, што ён выкарыстоўваў трыпэраксыд трыацэтону? Выходзіць, ён схлусіў?**

— Вядома, схлусіў. Проста не хацеў падводзіць людзей, якія яму тратыл дасталі. Выбухоўку, дэ-

танатары — усё гэта можна набыць на чорным рынку.

**— Беларускія экспэрты не змаглі знайсьці і ідэнтыфікаваць часткі спартовай торбы, у якой знаходзілася бомба. Паводле іх словаў, тэмпэратура выбуху ў эпіцэнтры была каля 1000 градусаў, і практычна нічога не засталося. Так магло быць?**

— Па-першае, выбуховая высокатэмпэратурная хваля разрывае торбу і дзейнічае на яе кавалкі цягам тысячных доляў сэкунды, то бок торба хутчэй разрываецца, чым згарае. Але ўлічваючы колькасьць выбуховага рэчыва і тое, што прыстасаваньне сапраўды нядрэнна спрацавала, гэта маглі быць проста мікраскапічныя рэшткі той торбы. Таму сапраўды нічога магло не застацца. І потым, у такіх выпадках першае, чым займаюцца, — гэта ратаваньне людзей. А ўжо пасьля, значна пазьней, пачынаюць шукаць сьляды выбухоўкі. Адразу пасьля выбуху ніхто ня ведаў, што яна знаходзілася ў торбе. У прынцыпе, торба ня мусіла згарэць уся, але магло і не застацца такіх вялікіх кавалкаў, якія б дазволілі адназначна яе ідэнтыфікаваць.

## XL. Дзіўная спрэчка ў Навінках

28 траўня 2011 году ў рэспубліканскім псыхіятрычным шпіталі ў Навінках, у самай яго закрытай зоне, адбылася даволі незвычайная сустрэча. У сьценах «псыхушкі» сустрэліся Дзьмітрый Канавалаў і Ўладзіслаў Кавалёў. Зразумела, гэта не ахова з Камітэту празявала сустрэчу асабліва небясьпечных злачынцаў і не мэдбраты загуляліся ў карты ды забыліся зачыніць краты на калідоры сакрэтнага блёку. Сустрэча сяброў дзяцінства называлася вочнай стаўкай і праходзіла пад пільным наглядам адразу некалькіх асобаў у цывільным, ужо ня кажучы пра адвакатаў і сьледчых.

Тое, што асобаў у цывільным было некалькі, засьведчыла відэа вочнай стаўкі. Таксама яно засьведчыла абстаноўку: сьветлыя сьцены пакойчыка, простая казённая мэбля і абвінавачаныя ў тэрарызьме, апранутыя ў каляровыя піжамы, Канавалаў — у бірузовую, Кавалёў — у ружовую. На той момант абодвух абсьледавалі найлепшыя псыхіятры, каб вызначыць, ці былі яны псыхічна здаровыя.

Канавалаў на допыце быў, як заўсёды, стрыманы, толькі слаба ўсьміхаўся. На пытаньні адказваў не сьпяшаючыся, але і без зацягнутых, як раней, паўзаў. Відаць, адышоў ад стрэсу першых дзён арышту. Нават твар крыху паружавеў і пакруглеў. Яшчэ Канавалаў, як звычайна, сутуліўся і глядзеў крыху спадылба.

Кавалёў, наадварот, сядзеў выпрастаўшы сьпіну і амаль задраўшы галаву — у сваёй звычайнай манеры. Глядзеў дакладна ў вочы таму, хто задаваў

пытаньне, але адказваў менш упэўнена, чым Канавалаў, і выглядаў больш стомленым у параўнаньні зь першымі допытамі. Але збольшага абодва трымаліся спакойна і выглядалі цалкам адэкватнымі.

Вочная стаўка дзеля таго і праводзіцца, каб удакладняць паказаньні аднаго абвінавачанага адносна другога і наадварот. Тое самае было і тут. Кавалёў расказваў, што ведаў пра ўчыненыя Канавалавым выбухі ў 2005 годзе ў Віцебску, што той навучыўся вырабляць трыперакіс ацэтону, спрабаваў прыгатаваць выбуховае рэчыва аманал.

Пра намер узарваць бомбу ў Менску ў 2008 годзе Канавалаў нібыта паведаміў яму за месяц да тэракту. Згадаў, як той тэлефанаваў з войска і казаў, што яму ўдалося пазьбегнуць дактыляскапіі. 9 красавіка пазваніў і паведаміў, што да яго прыходзілі браць адбіткі пальцаў, што прыедзе ў Менск. Прыехаў, расказаў пра бомбу ў торбе. Потым на кватэры яшчэ раз прадэманстраваў бомбу і паказаў пульт, з дапамогай якога зьбіраўся ўзарваць бомбу ў мэтро.

А што на гэта сказаў Канавалаў? Той пацьвердзіў пачутае ад Кавалёва толькі пачынаючы з 2008 году і не пацьвердзіў, што казаў Кавалёву пра выбухі 2008 году ў Менску і 2005 году ў Віцебску. Выбухі 2005 году і ранейшыя эпізоды Канавалаў адмаўляў, прычым настойваў на сваіх паказаньнях.

Потым Кавалёў расказаў пра падвал Канавалава і сказаў, што бомбы той навучыўся рабіць са школьных гадоў. «Зь якой мэтай ён гэта рабіў?» — спытаў сьледчы меркаваньня Кавалёва. Уладзіслаў адказаў, што «мусіла пацярпець як мага болей людзей». Канавалаў зноў запярэчыў: «Не пацьвярджаю».

Высьвятлялі супярэчнасьці эпізоду 2008 году.

Канавалаў зноў расказаў, як пераносіў бомбы, замаскаваныя пад пакеты з сокам. Што нёс іх не ў руках, а паклаўшы ў поліэтыленавы пакунак. Ахоўнікі на вуліцы не задавалі ніякіх пытаньняў і прапускалі яго. Удакладніў і тое, што прыносіў бомбы па чарзе, а ня дзьве адразу.

Кавалёў, калі яго спыталі пра мэту выбуху 2008 году, сказаў, што выбух ніяк не зьвязаны з палітыкай. Канавалаў запярэчыў: «Не пацьвярджаю. Мэтай была дэстабілізацыя грамадзка-палітычнай сытуацыі».

Празь дзень, 29 красавіка, адбылася яшчэ адна вочная стаўка Канавалава з Кавалёвым, але ўжо з удзелам Яны Пачыцкай. Канавалаў пацьвердзіў паказаньні Пачыцкай пра тое, што 10-га ўвечары ён папярэджваў пра неабходнасьць назаўтра пасьля 17-й на гадзіну некуды адысьці. А вось успаміну сьведкі пра тое, што яна бачыла, як за шырмай Канавалаў і Кавалёў корпаліся з торбай, Канавалаў не пацьвердзіў. Сказаў, што яна не магла гэтага бачыць, таму што была на кухні, дый Кавалёва зь ім не было, ён адзін корпаўся з бомбай, калі прыводзіў яе ў гатоўнасьць перад тым як рушыць у мэтро.

Пачыцкая: «Каля 19-й гадзіны Канавалаў вярнуўся, мы з Уладам глядзелі тэлевізар. Здаецца, ён нічога з сабой не прынёс. Сказаў: «Зараз будзем піць далей». А да таго ён піў няшмат — усяго 2-3 кілішкі выпіў за дзень».

Сьледчы спытаў Канавалава: «Гэта пацьвярджаеце?» Адказ быў: «Пацьвярджаю».

Потым Яна Пачыцкая паведаміла, што далей яны пілі «доўга і шмат» і абмяркоўвалі навіны па тэлевізары, дзе ўжо паказвалі рэпартажы пра тэракт. Як камэнтавалі здарэньне Канавалаў і Кавалёў, яна

ня памятае. Але згадала словы Канавалава: «Нармальна ўсё будзе».

Вочная стаўка скончылася. Пярэчаньняў і пытаньняў яе ўдзельнікі адно да аднаго больш ня мелі, пазначылі сьледчыя.

Што пра гэта можна сказаць? У першую чаргу кідаецца ў вочы несупадзеньне ў трактоўцы матыву тэракту з боку Канавалава і Кавалёва. Першы настойвае на тым, што спрабаваў дэстабілізаваць сытуацыю, другі гэтаму пярэчыць. Магчыма, сапраўды ўпершыню чуе пра палітычны характар дзеяньняў сябра, магчыма, ня ведае, што Канавалаў ужо пагадзіўся з гэтай вэрсіяй. Яшчэ варыянт: Кавалёў адмаўляе палітычны матыў, спрабуючы абараніць на будучыню і сябе, бо палітычны характар справы лічыць больш небясьпечным.

Тое, што Канавалаў не пацьвердзіў паказаньняў Пачыцкай, згодна зь якімі Кавалёў нібыта быў разам зь ім за шырмай, калі ён скручваў драты і закрываў торбу, можа сьведчыць ужо пра спробу Канавалава абараніць сябра. Ён наўпрост кажа, што быў за шырмай адзін, без Кавалёва, а Пачыцкая не магла нічога бачыць, бо знаходзілася на кухні. У такім выпадку можна меркаваць, што Пачыцкая свае паказаньні дае пад ціскам.

Можа, і пад ціскам, бо паказаньні Пачыцкай задаволілі ўсіх, акрамя Кавалёва. Канавалава яны задавальняюць, бо ён ужо ўзяў на сябе адказнасьць за тэракт. Сьледчых задавальняюць, бо выкрываюць злачынцаў і асабліва Кавалёва, які пад цяжарам такога доказу будзе больш згаворлівы. Нарэшце, Пачыцкую, якая хоць і бачыла Канавалава з Кавалёвым над торбай, але зьмесьціва яе ня бачыла, а значыць, абвінавачаньне ў неданясеньні ёй не

пагражае. У выніку так і атрымалася — дзяўчына фігуравала ў справе толькі як сьведка, хоць з пачатку сьледзтва яўна была ў статусе падазраванай. Ва ўсякім разе, на відэа гэтай вочнай стаўкі Пачыцкая выглядала не такой упэўненай і спакойнай, як на допыце ў судзе.

Выходзіць, што за цэлы дзень яна трапіла за шырму якраз у тую сэкунду, калі торба закрывалася. Дзіўнае супадзеньне.

Кавалёў у выніку таксама пацьвердзіў, што быў з Канавалавым за шырмай, а калі на судзе ад гэтага адмовіўся, для яго было ўжо запозна.

### *«Чаму Канавалаў так нічога і не патлумачыў?»*

Карэспандэнт «“Комсомольской правды” Белоруссии» Кацярына Барысевіч стала працавала на працэсе па справе аб тэракце. Вось як журналістка адказала на пытаньне пра найбольш уражальныя моманты працэсу.

**Кацярына Барысевіч:** «Мне больш за ўсё запомніліся апошнія дні суду, калі на працэс прыехалі бацькі Канавалава. Іх чакалі ўсе, чакалі, што яны скажуць і ці будуць гаварыць увогуле. Як сябе павядзе маці, ці будзе глядзець на сына. І вось калі яны зьявіліся ў судзе — маці, бацька і брат, — павісла мёртвая цішыня. Калі ўвайшла маці, я спрабавала адначасова сачыць і за ёй, і за тым, як рэагуе Дзіма. Дык вось, я ня ўбачыла ўвогуле ніякай рэакцыі. Ён безуважна падняў вочы, потым апусьціў. Мне падалося, што яму было цалкам абыякава, што адбываецца, у яго на твары нічога не зварухнулася ад яе прыезду. А вось ёй было вельмі-вельмі цяжка. Яна прыехала зь нейкай торбай,

відаць, прывезла яму нейкія рэчы ды харчы. Яна з такім надрывам у голасе гаварыла, што ня будзе даваць паказаньняў! Было бачна, што гэтае рашэньне ёй далося нялёгка. Цяпер шмат хто кажа, што яна адмовілася ад сына...

А потым увайшоў бацька Канавалава. З паказаньняў у судзе ўсе ведалі, што ў Дзімы і бацькі былі вельмі складаныя адносіны. Калі Дзіма быў падлеткам, яны, здаецца, больш за год не размаўлялі і нават не віталіся, жывучы ў адной кватэры. Бацька нібыта сыходзіў у іншую сям'ю, і сын яму ня мог гэтага дараваць. Калі бацька выходзіў з залі, я бачыла, што ён вось-вось нешта скажа, але ён моўчкі разьвярнуўся і зьнік. Мы, журналісты, некалькі хвілін сядзелі моўчкі, ня ведалі, што сказаць. Было бачна, як яму было складана... Магчыма, гэта быў самы эмацыйны момант.

А яшчэ вынясеньне прысуду. Ужо да таго было зразумела, што Дзіма сам ідзе на расстрэльны артыкул, за жыцьцё не чапляецца, паказаньняў не дае і ўвогуле да ўсяго абыякавы. Але ўсе чакалі, што будзе з Уладзіславам Кавалёвым. Ніхто ня верыў, што будзе сьмяротная кара, нехта казаў пра 25 гадоў. І калі абодвум вынесьлі сьмяротны прысуд, у Кавалёва, як мне падалося, зьявіліся сьлёзы на вачах, і ён адвярнуў твар. Здаецца, у яго быў шок. А Дзіма вельмі спакойна да ўсяго паставіўся. Але мяне нават ня гэта ўразіла, а тое, што калі яго выводзілі з клеткі, то з залі крычалі: «Дзіма, скажы хоць што-небудзь!» Ён нічога не сказаў, і яго вывелі з клеткі.

Для мяне Канавалаў дагэтуль застаецца загадкай. У судзе казалі пра тое, што ён да дзірак зачытваў Крымінальны кодэкс, асабліва артыкул пра

тэрарызм, што зьбіраў зьвесткі пра выбухі ў Маскве, увогуле пра выбухі. З паказаньняў выходзіла, што ён атрымліваў нейкае маральнае задавальненьне ад таго, што адбывалася. Але на судзе гэтага не было заўважна, бо ён не хапаўся за жыцьцё, нічога не казаў. Я потым пыталася ў сьледчых, і мне казалі, што такая пазыцыя бывае ў падсьледных, але абвінавачаны маўчыць у судзе вельмі рэдка. А Канавалаў нават у апошнім слове нічога не сказаў.

Я ня бачыла, каб Канавалаў атрымліваў маральнае задавальненьне ад суду. У залі сядзелі пацярпелыя, але ён не глядзеў у залю, і ягоныя паводзіны нагадвалі мне паводзіны троечніка, які хоча, каб гэты ўрок хутчэй скончыўся. Ён часта глядзеў у падлогу, падпіраў твар рукой, уздыхаў, але больш ніякіх эмоцыяў у яго не было. Калі ён атрымліваў маральнае задавальненьне, то мусіла б быць хаця б усьмешка. Хоць нешта, хоць пагарда... Нічога.

А вось Кавалёў эмоцыі выказваў. Калі зьяўлялася маці, то займала адно і тое ж месца, і ўсе ведалі, дзе яна сядзіць. А калі прыводзілі Кавалёва, ён падымаў вочы, знаходзіў яе, ківаў ёй, усьміхаўся. Яна яму ківала ў адказ ці, бывала, махала рукой.

Ён хаця б ня быў абыякавы да таго, што адбывалася, абараняў сябе да апошняга, задаваў пытаньні, рабіў нататкі. Абараняўся ён дастаткова пераканаўча, але... да таго часу, пакуль яму не пачалі задаваць пытаньні. Калі пайшлі пытаньні, ён усё ж заблытаўся. Складана пра яго, канечне, гаварыць, бо на сьледзтве ён даваў адны паказаньні, на судзе іншыя, але ён хаця б не маўчаў. А вось Канавалаў так і не сказаў, навошта яму гэта спатрэбілася».

## XLI. Навошта спатрэбіўся дэтэктар хлусьні?

На паседжаньні 6 кастрычніка была агалошаная заява Ўладзіслава Кавалёва ад 10 траўня на імя старшыні КДБ Вадзіма Зайцава. Сэнс такі: маўляў, я даваў паказаньні пра свой удзел і хачу добраахвотна працягваць супрацоўніцтва з КДБ... гэта Канавалаў зрабіў выбухі 2005 і 2008 гадоў... я пра гэта ведаў, але пераканаць яго гэтага не рабіць ня змог... пра гэта ведае і Натальля Каралёва... патлумачыць, чаму не папярэдзіў праваахоўныя органы, не магу... гатовы прайсьці праверку на дэтэктары хлусьні.

Дадзеных пра тое, што Кавалёў усё ж прайшоў праверку на дэтэктары, я на працэсе не пачуў. Можна пагадзіцца, што гэтыя дадзеныя не асабліва і патрэбныя, бо паводле закону вынік такога «экзамэну» ўсё роўна ня будзе доказам. Хаця калі б дэтэктар хлусьні паказаў, што Кавалёў хлусіў, расказваючы пра тэрарызм Канавалава і свой удзел у гэтай справе, такія вынікі праверкі сьледзтву дакладна не былі б патрэбныя.

Але істотна тое, што сьледчыя наўмысна пакінулі заяву Кавалёва ў справе. Магчыма, каб яшчэ раз прадэманстраваць, што той сьвядома і добраахвотна даваў паказаньні аб сваёй ролі ў злачынствах, якія інкрымінавалі Канавалаву. Магчыма, таму, што прадбачылі ці мелі падставы прадбачыць, што на судзе Кавалёў ад сваіх паказаньняў адмовіцца.

Факт, аднак, атрымаўся хісткі. Проста таму, што гэта дзіўна — самому прасіць праверыць сваё прызнаньне ў злачынстве, якое цягне на сьмярот-

ную кару! Гэта ж не на ордэн працаваць, а зусім наадварот.

Момант, які насьцярожвае, — гэта згадваньне ў прызнаньнях агульнай знаёмай абодвух абвінавачаных Натальлі Каралёвай, прычым ня проста згадваньне, а інфармацыя, што яна таксама нібыта ведала, хто зрабіў тэракты 2005 і 2008 гадоў. Пасьля такога сьведчаньня зьяўляліся ўсе падставы падазраваць дзяўчыну ў неданясеньні. Гэта крымінальны артыкул, а значыць, і рычаг узьдзеяньня на сьведку.

Давайце падымем яе паказаньні ў судзе. Што істотнага сказала Натальля Каралёва?

Па-першае, Натальля Каралёва засьведчыла, што ведала абодвух хлопцаў, Канавалава болей, Кавалёва меней. Гэтая заўвага вельмі істотная, бо калі б сьведка зусім не згадала Кавалёва, ягоныя паказаньні пра яе павісьлі б у паветры. Але, безумоўна, галоўны аб’ект паказаньняў Каралёвай — Канавалаў. Апусьцім згадкі пра суіцыдальныя настроі Канавалава — пра гэта мы ўжо казалі. Асноўнае: звычайны хлопец, калі-нікалі бачыліся. Дома ў яго не была. Недзе восеньню 2008 году падчас чарговай сустрэчы паведаміў, што баіцца здаваць адбіткі пальцаў, бо датычны да нейкага выбуху.

Заўважым: ня проста да нейкага злачынства, а менавіта да выбуху. Пасьля выбухаў 2005 году ў Віцебску віцяблянку Натальлю Каралёву такая заява, па вялікім рахунку, мусіла насьцярожыць. Але нашая сьведка — нічога. Сказала суду, што «не паверыла», дый кропка.

Зразумела, такія няпэўныя паказаньні сьведкі Каралёвай не задаволілі прадстаўніка абвінавачаньня. Пракурор палічыў іх супярэчлівымі і настаяў на зачытваньні пратаколу допыту Натальлі Ка-

ралёвай ад 10 траўня. Выявілася, што тады сьведка больш пэўна казала пра выбухі ў Віцебску ў 2005 годзе і ў 2008 у Менску. Тады яна казала, што зразумела словы Канавалава менавіта ў сэнсе ягонай датычнасьці да гэтых выбухаў.

Яе перапыталі: як жа было насамрэч? «Цяпер я ня памятаю, казаў ён менавіта пра Віцебск і Менск ці не казаў. Магчыма, гэта ў мяне на допыце ўдакладнялі і я так палічыла. А сама я не казала, якія менавіта выбухі. Калі перачытвала пратаколы, заўсёды зьвяртала на гэта ўвагу», — зноў, як мяркую, ухілілася ад дакладнага адказу сьведка.

Атрымліваецца, у адным з двух выпадкаў сьведка магла казаць няпраўду ці недагаворваць. Мяркую, больш шчырая яна была на судзе — найперш таму, што казала гэта ўжо як сьведка, а не падазраваная ў неданясеньні. Сьледзтву яе паказаньні пра прызнаньне Канавалава ў тых тэрактах былі неабходныя — раней пра іх сьведчыў толькі Кавалёў, і яна магла іх падмацаваць. У выніку патрэбныя паказаньні былі атрыманыя.

Праўдзівыя ці не — для мяне пытаньне застаецца адкрытым.

### *«Вялікае сяброўства паміж імі — міт»*

Беларускі журналіст, карэспандэнт «Газэты Выборчай» (Польшча) Андрэй Пачобут улетку 2011 году трапіў у гарадзенскую турму, быў асуджаны за паклёп на прэзыдэнта на ўмоўны тэрмін. Шмат пісаў пра справу аб тэракце, працаваў на працэсе, сустракаўся зь сябрамі Ўладзіслава Кавалёва. У канцы сакавіка аўтар папрасіў Андрэя Пачобута падзяліцца ўражаньнямі з працэсу, а таксама прака-

мэнтаваць зьвесткі пра асобу Ўладзіслава Кавалёва, у тым ліку характарыстыку, якую дала абвінавачанаму псыхоляг Ларыса Мун.

**Андрэй Пачобут:** «Мяне вельмі ўразіла вялікая колькасьць сяброў Кавалёва, якія прыехалі на абвяшчэньне прысуду. Яны ўсе сядзелі разам, непадалёк ад маці, і калі ўвялі Канавалава і Кавалёва, яны дружна ўсталі, каб Кавалёў іх пабачыў.

Наконт прысуду. Для мяне відавочна, што моманты, дзе ўзьнікалі сумненьні ў вінаватасьці, двузначнасьці ў ацэнках, суд павярнуў на карысьць абвінавачаньня. Між тым у нармальным судзе было б наадварот.

Пасьля прысуду мне давялося езьдзіць у Віцебск, сустракацца са знаёмымі Кавалёва, я быў там, дзе ён жыў. Карацей, сваё ўражаньне па гэтай справе я маю. І яно адрозьніваецца ад таго, што нам абвясьцілі, што ўжо выканалі, асабліва ў ацэнцы ролі Кавалёва. Нават калі ўзяць за праўду тое, што агучыў судзьдзя Федарцоў (хоць мне не падаецца гэта праўдай), то так пакараць чалавека, які ня ўдзельнічаў асабіста ў тэракце, які асабіста нікога не забіў і роля якога не галоўная, — несправядліва.

Чаму так адбылося? Я згодны з тым, што кажуць маці Кавалёва і журналіст Сяргей Сацук: гэта вынік зьмены ім паказаньняў. Такое часта бывае. Гэта практыка нашай судова-сьледчай сыстэмы — помсьціць за зьмену паказаньняў у судзе. Яму адпомсьцілі і за тое, што расказаў, як чуў крыкі Канавалава, калі яго зьбівалі. Толькі пасьля гэтага, лічу, у судзе зьявіліся тлумачэньні, што іх пабілі, калі затрымлівалі, хоць раней нічога такога не паведамлялася.

**Аўтар:** Удакладню, што Кавалёў пра зьбіцьцё

паведаміў толькі тое, што чуў крыкі Канавалава. А астатняе той сам расказаў: і што яму рабілі «ластаўку», і што білі па галаве. Іншая рэч, што Кавалёў даваў, даваў прызнальныя паказаньні, а потым, яшчэ на сьледзтве, відаць, завагаўся. Нездарма ж зьявілася гісторыя пра дэтэктар хлусьні...

**Пачобут:** Дарэчы, а чым гэтая гісторыя скончылася? Яго сапраўды праверылі?

**Аўтар:** У матэрыялах справы пра такое ня чуў.

**Пачобут:** Дарэчы, я і раней ведаў пра такі прыём: прымушаюць напісаць заяву аб праверцы на дэтэктары хлусьні, каб потым не адмаўляўся. Мяркую, КДБ ведала, што Кавалёў у судзе зьбіраецца адмовіцца ад паказаньняў. Памятаеце, перад судом зьявіліся зьвесткі пра ягоныя лісты да маці: маўляў, я буду змагацца, адвакат кажа, быццам ёсьць шанец. А пасьля гэтага, як мне расказвала маці, яго наведаў супрацоўнік КДБ і сказаў, што калі ён зьменіць паказаньні, будзе сьмяротная кара.

**Аўтар:** Вы згадвалі, як пасьля суду сустракаліся зь сябрамі, знаёмымі Кавалёва. Якое ў Вас склалася ўяўленьне пра гэтага чалавека?

**Пачобут:** Гэта быў нармальны, звычайны хлопец, якіх вельмі шмат, якія нарадзіліся і жылі ў звычайным працоўным квартале. Сьледзтва адпачатку малявала чорны партрэт Кавалёва. Уявіце: усіх ягоных знаёмых трэсьлі спэцслужбы, некаторых дапытвалі на дэтэктары хлусьні, усім задавалі пытаньні, на якія ўжо быў адказ. Чаму ён такі дрэнны чалавек? Прыкладна так.

І нават такім спосабам на Кавалёва ўдалося здабыць няшмат нэгатыву. Значна больш знайшлі на Канавалава. Але скажу, што па Канавалаву працавалі яшчэ больш жорстка. Ягоных сяброў

нават арыштоўвалі, саджалі на суткі. Дзесяць дзён арышту — і чалавек пачынае даваць паказаньні пра тое, пра што раней ніхто ня чуў. Менавіта такі нэгатыў на Кавалёва пасьля зьявіўся ў інтэрвію, якое ананімны супрацоўнік спэцслужбаў даў «Інтэрфакс-Захад». А нешта станоўчае яны нават не запісвалі. Гэта паводле словаў хлопцаў, якіх дапытвалі і пракуратура, і КДБ.

**Аўтар:** Пра якія добрыя і дрэнныя якасьці Кавалёва Вы пачулі з аповедаў ягоных сяброў?

**Пачобут:** Ведаеце, нічога нэгатыўнага ў такой сытуацыі людзі ня кажуць. Як мне падаецца, самае галоўнае ў тым, што ён быў для іх добрым сябрам, які заўсёды быў гатовы дапамагчы. Тое, што ён пайшоў на сустрэчу з Канавалавым, вынікала зь ягонага стаўленьня да сяброў. Так сталася, што гэтая рыса характару абярнулася для яго бядой.

**Аўтар:** Ці бачылі Вы размову з Людмілай Мун, якая дае Кавалёву псыхалягічную характарыстыку? Яна мяркуе, што ён быў схільны падпарадкоўвацца, быў псыхалягічна залежны ад свайго сябра Канавалава, а той быў у іх дуэце лідэрам. Вы згодны?

**Пачобут:** Не, ня думаю. Лідэрскія якасьці Канавалава мы маглі ўбачыць на працэсе, але чамусьці ня ўбачылі. Канавалава ўсе характарызуюць як такога... лайдака, аматара дзявочай кампаніі і выпіўкі, які, дарэчы, ніякай палітыкай ці іншымі сур'ёзнымі рэчамі не цікавіўся. Акрамя таго, яго характарызуюць як чалавека, што зь дзіцячага ўзросту меў схільнасьць да ўзрыўпакетаў. Мяркую, і ў нашым дзяцінстве быў пэрыяд, калі спачатку нейкія ракеткі рабілі, потым пэтарды зьявіліся. Гэта і пра яго. Усе са школы памятаюць, што калі нешта выбухнула, дык да гэтага Канавалаў датычны. Але разам

з тым у тое, што ён мог нешта сур’ёзнае зрабіць, ніхто ня верыў.

Што да Кавалёва, то ў яго ўсё ж была нейкая мэта. Ён хацеў зарабляць добрыя грошы, стаць самастойным чалавекам. Дзеля гэтага ён зьехаў у Менск, уладкаваўся на працу. Усе ведалі пра гэтыя мэты, пра абсалютна чалавечыя пляны, якія зусім не адпавядаюць таму, што адбылося.

**Аўтар:** Памятаю згадкі, што маці Кавалёва прызнавала наяўнасьць у сына праблемы з ужываньнем алькаголю, у прыватнасьці пад уплывам Канавалава, што яна змагалася з гэтым. Гэта так?

**Пачобут:** Гэта, мяркую, зьвязана з тым, што Канавалаў любіў весела прабавіць час, любіў выпіць.

**Аўтар:** А Кавалёў не любіў?

**Пачобут:** Мяркую, няважна, любіў ці не любіў, проста з Канавалавым гэта здаралася часьцей, чым з кім іншым. Сябры Кавалёва пра гэта казалі.

Дарэчы, здымак, які зьявіўся на сайце «Хартыі» з маім артыкулам, — адзіны, дзе Канавалаў і Кавалёў побач. Не падчас суду, а ў жыцьці. Гэта, мяркую, таксама сьведчыць пра тое, што вялікага сяброўства паміж імі не было. Ёсьць шмат здымкаў, на якіх Кавалёў зь сябрамі, а з Канавалавым яны толькі на адным».

## XLII. Змывы з твару, рук і адзеньня, сьляды выбухоўкі ў падвале

Вядома, што экспэртыза ня выявіла на твары, руках і адзеньні Канавалава сьлядоў выбуховага рэчыва, хоць пробы браліся менш чым праз дзень пасьля затрыманьня. Ня менш істотна і тое, што ў падвале Канавалава, дзе ён, паводле сьледзтва, зрабіў выбухоўку і сабраў бомбу (прычым не адну), сьлядоў выбухоўкі таксама не знайшлі, а знайшлі толькі «дробныя дыспэрсныя рэчывы» — нітрыт натрыю, рэшткі алюмініевай пудры на місцы, ацэтон. Гэтыя рэчывы выкарыстоўваюцца ў піратэхнічных вырабах, што і засьведчыла экспэртыза.

Адзінае, за што зачапіліся сьледзтва і суд пасьля такіх вынікаў, — гэта за сьляды алюмініевай пудры. Маўляў, на змывах, узятых на месцы тэракту, таксама былі знойдзеныя сьляды алюмініевай пудры, і да гэтага можа быць датычны Канавалаў.

Між тым на сьледчым экспэрымэнце Канавалаў зьбіраў бомбу, не выкарыстоўваючы алюмініевай пудры — ва ўсякім разе, ён пра яе ня згадваў. Магчыма, на час экспэртызы сьледчыя яшчэ ня ведалі, што сьляды алюмініевага парашку знойдуць на станцыі мэтро, і не падказалі Канавалаву? Але тады атрымліваецца, што ён зьбіраў бомбу паводле падказкі, а такім прызнаньням цана нулявая.

Што да сьлядоў выбухоўкі і проста бэтоннага пылу на адзеньні і твары Канавалава, то цяжка паверыць, што ніякіх сьлядоў можа і не застацца. Калі гаворка пра поласьці носа, рота, вушныя ракавіны

— іх сапраўды можна вымыць мылам, і часьцінкі выбухоўкі знайсьці будзе цяжка.

Але як быць з адзеньнем? Са штодзённага жыцьця мы ўсе ведаем, што ў складках адзеньня застаецца пыл, ён зьбіраецца ў швах, кішэнях, у самых розных месцах. Гэты пыл — выдатная губка для мікрачасьцінак бэтону, пабелкі, граніту, тым больш калі гаворка не пра летняе адзеньне, а пра асеньнюю куртку, зімовыя штаны, зімовую спартовую шапачку.

Чаго вартая адна куртка Канавалава, якую прадэманстраваў публіцы судзьдзя Аляксандар Федарцоў! Некалькі кішэняў, замкі-маланкі, мудрагелісты каўнер. Цяжка паверыць, што ў гэтай куртцы не захавалася пылу ад выбуху, як нас упэўнівае сьледзтва — хіба толькі пасьля хімчысткі ці якой саматужнай апрацоўкі. Але сьледзтва не прадставіла ніякага доказу, што Канавалаў мыў сваё адзеньне пасьля выбуху ці хаця б чысьціў куртку шчоткай. Калі б такое было, сьведкі — Пачыцкая і Кавалёў — гэта б убачылі і сказалі. Але іх і не пыталіся, быццам сьледзтва ведала, што сьлядоў няма і быць ня можа.

Памятаю, у пачатку працэсу я падышоў з пытаньнем да адваката Станіслава Абразея: а што са сьлядамі на адзеньні? Трэба шукаць сьляды ня толькі выбухоўкі, а проста выбуху, якіх не магло не застацца, калі Канавалаў сапраўды там быў. (Я быў не арыгінальны — так разважаў шмат хто на працэсе). Адвакат супакоіў, сказаўшы, што абарона пра гэта ведае і будзе гэтую лінію распрацоўваць. Абарона і распрацоўвала, але суд палічыў інакш: раз сьлядоў няма, яны проста зьніклі зь нейкіх прычынаў. Зь якіх — няважна.

Заўважу ў дадатак, што ў падвале Канавалава, на прыладах і ўпакоўцы ад хімікатаў таксама не знайшлі ягоных адбіткаў пальцаў, толькі на гумавых пальчатках. Тут сьледзтва тлумачыла суду, што перад ад'ездам у Менск Канавалаў мог зьнішчыць усе сьляды. Але калі ён быў такі прадбачлівы, то мусіў таксама вычысьціць адзеньне пасьля выбуху. А калі вычысьціў, то чаму гэтага ня бачыла Пачыцкая? Дзень пасьля выбуху яны былі разам у адной кватэры. Між тым, паводле яе сьведчаньня, Канавалаў вярнуўся на кватэру 11 красавіка ў чыстай вопратцы.

Адзін з магчымых адказаў на гэтыя пытаньні: можа, Канавалаў пакінуў плятформу станцыі «Кастрычніцкая» раней за выбух, а на саму Кастрычніцкую плошчу прыйшоў проста зь цікаўнасьці? Калі прымаць гэтую вэрсію, то, магчыма, якраз на плошчы ён зразумеў, у што ўляпаўся. А тое, што Канавалаў сапраўды быў на Кастрычніцкай плошчы, — факт, даказаны з дапамогай відэа з камэры вонкавага назіраньня. Усім вядомы здымак з гэтай камэры, павялічаны і апрацаваны спэцыялістамі Інтэрполу: на ім добра бачны Канавалаў, які глядзіць у бок уваходу ў мэтро.

### *Прадстаўнік пацярпелай Аляксандар Крутой: «Я б хутка даказаў, што гэта не Канавалаў і Кавалёў»*

Як мы памятаем, у самым пачатку працэсу Аляксандар Крутой быў арыштаваны паводле абвінавачаньня ў злосным хуліганстве. У канцы 2011 году суд Маскоўскага раёну Менску накіраваў Крутога на прымусовае псыхіятрычнае лячэньне.

Прадстаўніка пацярпелай Інэсы Крутой больш за 3 месяцы трымалі ў сьледчых ізалятарах у Жодзіне і на «Валадарцы», а ў пачатку красавіка Крутой апынуўся ў Навінках.

Аляксандра Крутога я знайшоў у 6-м корпусе псыхіятрычнага шпіталя (што цяпер завецца Навукова-практычным цэнтрам псыхічнага здароўя), на 4-м паверсе, у 17-м аддзяленьні. На вокны і дзьверы там навешаныя моцныя краты, аднак прайсьці да Аляксандра Крутога аказалася няцяжка — пропускам стала не журналісцкае пасьведчаньне, а пакуначак з апэльсінамі, яблыкамі ды ігрушамі.

Мы гутарылі ў пакойчыку з таблічкай «Наведніцкая». Гучна ляскаў кратамі на ўваходзе санітар, запускаючы зь лесьвіцы «калегаў» Крутога па няшчасьці ў сініх піжамах, якія з жартамі і воклічамі заносілі ў аддзяленьне велізарныя цэбры зь вячэрай.

Адразу было бачна, што прыняцьце ежы тут — сьвятая справа, як, дарэчы, у любым месцы ізаляцыі. Падчас размовы да Аляксандра Крутога двойчы падыходзілі пацыенты і нагадвалі, што яго чакае гарачае. Але мой суразмоўца быў абыякавы да вячэры і аддаў ім сваю порцыю. За прынесеныя мной апэльсіны і яблыкі-грушы падзякаваў, дадаўшы, што раздасьць садавіну, бо яму «столькі ня трэба».

На размову пра Канавалава і Кавалёва мы выйшлі пасьля гутаркі пра галадоўніка Сяргея Каваленку, якога якраз у тыя дні прывезьлі ў Навінкі. Крутой назваў камэры, у якіх, паводле ягоных падлікаў, трымалі «тэрарыстаў»: «Канавалава — у адзіночнай камэры № 6 у левым крыле, Кавалёва — магчыма, у камэры № 21 у правым крыле». Пры

гэтым Аляксандар Крутой пагадзіўся, што праверыць іх у «псыхушцы» было неабходна, зважаючы на цяжкасьць інкрымінаванага злачынства. Але віну Канавалава і Кавалёва мой суразмоўца катэгарычна адмаўляў.

**Крутой:** «Мне як прадстаўніку пацярпелай дазволілі да суду азнаёміцца са справай. З дакумэнтаў я зразумеў, што Канавалаў раней рабіў спробу суіцыду, а гэта азначае, што ён мусіў быць на ўліку, пра яго маглі ўсё ведаць і прадбачыць ягоныя дзеяньні.

**Аўтар:** Вас на судзе ўжо не было, калі гучалі паказаньні сьведкі пра спробу Канавалава скончыць жыцьцё самагубствам і пра тое, што лекар, які яму пасьля дапамог, папярэдзіў, што калі будзе другая спроба, ён абавязкова паведаміць куды трэба, а пакуль ня будзе. Такім чынам, інфармацыя магла і не дайсьці.

**Крутой:** Так сказаў лекар ці сьведка, а закон патрабуе іншага. І я мяркую, што так і было: пра яго ведалі. А чаму я ня веру ў іх віну? Шмат доказаў невінаватасьці. Яшчэ б некалькі паседжаньняў, і я б гэта даказаў. Мяркую, ад мяне таму і пазбавіліся, што баяліся гэтага.

Возьмем самае простае — адзеньне Канавалава. На ім была чорная куртка зь сямю замкамі-маланкамі. Здаецца, на грудзях па дзьве з абодвух бакоў, унізе на кішэнях яшчэ па дзьве, і адна на рукаве. Але на чалавеку ў мэтро гэтых маланак ня бачна.

Другое. Пад курткай у яго была зялёная майка. Але ў рэчах Канавалава, забраных на экспэртызу, зялёнай майкі няма, а ёсьць чорная. У мяне ёсьць запіс з працэсу, дзе судзьдзя сам кажа, што «яны

не пасьпелі пераапрануцца». Адкуль узялася чорная майка?

**Аўтар:** А як Вы тлумачыце прызнаньне Канавалава? Гэтым прызнаньням верыць ня варта?

**Крутой:** Канавалаў сам казаў, што яго зьбівалі, рабілі «ластаўку». Зь яго выбівалі паказаньні. А доказы, здабытыя злачынным шляхам, ня могуць лічыцца доказамі, гэта аксіёма. На жаль, мяне занадта рана прыбралі з працэсу, такіх спрэчных момантаў я б назьбіраў яшчэ шмат. Напрыклад, калі я вывучаў месца выбуху (паводле матэрыялаў справы), то зьвярнуў увагу, што тры целы загінулых апынуліся там, дзе паводле лёгікі іх быць не магло.

**Аўтар:** Ведаю, пра каго вы кажаце. На рэйках апынулася жанчына, цела якой потым пераехаў цягнік. У судзе выступала яе сястра, якая не была перакананая, ад чаго загінула сястра — ад выбуху ці пад коламі цягніка. А чалавек, якога выкінула выбухам на лесьвіцу, — гэта той хлопец, які ў апошні момант перад выбухам зьбягае зь лесьвіцы да цягніка — ён трапіў на відэа, дзе стаіць Канавалаў. Гэты хлопец — сын вядомага спартоўца Раман Капцюх. Пацярпелы Харанека, таксама спартовец, казаў мне, што, паводле ягоных дадзеных, Раман пасьля выбуху ці крыху вярнуўся назад, ці яго так адкінула, што ён апынуўся на лесьвіцы.

Калі гэта не Канавалаў і Кавалёў вінаватыя, то хто? У вас ёсьць вэрсія?

**Крутой:** Яснай вэрсіі ў мяне сапраўды няма. Калі б я быў на волі, то працягваў бы расьсьледаваньне, але пакуль гэта немагчыма. Мне быць пад наглядам яшчэ амаль паўгода, а тады суд будзе зноў вырашаць, што са мной рабіць».

## XLIII. «Дыплёмны праект» экспэрта Клімовіча

Прыкладам сумнеўнасьці некаторых экспэртызаў і паказаньняў беларускіх экспэртаў у судзе можа быць допыт экспэрта Сьцяпана Клімовіча. 1 лістапада міліцыянт Клімовіч даваў тлумачэньні суду адносна свайго заключэньня пра бомбы 2008 году — тую, што не разарвалася ў канцы дня 3 ліпеня, і тую, якая ўзарвалася ў першыя хвіліны 4 ліпеня. На тлумачэньнях настойвалі дзяржаўныя абвінаваўцы.

У чым была праблема? У заключэньні, якое знаходзіцца сярод матэрыялаў справы, спадар Клімовіч палічыў, што да зборкі гэтых бомбаў мелі дачыненьне сама меней два чалавекі. Чаму такая выснова? Сьцяпан Клімовіч узяўся тлумачыць: зь ягоных словаў, бомба 3 ліпеня была сабраная вельмі акуратна, «як дыплёмны праект», паражальныя элемэнты — гайкі — складзеныя адна да адной, каб не заставалася пустога месца.

Але пры гэтым, сьцьвярджаў экспэрт, паяньне кантактаў на гэтай бомбе было неахайнае. «Так паяюць навічкі, неразагрэтым паяльнікам», — патлумачыў суду Клімовіч. А вось у бомбе, якая ўзарвалася, паяньне зусім іншае — роўнае, сапраўды прафэсійнае, мяркуе экспэрт. Пакрыцьцё бомбаў скотчам таксама адрозьнівалася: на першай яно было значна больш надзейнае. Таму ён і зрабіў выснову, што зьбіральнікаў было мінімум два.

«Вы цалкам выключаеце, што гэта мог быць адзін чалавек?» — пракурор настойваў на пэўным адказе і ўрэшце свайго дамогся.

Экспэрт Клімовіч ня выключыў, што гэта мог быць і адзін чалавек, які рабіў справу ў розных умовах і ў розны час. Таксама на фактар часу экспэрт сьпісаў іншыя разыходжаньні: прыкладам, у рэальнай бомбе паражальныя элемэнты былі ўкладзеныя ў выглядзе літары «Г», а на экспэрымэнце Канавалаў уклаў іх у літару «П».

Паводле Сьцяпана Клімовіча, Канавалаў проста нешта наблытаў, «бо забыўся». Тое ж паўтарылася з батарэйкамі. У рэальнай бомбе дзьве батарэйкі былі прыматаныя скотчам да асноўнай часткі выбуховага прыстасаваньня, а на экспэрымэнце Канавалаў проста ўставіў адну батарэйку ўсярэдзіну бомбы. Розьнілася і папера, зь якой зьбіральнік бомбы рабіў пакунак, які ўклаў у пачак з-пад соку. У бомбе 3 ліпеня для гэтага ўжываўся ватман, у бомбе 4 ліпеня — звычайная пісчая папера.

І ўсё ж экспэрт настойваў, што бомбы падобныя: адзін і той жа электрамэханічны прынцып ініцыяваньня, і тут, і там тумблер, электралямпачка. Плюс скотч аказаўся з адной катушкі — кавалкі з розных бомбаў супалі.

На просьбу ацаніць, ці быў чыстым экспэрымэнт па зьбіраньні бомбы 2008 году, які правёў Канавалаў, экспэрт Сьцяпан Клімовіч адказаў шчыра: ня быў. Але недахоп экспэрымэнту, аказваецца, у адным: не хапіла гаек, каб стоадсоткава скапіяваць бомбу. Ва ўсім іншым, атрымліваецца, «выдатная дыплёмная праца».

Як патлумачыць тое, што экспэрт Сьцяпан Клімовіч да суду казаў пра двух зьбіральнікаў бомбаў 2008 году, а ў судзе згадзіўся, што зьбіральнік мог быць і адзін? Абгрунтаваньне экспэрт даў немудра-

гелістае: маўляў, чалавек мог сьпяшацца, дзейнічаць у іншых умовах. Чаму такое карэктаваньне?

Каб паспрабаваць адказаць на гэтае пытаньне, згадайма, кім быў паводле прафэсіі Ўладзіслаў Кавалёў. Электрыкам. А цяпер згадайма, што, паводле экспэрта, пайка ў адной з бомбаў 2008 году была выдатная, а вось у другой — неахайная. З гэтага сьледчыя маглі зрабіць выснову, што кантакты ў адной бомбе паяў профі, у другой — аматар.

Мяркую, выбар сьледчыя маглі зрабіць толькі адзін — яны западозрылі Ўладзіслава Кавалёва, але даказаць ягоны ўдзел у зьбіраньні бомбы не змаглі, бо Канавалаў пра сябра даваць паказаньні адмовіўся, а сам Кавалёў у гэтым упарта не прызнаваўся. У выніку перад судом экспэрту Клімовічу маглі загадаць зьмяніць высновы адносна колькасьці зьбіральнікаў бомбы, каб яны не супярэчылі ўжо выпрацаванай вэрсіі: Канавалаў зьбіраў бомбы без староньняй дапамогі. Бо сумненьні кідалі б цень і на адзіночнае аўтарства Канавалава ў зьбіраньні бомбы 2011 году.

Ці быў другі зьбіральнік бомбаў 2008 году і кім ён мог быць, так і засталося таямніцай.

### *Ці патрэбная была вэнтыляцыя?*

Адмыслоўцы-хімікі кажуць, што адна з прынцыповых умоваў для вырабу выбухоўкі — добрая вэнтыляцыя. Між тым, паводле сьледзтва, Канавалаў вырабіў «кісу» і асноўную выбухоўку на аснове салетры ў сваім падвале, дзе ніякай вэнтыляцыі не было. Як быць з гэтай супярэчнасьцю? Сьледзтва яе не заўважыла ці сьвядома праігнаравала, не паспрабаваў разьвеяць сумневы і суд.

У красавіку 2012 году я прыехаў у Віцебск, каб на свае вочы ўбачыць падвал Канавалава і высьветліць пытаньне пра вэнтыляцыю і яшчэ некаторыя рэчы. Быў сьвяточны дзень. Лавы пабач з домам Канавалава на вуліцы Рэпіна збольшага пуставалі. Некаторыя, побач з домам, былі занятыя пэнсіянэрамі, на лаве ў тарцы дома ўладкавалася кампанія маладых людзей яўна нападпітку. Дзьверы ў 4-ы пад'езд, дзе жыве сям'я Канавалавых, маюць кодавы замок, і каб увайсьці ў пад'езд, давялося пачакаць на ганку. Нарэшце падышла маладая жанчына, зь якой увайшоў і я. Даць ключ ад падвалу жанчына катэгарычна адмовілася, а пра Канавалава сказала: «Мы тут усе ў шоку. Ніхто ня верыць, што гэта ён зрабіў». Жанчына дадала, што ніколі не адчувала ў пад'езьдзе моцных хімічных пахаў.

Пакуль мы размаўлялі, на лесьвічную пляцоўку выйшаў хлопец у майцы, з мабільнікам і цыгарэтай у руках. Сяргей (так назваўся малады чалавек) гатовы быў дапамагчы журналісту, але ягоны падвал быў, як ён патлумачыў, у іншым блёку, таму ключ не падыходзіў. «Можна папытаць у іншых жыхароў пад'езду ці пайсьці ў суседні пад'езд, трэці. Там на першым паверсе жыве жанчына, у якой ёсьць ключы. Адтуль таксама можна прайсьці да падвалу Канавалава», — патлумачыў Сяргей.

Таксама ён падзяліўся меркаваньнем пра аўтарства тэракту. «Гэта цалкам мог быць Канавалаў. Да яго падобна. Ён увесь час сядзеў у тым падвале. Ідзеш позна ўначы, а ў падвале сьвятло гарыць», — згадаў Сяргей.

Дзьверы ўваходаў у падвалы ў канавалаўскім доме — побач зь дзьвярыма ў пад'езд. Такім чынам, уваход у сутарэньне з уваходам у пад'езд ніяк

не зьвязаны. Гэта істотны момант. Чаму — патлумачу пазьней. Яшчэ я адразу падумаў: як Сяргей мог бачыць, што ў падвале гарыць сьвятло, тым больш як ён з вуліцы мог зразумець, што ў падвале менавіта Канавалаў? Але шукаць адказы на гэтыя пытаньні можна будзе толькі трапіўшы ў сутарэньне пад домам.

Між тым з гэтым лягчэй не рабілася. Жанчына зь першага паверху трэцяга пад'езду, да якой мне параілі зьвярнуцца, нават не адчыніла дзьвярэй. Чуўся толькі яе разьюшаны голас, што мінуў ужо год, што гэтую гісторыю трэба хутчэй забыць, і яна асабіста нікому чужому ключы ня дасьць. Абыход кватэраў таксама доўга не прыносіў выніку. Большасьць жыхароў, якія адчынялі дзьверы, проста не карысталіся падваламі.

Адна жанчына ключы мела, але спаслалася на тое, што «стамілася ад гэтай гісторыі». Пры гэтым Канавалава яна назвала дрэннымі словамі і сказала, што « так яму і трэба». Яшчэ адзін жыхар паабяцаў выклікаць міліцыю, калі я не сыду. Мужчына крычаў: «Што вы размалёўваеце гэтага Канавалава?!» (Далей брыдкаслоўе на адрас аўтара ды іншых журналістаў). Сваё абяцаньне наконт міліцыі ён, дарэчы, стрымаў, але нарад прыехаў хвілін праз пятнаццаць, за якія я ўсё ж дастаў ключы, спусьціўся ўніз і знайшоў падвал пад нумарам 53.

На клямцы вісеў зламаны замок, і дзьверы адчыніліся лёгка. У пакойчыку прыкладна мэтар дваццаць на мэтар сорак было пуста, калі не лічыць самаробнай паліцы на сьцяне і невялікага століка, які дакладней было б таксама назваць паліцай. Усярэдзіне — шмат сьмецьця, рваная папера,

блакітная скрыначка... Колер сьценаў — жоўта-карычневы, як на фатаздымку з матэрыялаў справы.

Некалькі разоў шчоўкаю фотаапаратам і сыходжу, але да свайго выхаду трапляю не адразу, а праблукаўшы некалькі колаў па сутарэньні. Памяшканьне пад домам абмежаванае бакавымі сьценамі і перагародкамі плошчай прыкладна 20 на 30 мэтраў. Катушкі індывідуальных падвалаў складаюць тры лініі. Само сутарэньне даволі высокае, з абодвух бакоў дома ў яго можна зазірнуць праз вокны. Удзень тут непатрэбны ліхтар, калі ваш падвал не ў цэнтральнай лініі. Вокны не такія і малыя — сама меней 60 сантымэтраў у шырыню, зашклёныя і забраныя сеткай-рабіцай. Аднак шкло дзе-нідзе пабітае. У сутарэньні адчуваецца вільгаць, але непрыемных пахаў амаль няма — відаць, таму, што памяшканьне наскрозь прадзьмуваецца праз вокны.

Гэтае назіраньне падказала: адсутнасьць спэцыяльнай вэнтыляцыі ў падвале Канавалава падчас прыгатаваньня выбухоўкі магла кампэнсавацца натуральным праветрываньнем сутарэньня праз вокны і яго вялікім памерам. Тое, што жыхары ня чулі хімічных пахаў у пад'езьдзе, таксама магчыма, бо выхад з падвалу непасрэдна ў пад'езд не вядзе. Ноччу суседзі маглі бачыць сьвятло праз вокны. Мой суразмоўца Сяргей, які асабіста знаў Канавалава, меў падставы лічыць, што гэта Канавалаў «зноў сядзіць у сваім падвале», бо мог ведаць, дзе ягоны катушок і якое акно пры гэтым сьвеціцца.

«Вось ён, спыніце яго, праверце, ці не пакінуў ён у падвале бомбу», — такое заданьне дала міліцыянтам жанчына зь першага паверху, калі я выйшаў з трэцяга пад'езду канавалаўскага дома і трапіў у рукі нараду. Усяго там сабраліся 5 міліцыянтаў, сярод іх

адзін амапавец і тры патрульныя, што праверылі мае дакумэнты, а потым пайшлі ў падвал шукаць бомбу. Ад апошняга, маладзенькага міліцыянта, які застаўся мяне сьцерагчы, пакуль ня скончыцца праверка, я атрымаў цікавую інфармацыю.

Гаворка пайшла пра супрацоўнікаў органаў, якіх пакаралі за разявацтва: што віцебскаму экспэрту далі тры гады, столькі ж атрымаў менскі міліцыянт, які прапусьціў тэрарыста ў мэтро. Раптам мой суразмоўца падоўжыў сьпіс. Паводле яго, летась у службовым парадку таксама быў пакараны міліцыянт, які служыў тут участковым у 2005 годзе і «празяваў» Канавалава.

Праз паўгадзіны, перапісаўшы дадзеныя з майго пашпарта, журналісцкага пасьведчаньня і правоў кіроўцы, пільныя віцебскія міліцыянты мяне адпусьцілі.

## XLIV. Адвакаты

Ужо 17 гадоў я з расчараваньнем назіраю за тым, як мізарнее роля адвакатаў у беларускіх судах. Цяпер пэўна можна сказаць, што яна ператварылася фактычна ў дэкаратыўную — ва ўсякім разе, у палітычных працэсах і пры разглядзе адміністрацыйных справаў грамадзкіх актывістаў. (Але беларускія ўлады, як вядзецца, наяўнасьць палітычных працэсаў у Беларусі адмаўляюць). Між тым не магу згадаць ніводнай гучнай справы, дзе суд прыслухаўся б да аргумэнтаў адвакатаў і стаў на бок абароны, а не дзяржаўнага абвінавачаньня.

Быў, праўда, у сакавіку 2011 году адзін працэс у Менскім гарадзкім судзе, які адмяніў рашэньне Першамайскага раённага, і палітвязень ня проста выйшаў на волю, а быў апраўданы. Але гэта, відаць, нейкае дзіўнае супадзеньне зорак на беларускім небе — інакш не магу патлумачыць. Ня скажаш жа, што ўладам, якія насамрэч выносяць прысуды апазыцыянэрам, зрабілася сорамна ці што яны вырашылі разбавіць татальныя абвінаваўчыя выракі ўдзельнікам Плошчы адзіным апраўдальным прысудам былому прадпрымальніку, які вырашыў заняцца палітыкай. Не называю шчасьліўца, каб не нашкодзіць ягонаму адвакату, не дражніць, як кажуць, гусей.

Гэта красамоўна паказвае сытуацыю ў судовай сыстэме: беларускія адвакаты, якія абараняюць «палітычных», катэгарычна супраць згадваньня іх імёнаў. Зазірніце ў рэпартажы беларускіх журналістаў з палітычных справаў, нават адміністр-

рацыйных, ад пачатку 2012 году — прозьвішчы адвакатаў адтуль зьніклі! Для мяне гэта азначае зьнікненьне самой прафэсіі, калі яе прадстаўнікі баяцца сябе называць.

2011–2012 гады сталі катастрафічнымі для адвакацкага корпусу і самога інстытуту адвакатуры ў Беларусі. Гісторыя з адстаўкай Аляксандра Пыльчанкі з пасады кіраўніка Менскай гарадзкой калегіі адвакатаў паказала, наколькі бяспраўны і несамастойны інстытут адвакатуры, які даўно ня быў незалежны ад дзяржавы, а цяпер страціў яшчэ і рэшткі здаровай карпаратыўнасьці і самапавагі.

Тое, што пазбавілі адвакацкіх ліцэнзіяў Паўла Сапелку, Тамару Сідарэнку, Дзьмітрыя Варвашэвіча (сьпіс можна працягнуць), — на маю думку, наўпросты вынік таго, што яны адважыліся бараніць палітвязьняў, прычым самых небясьпечных для ўладаў — былых кандыдатаў на прэзыдэнта Андрэя Саньнікава і Ўладзімера Някляева. Да таго ж, рабілі яны сваю справу якасна, сумленна і нават самаахвярна. Безумоўна, у выдаленьні кожнага з гэтых адвакатаў з калегіі была свая «зачэпка», свой падтэкст, але аб’яднала іх усё ж палітыка.

Тут я кажу пра зьяву шырэйшую, чым справы апазыцыянэраў, абараняць якіх небясьпечна для саміх адвакатаў. Рызыкоўнай можа стаць і справа, быццам не зьвязаная з апазыцыяй, калі ў ёй сыходзяцца інтарэсы кланаў унутры ўлады, што варагуюць міжсобку.

Згадайма справу сьледчай рэспубліканскай пракуратуры Сьвятланы Байковай, якая спрабавала «капаць» супраць КДБ і ў выніку сама трапіла ў турму КДБ — «амэрыканку». Абаронца Байковай, вядомы адвакат Міхаіл Воўчак, таксама мусіў

сысьці з адвакатуры пасьля таго, як «наверсе» палічылі, што адвакат занадта актыўна яе абараняе. Такія сур'ёзныя страты найлепшых адмыслоўцаў і маральных аўтарытэтаў адвакацкага корпусу кампэнсаваць у блізкім часе будзе немагчыма.

Яшчэ адным магутным ударам па інстытуце адвакатуры сталі драконаўскія абмежаваньні ў кантактаваньні адвакатаў з прадстаўнікамі мэдыяў. З пачатку 2012 году адвакатам забаранілі без дазволу кіраўніцтва калегіі даваць нават кароткія інтэрвію, камэнтаваць справы па меры іх разгляду ў судзе, ня кажучы ўжо пра ацэнкі хібаў сьледзтва, абвешчанае суцэльнай таямніцай. Гэткая ж забарона распаўсюджваецца на кантакты з кліентамі, якіх ужо асудзілі.

Ня тое што журналістам — нават сваякам вязьняў паведаміць нічога, акрамя «здаровы-хворы», немагчыма. Што да ўмоваў утрыманьня ў турме, адносінаў з адміністрацыяй, то пра гэта адвакату палітычнага вязьня не дазваляюць гаварыць з падабаронным пад пагрозай спыненьня сустрэчы.

Такім чынам, вось што мы маем сёньня: рэальна ўплываць на тое, каб прысуды выносіліся законныя, адвакаты ня могуць, бо іх хадайніцтвы па сутнасьці справы суцэльна ігнаруюцца, спрэчкі абаронцаў з абвінавачаньнем ператварыліся ў фармальнасьць, права паведамляць грамадзтву пра тое, што адбываецца «за плотам», права расказваць праўду пра сьледзтва і суды іх пазбавілі шматлікімі службовымі інструкцыямі. Засталася толькі адна публічная функцыя — выказвацца падчас судовых спрэчак у разьліку на тое, што суду і пракурорам стане сорамна за пагарду да закону ды што пачуюць некалькі праваабаронцаў і журналістаў, якія,

магчыма, данясуць думку адваката да грамадзтва. Канечне, ва ўмовах таталітарнага ладу, які цяпер пануе ў Беларусі, і гэта нямала, бо патрабуе выключнай мужнасьці і самаадданасьці. І такія адвакаты ў Беларусі ня зьніклі.

Таму ў верасьні 2011 году, калі пачынаўся працэс над меркаванымі тэрарыстамі, дзіўна было ўжо тое, што знайшліся адвакаты, якія ўзяліся за такую гучную справу. Найперш я пра абаронцу Ўладзіслава Кавалёва — адваката Станіслава Абразея. Паводле дасьведчанай крыніцы, Любоў Кавалёва выслухала шмат адмоваў. У Віцебску яна так і не знайшла абаронцы для сына. Пасьля перамоваў пагадзіўся менскі адвакат Станіслаў Абразей. Што да Дзьмітрыя Лепрэтара, абаронцы Канавалава, то ён быў у працэс прызначаны.

На маю думку, гэта адбілася на ягонай працы, калі параўноўваць яе з працай калегі: яна не была такой крытычнай да сьледзтва, як праца Станіслава Абразея. Праўда, падабаронны Дзьмітрыя Лепрэтара прызнаў сваю віну ў асноўных эпізодах справы і гэтым значна звузіў магчымасьці свайго абаронцы. Але на маю думку, ягоны адвакат таксама працаваў не дарэмна, а ў судовых спрэчках быў ня горшы за свайго калегу.

Адносіны з журналістамі ў абаронцаў на працэсе ня склаліся. Ужо ў першы судовы дзень адвакаты рашуча спынілі ўсе нашыя спробы дамовіцца наконт інтэрвію і камэнтароў. «Пакуль працэс ня скончыўся — нічога», — сказалі абодва абаронцы і з таго часу абміналі прадстаўнікоў прэсы. Спачатку падалося, што гэта таму, што, маўляў, усё роўна вырак суду запраграмаваны, і «сьвяціцца» ў мэдыях — толькі сабе шкодзіць.

Але паступова гэтае ўражаньне пачало зьнікаць. Асьцярожна, а потым усё больш настойліва адвакаты пачалі атакі на пазыцыі сьледзтва. Спробы суду нэўтралізаваць гэты наступ (як на мяне, яны сапраўды былі) абаронцаў не напалохалі. Ва ўсякім разе, Станіслава Абразея ня сьцішыла нават атрыманая ад старшыні публічная заўвага. Да перапалак з прадстаўнікамі абвінавачаньня ў яго не даходзіла, але было відаць, што ён сябе стрымлівае.

Да судовых спрэчак бакі падышлі ў стане «халоднай вайны» — што, у прынцыпе, было б нармальна, калі б трэці бок захаваў пазыцыю «над схваткай».

Паводле наступных зьвестак аб працэсе можна меркаваць пра актыўнасьць адвакатаў. Гэтыя вытрымкі таксама перадаюць напружанасьць перадапошняга дня судовага паседжаньня.

Аднак спачатку зраблю адну заўвагу на адрас адвакатаў, прынамсі, аднаго зь іх. У заканадаўстве некаторых эўрапейскіх краін прадугледжаная адказнасьць адваката ў тым выпадку, калі прапанаваная ім лінія абароны прывяла да пагаршэньня становішча падабароннага.

Я не заклікаю да ўвядзеньня такой адказнасьці ў Беларусі, але нагадваю пра маральны абавязак абаронцы кіравацца, як таму лекару, прынцыпам «не нашкодзь».

### *З падборкі на сайце «Эўрарадыё»*

**27 верасьня** адвакат Кавалёва Станіслаў Абразей зьвярнуўся з хадайніцтвам адносна наведваньняў абвінавачаных супрацоўнікамі КДБ, паведамляе БелаПАН. Адвакат хоча атрымаць журнал наведваньняў абвінавачаных падчас іх знаходжаньня ў

СІЗА КДБ і на абсьледаваньні ў Цэнтры псыхічнага здароўя ў Навінках. На гэта судзьдзя Аляксандар Федарцоў сказаў, што ў суду ёсьць тры дні на разгляд гэтага хадайніцтва. Варта адзначыць, што раней на працэсе Кавалёў заяўляў, што і ў СІЗА КДБ, і ў псыхіятрычнай лякарні яго дапытвалі без протаколу і без адваката.

**12 кастрычніка.** Абарона знайшла разыходжаньні ў матэрыялах справы Канавалава і Кавалёва. З хадайніцтвам выступіў адвакат Станіслаў Абразей. Гаворка ідзе пра матэрыялы, што датычаць супастаўнасьці асобы і вопраткі Дзьмітрыя Канавалава з падазраваным, якога зафіксавалі камэры відэаназіраньня ў мэтро. У прыватнасьці, былі прадэманстраваныя стоп-кадры, зьнятыя 11 красавіка на станцыі «Фрунзенская», і сьледчага экспэрымэнту з Канавалавым на той жа станцыі. На першым стоп-кадры — чалавек з торбай у чорнай вопратцы, на другім — Канавалаў з торбай таксама ў вопратцы чорнага колеру. Адвакат зьвярнуў увагу суду на тое, што на першым стоп-кадры куртка на падазраваным шчыльна абліпае цела, а на другім відаць, што вопратка Канавалава яму завялікая. Пры гэтым падчас сьледчага экспэрымэнту Канавалаў быў апрануты ў куртку, вынятую ў яго пасьля затрыманьня.

**13 кастрычніка** стала вядома, што за падпал шапіка, у якім вінавацяць Канавалава, ужо асудзілі двух чалавек. (На гэты эпізод настойліва зьвяртала ўвагу суду абарона. — А. Г.) Пра гэта гаворыцца ў пратаколе допыту Ўладзіслава Кавалёва, агучаным у сераду. Падчас расьсьледаваньня справы аб тэракце той прысуд быў адменены, перадае tut.by.

**19 кастрычніка.** Суд адхіліў хадайніцтва адва-

ката Станіслава Абразея аб зьмяненьні меры стрыманьня яго падабароннаму Ўладзіславу Кавалёву, які праходзіць у якасьці абвінавачанага па справе аб выбухах у Менску і Віцебску, перадае БелТА. У тлумачэньні суду, у прыватнасьці, сказана: «Хадайніцтва не падлягае задавальненьню, бо Кавалёў абвінавачваецца ў цяжкім злачынстве і ў суўдзеле ў асабліва цяжкім». Гэта ўжо другое такое хадайніцтва на працягу працэсу.

**20 кастрычніка** на судзе па справе аб выбухах у Менску і Віцебску было зноў заяўленае хадайніцтва аб вызваленьні Ўладзіслава Кавалёва з-пад варты, паведамляе БелТА. Суд, разгледзеўшы гэтае хадайніцтва, пастанавіў яго не задавальняць. Раней адвакат Уладзіслава Кавалёва Станіслаў Абразей ужо двойчы падаваў такія хадайніцтвы.

**25 кастрычніка.** Адвакат падсуднага Ўладзіслава Кавалёва Станіслаў Абразей заявіў яшчэ адно хадайніцтва. Абаронца просіць суд зрабіць запыт у мэтрапалітэн наконт паказаньняў аднаго з пацярпелых. 10 красавіка, за дзень да тэракту, гэты чалавек бачыў, як супрацоўнікі праводзілі нейкія рамонтныя працы каля эскалятара. Праўда, ён дакладна не сказаў, дзе гэта было — на «Кастрычніцкай» ці на «Купалаўскай». Суд паабяцаў разгледзець хадайніцтва цягам трох дзён, перадае БелТА.

**28 кастрычніка** суд адмовіў у хадайніцтве адвакату Кавалёва Станіславу Абразею, які раней зьвяртаўся з просьбай дапытаць у якасьці сьведак чатырох працоўных, што праводзілі рамонтныя работы на станцыях «Кастрычніцкая» і «Купалаўская» незадоўга да выбуху, паведамляе «Інтэрфакс-Захад».

**1 лістапада.** Выбухоўку ў 2008 годзе маглі рабіць розныя людзі. Гэта вынікае зь сёньняшняга выступу экспэрта на судзе па выбухах. Як перадае БелТА, гэта эксперт-выбухатэхнік Дзяржаўнага экспэртна-крыміналістычнага цэнтру МУС. Паводле ягоных словаў, прыстасаваньне, якое не разарвалася ў 2008 годзе, было зробленае вельмі акуратна. Прылада, што разарвалася, была выкананая менш дбайна, кажа ён. Пайка ацалелых правадоў у прыстасаваньні, якое выбухнула, адрозьніваецца ад пайкі ў другой бомбе, менш акуратнай. Аднак, паводле словаў экспэрта, немагчыма дакладна вызначыць, розныя людзі рабілі гэтыя бомбы ці адзін і той жа. Усё ж ён нагадаў, што іншая экспэртыза паказала: для зборкі абедзьвюх бомбаў у 2008 годзе выкарыстоўвалася адна і тая ж шпуля ізаляцыйнай стужкі.

Адвакат Дзьмітрый Лепрэтар зьвярнуў увагу на несупадзеньні паміж экспэртызамі прыладаў 2008 году і тым, што паказаў Дзмітрый Канавалаў на сьледчым экспэрымэнце. На гэта эксперт заявіў: пасьля выбуху прайшло шмат часу, і Канавалаў мог забыцца на дэталі.

**2 лістапада** адвакат абвінавачанага Кавалёва Станіслаў Абразей прасіў выклікаць Канстанціна Зайцава. Яго адбіткі пальцаў былі зафіксаваныя на самаробным выбуховым прыстасаваньні 2008 году. Зайцаў — інжынэр-піратэхнік спэцпадразьдзяленьня «Алмаз», які абясшкоджваў прыладу, знойдзеную 3 ліпеня 2008 году. Суд адзначыў, што Зайцаў цяпер у камандзіроўцы, і прызнаў гэтую прычыну грунтоўнай.

**3 лістапада** суд не задаволіў хадайніцтва адваката Дзьмітрыя Лепрэтара, які абараняе Дзьмітрыя

Канавалава. Адвакат прасіў прызначыць выбухова-тэхнічную экспэртызу па раньніх віцебскіх эпізодах — да 2004 году, перадае БелТА. Са словаў судзьдзі, суд ня мае складовых частак адпаведных выбуховых прыстасаваньняў.

## XLV. Заканчэньне судовых спрэчак

15 лістапада 2011 на сайце Радыё Свабода ішоў жывы он-лайн-рэпартаж з залі суду.

**13:10.** Сёньня на працэсе Канавалава — Кавалёва ў Вярхоўным судзе Беларусі працягваюцца спрэчкі бакоў. Да перапынку выступіў адвакат Канавалава Дзьмітрый Лепрэтар. Ён заўважыў, што ўжо 13 красавіка, адразу пасьля затрыманьня Канавалава, былі атрыманыя ягоныя паказаньні з прызнаньнем па эпізодах у Віцебску ў 2005 годзе. Дзьмітрый Лепрэтар лічыць, што гэтыя паказаньні былі атрыманыя з парушэньнем закону. Канавалаў заяўляў, што ў дачыненьні да яго выкарыстоўвалі мэтады фізычнага і псыхічнага ўзьдзеяньня. На відэа таксама відаць, што Канавалаў не гаворыць сам, а адказвае на пытаньні сьледчых. Таксама, паводле адваката, Канавалаў прызнаваўся, што выбухоўка, выкарыстаная ў тэракце 2005 году ў Віцебску, — так званая «кіса». Але паводле экспэртызы, там быў выкарыстаны тратыл.

Таму адвакат папрасіў апраўдаць Канавалава па эпізодах тэракту 2005 году ў Віцебску. Таксама Дзьмітрый Лепрэтар просіць апраўдаць Канавалава па дзевяці эпізодах хуліганскіх злачынстваў у розныя гады ў Віцебску. Паводле адваката, у гэтых справах здарэньні дакладна не зафіксаваныя, тэрмін іх часта ня вызначаны, паказаньні сьведак блытаныя.

Пасьля невялікага перапынку адвакат Канавалава працягне свой выступ і выкажа сваё стаўленьне да віны Канавалава ў выбуху ў менскім мэтро 11 красавіка.

**14:56.** Пасьля перапынку адвакат Канавалава Дзьмітрый Лэпрэтар працягнуў свой выступ. Ён зазначыў, што ягоны падабаронны прызнае сябе вінаватым у зьдзяйсьненьні выбухаў у 2008 годзе і 11 красавіка 2011 году, але і тут шмат нестыковак. Па эпізодзе выбуху на Дзень Незалежнасьці 3 ліпеня 2008 году сьледзтва даказала, што быў выкарыстаны тратыл, але так і невядома, адкуль гэты тратыл у Канавалава ўзяўся. Адвакат зьвярнуў увагу, што паводле сьведак, якія знайшлі выбуховую прыладу, што не ўзарвалася, пакунак соку быў запячатаны мэмбранай. Між тым Канавалаў казаў, што ён сок выпіў і зрэзаў дно пакета.

Наконт тэракту 11 красавіка ў мэтро адвакат лічыць, што прыведзенае відэа нельга лічыць доказам, бо там не ўказана, адкуль яно ўзялося, і быў парушаны парадак яго ўстанаўленьня. Экспэрты не даказалі партрэтнага падабенства Канавалава з чалавекам на відэаздымках, усталявалі толькі падабенства элемэнтаў адзеньня. Але самае дзіўнае, што ніякіх сьлядоў выбуху не знайшлі на вопратцы Канавалава, хоць ён і быў побач. Сьведка Пачыцкая казала, што Канавалаў увечары 11 красавіка вярнуўся ў чыстым адзеньні.

Сайт Руху «За свабоду» са спасылкай на інтэрнэт-выданьне «Салідарнасьць» перадае: «Лепрэтар спаслаўся на заключэньні экспэртыз, якія сьведчаць, што выбуховыя прылады, якія спрацавалі і ня выбухнулі ў 2008 годзе на канцэрце 3 ліпеня, былі выраблены рознымі асобамі, а таксама не маглі быць зробленыя ў Віцебску. Абаронца таксама зьвярнуў увагу на працэсуальныя парушэньні, заявіўшы: «Сьледзтва павіннае займацца зборам і далучэньнем да справы доказаў, а ня вырабам гэтых

доказаў» (намёк на мантаж, факт якога прызнала нават абвінавачаньне)».

**Радыё Свабода:** Дзьмітрый Лепрэтар спаслаўся на дзеяньні тэрарыста Брэйвіка ў Нарвэгіі і нагадаў, што той перад тэрактам апублікаваў свой маніфэст. А якія матывы былі ў Канавалава, сьледзтва ня высьветліла і нават не спрабавала высьветліць.

Потым пачаўся выступ адваката Кавалёва — Станіслава Абразея. Ён упэўнены, што ў жалезнай клетцы ў залі суду сядзяць невінаватыя.

«Бок дзяржабвінавачаньня даказаў толькі факты выбухаў і тое, што імя майго падабароннага — Кавалёў Уладзіслаў Юр’евіч», — сказаў Станіслаў Абразей. Паводле адваката, «трагедыя ў менскім мэтро згуртавала беларусаў у адзіным парыве — даведацца праўду, а праўда мусіць грунтавацца на доказах, а не на домыслах абвінавачаньня». Адвакат перайшоў да галоўнага доказу — відэа — і нагадаў, што суд адмовіў адвакатам у праглядзе з камэнтарамі. Абвінаваўчы бок гэта рабіў, а адвакатам не дазволілі. Аналізуючы запіс па хвілінах, Абразей заявіў, што гэта быў ня проста відэамантаж, нарэзка розных кадраў, а відэападробка. Адвакат прыводзіў канкрэтныя факты, калі на запісе зьнікалі нейкія людзі, былі бачныя плямы мантажу і гэтак далей.

**16:30.** Дзьмітрый Канавалаў адмовіўся ад апошняга слова.

«Ня трэба», — сказаў ён. На ўдакладняльнае пытаньне судзьдзі: «Вы адмаўляецеся ад апошняга слова?» — ён кіўнуў, не выказваючы пры гэтым ніякіх эмоцый.

Уладзіслаў Кавалёў заявіў пра сваю недатычнасьць да тэрактаў, а таксама выказаў меркаваньне пра недатычнасьць да іх Дзьмітрыя Канавалава.

«Мне вельмі сорамна перад сабой і перад Дзімам, што я праявіў слабахарактарнасьць і даў паказаньні супраць яго на папярэднім сьледзтве», — сказаў Уладзіслаў Кавалёў. Пры гэтым ён патлумачыў, што ўсе яго паказаньні былі дадзеныя пад ціскам супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія праводзяць сьледзтва. «Аднак у судзе я даў праўдзівыя паказаньні і хоць неяк выправіў сваю віну».

У спрэчках таксама ўзяў удзел пацярпелы Андрэй Тышкевіч:

«Сёньня я згадваў словы хірургаў у рэанімацыі. Анэстэзія была мясцовая, таму я чуў, як яны казалі, што апэрыруюць хлопчыкаў з такімі ж ранамі і апёкамі, як у 90-х у Карабаху. Я жыву ў мірнай краіне, я законапаслухмяны грамадзянін і не хачу быць салдатам на гэтай нікім не абвешчанай вайне. Я быў на сьвяце 3 ліпеня 2008 году, калі там здарыўся выбух. Я быў 11 красавіка на плятформе ў мэтро. Трэці раз выпрабоўваць свайго анёла-ахоўніка я не хачу. Але на жаль, у мяне няма стопрацэнтнай упэўненасьці, што да сьмяротнай кары будуць прыгавораныя менавіта тыя, хто рабіў гэтыя жудасці».

Андрэю Тышкевічу падчас працэсу падалося падазроным, што адвакатам не дазволілі пракамэнтаваць відэа з мэтро з адначасовым праглядам. Ён ня выключыў, што з гэтым доказам ёсьць праблемы. Праз некалькі гадзін адвакат Станіслаў Абразей заявіць пра падробку гэтага доказу і абгрунтуе свае меркаваньні.

Другі важны момант з сумненьняў Андрэя Тышкевіча — адсутнасьць на вопратцы Канавалава сьлядоў выбуху і выбуховых рэчываў. Судзьдзя выдаліў з залі дзяўчыну за плясканьне выступу пацярпелага, які выказаў сумнеў, што пакараюць

вінаватых, — перадае карэспандэнт «Эўрарадыё» Дзьмітрый Лукашук.

Пра адсутнасьць сьлядоў выбуху на вопратцы і сьлядоў выбуховага рэчыва на целе Дзьмітрыя Канавалава казалі й адвакаты Дзьмітрый Лепрэтар і Станіслаў Абразей. Для іх гэта быў адзін з галоўных аргумэнтаў. Пракурор Аляксей Стук падчас спрэчак скарыстаў права на рэпліку і заявіў, што з тунэля пераходу з «Кастрычніцкай» да «Купалаўскай», куды пайшоў Канавалаў адразу пасьля тэракту, выбегла шмат людзей, і яны таксама ня мелі бачных сьлядоў выбуху на адзеньні.

А вось што сказаў у апошнім слове адносна вэрсіі пра затрыманьне Ўладзіслаў Кавалёў:

«Паводле вэрсіі сьледзтва, па відэа былі вызначаныя прыкметы падазраванага, найперш ягоная вопратка, пасьля чаго на выхадах з мэтро паставілі назіральнікаў, якія ведалі гэтыя прыкметы. Далей 12 красавіка Канавалаў нібыта пайшоў у краму, яго заўважылі, прасачылі за ім і так знайшлі. Але 12 красавіка ніхто з нас кватэры не пакідаў».

Уладзіслаў Кавалёў заклікаў суд зьвярнуць увагу на шматлікія супярэчнасьці і вынесьці справядлівае рашэньне.

Пасьля паседжаньня маці абвінавачанага Любоў Кавалёва сказала: «Разумееце, у мяне ўражаньне, што яны ўжо прыгаварылі хлопцаў. Гэты працэс — як спэктакль. Пагоны атрымалі, кватэры атрымалі, узнагароды атрымалі, і што — яны зараз іх выпусьцяць? Ды ніколі ў жыцьці!»

## XLVI. А што б пастанавіў суд прысяжных?

У большасьці дэмакратычных краін, нават у Расеі, крымінальныя справы, дзе на карту ставіцца чалавечае жыцьцё, разглядаюцца судамі прысяжных — журы грамадзянаў, якія галасаваньнем вырашаюць, вінаваты чалавек у цяжкім злачынстве ці не. А ўжо меру адказнасьці вызначае судзьдзя паводле Крымінальнага кодэксу. Зразумела, што суд прысяжных не гарантуе адсутнасьці судовай памылкі. Аднак такі суд дае грамадзтву магчымасьць дадаткова кантраляваць судовую ўладу, а галоўнае, як мне бачыцца, — шанец падзяліць зь ёй адказнасьць за лёс чалавека, прыцягнутага да суду. Такім чынам, наяўнасьць суду прысяжных — гэта паказчык сталасьці і адказнасьці грамадзтва.

У Беларусі суду прысяжных няма. Размовы пра яго ўвядзеньне актыўна вяліся ў сярэдзіне 1990-х, а потым сьцішыліся. У выніку за 20 гадоў незалежнасьці беларускае грамадзтва не заслужыла права мець суд прысяжных, які б ад яго імя вырашаў пытаньні пра чалавечае жыцьцё. У Беларусі гэтае права так і не перайшло ад судовых чыноўнікаў, хай сабе вельмі мудрых і дасьведчаных, да народу, фармальнага носьбіта ўлады.

Прапаную кожнаму чытачу ўявіць, што ён трапіў у такое журы па справе аб тэракце і пасьля судовага разбору мусіць умоўна пакласьці на адну шалю доказы, якія сьведчаць пра віну Дзьмітрыя Канавалава, на другую — сумненьні ў ягонай віне, а потым зрабіць тое самае адносна Ўладзіслава Кавалёва. Пры гэтым дамовімся, што журы прысяжных ня мае

права выносіць іншы вэрдыкт, акрамя «вінаваты» ці «не вінаваты». Якая з шаляў аказалася б цяжэйшай? Вось які адказ атрымаўся ў мяне.

***Ці вінаваты Дзьмітрый Канавалаў у тэрактах 2008 і 2011 гадоў?***

***Трынаццаць аргумэнтаў «за»***
(Курсівам — аўтарская ацэнка доказу).

**1.** Ягоныя прызнаньні ў зьдзяйсьненьні выбухаў 2008 і 2011 гадоў, у тым ліку названы матыў.

*Выглядаюць збольшага пасьлядоўнымі і пераканаўчымі, улічваючы асобу Канавалава. Матыў падаецца дапушчальным, але высьветленым не да канца.*

**2.** Паказаньні сьведкі Пачыцкай, віцебскага таксіста Маскалёва, прадпрымальніцы Вусавай пра абставіны, якія папярэднічалі тэракту, падрыхтоўку да злачынства і паводзіны пасьля яго.

*Дастатковых падставаў сумнявацца ў паказаньнях Маскалёва і Вусавай ня знойдзена. Паказаньні Пачыцкай маглі быць «скарэктаваныя» ў інтарэсах сьледзтва.*

**3.** Дадзеныя экспэртызаў і сьледчых экспэрымэнтаў па праверцы відэа 11 красавіка. Падабенства аблічча Канавалава на відэа і ў экспэрымэнце, падабенства парамэтраў фігуры Канавалава і чалавека з торбай на відэа.

*Варта пагадзіцца, што асоба Канавалава на відэа з мэтро 11 красавіка ўсё ж высьветленая. Сьлядоў падробкі відэа, накладаньня адной выявы на іншую ня выяўлена, падзеі на відэа адбываюцца пасьлядоўна. Сьляды ўнутрыкадравага мантажу,*

*знойдзеныя экспэртамі, можна патлумачыць тэхнічнымі збоямі, недахопамі сыстэмы відэазапісу ці хібамі падчас капіяваньня відэа для сьледзтва.*

**4.** Відэа 10 красавіка — зь віцебскага вакзалу, з пэрону менскага вакзалу, зь менскага мэтро, — якія сьведчаць пра маршрут Канавалава напярэдадні тэракту, відэа з мэтро 10 красавіка ў другой палове дня, падчас гэтак званай «рэкагнасцыроўкі» Канавалава.

*Не выклікае сумненьняў, што на ўсіх відэа зьняты менавіта Канавалаў, які пазнаў сябе і на сьледзтве, што зрабіў і Кавалёў. Аднак застаюцца падазрэньні адносна адсутнасьці відэа сустрэчы Канавалава і Кавалёва 10 красавіка на менскім вакзале, якое тлумачыцца нібыта тэхнічнымі прычынамі.*

**5**. Здымкі з вонкавых відэакамэраў ад 11 красавіка пасьля тэракту, зь якіх бачна, як Канавалаў ідзе з мэтро пасьля выбуху.

*Асабліва каштоўны для вэрсіі сьледзтва той кадар, на якім Канавалаў ідзе па Кастрычніцкай плошчы і глядзіць у бок месца здарэньня. Пры павелічэньні добра бачна, што гэта менавіта ён. У сукупнасьці кадры некалькіх камэраў пацьвярджаюць паказаньні самога Канавалава пра тое, як ён сыходзіў зь месца тэракту.*

**6.** Адбіткі пальцаў на бомбе 3 ліпеня 2008 году, паказаньні сьведкі Грышмана пра абставіны дактыляскапіі Канавалава 9 красавіка 2011 году.

*Адбіткі пальцаў — найпросты доказ датычнасьці Канавалава да тэракту 2008 году і ўскоснае сьведчаньне ягонай датычнасьці да тэракту 2011 году, падмацаванае паказаньнямі міліцыянта Гры-*

*шмана пра абставіны дактыляскапіі. Прыналежнасьць адбіткаў пальцаў Канавалаву пацьвердзіў Інтэрпол. Тое, што на бомбе 2008 году былі знойдзеныя адбіткі пальцаў людзей са спэцслужбаў, не абвяргае гэтага доказу цалкам, хоць і зьніжае давер да афіцыйнай вэрсіі.*

**7.** Ідэнтычнасьць кавалкаў арматуры, знойдзеных на месцы тэракту, кавалку з падвалу. Падобная нарэзка кавалкаў. Кавалак трубы з падвалу Канавалава адпавядае кавалку зь месца выпрабаваньняў выбухоўкі. Супадзеньне скотчу з бомбаў 2008 году і скотчу з падвалу. У падвале Канавалава знойдзенае прыстасаваньне, ідэнтычнае самаробнаму дэтанатару, выкарыстанаму ў бомбе 2011 году. Прыпой на паяльніку Канавалава супадае з прыпоем ад тэрактаў 2005 году ў Віцебску.

*Акрамя скотчу і кавалку трубы, доказы варта залічыць у катэгорыю ўскосных, тым больш што да падзеяў 2011 году мае дачыненьне толькі адзін зь іх. Аднак сукупнасьць гэтых доказаў усё ж працуе на карысьць вэрсіі сьледзтва.*

**8.** Супадзеньне вопраткі Канавалава з той, што была на чалавеку зь відэа ў момант зьдзяйсьненьня тэракту ў мэтро.

*Вопратка Канавалава цалкам супадае з той, што была на чалавеку з торбай у мэтро 11 красавіка. Засталіся пытаньні пра майку, у якой быў Канавалаў. Паводле некаторых назіральнікаў, яе колер не адпавядае таму, які пазначаны ў вопісе рэчаў Канавалава з матэрыялаў справы.*

**9.** Паказаньні Ўладзіслава Кавалёва на сьледзтве адносна датычнасьці Дзьмітрыя Канавалава да выбуху 2011 году.

*Кавалёў, які на судзе адмовіўся ад ранейшых паказаньняў, ня змог пераканаўча патлумачыць прычыны гэтага і абгрунтаваць свае дзеяньні 10 красавіка, у прыватнасьці таго, чаму асьцярожна нёс торбу Канавалава пасьля сустрэчы зь ім на менскім вакзале.*

**10.** Паказаньні двух сьведак, якія знайшлі бомбу 3 ліпеня 2008 году.

*Паказаньні паасобку пасьлядоўныя і збольшага не супярэчаць адно аднаму. Недавер выклікае тое, што адзін са сьведак на момант суду знаходзіўся ў месцы зьняволеньня, а значыць, быў залежны ад прадстаўнікоў пэнітэнцыярнай сыстэмы Беларусі, наўпрост зьвязанай са сьледзтвам.*

**11.** Прылады і хімічныя рэчывы, знойдзеныя ў падвале Канавалава ў ягоным доме па вуліцы Рэпіна ў Віцебску, а таксама ўмовы ў гэтым падвале, якія паказваюць, што ён меў магчымасьць вырабляць там выбуховыя рэчывы, а таксама зьбіраць бомбы.

*Набор прыладаў і рэчаў у падвале Канавалава збольшага дастатковы для вырабу выбухоўкі і зьбіраньня выбуховых прыстасаваньняў, характар прыладаў і рэчаў паказвае, што чалавека, які іх сабраў, цікавіла выбуховая справа. Умовы ў самім падвале нельга назваць цалкам прыдатнымі для такіх мэтаў у прафэсійным сэнсе, але яны ўсё ж адпавядалі мінімальным тэхнічным патрабаваньням, а галоўнае, забясьпечвалі канфідэнцыйнасьць.*

**12**. Відэа з фотаапарата Канавалава, рэчавыя доказы зь месцаў выпрабаваньня, паказаньні Канавалава і Кавалёва пра выпрабаваньні выбуховых прыладаў каля станцыі Грышаны.

*Доказы пераканаўча сьведчаць, што Канавалаў умеў рабіць выбухоўку і зьбіраць бомбы, стала гэтым займаўся і ўдасканальваў свае навыкі, а таксама выбуховыя прыстасаваньні. Яшчэ адна магчымая выснова — што Канавалаў пасьлядоўна рыхтаваўся да тэракту.*

**13.** Дадзеныя пра тэлефонныя злучэньні Канавалава і Кавалёва, Канавалава і Пачыцкай.

*Гэтыя дадзеныя пацьвярджаюць частку падзеяў 9 і 10 красавіка 2011 году, пра якія паведамлялі на сьледзтве Канавалаў, Кавалёў і Пачыцкая, а таксама Кавалёў і Пачыцкая ў судзе. Гаворка пра тэлефонныя размовы Канавалава з Кавалёвым напярэдадні прыезду апошняга ў Менск, а таксама сустрэчы зь ім сьведкі Яны Пачыцкай.*

***Восем аргумэнтаў «супраць»***

**1.** Зьвесткі пра выбіваньне сьледчымі патрэбных паказаньняў з Канавалава, пра што казаў ён сам, а таксама Кавалёў, у тым ліку на судзе, плюс паказаньні Пачыцкай пра падзеі ў міліцыі ўвечары 12 красавіка.

*Заявы Канавалава ў гэтай частцы пасьлядоўныя на сьледзтве, аднак не падмацаваныя паказаньнямі ў судзе. Паказаньні Кавалёва пра зьбіцьцё Канавалава немагчыма лічыць наўпростым доказам, бо зьбіцьця ці катаваньняў Кавалёў ня бачыў. Гэта ж датычыць словаў Пачыцкай, якая сьведчыла толькі пра выклік хуткай дапамогі для Канавалава. Аднак характар цялесных пашкоджаньняў Канавалава безумоўна сьведчыць, што яго зьбівалі ня толькі падчас затрыманьня. Пра незаконнае фізычнае*

*ўзьдзеяньне на Канавалава можа сьведчыць і тое, што першыя допыты зь ім праводзіліся без адваката.*

**2.** Адсутнасьць на Канавалаву і ягоным адзеньні сьлядоў выбухоўкі і мікрачасьцінак ад разбурэньняў у мэтро ў выніку тэракту.

*Тое, што экспэртыза не знайшла такіх сьлядоў ані на целе Канавалава, ані на ягоным адзеньні, — важкі аргумэнт. Аднак ён ня можа даказваць невінаватасьць, бо не выключае, што Канавалаў зьнішчыў гэтыя сьляды або яны фізычна не захаваліся, таму экспэртыза не змагла іх знайсьці. Сьледзтва схібіла ў тым, што не даказала гэтага экспэрымэнтальна, у тым ліку з дапамогай пацярпелых. Суд у такім выпадку мусіў даць абгрунтаваньне, чаму гэта немагчыма, але ня даў.*

**3.** Адсутнасьць мікрачасьцінак выбуховага рэчыва на масцы Канавалава, якую знайшлі ў ягоным падвале, адсутнасьць адбіткаў ягоных пальцаў на посудзе, рэчах і прыладах у падвале.

*Сапраўды, гэта яшчэ адзін істотны мінус у вэрсіі сьледзтва, які на судзе таксама ня быў патлумачаны. Пасьля суду прадстаўнікі сьледзтва ў мэдыях спасылаліся на тое, што адбіткі пальцаў на рэчах у падвале маглі не захавацца зь фізычных прычын. Тлумачэньне ўвогуле сьмеху вартае. Больш верагодна, што пальцы Канавалава не захаваліся, таму што ён мэтанакіравана працёр усе рэчы перад тым як апошні раз сысьці з падвалу. Тады ён зьнішчыў бы і маску, у якой вырабляў выбухоўку, і пакінуў бы іншую, чыстую. Аднак гэтая вэрсія супярэчыць таму, што Канавалаў «ішоў у апошні бой» і асабліва замятаць сьляды не зьбіраўся.*

**4.** Сьляды мантажу на відэа з мэтро і той факт, што экспэрты не знайшлі партрэтнага падабенства Канавалава з чалавекам на відэа, які ўзрывае бомбу.

*Гэта патрабуе хаця б вывучэньня відэадоказаў з дапамогай незалежных ад беларускага сьледзтва экспэртаў. Паводле беларускай міліцыі, адмыслоўцы Інтэрполу змаглі так апрацаваць здымкі відэакамэры з Кастрычніцкай плошчы, што на іх Канавалаў стаў добра пазнавальным. Чаму ж гэтаксама не былі апрацаваныя ключавыя відэа з мэтро? Некаторыя назіральнікі кажуць ня проста пра мантаж відэакадраў, а пра накладаньне выяваў на ключавых відэа, у прыватнасьці ў момант выбуху. Гэта дае назіральнікам падставы казаць пра падробку асноўнага доказу. Аднак сьледзтва і суд не палічыліся з гэтым меркаваньнем, а адвакату нават не дазволілі пракамэнтаваць кадры ключавых запісаў з адначасовай дэманстрацыяй спрэчнага відэа.*

**5.** Несупадзеньні ў зборцы Канавалавым макету бомбы 2008 году на экспэрымэнце з асаблівасьцямі рэальнай бомбы, асобныя несупадзеньні пры экспэрымэнтальнай зборцы бомбы 2011 году, а таксама недакладнасьці пры экспэрымэнтальным вырабе выбухоўкі.

*Відэа гэтых экспэрымэнтаў пасьля суду трапіла ў інтэрнэт, і яшчэ больш людзей, чым да суду, загаварылі пра тое, што Канавалаў ня меў дастаткова ведаў і навыкаў, каб вырабляць выбухоўку ды зьбіраць бомбы, як прыпісвае яму сьледзтва. Падазрэньняў дадаюць і недастаткова пасьлядоўныя паказаньні сьведкі — экспэрта Клімовіча.*

**6.** У судзе не было высьветлена, як Канавалаву ўдалося пазьбегнуць дактыляскапіі пасьля выбуху 2008 году, а таксама не прагучалі паказаньні тых, хто знайшоў Канавалава і затрымаў яго праз дзень пасьля тэракту ў мэтро.

*Адсутнасьць гэтых сьведчаньняў хоць і не разбурае агульнай карціны абставінаў да і пасьля злачынства, але стварае значныя пустоты, прыдатныя для зьяўленьня вэрсіяў пра датычнасьць да тэракту спэцслужбаў. Чаму суд над міліцыянтам, які не дактыляскапіяваў Канавалава, скончылі пасьля працэсу над тэрарыстамі? Чаму ў судзе ня выступіў міліцыянт, які, як паведаміў намесьнік міністра ўнутраных справаў Алег Пякарскі, «вылічыў» Канавалава па прыкметах увечары 12 красавіка? Калі адказы на гэтыя пытаньні ня дадзеныя з прычыны «вайны» сілавых ведамстваў, то дзе гарантыя, што і сам тэракт — не адгалосак такой вайны?*

**7.** Адмова Кавалёва сьведчыць супраць Канавалава.

*Паказаньні Кавалёва супраць Канавалава шмат у якіх момантах — адзіныя сьведчаньні. Калі іх ня ўлічваць, пад сумнеў трапляе ўся сыстэма доказаў, сабраных сьледчымі. Кавалёў быў пераканаўчы, калі казаў, што зазнаў вялікі псыхалягічны ціск з боку сьледчых і супрацоўнікаў КДБ. Абарона Кавалёва на судзе заяўляла, што зь ім шмат разоў без адваката размаўлялі супрацоўнікі КДБ у «амэрыканцы».*

**8.** Незразумелы матыў дзеяньняў Канавалава: дзеля чаго яму спатрэбілася «дэстабілізаваць абстаноўку» ў краіне?

*Без дакладнага адказу на гэтае пытаньне ма-*

*тыў, які задаволіў сьледзтва і суд, «правісае». Тэрарызм без палітычнай, рэлігійнай, расавай ці нейкай іншай мэты — проста хвароба, але тады месца Канавалава — назаўсёды ў Навінках, а не ў расстрэльнай камэры «Валадаркі».*

***Пазыцыя аўтара***

На маю думку, доказы вінаватасьці Дзьмітрыя Канавалава больш важкія, чым аргумэнты на карысьць ягонай невінаватасьці. Апошнія збольшага грунтуюцца на развагах і сумненьнях у афіцыйнай вэрсіі і не складаюцца ў агульную карціну, першыя ж мацней абапіраюцца на рэальныя факты. Аднак і сумненьні ў вінаватасьці Канавалава ўзьніклі не на пустым месцы, а былі выкліканыя супярэчнасьцямі, у тым ліку даказанымі. Прыкладам, памылкамі Канавалава падчас зьбіраньня мадэлі бомбы. Гэта пакідае магчымасьць таго, што Канавалаў дзейнічаў не адзін, а пад кантролем ці нават пад дыктоўку. І ўсё ж ягоная асабістая датычнасьць да выбуху ў мэтро 11 красавіка 2011 году, як і да выбуху на праспэкце Незалежнасьці 4 ліпеня 2008 году, уяўляецца відавочнай.

Такім чынам, у складзе журы прысяжных я б вырашыў, што Канавалаў вінаваты ў гэтых злачынствах.

А як іншыя прысяжныя? Ня буду казаць за ўсё журы, але заўважу, што ў грамадзтве многія дагэтуль скептычна ставяцца да афіцыйнай вэрсіі наконт таго, што бомбу ў мэтро ўзарваў менавіта Дзьмітрый Канавалаў. Людзей дагэтуль хвалюе пытаньне, навошта гэта спатрэбілася простаму хлопцу, ніяк ня ўцягнутаму ў палітыку, не зьвяза-

наму з крыміналам ці міжнародным тэрарызмам. Паколькі і суд зразумелага адказу на гэтае пытаньне ня даў, разважаньні на балючую тэму будуць працягвацца.

Яшчэ адзін падводны камень гэтай справы — зьвязанасьць тэракту 2008 году з тэрактам у мэтро. Ня выключана, што Канавалаў можа быць цалкам вінаваты ў першым злачынстве, але не адзін ён вінаваты ў другім. Калі разьдзяліць гэтыя эпізоды і разгледзець іх асобна, доказная база супраць Канавалава пачынае сыпацца яшчэ больш.

### *Ці вінаваты Ўладзіслаў Кавалёў?*

### *Пяць аргумэнтаў «за»*

**1.** Кавалёў набываў тратыл і пасьля захаваньня перадаў выбухоўку Канавалаву, які выкарыстаў яе ў бомбе 4 ліпеня 2008 году.

*Паказаньні Кавалёва, у тым ліку на судзе, пра тое, што ён набываў тратыл і перадаваў яго Канавалаву, пацьверджаныя сьведкам Куксёнкам, сьледчым экспэрымэнтам і рэчавымі доказамі. Гэта бясспрэчны аргумэнт на карысьць вэрсіі сьледзтва. Аднак, акрамя Куксёнка, больш ніхто не пацьвердзіў, што Кавалёў набываў у яго тратыл, да таго ж сьледзтва так і ня высьветліла, дзе выбухоўку здабыў сам Куксёнак. Падазрэньні выклікае і тое, што гэты сьведка ня быў прыцягнуты да адказнасьці за дзеяньні з выбухоўкай. Усім вядома, што пазьбегнуць адказнасьці можна, калі даць патрэбныя сьледзтву паказаньні.*

**2.** Прызнаньні самога Кавалёва падчас сьледзтва, што ён ведаў ад Канавалава пра зьдзяйсьненьне ім тэракту ў 2008 годзе і падрыхтоўку да новага

тэракту ў мэтро. Тое, што ён у судзе адмовіўся ад гэтых паказаньняў, — толькі спроба пазьбегнуць адказнасьці.

*Словы Кавалёва, што Канавалаў расказаў яму пра тэракты, сам Канавалаў на вочнай стаўцы абверг. Між тым ёсьць паказаньні сьведкі Каралёвай, паводле якіх ёй Канавалаў таксама ўскосна прызнаваўся ў зьдзяйсьненьні тэракту 2008 году. Гэта сьведчыць пра тое, што з блізкімі яму людзьмі Канавалаў мог быць надзвычай адкрытым.*

**3.** Відэа, на якім Кавалёў разам з Канавалавым нясе торбу ў мэтро — дапамагае яму, ведаючы, што ў торбе бомба.

*Гэта важкі аргумэнт найперш на карысьць сяброўства Кавалёва з Канавалавым, але не падрыхтоўкі да тэракту. Пра тое, што ў торбе была бомба, казаў на сьледзтве толькі адзін чалавек — сам Кавалёў.*

**4.** Кавалёў аддаў Канавалаву свой мабільны тэлефон, каб той не «сьвяціўся» падчас званку ў кватэрнае бюро.

*Укладаецца ў схему, паводле якой Канавалаў перасьцерагаўся, каб заўчасна ня трапіць у рукі міліцыі. Аднак гэта магло адбыцца і з банальнай прычыны — Канавалаў мог сказаць, што ў яго села батарэйка, ці прыдумаць іншую падставу, каб пазваніць з тэлефону сябра. Прычым тут Кавалёў, нават калі Канавалаў «шыфраваўся»?*

**5.** Сьведчаньні Пачыцкай, што Кавалёў быў разам з Канавалавым каля торбы за шырмай. Яе ж сьведчаньні пра размову Кавалёва з Канавалавым перад сыходам апошняга з кватэры: «Можа, ня

пойдзеш?» Пытаньне да Канавалава: «Ну, як усё прайшло?», калі той вярнуўся ўвечары 11 красавіка на кватэру.

*З гэтых пытаньняў сапраўды можна зразумець, што Кавалёў быў у курсе плянаў Канавалава, а спробы спыніць яго хоць і рабіў, але вельмі нерашучыя. Аднак Кавалёў на судзе тлумачыў, што меў на ўвазе зусім іншае: сябар быў нападпітку, і яго маглі не пусьціць у мэтро, вось ён і адгаворваў туды ісьці. Пагодзімся, што гучыць непераканаўча.*

***Чатыры аргумэнты «супраць»***

**1.** Адмова ад паказаньняў у судзе, матываваная псыхалягічным ціскам, пагрозамі жыцьцю. Пра гэта казалі сьведка Пачыцкая і Канавалаў.

*Сам факт абвінавачаньня ў злачынстве, якое караецца сьмерцю, — безумоўны псыхалягічны ціск. З гэтым аргумэнтам прадстаўніка пракуратуры спрачацца немагчыма. І што заставалася сьледчым? Абвінавачваць Кавалёва ў дробным махлярстве, калі гаворка ішла пра бомбу ў торбе, якую ён дапамагаў несьці Канавалаву? Кавалёў, калі лічыў сябе невінаватым, мусіў бы не паддавацца ціску і не прызнаваць сваёй віны яшчэ на сьледзтве. Але там ён і віну сваю прызнаў, і пра Канавалава расказаў усё ў дэталях. Пра фізычнае ўзьдзеяньне на яго Кавалёў не казаў, і наглядныя органы гэтага не зафіксавалі.*

**2.** Сьведка Пачыцкая — адзіная, хто бачыў яго побач з торбай разам з Канавалавым, але і яна ня кажа, што ён нешта рабіў, памагаючы Канавалаву. Да таго ж сам Канавалаў на допыце гэта адмаўляў.

Усё, што казала Пачыцкая адносна Кавалёва, не пацьверджана больш нікім.

*Паказаньні сьведкі Пачыцкай сапраўды дзесьці сумнеўныя, у прыватнасьці што да падзей вакол торбы. Але згадайма, што яна ўсё ж змагла расказаць пра выклік хуткай дапамогі для Канавалава ў міліцыі, а гэты факт быў не на карысьць сьледзтва. Збольшага Пачыцкай усё ж варта давяраць, бо яна ня мае вялікага інтарэсу паклёпнічаць на Канавалава і Кавалёва. Пагрозы быць абвінавачанай у пасобніцтве калі і гучалі на яе адрас, дык, імаверна, толькі дзеля таго, каб прымусіць яе загаварыць як мага хутчэй. Усур'ёз інкрымінаваць ёй нешта было немагчыма.*

**3.** Няма ніводнага сьведчаньня, што Кавалёў рэальна нечым дапамог Канавалаву ў зьдзяйсьненьні тэракту. Тое, што ён разам зь сябрам нёс торбу, — не віна. Так можна залічыць у вінаватыя машыніста цягніка мэтро, які перавозіў Канавалава з торбай, — таксама дапамог у транспартаваньні. Тое самае адносна перадачы Кавалёвым свайго тэлефону Канавалаву. Гэта нельга лічыць дапамогай, бо не пацьверджаная дамова пра дапамогу: пра што дамовіліся, за грашовую ўзнагароду ці за нейкія паслугі, зь якой мэтай?

*Сапраўды, іншымі сьведкамі не пацьверджана, што Кавалёў скручваў драты ў бомбе, паяў кантакты ці падносіў торбу, пэўна ведаючы, што там бомба. Але тратыл ён перадаваў Канавалаву, а значыць, ведаў пра ягонае захапленьне выбуховымі прыстасаваньнямі. «Шыфраваньне» Канавалава па прыезьдзе ў Менск мусіла яго насьцярожыць і выклікаць пытаньні. Калі ён іх не задаў, значыць,*

*усё зразумеў сам або Канавалаў расказаў яму пра бомбу адразу на вакзале — пра што і казаў Кавалёў на сьледзтве. Паказаньні на сьледзтве робяцца асноўным доказам ягонай віны ў неданясеньні.*

**4.** Вінаватасьць Кавалёва ва ўдзеле ў падрыхтоўцы да тэракту не падмацаваная рэчавымі доказамі, акрамя эпізоду набыцьця тратылу яшчэ да 2008 году. Між тым сувязь гэтага тратылу з бомбай 2011 году ня высьветленая. На самім Кавалёву і на ягоным адзеньні ня знойдзена ніякіх выбуховых рэчываў, якія б сьведчылі пра ягоную ўцягнутасьць у падрыхтоўку тэракту.

*Сьледзтва сабрала дастаткова доказаў удзелу Кавалёва ў выпрабаваньнях выбуховых прыладаў, якія праводзіў Канавалаў. Гэта пацьверджана і на сьледчых экспэрымэнтах. Супадае і паказанае абвінавачанымі месца, дзе хавалі тратыл. Фактам, што на адзеньні Кавалёва няма сьлядоў выбухоўкі, пацьвярджаецца толькі тое, што сам ён выбухоўкі не вырабляў. Аднак іншага сьледзтва і не сьцьвярджае. Між тым сувязь Кавалёва з падрыхтоўкай бомбы 2011 году сапраўды не прасочваецца, і нават калі б ён здагадваўся, што ягоны сябар вырашыў узарваць мэтро, ягоны непасрэдны ўдзел у гэтай справе невідавочны.*

### *Пазыцыя аўтара*

На месцы сябра журы прысяжных на пытаньне пра віну Ўладзіслава Кавалёва за тэракт я б адказаў «невінаваты».

Што да артыкулу аб неданясеньні пра злачынства, то Кавалёва варта было б прызнаць вінаватым. Як мне падаецца, ён альбо пэўна ведаў, альбо зда-

гадваўся пра намеры свайго сябра і хлусіў на судзе, калі адмаўляўся ад паказаньняў на гэты конт.

Тое, што Кавалёў перадаваў тратыл Канавалаву, таксама ня цягне на прызнаньне яго памагатым у тэракце 2008 году, бо няма ніводнага доказу, што ён зрабіў гэта дзеля дадзенага злачынства. Дзеяньні Кавалёва тут варта кваліфікаваць як незаконныя дзеяньні з выбухоўкай, што і зрабіў суд па дадзеным эпізодзе.

На маю думку, Кавалёў быў варты пакараньня, меншага за пажыцьцёвае зьняволеньне. Тое, што яго прысудзілі да сьмерці, выглядае помстай за адмову ад паказаньняў, якая сапсавала навязаны зьверху сцэнар суду. Між тым Кавалёў да апошняга спрабаваў ўратаваць сваё жыцьцё, што ўласьціва любому чалавеку.

Гібель Уладзіслава Кавалёва ляжа плямай на беларускую судовую сыстэму, якая ў пачатку XXI стагодзьдзя захавала прыкметы сярэднявечча і недалёка адышла ад найгоршых таталітарных прыкладаў. Ягоны лёс будуць згадваць, пакуль у Беларусі ня скончацца спрэчкі вакол захаваньня ці адмены сьмяротнага пакараньня. Прыклад Кавалёва стане яшчэ адным аргумэнтам за адмену.

Аднак і ў прыхільнікаў сьмяротнага пакараньня дадасца свой аргумэнт — учынак Канавалава, якога суд прызнаў вінаватым у сьмерці 15 чалавек і фізычных ды маральных пакутах яшчэ сотняў.

## XLVII. Прысуд выкананы

Апошні раз Любоў Кавалёва бачыла сына ў «амэрыканцы» 11 сакавіка 2012 году. На спатканьні была таксама сястра Кавалёва Тацяна.

«Спатканьне адбывалася пад пільным наглядам супрацоўнікаў установы, за сьпінай маці сядзеў намесьнік начальніка СІЗА», — паведамляў на сайце «Свабоды» журналіст Алесь Дашчынскі. Маці і сястру Кавалёва строга папярэдзілі, што размаўляць яны мусяць толькі на «жыцьцёвыя» тэмы — пра сям'ю, пра сяброў. На здароўе Ўлад Кавалёў ня скардзіўся, але і ўсяго, што хацеў, сказаць ня змог».

**Любоў Кавалёва:** «Яго апярэдзіў намесьнік начальніка СІЗА, які мне сказаў, што ў яго нібыта і ціск у норме, і ўсё добра. Спатканьне адбывалася пад наглядам: супрацоўнік сядзеў і з нашага боку, і з боку Ўлада. Размова кантралявалася. Безумоўна, мы ўсе былі радыя нашаму спатканьню. Тым больш што ў лютым нам спатканьня не далі, чым парушылі нашыя правы.

**Тацяна Кавалёва:** Выглядае ён разгубленым, спалоханым. Магчыма, нават пачынае здавацца. Стомлены. Стараецца, канечне, не паказваць гэтага, але бачна, што яму там цяжка. Гэтым разам кайданкі яму зьнялі. Як звычайна, быў у робе. Пад вачыма зьявіліся цёмныя зморшчыны.

Уладзіслаў Кавалёў так і ня змог нічога расказаць пра ўмовы ўтрыманьня ў «амэрыканцы».

**Тацяна Кавалёва:** Папрасіў толькі кнігі. Сказаў, што чытае, разгадвае сканворды. Ён пастаянна сядзіць у памяшканьні, на прагулкі яму выходзіць

не дазваляюць. Кажуць, што праветрываюць гэтае памяшканьне. Ён адзін у гэтай невялікай камэры.

У той жа дзень, 11 сакавіка, Любоў Кавалёва даслала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў зварот.

**Любоў Кавалёва:** Я папрасіла кожнага дэпутата, каб яны нам дапамаглі, каб зьвярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі, бо віна хлопцаў у судзе не была даказаная, таму нельга выносіць такі вырак і тым больш выконваць такі прысуд; каб дэпутаты зрабілі хоць нешта, што ім па сілах, каб Улада і Дзіму памілавалі».

Апошняя інфармацыя пра Дзьмітрыя Канавалава была атрыманая ад ягонай маці яшчэ ў верасьні 2011 году. Тады зь Людмілай Канавалавай удалося пагаварыць карэспандэнту «Маскоўскага камсамольца».

***З артыкулу «Выбуховая творчасьць чэкістаў»***
*«Московский комсомолец», 05.09.2011*

Было бачна, што жанчына аддалася на волю лёсу і змагацца за сына ня будзе. Яна ня верыць у свае сілы.

— Ад Дзімачкі ніводнага ліста не прыйшло, ніводнага спатканьня нам не дазволілі. Ён цалкам ізаляваны. Я яму пасылкі адпраўляю, але нават ня ведаю, даходзяць ці не. Гэта проста жахліва. У мяне хворае сэрца. Як толькі даведалася, што сына арыштавалі, адразу зьлягла. Цэлы месяц лячылася, вось ужо 4 месяцы на таблетках. Майго мужа таксама вазілі ў Менск, але ён ні слова не сказаў, што зь ім там рабілі. Пэўна, забаранілі…

**— Ці мог Ваш сын быць датычны да выбуху?**

— Я ў гэта ня веру.

**— Чаму Вы не б’яце ў званы? Не зьвяртаецеся па дапамогу?**

— Я перакананая, што рашэньне адносна хлопцаў ужо прынятае. Прэзыдэнт назваў іх вінаватымі адразу пасьля затрыманьня. Сілавікі, кіраўнікі спэцслужбаў толькі пакорліва ківалі галовамі. Пару разоў званілі нейкія журналісты. Я кідала слухаўку. Сказаць мне няма чаго — я нічога ня ведаю.

**— Кажуць, у падвальным адсеку Вашай кватэры Дзіма абсталяваў лябараторыю для вырабу выбухоўкі...**

— Нічога такога не было.

Увечары 14 сакавіка 2012 году з паведамленьня па беларускім дзяржаўным тэлебачаньні стала вядома, што Аляксандар Лукашэнка не памілаваў Дзьмітрыя Канавалава і Ўладзіслава Кавалёва. Маці Кавалёва, якая ў той момант знаходзілася ў Віцебску, даведалася пра гэта ад карэспандэнта Радыё Свабода Ўладзімера Глода.

**Любоў Кавалёва:** «Я на працы, я не магла чуць тэлебачаньне. А што здарылася? Адмовіў абодвум? Лукашэнка сёньня разгледзеў?»

І ў слухаўцы загучалі гудкі.

Ужо раніцай 15 сакавіка Любоў Кавалёва была ў Менску і паспрабавала дамагчыся спатканьня з сынам у СІЗА КДБ. Спатканьня ёй не дазволілі. Не пусьцілі ў «амэрыканку» на сустрэчу з падабаронным і адваката Кавалёва Станіслава Абразея. Пры канцы дня адвакату паведамілі, што Ўладзіслава Кавалёва з «амэрыканкі» перавялі, але куды, не

сказалі. У СІЗА на Валадарскага, дзе выконваюцца сьмяротныя прысуды, Любові Кавалёвай і адвакату заявілі, што там Уладзіслава Кавалёва няма.

Зьвесткі пра тое, што сваякі Дзьмітрыя Канавалава спрабуюць даведацца ягоны лёс, у мэдыі ў той дзень ня трапілі.

Тым часам інтэрнэт і этэр поўніліся камэнтарамі наконт рашэньня Лукашэнкі. Адны тлумачылі ўсё асобай гэтага чалавека, іншыя адзначалі памылкі тых, хто спрабаваў паўплываць на ягонае рашэньне.

**Радыё Свабода, 15.03.2012.** Былы палкоўнік вайсковага спэцназу Ўладзімер Барадач: «Паводле маіх дадзеных, больш за 60% насельніцтва ня верыць у стоадсоткавую датычнасьць гэтых людзей да тэракту. Яны падазраюць, што датычныя да яго іншыя людзі. У такіх умовах Лукашэнку трэба было прызначыць новае расьсьледаваньне, новую сьледчую групу. Але ён на гэта не наважыўся, бо разумеў, што зьявяцца новыя сьведкі гэтага злачынства — сьледчыя. Акрамя таго, стануць вядомыя працэсуальныя парушэньні, выявяцца асобы, якіх прымушалі выбіваць ілжывыя паказаньні ў Кавалёва і Канавалава, а таксама асобы, якія давалі сьледчым злачынныя загады і ад якіх можна было б выйсьці на непасрэдных заказчыкаў тэракту».

**Эўрарадыё, 15.03.2012.** Журналіст Сяргей Сацук: «Ёсьць такое слова «дыпляматыя», і яно азначае, што перад тым як пачаць вайну, трэба паспрабаваць іншыя рычагі ўплыву. А ў дадзеным выпадку адразу пасьля абвяшчэньня прысуду была фактычна абвешчаная вайна рэжыму, пачаліся баявыя дзеяньні за жыцьцё Ўладзіслава Кавалёва. І, адпаведна, трэба было чакаць у адказ жорсткай

рэакцыі прэзыдэнта. На месцы маці Кавалёва я б падаў прашэньне аб памілаваньні, далей трэба было пратрымаць паўзу да рашэньня прэзыдэнта, а ўжо пасьля пачынаць нейкія актыўныя баявыя дзеяньні з далучэньнем усіх мэдыяў і эўрапейскіх інстытутаў для выратаваньня сына. А праваабаронцам трэба было напісаць нармальны зварот у Адміністрацыю прэзыдэнта, толькі не пісаць, што матэрыялы справы сфальшаваныя, не аспрэчваць прысуд — такі зварот бы ніхто не разглядаў. Трэба было, ня ставячы пад сумнеў вынікі сьледзтва, не адштурхоўваючы ўладу, указаць на агульначалавечыя каштоўнасьці, на тое, што памілаваньне — найбольш дзейсны сродак як прафіляктыкі злачынстваў, так і падняцьця прэстыжу самой улады. Гэта трэба было цывілізавана патлумачыць. Нашая ўлада жорсткая, яна гэтага яшчэ не разумее. Але гэтага ўвогуле не рабілася, нават спробаў не было».

***З камэнтароў наведнікаў сайту газэты «Наша Ніва»***

«Канцы ў ваду...

— У выніку тэракту 11.04.11 у Менску забіта 17 чалавек...

— «Канавалаў прашэньня аб памілаваньні не падаваў». Навошта тады пісаць, што Лукашэнка адмовіўся памілаваць Канавалава?

P.S. Усё ж такі ёсьць справядлівасьць у сьвеце.

— На жаль, будуць забітыя невінаватыя. А вінаватыя дагэтуль ходзяць па беларускай зямлі і псуюць беларускае паветра».

16 сакавіка стала вядома, што Ўладзіслава Кавалёва расстралялі. Пра гэта маці пакаранага

сьмерцю даведалася зь ліста, які прыйшоў зь Вярхоўнага суду. У той жа дзень, 16 сакавіка, пра выкананьне сьмяротнага прысуду Кавалёву і Канавалаву паведамілі афіцыйныя мэдыі.

Як пазьней стала вядома, у дзень расстрэлу Кавалёва беларускае МЗС пісаў у Камітэт ААН пра прыпыненьне выкананьня прысуду.

***Сайт праваабарончага цэнтру «Вясна»,***
*05.04.2012*

Любоў Кавалёва, маці расстралянага Ўладзіслава Кавалёва, і яго сястра Тацяна Казяр атрымалі ліст з Упраўленьня Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека. Гэты ліст быў накіраваны ва Ўпраўленьне прадстаўнікамі ўраду РБ пры аддзяленьні ААН у Жэнэве яшчэ 15 сакавіка 2012 году — у той самы дзень, калі Ўладзіслаў Кавалёў быў расстраляны.

Прадстаўнікі Беларусі праінфармавалі Камітэт па правах чалавека, што наглядная скарга Кавалёва пададзеная ў Вярхоўны суд, прэзыдэнт разглядае яго прашэньне аб памілаваньні. Пакуль яна ня будзе разгледжаная, выкананьне сьмяротнага прысуду прыпыненае.

У лісьце зь беларускага прадстаўніцтва аспрэчвалася прымальнасьць скаргі па справе Ўладзіслава Кавалёва, а таксама сутнасьць прэтэнзіяў дадзенай скаргі.

***Людміла Гразнова ў «Гарачым камэнтары»***
*Тэлеканал «БелСАТ», 28.03.2012*

Афіцыйная дата расстрэлу Ўладзіслава Кавалёва — 15 сакавіка. Пасьведчаньне аб сьмерці пакаранага за «суўдзел у зьдзяйсьненьні тэракту» ў ЗАГСе Пер-

шамайскага раёну Віцебску атрымала ягоная маці. Любоў Кавалёва ня ўпэўненая, што ў дакумэнце пазначылі сапраўдны дзень.

Са сваім сынам Любоў Кавалёва апошні раз пабачылася 11 сакавіка. Пазьней да асуджанага на сьмерць наведнікаў не пускалі. З гэтай прычыны адвакату Ўладзіслава не ўдалося падаць наглядную скаргу на рашэньне Вярхоўнага суду. 14 сакавіка Аляксандар Лукашэнка пастанавіў ня мілаваць прызнаных тэрарыстамі Ўладзіслава Кавалёва і Дзьмітрыя Канавалава. 16 сакавіка абвясьцілі, што прысуд выкананы. Насамрэч жа выканалі днём раней — гэта стала вядома толькі сёньня.

Паводле Людмілы Гразновай, пасьпешлівае забойства абвінавачаных і недавер насельніцтва да афіцыйнай вэрсіі сьледзтва не даюць беларусам пачувацца ў бясьпецы.

Зь верасьня 2011 году, калі пачаўся працэс над Кавалёвым і Канавалавым, у Беларусі разгарнулася чарговая грамадзкая кампанія за адмену сьмяротнага пакараньня. Яе ініцыятарам была Любоў Кавалёва. Жанчыну падтрымалі беларускія і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, у тым ліку «Human Rights Watch». Да 15 сакавіка 2012 году, калі быў расстраляны сын Любові Кавалёвай Уладзіслаў, за адмену ў Беларусі сьмяротнай кары падпісаліся праз інтэрнэт 62 135 чалавек у краіне і сьвеце.

# Паказальнік імёнаў

### З



### І



### К



### Л

**М**



**Н**



**П**



**Р**



**С**

# Падзяка

Аўтар удзячны ўсім, хто даслаў удакладненьні, заўвагі і парады падчас і пасьля друкаваньня разьдзелаў кнігі на сайце Радыё Свабода. Гэта ўлічвалася падчас падрыхтоўкі кнігі да друку. З часткай заўваг аўтар ня змог пагадзіцца, але застаецца ўдзячны тым, хто іх даслаў.

Таксама аўтар пэрсанальна дзякуе Станіславу Абразею, Уладзімеру Барадачу, Кацярыне Барысевіч, Вячаславу Буткевічу, Алегу Воўчаку, Людміле Гразновай, Любові Кавалёвай, Тацяне Кавалёвай, Алесю Каліту, Васілю Капцюху, Аляксандру Крутому, Дзьмітрыю Лепрэтару, Дзьмітрыю Лукашуку, Людміле Мун, Гары Паганяйлу, Андрэю Пачобуту, Сяргею Сацуку, Андрэю Тышкевічу, Віктару Федаровічу, Сяргею Ханжанкову, Вячаславу Харанеку, Івану Шылу – вашы адказы, камэнтары, тлумачэньні шмат што праясьнілі і ўзбагацілі кнігу.

Аўтар удзячны агенцтву БелаПАН, тэлеканалу «БелСАТ», агенцтву БелТА, праваабарончай арганізацыі «Вясна», інтэрнэт-выданьню «Ежедневник», сайту Руху «За свабоду», агенцтву «Інтэрфакс-Захад», газэце «Московский комсомолец», газэце «Наша ніва», інтэрнэт-выданьню «Салідарнасьць», «Эўрарадыё», чые матэрыялы выкарыстаныя ў кнізе.

Асобныя словы падзякі аўтар адрасуе калегам Уладзю Грыдзіну, Юлі Коцкай, Андрэю Кузьнечыку, Аляксандру Лукашуку, Ягору Маёрчыку, Зьмітру Паўленку, Міколу Раманоўскаму, якія шмат дапамагалі ў падрыхтоўцы кнігі і друкаваньні яе частак на сайце svaboda.org.

## Пра аўтара



Алег Грузьдзіловіч нарадзіўся ў 1958 годзе ў Маладзечне, вучыўся ў Берасьці, скончыў Белдзяржунівэрсітэт, жыве ў Менску.

У журналістыцы з 1980 году. З 1995 на Радыё Свабода.

У 1988 годзе, працуючы адказным сакратаром газэты «Знамя юности», ініцыяваў сход рэдакцыйнай калегіі, якая вырашыла не выконваць загаду ЦК КПБ аб перадрукоўцы антыперабудовачнага артыкулу з расейскай прэсы «Не могу поступиться принципами». У 1995 годзе звольніўся зь дзяржаўнай «Народнай газэты» пасьля таго, як быў зьняты ягоны рэпартаж аб зьбіцьці ў парлямэнце дэпутатаў — сяброў апазыцыі БНФ, што пратэставалі супраць рэфэрэндуму па мове і дзяржаўнай сымболіцы.

На Радыё Свабода адказвае за асьвятленьне тэмы палітвязьняў, зьніклых дзеячаў апазыцыі, вёў рэпартажы з судовых працэсаў над удзельнікамі акцый пратэсту, палітычнымі дзеячамі, вядомымі гаспадарнікамі, чыноўнікамі і інш.

Неаднаразова затрымліваўся супрацоўнікамі спэцслужбаў і міліцыі пры выкананьні журналісцкіх абавязкаў.

Пераможца конкурсу «Праваабарончага альянсу Беларусі» за 2009 год у намінацыі «Журналіст году».

Жанаты, мае трох сыноў і ўнучку Еву.

## Who Blew Up the Minsk Metro?

On 11 April 2011, 15 people were killed and dozens injured after an explosion tore through one of the central stations of the Minsk metro. This was the worst and most mysterious terrorist act Belarus had experienced in two decades of independence. Only a day after the blast, two suspects — Dzmitry Kanavalau and Uladzislau Kavaliou — were arrested. Eleven months later the pair were found guilty by the Belarus Supreme Court and executed by gun shot.

However, to this day doubts about the guilt of Kanavalau and Kavaliou remain. Yet if they weren't responsible, who was? And why does Belarusian society seemingly have so little faith in the its judicial system?

For three consecutive months Radio Svaboda's court reporter Aleh Hruzdilovich filed reports from the trial.

Here he analyzes the state's evidence against the suspects, and the courtís objectivity and professionalism. Hruzdzilovich talks with those who disagree not only with the government's case but also with the conclusions of the judiciary. Included in this book are the published assessments of fellow journalists who covered the trial, as well as the opinions and analyses of current and former judges, prosecutors, lawyers, experts, and defendants. The author also turns his attention to the guards who were assigned to monitor the defendants during the trial, to court workers, to secret service plants in the audience.

The inner workings of a judicial system under Europe's last dictatorship are expertly illuminated in this eyewitness account of a riveting courtroom drama.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.



**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.



**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.



**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.**
Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.



*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.